Конрад Бабятынскі

# Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)



Конрад Бабятынскі

# Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)



Вільня
Інстытут беларусістыкі
Беласток
Беларускае гістарычнае таварыства
2011

Конрад Бабятынскі.
Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)

Асобная адбітка з нумару «ARCHE» 7-8 за 2008 год.

Выходзіць пры шчодрай помачы Польскага Інстытуту ў Менску.

Рэдакцыя «ARCHE» выказвае падзяку дырэктару выдавецтва «Infort editions» Вітальду Гжэляку за магчымасьць гэтай публікацыі.

Пераклад: Антон Кузьміч.
Рэдактура: Валер Булгакаў.
Вёрстка: Заміра Болцікава.
Дызайн вокладкі: Антон Баранаў.

ISSN 1392-9682.

# ЗЬМЕСТ

Уступ ... 6

Разьдзел I. На парозе вайны ... 12

Разьдзел II. Летняя кампанія 1654 г. Бітва пад Шкловам і Шапялевічамі ... 26

Разьдзел III. Аблога і падзеньне Смаленску ... 45

Разьдзел IV. У цяні паразы. Аднаўленьне літоўскай арміі пасьля Шапялевічаў ... 59

Разьдзел V. Паміж каралём і гетманам. Унутраны канфлікт у Літве у другой палове 1654 г. ... 73

Разьдзел VI. Пачатак зімовага контранаступу. Аблога Новага Быхава ... 94

Разьдзел VII. Бітва за Магілёў ... 107

Разьдзел VIII. Бітвы на Дзьвіне і на левым беразе Дняпра ... 127

Разьдзел IX. Летняя кампанія 1655 г. Страта Вільні ... 139

Заключная частка ... 154

Дадаткі ........................................................................................................ 161

Дадатак I. Армія Вялікага Княства Літоўскага ў летняй кампаніі 1654 г.

Дадатак II. Кампут дывізіі левага крыла літоўскай арміі — Восень 1654 г.

Дадатак III. Літоўская армія на парозе зімова-веснавой кампаніі 1655 г.

Дадатак IV. Дапаможны корпус Кароны на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў 1654—1655 гг.

Бібліяграфія ................................................................................................ 165

# ДА БЕЛАРУСКАГА ЧЫТАЧА

*Шаноўныя чытачы!*

*Я вельмі рады, што ў вашыя рукі трапіла мая кніга «Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)», упершыню надрукаваная ў Польшчы ў 2004 г.*

*Кніга прысьвечаная гісторыі ваеннага канфлікту, у выніку якога ўвосень 1655 г. амаль усю тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага разам зь ягонай сталіцай Вільняй занялі войскі цара Аляксея Міхайлавіча. Гэта быў першы этап вялікай вайны, якая працягвалася ў 1654—1667 гг. і завяршылася толькі Андрусаўскім замірэньнем 31 студзеня 1667 г.*

*Ваенныя дзеяньні 1654—1655 гг. вяліся, галоўным чынам, на тэрыторыі беларускіх (гэтая назва датычна XVII ст. мае толькі геаграфічны, а не палітычны сэнс) ваяводзтваў Вялікага Княства Літоўскага: Полацкага, Віцебскага, Менскага, Навагрудзкага і Берасьцейска-Літоўскага. Таму вам будзе лёгка ўявіць, дзе адбываліся апісаныя ў кнізе падзеі. Ваенныя дзеяньні распачаліся аблогай Смаленску, што на мяжы зь сёньняшняй Беларусьсю. Найважнейшыя бітвы летняй кампаніі 1654 г. і зімова-веснавой 1655 г. вяліся на Дняпры і Друці — спачатку пад Шкловам і Шапялевічамі, а потым пад Новым Быхавам і Магілёвам. Полымя вайны не пашкадавала і іншых буйных беларускіх гарадоў — Полацку і Віцебску, Менску і Навагрудку, Слуцку і Старога Быхава. За час супрацьстаяньня яно апаліла амаль кожны куток беларускай зямлі.*

*Гісторыю ўсяго канфлікту 1654—1667 гг. беларускі чытач ведае перш за ўсё з кнігі выбітнага беларускага гісторыка Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна». Аднак ейны аўтар разгледзеў першы этап вайны павярхоўна, засяроджваючыся збольшага на вядомых і ўжо апісаных у гістарычнай літаратуры падзеях.*

*Мая кніга створаная перадусім на падставе рукапісных крыніцаў, многія зь якіх дасюль заставаліся невядомыя і не выкарыстоўваліся гісторыкамі. Матэрыялы сабраныя за некалькі гадоў пошуку ў польскіх, літоўскіх, украінскіх і беларускіх архівах. Да таго ж былі выкарыстаныя багатыя друкаваныя крыніцы, а таксама польская і замежная (у тым ліку, зразумела, і беларуская) літаратура на тэму дасьледаваньня.*

*Таму я спадзяюся, што мая праца, якая адпавядае ўсім крытэрам навуковай манаграфіі, паспрыяе глыбейшаму разуменьню палітычных, ваенных і сацыяльных аспэктаў канфлікту, а значыць і лепшаму разуменьню супольнай мінуўшчыны палякаў і беларусаў. Стагодзьдзямі яны згодна існавалі ў межах аднаго дзяржаўнага арганізму — Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, і іх гісторыя мела нашмат больш сьветлых, чым цёмных старонак.*

*Вайна 1654—1667 гг. адыграла надзвычай важную ролю ў гісторыі Беларусі. Але і да сёньня расейская, а раней — савецкая гістарыяграфія ацэньвае яе тэн-*

*дэнцыйна. Жыхары беларускіх земляў не віталі царскіх войскаў як вызваліцеляў з-пад польскай ці літоўскай акупацыі, а падтрымка новай улады вынікала не з ідэалягічных ці сацыяльных меркаваньняў, а з страху страціць жыцьцё і маёмасьць. За час усёй вайны Беларусь панесла калясальныя дэмаграфічныя страты — адны з найбольшых (поруч з II сусьветнай вайной) у сваёй гісторыі. Дзясяткі тысячаў людзей палеглі ахвярамі ваенных дзеяньняў, сотні тысячаў загінулі ад хваробаў, а вялікую частку насельніцтва (найперш рамесьнікаў) вывезьлі ў глыб Расеі. Яны ўжо не вярнуліся дадому нават пасьля Андрусаўскага замірэньня. Гэтых дэмаграфічных і матэрыяльных стратаў не ўдалося перадолець цягам доўгіх дзесяцігодзьдзяў.*

*Напрыканцы я хацеў бы шчыра падзякаваць сп. Валеру Булгакаву і рэдакцыі «ARCHE», дзякуючы ініцыятыве, рупнасьці і ахвярнасьці якіх гэтая кніга зьяўляецца ў перакладзе на беларускую мову. Для мяне вялікі гонар і нечаканасьць, што гэта адбываецца ўсяго толькі крыху больш чым праз год пасьля ейнага выданьня па-польску. Тут я хацеў бы згадаць сп. Вітальда Гжэляка, стваральніка і кіраўніка выдавецтва «Infort editions», які два гады таму зацікавіўся магістарскай працай маладога асьпіранта з факультэту гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту і, нягледзячы на шматлікія цяжкасьці, у кастрычніку 2004 г. давёў яе ўрэшце да выданьня. Дзякуючы гэтаму я сёньня магу перадаць кнігу ў рукі беларускага чытача, якому зычу прыемнага чытаньня і добрых уражаньняў.*

*Варшава, сьнежань 2005*
*Конрад Бабятынскі*

## УСТУП

Польская гістарыяграфія лічыць 1655 г. адным з найбольш трагічных у гісторыі Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Зьнясіленая нападамі суседзяў, сямігадовай грамадзянскай вайной, а таксама паглыбленьнем унутранай крызы, дзяржава апынулася на мяжы зьнішчэньня. Кароль Ян Казімер увосень уцёк у Сылезію, а большасьць саноўнікаў і войскі перайшлі на бок ворагаў. Амаль уся тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага і Кароны апынулася пад акупацыяй швэдаў, маскоўцаў і казакоў.

Адной з прычынаў той драматычнай сытуацыі стаўся фінал першага этапу распачатай на мяжы траўня і чэрвеня папярэдняга году вайны з Масковіяй. Ейны ход на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ад падзеяў летняй кампаніі 1654 г. і да практычнага завяршэньня 29 верасьня 1655 г. і разглядаецца ў гэтай працы.

Супрацьстаяньне Рэчы Паспалітай з Масковіяй працягвалася зь перапынкамі да самага Андрусаўскага замірэньня ў 1677 г. і прывяло да поўнай зьмены раскладу сілаў у Сярэдне-Ўсходняй Эўропе. Аднак у польскай гістарыяграфіі гэтая тэма дасюль належным чынам не распрацаваная. Падзеям 1654—1655 гг. прысьвяціў падрабязную манаграфію толькі знакаміты львоўскі гісторык Людвік Кубаля[1]. Ягоная кніга і цяпер мае вялікую навуковую каштоўнасьць. Але з часу ейнага напісаньня прамінула больш як дзевяноста гадоў, таму шмат цьверджаньняў і гіпотэзаў аўтара не вытрымліваюць сёньня навуковай крытыкі і патрабуюць удакладненьня.

Некаторыя аспэкты вайны ўвогуле не закраналіся ў працы Л. Кубалі, а некаторыя і дасюль застаюцца практычна невядомыя.

Гэтую тэму вывучалі найвыбітнейшыя знаўцы гісторыі Рэчы Паспалітай XVII ст.: Анджэй Рахуба, Тадэвуш Васілеўскі, Ян Вімэр, Гэнрык Віснэр, а таксама Зьбігнеў Вуйцік. Але яны закраналі яе толькі мімаходзь, дасьледуючы шырэйшыя праблемы: гісторыю літоўскай вайсковай справы, узьнікненьне і ход спрэчак паміж каралём і апазыцыяй ці гісторыю дыпляматыі. Іхныя дасьледаваньні, якія дазволілі больш падрабязна рэканструяваць як ходу ваенных сутыкненьняў, так і палітычныя аспэкты канфлікту, значна спрашчаюць вывучэньне ваенных дзеяньняў на ўсходзе Рэчы Паспалітай у 1654—1655 гг. Тым ня менш, дасюль няма сынтэзу, які праліў бы новае сьвятло на некаторыя пытаньні і ў той жа час заахвоціў да далейшых досьледаў. Хоць нашая кніга і не прэтэндуе на падобную ролю, яна павінна паспрыяць папулярызацыі гэтай прызабытай сёньня тэмы.

Канфлікт Рэчы Паспалітай з Масковіяй, як правіла, згадваецца ў кантэксьце распачатай у той жа час вайны з Швэцыяй — слыннага «патопу», а таксама паўстаньня Хмяльніцкага. Зрэшты, варта адзначыць, што гэтая тэндэнцыя заўважная ня толькі ў згаданых намі навуковых працах. У тагачасных лістах таксама вельмі цяжка знайсьці інфармацыю пра падзеі на беларускіх абсягах Рэчы Паспалітай[2]. І толькі ўварваньне маскоўскіх войскаў у глыб Вялікага Княства Літоўскага і захоп Вільні паўней адлюстраваныя ў карэспандэнцыі.

[1] Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655 // Szkice historyczne. T. III. Warszawa, 1910.

[2] Беларусьсю, натуральна, у геаграфічным, а не палітычным сэнсе я называю ня толькі землі, разьмешчаныя на ўсход ад Бярэзіны (як зазвычай рабілася ў XVII ст.), але і тэрыторыі Полацкага, Менскага, Навагрудзкага, Берасьцейска-Літоўскага ваяводзтваў.

Затое вялікую цікавасьць і гарачыя дыскусіі ня толькі сярод гісторыкаў, але і ў шырокіх колах польскага грамадзтва і дасюль выклікае фігура Януша Радзівіла. Адназначна адмоўны вобраз гетмана, які склаўся ў сьвядомасьці палякаў у першую чаргу дзякуючы Гэнрыку Сянкевічу, патрабуе перагляду і пераасэнсаваньня. Ацэньваючы матывы найбольш спрэчнага ў ягоным жыцьці рашэньня — прыняцьця 17 жніўня 1655 г. пратэкцыі швэдзкага караля Карла Густава, мы часта не зважаем на тое, як паўплывала на ягоны выбар параза ў вайне з Масковіяй. Будзем спадзявацца, што паказаная ў гэтай кнізе складанасьць ваенна-палітычнай сытуацыі, у якой апынулася Вялікае Княства Літоўскае ў 1654—1655 гг., дазволіць больш аб'ектыўна вызначыць адказнасьць асобных фігураў за паразу. Таму, апроч дэталёвага разгляду ваенных дзеяньняў, шмат месца адводзіцца іншым чыньнікам, якія істотна адбіліся на выніках супрацьстаяньня з Масковіяй: вонкавапалітычнаму становішчу, складанай унутранай сытуацыі ў Рэчы Паспалітай, а таксама праблемам ейнага дзяржаўнага ладу і фінансаў.

Гэтая праца найперш абапіраецца на рукапісныя крыніцы, якія некалькі гадоў вышукваліся і зьбіраліся ў архівах, а таксама ў польскіх і замежных (літоўскіх і ўкраінскіх) бібліятэках.

У вывучэньні ходу летняй кампаніі 1654 г. вельмі дапамаглі два зборнікі лістоў і рэляцыяў, падрыхтаваныя ў XIX ст. А. Грабоўскім і А. З. Гэльцалем[3]. Шмат цікавых дакумэнтаў, зьвязаных з пазьнейшымі дзеяньнямі на ўсходнім фронце, можна знайсьці таксама ў іншых крыніцах, выдадзеных расейскімі ўладамі ў часе падзелаў Рэчы Паспалітай. Іхны сьпіс пададзены ў бібліяграфіі.

Вядома, у працы выкарыстоўвалася мэмуарная спадчына эпохі. На жаль, яна недастаткова шырокая. Найбольш вядомыя мэмуарысты другой паловы XVII ст., ня толькі тыя, што паходзілі з Кароны, як Пасэк, Лось, Емялоўскі, а таксама Ерліч, але і радавітыя ліцьвіны — Пачобут-Абланіцкі і Храпавіцкі — пачынаюць свае ўспаміны з пазьнейшых падзеяў або папросту абмінаюць апісаньне ваеннай сытуацыі на ўсходнім фронце ў 1654—1655 гг. Найвялікшую фактаграфічную каштоўнасьць маюць менш вядомыя мэмуары Мацея Форбэк-Летава[4]. Іхны аўтар між іншым цытуе шмат не захаваных у іншых копіях дакумэнтаў, якія часта застаюцца адзінымі крыніцамі, паводле якіх можна дасьледаваць пэўныя аспэкты падзеяў. Шмат каштоўных зьвестак зьмяшчаюць таксама дзьве працы, прысьвечаныя дзейнасьці літоўскага канюшага Багуслава Радзівіла. Аднак яны напісаныя далёка не бесстаронна, і таму да іхнага зьместу трэба падыходзіць досыць крытычна[5]. Істотна дапамагаюць вызначыць храналёгію падзеяў да жніўня 1655 г. успаміны Альбрыхта Станіслава Радзівіла[6]. Сярод іншых цікавых крыніцаў варта згадаць рэляцыю Стэфана Мэдэк-

[3] Ojczyste spominki w pismach do dziejów dawnej Polski / Wyd. A. Grabowski. T. I. Kraków, 1845; Jakuba Michałowskiego, Wojskiego lubelskiego, a później kasztelana bieckiego księga pamiątkowa z dawnego rękopisu będącego własnością Ludwika hr. Morsztyna / Wyd. A. Z. Helcel. — Kraków, 1864.

[4] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci. Pamiętnik lekarza króla Władysława IV / Wyd. E. Galos i F. Mincer pod red. W. Czaplinskiego. — Wrocław, 1968.

[5] Radziwiłł B. Autobiografia / Wyd. T. Wasilewski. — Warszawa, 1979; Żywot Jaśnie Oświeconego Księcia Bogusława Radziwiłła... / Wyd. A. Popliński. — Poznań i Trzemieszno, 1840.

шы, блізкага супрацоўніка палявога гетмана і літоўскага падскарбія Вінцэнта Гасеўскага. У ёй можна знайсьці каштоўныя зьвесткі пра закулісную палітыку партыі караля ў Літве ў другой палове 1654 г.[7].

У сваёй працы мы імкнуліся аб'ектыўна паказаць пазыцыю маскоўскага і казацкага бакоў. Ня маючы магчымасьці весьці пошукі ў Маскве, мы найперш карысталіся зробленымі ў XIX ст. выданьнямі крыніцаў, якія зьмяшчаюць вельмі багатыя матэрыялы з расейскіх архіваў.

У цытаваных маскоўскіх і казацкіх дакумэнтах датаваньне ўніфікаванае паводле грыгарыянскага календара. Юліянскі каляндар, прыняты на той час у Маскоўскай дзяржаве, у XVII ст. «спазьняўся» ў параўнаньні зь ім на дзесяць дзён.

Вайне Рэчы Паспалітай з Масковіяй у расейскай і ўкраінскай гістарыяграфіі надаецца нашмат больш увагі, чым у польскай. Як гэта зазвычай здараецца, ня толькі сярод прафэсійных дасьледчыкаў, але і сярод аматараў гісторыі, пераможныя войны выклікаюць нашмат большую цікавасьць, чым паразы.

Яшчэ ў царскай Расеі шмат увагі кампаніям царскіх войскаў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага надалі ў сваіх фундамэнтальных працах клясыкі расейскай і ўкраінскай гістарыяграфіі С. Салаўёў і М. Грушэўскі[8]. Да гэтай тэмы шматкроць зьвярталіся савецкія навукоўцы. Аднак яны разглядалі большасьць пытаньняў тэндэнцыйна, часта рабілі памылковыя высновы і маніпулявалі фактамі ў ідэалягічных мэтах. З працаў, напісаных пасьля 1945 г., найвялікшую фактаграфічную каштоўнасьць маюць дасьледаваньні Аляксандра Мальцава, якія абапіраюцца на багатыя матэрыялы з маскоўскіх архіваў[9]. Вартасьць гэтай працы зьніжае, несумненна, няведаньне крыніцаў з польскіх, віленскіх і львоўскіх архіваў. Таму шмат гіпотэзаў гэтага дасьледчыка выглядаюць вельмі спрэчна, а некаторыя не вытрымліваюць крытыкі ў сьвятле вядомых сёньня працаў. З кніг, выдадзеных пасьля 1990 г., найвялікшую каштоўнасьць мае праца беларускага гісторыка Генадзя Сагановіча[10]. Аўтар абапіраецца на найноўшыя дасьледаваньні польскай, расейскай і ўкраінскай навукі, асьвятляе падзеі аб'ектыўна, стараючыся ўлічыць пазыцыі абодвух бакоў канфлікту. Мінус кнігі, несумненна, у занадта вузкай базе рукапісных крыніцаў.

Пры цытаваньні як рукапісных, так і друкаваных крыніцаў (асабліва XIX ст.) іхны правапіс мадэрнізаваны, каб аблегчыць разуменьне тэксту.

Гэтая кніга — пашыраная і дапоўненая падчас замежных пошукаў вэрсія магістарскай працы «Ад Шапялевічаў да Кейданаў. Пачатак, ход і вынікі зімова-веснавой кампаніі войскаў вялікага гетмана літоўскага Януша Радзівіла (1654—1655 гг.)», абароненай у Інстытуце гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту ў ліпені 2001 г. Я хацеў

[6] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce / Wyd. A. Przyboś i R. Żelewski. T. III. — Warszawa, 1980.

[7] Medeksza S. Księga Pamiętnicza wydarzeń zaszłych na Litwie 1654—1668 / Wyd. W. Seredyński // Scriptores Rerum Polonicarum. T. III. Kraków, 1875.

[8] Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Т. X. — Москва, 1961; Грушевський М. Історія України-Руси. Т. IX. Ч. 2. — Київ, 1997.

[9] Кампіляцыя гэтых дасьледаваньняў была выдадзеная ўжо пасьля сьмерці аўтара кнігі: Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века. — Москва, 1974.

[10] Сагановіч Г. Невядомая вайна. — Мінск, 1995.

бы сардэчна падзякаваць за мэтадалягічную апеку, дапамогу ў зборы крыніцаў і заахвочваньне да працы над гэтай тэмай майму навуковаму кіраўніку, прафэсару,ганароваму доктару Міраславу Нагельскаму. Выказваю ўдзячнасьць і прафэсару, ганароваму доктару Ярэму Мацішэўскаму, глыбокія заўвагі якога ў рэцэнзіі аказаліся неацэннымі пры напісаньні гэтай працы. Дзякую таксама маім калегам з магістарскага і дактаранцкага сэмінараў у Інстытуце гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту за дапамогу ў рэдагаваньні тэксту, дзякуючы якой удалося выправіць шмат памылак і недакладнасьцяў.

## Разьдзел I

# НА ПАРОЗЕ ВАЙНЫ

У сярэдзіне XVII ст. змаганьне за гегемонію ва Ўсходняй Эўропе паміж Рэччу Паспалітай Абодвух Народаў і Маскоўскай дзяржавай уваходзіла ў новую фазу. Масковія, прыніжаная паразамі ў чарговых войнах ад часу Сьцяпана Батуры, дваццаць гадоў чакала рэваншу за страту Інфлянтаў, Полацку, Смаленску, Севершчыны, а найперш за польскую інтэрвэнцыю ў час Вялікай смуты. Таму малады цар Аляксей Міхайлавіч (нар. у 1629 г.) і ягоныя дарадцы ўважліва назіралі за падзеямі на тэрыторыі суседняй дзяржавы. З асаблівай увагай адсочвалася сытуацыя на ўкраінскіх землях, дзе зь вясны 1648 г. працягвалася найвялікшае за ўсю гісторыю казацкае паўстаньне.

Багдан Хмяльніцкі, які яго ачольваў, дакладна ведаў, што немагчыма весьці барацьбу з Рэччу Паспалітай без падтрымкі звонку. Таму яшчэ перад паўстаньнем ён заключыў хаўрус з Крымскім ханствам. Вайсковая дапамога татараў надзвычай прыдалася ў першыя месяцы паўстаньня: дзякуючы ёй казакі здабылі перамогу на Жоўтых Водах, пад Корсунем і Пілаўцамі. Аднак гэтае пагадненьне шмат зь якіх прычынаў было для казакоў цяжкім. Хаўрусьнік спусташаў край, рабаваў насельніцтва, выводзіў з Украіны шматтысячны ясыр. Больш за тое, татары лічылі ранейшы палітычны ўклад для сябе аптымальным, і таму не намерваліся падтрымліваць імкненьня Хмяльніцкага стварыць самастойную або толькі фармальна падпарадкаваную Рэчы Паспалітай украінскую дзяржаву. Таму досыць рана, ужо ў чэрвені 1648 г., гетман наладзіў кантакты з Масковіяй, просячы ў цара апекі і нават запрашаючы яго на польска-літоўскі сталец пасьля нядаўняй сьмерці Ўладзіслава IV. Напэўна, ужо тады Хмяльніцкі зыходзіў з таго, што неўзабаве менавіта Аляксей Міхайлавіч будзе падтрымліваць ягоныя пляны і дзеяньні[11]. Важную ролю ва ўмацаваньні двухбаковых кантактаў адыгрываў таксама рэлігійны чыньнік — казакі лічылі Маскву натуральным хаўрусьнікам у барацьбе супраць Берасьцейскай уніі 1596 г.

[11] Wójcik Z. Dzieje Rosji 1533—1801. Warszawa, 1971. S. 130.




1. Рэч Паспалітая ў 2-й палове XVII стагодзьдзя

Яшчэ ў 1648 г. ніяк не разглядалася магчымасьць, што Хмяльніцкі атрымае хоць якую ваенную дапамогу ад цара. Дачыненьні паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй у той час складваліся добра і нават значна пацяплелі пасьля 1645 г. Аднак гэта было зьвязана з плянамі турэцкай вайны Ўладзіслава IV, які, намерваючыся між іншым заваяваць Крым, лічыў, што яму не абысьціся бяз шчыльнага супрацоўніцтва зь дзяржавай Раманавых. Таму таксама армія Кароны ўзімку 1645—1646 гг. увайшла на тэрыторыю ўсходняга суседа, каб дапамагчы яму адбіць напад татараў. Іншая рэч, што ў выніку няўдалых дзеяньняў Мікалая Патоцкага, а таксама лютых маразоў вайсковыя аддзелы панесьлі балючыя страты, практычна не сутыкаючыся з праціўнікам. У 1647 г. Рэч Паспалітая скіравала ў Маскву пасольства на чале з брацлаўскім ваяводам Адамам Кісялём, які 25 верасьня падпісаў хаўрус паміж абедзьвюма дзяржавамі супраць Крымскага ханства. Згодна з гэтым дакумэнтам, бакі абяцалі адно аднаму дапамогу ў выпадку нападу татараў. Выконваючы дамову, Аляксей Міхайлавіч меўся пасылаць увесну 1648 г. свае войскі супраць аддзелаў Тугай-бэя, а значыць і супраць казакоў. Аднак нягледзячы на тое, што 30 траўня цар выдаў указ, у якім загадваў даць вайсковую падтрымку Рэчы Паспалітай, а зьвершнікі арміі, сканцэнтраванай каля Белгараду, дасылалі да гетмана Патоцкага пасланцоў з пытаньнем, куды скіроўваць свае аддзелы, да супольных дзеяньняў супраць паўстанцаў Хмяльніцкага не дайшло[12]. Армія Кароны перастала існаваць пасьля паразаў на Жоўтых Водах і пад Корсунем, а Маскоўскую дзяржаву ў чэрвені 1648 г. страсянулі ўнутраныя хваляваньні, выкліканыя павышэньнем падатку на соль і незадаволенасьцю кіраваньнем царовага швагра Барыса Марозава, які трымаў стырно ўлады ў Крамлі.

Аднак цар надалей не зьмяніў свайго адмоўнага стаўленьня да бліжэйшага супрацоўніцтва з казакамі. Ён выдатна разумеў, што магчымая вайна з Рэччу Паспалітай патрабуе некалькіх гадоў палітычнай і ваеннай падрыхтоўкі. Паразы, якія наносіла Рэч Паспалітая Масковіі цягам апошніх некалькіх дзесяцігодзьдзяў, таксама не дадавалі цару ўпэўненасьці напярэдадні новай ваеннай кампаніі. Дарэчы, гэткія ж засьцярогі меў і бацька Аляксея, Міхаіл Фёдаравіч, які на ложку сьмерці ў 1645 г. нібыта запатрабаваў ад сына клятвы, што той захавае мір з заходнім суседам. Масква зь непакоем назірала за казацка-татарскім хаўрусам, які мог пагражаць новымі нападамі арды на Маскву. Сацыяльны радыкалізм казацкага паўстаньня на фоне хваляваньняў на ўласнай тэрыторыі таксама спрыяў таму, што разьвіцьцё сытуацыі ва Ўкраіне ўспрымалася хутчэй з боязьзю, чым з надзеяй атрымаць палітычную карысьць.

Тым ня менш, ужо праз некалькі месяцаў паступовае пахаладаньне ў стасунках з Польшчай зьмяніла стаўленьне Масквы да казакоў. У Крамлі вельмі нэгатыўна ўспрынялі рашэньне каранацыйнага сойму, які падчас сваіх паседжаньняў у Кракаве ад 19 студзеня да 14 лютага 1649 г. адмовіўся ратыфікаваць дамову, падпісаную два гады таму Кісялём. Таксама чарговыя посьпехі Хмяльніцкага і ўсё больш відавочная ўнутраная крыза ў Рэчы Паспалітай прывялі да таго, што пры царскім двары пачалі сур'ёзна падумваць пра інтэрвэнцыю[13].

[12] Seredyka J. Stosunki ukraińsko-rosyjskie w 1648 r. // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Wrocławskiego. Historia. Nr 3. 1960. S. 167—168.

[13] Seredyka J. Stosunki ukrainsko-rosyjskie w I polowie 1649 r. // Zeszyty Naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Opolu. Historia. Nr 2. 1961. S. 171—185.

Зьмены ў пазыцыі Масквы выразна засьведчылі падзеі з сакавіка да ліпеня 1650 г., калі ў Варшаве знаходзілася пасольства братоў Юр'я і Сьцяпана Пушкіных, а таксама Гаўрылы Лявонцева. Царскія пасланцы выступілі зь вельмі жорсткімі патрабаваньнямі да Польшчы. Выказваючы прэтэнзіі наконт памылак у царскіх тытулах, якія нібыта дапускаліся ў ліставаньні магнатаў з памежных земляў з маскоўскімі ваяводамі, а таксама ў некаторых кнігах, яны патрабавалі звароту Смаленску, кампэнсацыі на 500 000 злотых, пакараньня сьмерцю рускага ваяводы Ярэмія Вішнявецкага, а таксама публічнага спаленьня твораў, якія ўслаўлялі посьпехі польскай зброі ў час Жыгімонта III і Ўладзіслава IV. Калі іхныя патрабаваньні застануцца нявыкананыя, пасланцы пагражалі нават вайною. Толькі пасьля працяглых перамоваў канфлікт удалося палагодзіць — бакі спыніліся ўсяго на спаленьні некалькіх старонак з твору Самуэля Твардоўскага «Ўладзіслаў IV, кароль польскі і швэдзкі». Уражаньня, якое зрабіла ўмяшаньне царскіх паслоў, не ўдалося, аднак, сьцерці.

На працягу 1650 г. Хмяльніцкі, усё менш давяраючы татарскаму хаўрусьніку пасьля падзеяў пад Зборавам, некалькі разоў прапаноўваў цару ўзяць Украіну пад сваю апеку. І хоць Масква пакуль нічога не абяцала, ейнае ўмяшаньне ў справы Рэчы Паспалітай сталася толькі пытаньнем часу. Ужо ў лютым 1651 г. Земскі сабор выказаўся за далучэньне Ўкраіны, але перамога Яна Казімера пад Берастэчкам і заключэньне Белацаркоўскай дамовы на нейкі час адахвоціла Масковію ад вайны. Толькі разгром арміі Кароны пад Батогам давёў цару, што ваенная слабасьць і ўнутранае напружаньне ў заходняга суседа даюць надзею на посьпех у збройным супрацьстаяньні. У сакавіку 1653 г. Аляксей Міхайлавіч вырашае напасьці на Рэч Паспалітую. 2 ліпеня ён адмысловай граматай паведаміў Хмяльніцкаму і запароскаму войску, што прымае Ўкраіну пад сваю апеку. 11 кастрычніка таго ж году пастанову ў гэтай справе выдаў Земскі сабор[14]. Такім чынам, вайна з Рэччу Паспалітай зрабілася непазьбежнай. Яна мусіла пачацца ўвесну наступнага году.

Вырашыўшы напасьці на Рэч Паспалітую, Масковія разгарнула шырокамаштабную дыпляматычную кампанію, каб давесьці, што канфлікт мае лякальны характар, і не дапусьціць ягонага выхаду на шырэйшы міждзяржаўны ўзровень. Ад кастрычніка 1653 г. да траўня 1654 г. цар даслаў у шмат якія эўрапейскія сталіцы сваіх пасланцоў, якія дамагаліся, каб замежныя дзяржавы захоўвалі нэўтралітэт, не аказвалі Польшчы дапамогі. Іхнай задачай таксама была купля зброі. На гэтыя патрабаваньні розныя дзяржавы рэагавалі па-рознаму: найперш у залежнасьці ад таго, у якіх дачыненьнях яны знаходзіліся з Рэччу Паспалітай.

Поўным фіяска скончылася двухразовая місія царскіх пасланцоў у Бахчысараі. Занепакоеныя тым, што Ўкраіна трапляе пад уладу Масквы, татары вырашылі заключыць ваенны хаўрус з Рэччу Паспалітай. Сойм ратыфікаваў яго 20 ліпеня 1654 г. Татары падтрымалі пазьней армію Кароны ў бітвах ва Ўкраіне і адыгралі важную ролю падчас баявых дзеяньняў 1654—1655 гг.

Ад усялякага супрацоўніцтва з Масковіяй адмовілася і Данія. Непрыхільна глядзелі на пэрспэктыву новай вайны побач з Балтыйскім морам галяндцы, але, разьлічваючы на

[14] Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы в 3 томах. Т. III. Москва, 1954. № 197. С. 406—414.

гандлёвую выгаду, згадзіліся на экспарт зброі і вайсковага рыштунку. Захаваньня міру хацелі таксама Францыя і Аўстрыя — яны прапаноўвалі сваё пасярэдніцтва[15]. Холадна ўспрынялі прапанову Аляксея Міхайлавіча і пры двары Фрыдрыха Вільгельма I Гогенцолерна. Станоўча на просьбу цара захоўваць нэўтралітэт адказала Курляндыя, не жадаючы несьці цяжар магчымых наступстваў аказаньня вайсковай дапамогі Рэчы Паспалітай, ленным уладаньнем якой, дарэчы, яна фармальна заставалася.

Найлепшы прыём маскоўскаму пасольству падрыхтавала швэдзкая каралева Крыстына. Праўда, яна паставілася да царскіх задумаў з асьцярогай, але згадзілася на пастаўку вялікай колькасьці агнявой зброі — 20 000 мушкетаў[16]. Дачыненьні Швэцыі з Рэччу Паспалітай складваліся ў той час вельмі напружана. На іх асабліва паўплывалі ход перамоваў наконт падпісаньня міру падчас другога кангрэсу ў Любэку (кастрычнік 1652 — сакавік 1653 г.). Пры стакгольмскім двары вельмі кепска ўспрынялі правал перамоваў, і ўжо ў 1654 г. Швэцыя распрацоўвала пляны збройнага ўмяшаньня на паўднёвым узьбярэжжы Балтыкі. Аб'екты магчымага нападу не ўдакладняліся, бо вайсковыя посьпехі цара ўлетку 1654 г. у Беларусі прымушалі, апроч польскага, браць пад увагу і маскоўскі кірунак. Швэцыя імкнулася захоўваць гегемонію на Балтыцы, і залішні рост магутнасьці Раманавых не адпавядаў ейным інтарэсам.

Увогуле, калі не зважаць на Крым, цар мог з задавальненьнем глядзець на вынікі сваёй дыпляматычнай місіі. Ён пераканаўся, што небясьпекі выхаду канфлікту на шырэйшы міждзяржаўны ўзровень не існуе. Апроч таго, пасланцам удалося наладзіць гандлёвыя кантакты і прывезьці вялікую колькасьць зброі і ваеннага рыштунку.

Калі Земскі сабор пастанавіў прыняць Украіну пад апеку Масковіі, да Хмяльніцкага накіравалі ўрачыстае пасольства на чале з баярынам Васілём Бутурліным. Гетман у той час акурат завяршаў чарговую кампанію супраць Рэчы Паспалітай, удалую ў ваенным пляне, аднак не зусім здавальняльную палітычна. Праўда, пагадненьне, падпісанае ў сьнежні 1653 г. пад Жванцам, фактычна вяртала Збораўскую дамову, значна больш выгодную для Хмяльніцкага за Белацаркоўскую, што фармальна дзейнічала на той час. Аднак чарговыя непаразуменьні з татарскім хаўрусьнікам і адсутнасьць надзеі ўладкаваць згодна з задумамі казакоў стасункі з Польшчай прывялі да таго, што Хмяльніцкі канчаткова вырашыў прыняць апеку цара. Таму 18 студзеня 1654 г. у Пераяславе пасьля бурлівых нарадаў старшыны і пад воплескі чэрні была афіцыйна пацьверджаная перадача Украіны пад уладу Масквы. Практычна гэта азначала абвяшчэньне вайны.

Канфлікт з Масковіяй пачаўся ў вельмі неспрыяльны для Рэчы Паспалітай момант. З 1648 г., калі на трон узышоў Ян Казімер Ваза, дзяржаву паволі апаноўвала ўсё глыбейшая ўнутраная крыза. Яе паглыбляла зацятае змаганьне каралеўскага двара з магнацкай апазыцыяй. Нарастаў антаганізм у пытаньнях правядзеньня замежнай палітыкі і вырашэньня казацкай праблемы, працягвалася спрэчка наконт мадэлі будуча-

[15] На тэму пазьнейшых мірных ініцыятываў Аўстрыі гл.: Федорук Я. О. Переговори Речі Посполитої з Москвою і укладення Віленського миру (1654—1656) // Переяславська рада 1654 року (історіографія та дослідження) / Редкол. П. Сохань, Я. Дашкевич, І. Гирич та ін. Київ: Смолоскип, 2003. С. 797—809.

[16] Заборовский Л. В. Россия, Речь Посполитая и Швеция в середине XVII в. Москва, 1981. С. 30—51; Соловьев С. М. История России с древнейших времен... С. 615—619.

га ладу дзяржавы. Ян Казімер ад пачатку імкнуўся, згодна з духам эпохі, да цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацаваньня каралеўскай улады за кошт абмежаваньня шляхецкіх прывілеяў. Вялікая частка грамадзтва лічыла гэтыя задумы падрыхтоўкаю да ўвядзеньня *absolutum dominium* і востра супрацiўлялася ўсялякім спробам грунтоўна рэфармаваць лад Рэчы Паспалітай. Кароль меў сярод магнацкай эліты шмат праціўнікаў, якія часта паходзілі з найбольш уплывовых і заможных польскіх і літоўскіх родаў. Апроч палітычнай непрыязнасьці, тут уваходзілі ў гульню і асабістыя меркаваньні. Манарх меў выключны дар адштурхоўваць ад сябе людзей, што адбілася на пазьнейшых кантактах і рабіла немагчымым бліжэйшае супрацоўніцтва.

Адным з саноўнікаў, які заставаўся ў прахалодных дачыненьнях з каралём, быў Януш Радзівіл. Узаемная няпрыязь узьнікла яшчэ ў час іхнай маладосьці. Ад пачатку ўладараньня Яна Казімера паміж ім і ганарлівым магнатам адбываліся няспынныя сутычкі. Ваза спрабаваў аслабіць Радзівіла, падтрымліваючы ягоных галоўных супернікаў у Літве — Сапегаў. Каралеўскі двор часта абвінавачваў гетмана (тады яшчэ палявога) у тым, што ён вядзе падазроныя закулісныя перамовы з уладаром Трансыльваніі Юр'ем II Ракочым, швэдамі, Хмяльніцкім, ці ў тым, што вайсковыя апэрацыі супраць казакоў ідуць не паводле плянаў манарха. У сваю чаргу, Радзівіл рашуча крытыкаваў унутраную палітыку караля, парушэньні шляхецкіх вольнасьцяў, барацьбу з «старым магнацтвам», калі на высокія пасады прызначаліся людзі, што раней не належалі да ўладных колаў. Здараліся канфлікты і на глебе веравызнаньня. Гетман стаяў на чале лягеру кальвіністаў і баяўся парушэньня рэлігійнай талерантнасьці з боку вядомага сваёй прыхільнасьцю да контрарэфармацыі ўладара, які заставаўся пад значным уплывам рыма-каталіцкага духавенства[17].

У 1652—1653 гг. паміж двума супернікамі некалькі разоў успыхвалі вострыя канфлікты. Да сёньняшняга дня працягваюцца дыскусіі пра ролю Радзівіла ў падбухторваньні ўпіцкага дэлегата Ўладзіслава Сіцінскага, які, скарыстаўшыся правам *liberum veto*, сарваў паседжаньні першага сойму 1652 г.[18]. Не спрабуючы падтрымліваць ці абвяргаць гэты закід, мы павінны памятаць, што ў гэтых дзеяньнях Януша Радзівіла падазравала прыдворная партыя і сам кароль — яны бачылі ў гетману магутнага праціўніка, які не спыняўся ні перад чым і стаяў за кожнай значнай ініцыятывай, скіраванай супраць плянаў манарха. Таму пасьля сьмерці віленскага ваяводы Крыштапа Хадкевіча ў кастрычніку 1652 г. Ян Казімер не хацеў аддаваць гэтую пасаду Радзівілу. Ён падпісаў указ аб прызначэньні толькі 30 сакавіка 1653 г., пасьля рашучай адмовы Янушавага стрыечніка, канцлера Альбрыхта Станіслава[19].

[17] Matwijów M. Koncepcje polityki Janusza Radziwiłła w latach 1648—1655 // Acta Universitatis Wratislaviensis. No 1108. Historia LXXV. 1990. S. 34.

[18] Гэты тэзіс найперш высунуў аўтар манаграфіі пра соймы 1652 г. У. Чаплінскі: Czapliński W. Dwa sejmy w roku 1652. Studium z dziejów rozkładu Rzeczypospolitej szlacheckiej w XVII wieku. Wrocław, 1955. S. 125—126. Затое Г. Віснэр (H. Wisner) (апошняя публікацыя: Janusz Radziwiłł 1612—1655. Wojewoda wileński i hetman wielki litewski. Warszawa, 2000. S. 153) абараняе князя. Ён лічыць адзінай прычынай выступленьня Сіцінскага спрэчку ўпіцкай шляхты з каралём наконт формы аплаты падатку з шаўляйскай эканоміі.

[19] Ciesielski T. Sejm brzeski 1653 r. Toruń, 2003. S. 82—83.

Паміж каралём і гетманам здараліся спрэчкі і наконт палітыкі датычна казакоў. Радзівіл, які яшчэ ў 1651 г. быў супраць саступак Хмяльніцкаму, пасьля батоскай паразы пачаў усьведамляць, як і шмат іншых цьвярозых палітыкаў, што Украіну ня ўдасца прывесьці да міру бяз значна шырэйшых, чым раней, дыпляматычных захадаў. Таму ён быў гатовы пайсьці на далёкасяжны кампраміс, каб пазьбегнуць пераходу казакоў пад уладу маскоўскага цара[20].

Таму Януш Радзівіл рашуча супраціўляўся пачатку вайсковых дзеяньняў супраць Хмяльніцкага ў 1653 г. і ўваходу польскіх войскаў у Малдову[21]. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён перасьледуе свае палітычныя мэты — дбае пра інтарэсы свайго цесьця, малдаўскага гаспадара Базыля Люпула.

11 лютага 1654 г., перад самым пачаткам вайны з Масковіяй, па заканчэньні жванецкай выправы, якая скампрамэтавала караля, у Варшаве распачаўся сойм, на якім здарылася самае сур'ёзнае ад узыходу на трон Яна Казімера сутыкненьне апазыцыі з дваром. Значную ролю ў тых падзеях адыграў Радзівіл. Пасьля сьмерці ў сьнежні 1654 г. вялікага гетмана літоўскага Януша Кішкі князь лічыў, што аўтаматычна атрымае вялікую булаву. Аднак яго чакала вялікае расчараваньне, бо кароль ня толькі не хацеў, але і ня мог аддаць вакантных гетманскіх пасадаў (па сьмерці Мікалая Патоцкага заставалася незанятай і пасада вялікага гетмана Кароны). Кіравала ім не адно асабістая непрыхільнасьць да Радзівіла — уручэньне булаваў праз такі кароткі час пасьля жванецкай кампаніі азначала б «скарэньне каралеўскае мосьці перад апазыцыяй, прызнаньне каралём слушнасьці крытыкі шляхтай ягоных ваенных пачынаньняў»[22]. Каб нешта супрацьпаставіць імкненьню апазыцыі атрымаць незанятыя пасады, партыя караля вылучыла патрабаваньне, каб гетманы прыносілі клятву на вернасьць Рэчы Паспалітай. Выказваліся таксама прапановы абмежаваць паўнамоцтвы гетманаў і скасаваць пажыцьцёвасьць прызначэньня. Гэтыя патрабаваньні эфэктыўна заблякавалі паседжаньні сойму, якія канчаткова сарваў 28 сакавіка, выконваючы волю караля, тчэўскі пасол Павел Белаблоцкі. За некалькі тыдняў спрэчак стасункі Вазы і Радзівіла яшчэ больш сапсаваліся. Гетман баяўся, што булава дастанецца Сапегам, як тое ўжо не аднойчы здаралася. Да таго ж ён рашуча супраціўляўся, выкарыстоўваючы выступы залежнай ад яго шляхты ў пасольскай палаце, каб усялякім спосабам абмежаваць паўнамоцтвы гетмана. У сваю чаргу, Ян Казімер называў Януша сваім сьмяротным ворагам (*Erbfeind*) і нібыта заракаўся, што лепш страціць карону, чым перадасьць таму вялікую булаву[23].

Як паведамляў 14 сакавіка дыплямат караля Андрэас Адэрсбах, падчас сойму мелася паўстаць змова чатырох магнатаў (апроч Радзівіла, яе склалі познанскі вая-

[20] Matwijów M. Koncepcje... S. 35, 37; Matwijów M. Próba mediacji Janusza Radziwiłła w konflikcie polsko-kozackim w latach 1653—1655 // Wrocławskie Studia Wschodnie. Nr 5. 2001. S. 10—20; Wójcik Z. Wielkie Księstwo Litewskie wobec Szwecji, Rosji i powstań kozackich // Przegląd Wschodni. T. I. 1991. Z. 3. S. 580.

[21] J. Radziwiłł do I. Chodkiewiczowej, [да 7 VIII 1653]. APKr. AMCh. Nr 101. S. 31—33.

[22] Mincer F. O sprawie przysięgi hetmańskiej na pierwszym sejmie 1654 r. // O naprawę Rzeczypospolitej XVII—XVIII. Prace ofiarowane Władysławowi Czaplińskiemu w 60 rocznicę urodzin. Warszawa, 1965. S. 129.

[23] UuA. T. VI. Berlin, 1872. S. 685—687.

вода Крыштап Апалінскі, вялікі каронны маршалак Ежы Любамірскі і лэнчыцкі ваявода Ян Ляшчынскі). Шмат гісторыкаў лічаць, што яна, магчыма, мела на мэце скінуць караля і перадаць карону трансыльванскаму князю Юр'ю II Ракочаму[24]. Цяжка адназначна ацаніць тое спрэчнае становішча, але застаецца фактам, што паводзіны Радзівіла ў той час межавалі зь дзяржаўнай здрадай і заслугоўваюць на бясспрэчна адмоўнае стаўленьне[25]. Аднак здаецца, што яны былі ня вынікам шматгадовых плянаў зрынуць манарха, а хутчэй эмацыйнай рэакцыяй на няспраўджаную надзею атрымаць булаву.

Зрыў сойму напярэдадні нападу маскоўскіх войскаў у вырашальнай ступені паўплываў на тое, што краіна не была належным чынам падрыхтаваная да абароны. Пры аналізе падзеяў у Варшаве ў лютым і сакавіку 1654 г. цяжка пазьбегнуць уражаньня, што як кароль, так і апазыцыя лічылі свае ўнутраныя супярэчнасьці больш істотнымі, чым адпор варожаму нашэсьцю з усходу. Большасьць польска-літоўскага магнацтва клапацілася толькі пра свае прыватныя інтарэсы, захаваньне палітычнага ўплыву і недапушчэньне рэформаў, якія ўмацоўвалі б цэнтральную ўладу. А Ян Казімер, чарговы раз паддаўшыся асабістым эмоцыям і перадузятасьці, давёў сваімі безадказнымі паводзінамі да абвастрэньня барацьбы з апазыцыяй у самы неадпаведны момант[26].

Таму як каралеўскі двор, так і ягоныя працаўнікі вінаватыя ў тым, што не ўдалося вызначыць падаткаў, не распачалося ўмацаваньня прымежных фартэцыяў, а гетманскія булавы не знайшлі новых уладальнікаў[27]. Рэч Паспалітая падыходзіла да вайны падзеленая на дзьве варагоўныя партыі, няздольная аб'яднацца нават перад сьмяротнай пагрозай навалы з усходу.

У лютым у Варшаву дайшлі зьвесткі пра заключэньне Пераяслаўскай дамовы[28]. 21 лютага ў сталіцу вярнуўся пасланы да цара зь лягеру пад Жванцам ганец, Ян Караль Млоцкі. Аляксей Міхайлавіч афіцыйна паведаміў яму, што пойдзе вайною на

[24] Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 117; Wójcik Z. Jan Kazimierz Waza. Wrocław, 1997. S. 100; Wasilewski T. Ostatni Waza na polskim tronie. Katowice, 1984. S. 143.

[25] Wasilewski T. Zdrada Janusza Radziwiłła w 1655 r. i jej wyznaniowe motywy // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XVIII. 1973. S. 130.

[26] Вельмі адмоўна ролю караля ў гэтых падзеях ацэньваў у тым ліку і прымас А. Ляшчынскі. У адным з сваіх лістоў ён адзначаў: «Гэтае рашэньне Караля Ягамосьці абмінуць з булавою Князя пана гетмана вельмі мне не падабаецца. Гэта не рашэньне *amantis Respublicam Principis*, але *desperati*, які ні *suam*, ні *publicam salutem curat* (гэта не рашэньне ўладара, які любіць Рэч Паспалітую, але даведзенага да адчаю чалавека, які ня дбае ні пра свой, ні пра дзяржавы ратунак)» (A. Leszczyński do B. Leszczyńskiego, Łyszkowice 23 IV 1654. BN. BOZ. Rkps 1218. K. 39v—40).

[27] Ochmann-Staniszewska S. Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej za panowania Jana Kazimierza Wazy. Prawo-doktryna-polityka. T. I. Wrocław, 2000. S. 192.

[28] Першы іх мусіць, вёз чарнец Крыніцкі (Федорук Я. О. Міжнародна дипломатія і політика України 1654—1657. Частина 1: 1654 рік. НАНУ. Інст. Укр. Археогр. та джерелознавства ім М. Грушевського. Львів, 1996. С. 20—21).

Рэч Паспалітую[29]. 23 лютага гэтыя навіны абмяркоўваліся на сакрэтнай нарадзе сэнатараў. Высокія саноўнікі не маглі ня ведаць пра пляны Масквы. Ужо ўлетку 1653 г., калі ў Львове прымалі пасольства Барыса Рэпніна-Абаленскага, стала відавочна, што палагодзіць справу мірам з усходнім суседам не атрымаецца[30].

Магчыма, палякі не чакалі, што Хмяльніцкі будзе дзейнічаць гэтак хутка — ён вырашыў прыняць апеку цара крыху больш як праз месяц пасьля падпісаньня Жванецкай дамовы (15 сьнежня), у якой запэўніваў караля і хана ў гатовасьці да супольнага паходу на Масковію. Саноўнікі Кароны, відаць, ня верылі, што гетман можа гэтак імкліва разьвярнуцца, і не прадбачылі, што цар адважыцца адразу ж распачаць вайну. Зрэшты, як мы ўжо ведаем, у той пэрыяд галовы шляхты былі больш занятыя ўнутранай барацьбой, чым небясьпекай, якую нёс магчымы новы канфлікт. Карона асабліва недаацэньвала пагрозу вайны з Масковіяй, вельмі нізка ставячы маскоўскія войскі, столькі разоў пабітыя палякамі ў шматлікіх сутычках за некалькі папярэдніх дзесяцігодзьдзяў.

Трохі іншыя настроі панавалі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, якое мела першым сустрэць заваёўнікаў. На пачатку 1654 г. у краі пачалі шырыцца чуткі, што маскоўцы рыхтуюцца да нападу: сьцягваюць да ўсходніх межаў Княства свае войскі. Дакладныя зьвесткі пра пляны праціўніка меў Януш Радзівіл. Ён даўно фактычна камандаваў літоўскай арміяй замест Кішкі, які быў ужо на Божай пасьцелі. У сьнежні 1653 г. Радзівіл выслаў частку конных харугваў у раён Дарагабужу назіраць за перасоўваньнямі маскоўскіх войскаў[31]. Пад канец студзеня ў Літву пачалі прыходзіць першыя навіны пра падзеі ва Украіне[32]. З Мазыра некалькі разоў дасылаў падрабязныя данясеньні ротмістар Шыман Паўша. Ён апісваў акалічнасьці заключэньня Пераяслаўскай дамовы, увядзеньня маскоўскіх аддзелаў у Кіеў, згадваў і пра непрыхільнае стаўленьне да гэткага разьвіцьця падзеяў з боку часткі казацкай старшыны і шараговай грамады[33].

Атрымаўшы гэтыя зьвесткі, гетман пачаў зьбіраць кампутовыя харугвы літоўскага войска. Ужо 16 лютага дарогаю на сойм у Варшаву ён выдаў у Заблудаве ўнівэрсал, у якім загадваў, каб жаўнеры дзеля дзейснага супраціву маскоўскім войскам, што падыходзілі да мяжы, «харугвы і кампаніі свае пільнавалі і не наважваліся ад'яжджаць ад іх ні на пядзю». У шэрагі мусілі вярнуцца тыя, хто заставаўся дома ці зь іншых прычынаў знаходзіўся па-за сваімі адзінкамі. Месцам збору гетман прызначыў Воршу, абяцаючы, што сам туды прыбудзе, «застаўшыся ў сталіцы толькі дзень або другі». Апроч таго, ён пагражаў суровым пакараньнем тым, хто будзе марудзіць[34]. Нягледзячы на прысьпешваньні Радзівіла, літоўская армія зьбіралася надта павольна. Войска было

[29] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza / Wyd. E. Raczyński. T. I. Poznań 1859. S. 171—172.

[30] Заборовский Л. В. Последний шанс умиротворения: переговоры Б. А. Репнина во Львове 1653 г. // Україна в Центрально-Східній Європі. Студії з історії XI—XVIII століть. Київ, 2000. С. 238—245.

[31] АМГ. Т. II / Под ред. Н. А. Попова. Санкт-Петербург, 1894. Nr 573. S. 357—358; Федорук Я. О. Міжнародна дипломатія і політика... С. 20.

[32] Kopia listu z Czarnobyla z 27 I 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 86. S. 407—409.

[33] Тамсама. Nr 83. S. 383—384; Nr 98. S. 473—477; BPAN Kyr. Rkps 991. K. 443v—444.

[34] AVAK. T. XXXIV. Wilno, 1909. Nr 8. S. 7—8.

зьнясіленае амаль няспыннымі з 1648 г. дзеяньнямі супраць казакоў. Стаяла зіма, і гэта, а таксама шэраг палітычных і эканамічных чыньнікаў, не спрыяла хуткай рэарганізацыі сілаў і падрыхтоўцы да адпору заваёўнікам. Армія панесла вельмі вялікія страты падчас кампаніі 1653 г., прычым не ва ўзброеных сутычках, а ад хваробаў і голаду. Як мы ўжо ведаем, Януш Радзівіл выступаў супраць паходу на Малдову і не дапусьціў удзелу сваіх падначаленых у бітвах супраць казакоў і татараў. Цэлае лета і восень аддзелы стаялі ў ваколіцах Рэчыцы. Аляксандар Гіляры Палубінскі, які быў у лягеры, пісаў, што праз вельмі кепскае забесьпячэньне правіянтам і пашырэньне паморку загінула шмат коней, «ад якіх амаль усе харугвы адпалі, і большасьць войска рухалася пешкі»[35]. Армію напаткалі і вялізныя чалавечыя страты. Паводле ацэнкі Гэнрыка Віснэра, зробленай, напэўна, на падставе ліста афіцэра Хрызастома Сьвяцкага, пад Рэчыцай вымерла траціна жаўнераў, што былі ў лягеры[36]. Вялікія страты панесьлі таксама прыватныя аддзелы Радзівілаў і Сапегаў, якія ваявалі пад Жванцам. У дзьвюх харугвах вялікага маршалка Аляксандра Людвіка Радзівіла засталіся толькі 62 здаровыя жаўнеры: 31 быў хворы, а памерла ці трапіла ў палон 49[37]. Таму, хоць паводле попісу літоўская армія мусіла ў лютым 1654 г. налічваць 12 653 порцыі, гэта значыць каля 11 500 жаўнераў[38], фактычны стан увесну 1654 г. зусім не адпавядаў гэтым лічбам. Апроч таго, адмоўна ўплывалі на стан войска нясплаты грошай, што належаліся жаўнерам. 9 лістапада 1653 г. яны нават хацелі пакінуць лягер, калі стала ясна, што грошай зноў ня будзе. Толькі пасьля працяглых перамоваў гетману ўдалося пераканаць іх, каб пачакалі сойму, які меўся вызначыць падаткі на пакрыцьцё пазыкаў перад войскам[39]. Зрыў сойму спрычыніўся да таго, што засталіся ня выкананыя патрабаваньні арміі — яна пачынала бараніць Айчыну, быўшы на парозе стварэньня канфэдэрацыі і адмовы ад службы.

Вялікай праблемай напярэдадні вайны з Масковіяй было таксама непрыхільнае стаўленьне да войска значнай часткі літоўскага грамадзтва. Апроч таго, часта дробную шляхту ўвогуле не абыходзіла, што краю пагражае агрэсія, і калі няма адпаведных сродкаў на абарону, яна можа скончыцца стратай значнай часткі тэрыторыі. Яшчэ ў траўні 1654 г. Януш Радзівіл спрабаваў растлумачыць суграмадзянам, занятым правядзеньнем соймікаў, якая пагроза ідзе з усходу, і папярэджваў, што Айчыны «ніхто не шкадуе, ніхто зьвесткам пра небясьпеку ёй ня верыць, а таму ніхто не працягвае рукі»[40].

[35] A. H. Połubiński do K. L. Sapiehy, b. m. d. LwNB. Fond 103. Nr 1594.

[36] Ch. Świacki do J. Kiszki, obóz pod Rzeczycą 13 VIII 1653. ACAD. AR. Dz. V. Nr 15 429; таксама лісты Я. Радзівіла: да прымаса А. Ляшчынскага (A. Leszczycski) (obóz pod Rzeczycą, 10X1653 // Kotłubaj E. Życie i działalność Janusza Radziwiłła. Wilno—Witebsk, 1859. S. 393), да Б. Радзівіла (B. Radziwiłła) (obóz pod Horwolem, 18 X 1653. Тамсама. S. 385), да Я Кішкі (J. Kiszki) (obóz pod Rzeczycą, 8 XI 1653. Тамсама. S. 351). Wisner H. Wojsko litewskie 1. połowy XVII wieku. Cz. 2 // SMHW. T. XX. Warszawa, 1976. S. 11; Ciesielski T. Sejm brzeski 1653 r... S. 268—269.

[37] W. Inglis do A. L. Radziwiłła. Biała 23 II 1654. AGAD. AR. Dz. V. Nr 5638.

[38] Kotłubaj E. Dzieje wojenne Polski... T. I. BPAN Kr. Rkps 1404. T. I. S. 156—159.

[39] Rachuba A. Konfederacja wojska litewskiego w Wierzbołowie w 1655 r. // Miscellanea Historico-Archivistica. T. IV. 1994. S. 13.

[40] J. Radziwiłł na sejmik. Wilno 9 V 1654. BCzart. Rkps 3487. S. 69.

Узьнікалі пратэсты супраць занадта высокіх, на думку паноў, падаткаў, вылучаліся патрабаваньні ўтаймаваць жаўнерскае самачынства, зьменшыць цяжар утрыманьня занадта вялікай, як ім здавалася, арміі. Шляхта не намервалася служыць у паспалітым рушаньні і зьбіралася толькі выстаўляць аддзелы для абароны ўласных паветаў. Яна баялася патрапіць пад уладу гетмана, «угледзеўшы (у гэтым. — **К. Б.**) канчатковую згубу шляхецкай крыві»[41].

З усіх гэтых прычынаў магчымасьці супрацьстаяць небясьпецы, узьніклай з заключэньнем Пераяслаўскай дамовы, былі вельмі абмежаваныя. Тым ня менш, трэба згадаць некалькі ініцыятываў Януша Радзівіла, накіраваных на аслабленьне маскоўска-казацкага хаўрусу. Яшчэ 5 лютага гетман даў загад ротмістру казацкай харугвы Самуэлю Караткевічу скіравацца на зімовыя кватэры ў Старадубскі павет (фармальна ён па-ранейшаму належаў да Вялікага Княства Літоўскага, але фактычна з 1648 г. быў акупаваны казакамі[42]). Гетман меў на мэце выведаць настроі мясцовага насельніцтва і агітаваць супраць прызнаньня ўлады Масковіі. Ротмістар атрымаў два лісты: гетманскі ўнівэрсал і ліст Радзівіла да Хмяльніцкага, — якія заклікалі казакоў захоўваць вернасьць Рэчы Паспалітай[43]. Літоўскія харугвы, што разам налічвалі ня больш за некалькі соцень коней, зьявіліся ў ваколіцах Старадуба каля 27 лютага і распачалі прапагандысцкую акцыю. Яны заклікалі жыхароў гораду і казакоў не дапамагаць маскоўскаму войску ваяваць зь іхным законным уладаром. Былі спробы схіліць да пераходу на польскі бок мясцовага палкоўніка Афанасія Ерамеева, які, аднак, рашуча адмовіўся. Гэтак жа непрыхільна прымаліся і заклікі Януша Радзівіла. Каля 20 сакавіка харугвы адступілі ў кірунку Чачэрску і Гомелю, каб пазьбегнуць сутычкі зь Нежынскім казацкім палком, што падыходзіў з поўдня[44].

У другой палове сакавіка робіцца чарговая спроба прымусіць казакоў адступіцца ад Масквы. Арміі Княства і Кароны меліся разам атакаваць аддзелы Хмяльніцкага і перамагчы іх, перш чым ва Ўкраіну прыбудуць маскоўскія падмацаваньні. Апэрацыя плянавалася празь некалькі тыдняў пасьля заканчэньня жванецкай кампаніі, раней, чым прыйшлі зьвесткі пра заключэньне Пераяслаўскай дамовы. Каб схіліць Януша Радзівіла даслаць літоўскія харугвы ў паўночную Ўкраіну, у студзені 1654 г. да яго накіраваўся ад імя сэнату каралеўскі сакратар, гнезьненскі схаластык Марцыян Вітускі[45]. Плян апэрацыі нагадваў кампанію 1651 г. Злучыўшыся пад Кіевам, абодва войскі мусілі разам нанесьці праціўніку рашучы ўдар. Зразумела, такі манэўр у пачатку 1654 г. быў немагчымы. Армія Кароны пасьля жванецкай кампаніі знахо-

[41] D. Strzeczon do J. Kiszki, Motol 3 I 1654. AGAD. AR. Dz. V. Nr 15213. Непрыхільнае стаўленьне да войска ўтрымліваюць таксама інструкцыі да лютаўскага сойму 1654 г. Ваўкавыскага павету (BCzart. Rkps 147. Nr 59. S. 302), смаленскага ваяводзтва (Тамсама. Nr 158. S. 761—764) ці таксама Мазырскага павету (AGAD. AR. Dz. II. Nr 1275).

[42] AMG. T. II. Nr 593. S. 371—372.

[43] AJZR. T. X. Sankt Petersburg, 1880. S. 329.

[44] AMG. T. II. Nr 586. S. 366—367. Nr 592. S. 370—371; Nr 593. S. 371—372.

[45] Instrukcja JM księdzu Marcinowi (!) Wituskiemu scholastykowi gnieźnieńskiemu sekretarzowi JKM do Księcia JM Pana wojewody wileńskiego hetmana polnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. AGAD. AKW. Dz. kozacki. Nr 42/48.

дзілася ў жахлівым стане і не магла правесьці ніякага шырокамаштабнага наступу. У пачатку другога кварталу 1654 г. ейная колькасьць зьменшылася прыкладна да 21 500 жаўнераў (параўнайце з 28 000, сабранымі 1 ліпеня 1653 г. у лягеры пад Глінянамі[46]). Апроч таго, Януш Радзівіл ня змог сабраць належнай колькасьці аддзелаў для баявых дзеяньняў ва Ўкраіне. Кепска сплянаваная і яшчэ горш праведзеная, выправа войска Кароны абярнулася паразай ужо на Брацлаўшчыне — яно ня здолела здабыць Гумань.

Літоўскае войска таксама не ўяўляла для Хмяльніцкага колькі-небудзь значнай пагрозы. Тым ня менш, зьяўленьне пад канец сакавіка разьездаў Радзівіла ў Барадзянцы, за пераправай праз Цецераў — каля трыццаці кілямэтраў ад Кіева, выклікала ў горадзе вялікае хваляваньне. Чакаючы наступу галоўных сілаў на чале з самім гетманам, кіяўляне пасьпешліва будавалі і рамантавалі фартыфікацыі[47]. Аднак ліцьвіны абмежаваліся тым, што абвясьцілі навакольнаму насельніцтву ўнівэрсалы караля і гетмана ад 21 і 24 лютага, якія заклікалі парваць з Масковіяй і захоўваць вернасьць Рэчы Паспалітай. Тады ліцьвіны адступілі на поўнач[48]. Хмяльніцкі баяўся ўдару на Кіеў яшчэ пад канец красавіка, калі паведамляў у лістах да татарскіх саноўнікаў пра рушаньне Радзівіла на Любеч і Лоеў. Відаць, зьвесткі былі непраўдзівыя, бо літоўская армія ў сувязі з ростам маскоўскай пагрозы на той час ужо не рабіла колькі-небудзь значных выправаў на паўночную Ўкраіну[49].

Між тым у Маскве завяршалася распачатая яшчэ ўвосень 1653 г. шырокамаштабная падрыхтоўка да баявых дзеяньняў. На вайну з заходнім суседам маскоўцы выставілі яшчэ больш, чым у папярэдніх кампаніях, адзінак г. зв. новага строю. Асабліва шмат гэткіх аддзелаў (ажно 28 000 жаўнераў — каля 70 % усіх сілаў), было ў шэрагах галоўнай царскай арміі, якая мелася здабыць Смаленск.

Гэтыя фармаваньні складалі эліту маскоўскай арміі. Раней войскі Рэчы Паспалітай сутыкаліся зь імі на полі бітвы толькі спарадычна. Першыя два пяхотныя палкі зьявіліся ў 1630 г., але ў вайне 1632—1634 гг. іх удзельнічала ўжо шэсьць. Арганізацыйна яны мелі шмат супольнага з палкамі нямецкай пяхоты ў польска-літоўскай арміі. Пяхотны полк складаўся з васьмі ротаў па 200 шарагоўцаў у кожнай (120 мушкетэраў і 80 кап'ёўшчыкаў), а таксама налічваў 176 афіцэраў. Апроч інфантэрыі, з 1632 г. пачалася арганізацыя рэйтарскіх (2000 чалавек) і драгунскіх палкоў (1600 чалавек і палкавая артылерыя з 12 гарматаў малога калібру)[50]. Усяго да канца смаленскай кампаніі плянавалася сфармаваць 16 палкоў новага тыпу (17 000 чалавек). Але ў бітвах з аддзеламі Ўладзіслава IV удзельнічала толькі невялікая іхная частка[51].

[46] Wimmer J. Wojsko polskie w drugiej połowie XVII wieku. Warszawa, 1965. S. 79, 81.

[47] AMG. T. II. Nr 590. S. 369; AJZR. T. X. S. 398—399; Федорук Я. О. Міжнародна дипломатія і політика... С. 52—53.

[48] AJZR. T. X. S. 547—553.

[49] Документи Богдана Хмельницького 1648—1657 / Вид. І. Р. Крип'яткевич. Київ, 1961. № 242. С. 326—327. № 243. С. 338; Федорук Я. О. Міжнародна... С. 118—119.

[50] У 1662 г. у маскоўскай арміі зьявіліся нават два палкі кап'ёўшчыкаў і адзін гусарыі.

[51] Razin E. Historia sztuki wojennej. T. III. Warszawa, 1964. S. 202—203.

Пасьля 1634 г. палкі новага строю распусьцілі (мабілізоўваліся яны толькі на кароткі час у 1638 г. пры падрыхтоўцы да вайны з Крымскім ханствам). На сталую службу яны вярнуліся ўжо за Аляксеем Міхайлавічам. Больш за тое, рэформа, праведзеная маладым царом, надала ім вырашальную ролю ў ягонай арміі. Практычна, гэта былі першыя рэгулярныя збройныя сілы ў гісторыі маскоўскай ваеннай справы, якія — прынамсі тэарэтычна — аплачваліся зь дзяржаўнай казны (пачаткова плата складала пяць рублёў за год, а дадатак на харчаваньне — тры капейкі). Іх навучалі і ўзбройвалі на заходнеэўрапейскі ўзор, а афіцэрскі склад збольшага фармаваўся з замежнікаў, якіх багата прыехала ў Маскву ў выніку вэрбоўкі ў другой палове 1653 г. А намесьнікамі іншаземцаў прызначаліся мясцовыя вайскаводцы, каб падрыхтаваць іх да будучай самастойнай службы. У жаўнеры ж новага строю бралі толькі маскоўцаў — першы масавы набор сялянаў у іхныя шэрагі адбыўся ў 1653—1654 гг. Новыя рэкруты папоўнілі перадусім пяхотныя (іх называлі таксама салдацкімі) і драгунскія палкі. Рэйтарскія адзінкі пераважна складаліся з вышэйшых станаў — дваранаў і баярскіх дзяцей, якія служылі на іншых умовах. Сацыяльная структура рэйтарскіх палкоў пачала зьмяняцца толькі каля 1659 г., калі жаўнераў для іх таксама сталі рэкрутаваць збольшага зь сялянаў[52].

У выніку рэформаў Аляксея Міхайлавіча і ягонага бацькі маскоўскія войскі, якія ў 1654 г. узялі ў аблогу Смаленск, значна пераўзыходзілі баяздольнасьцю і ўзбраеньнем аддзелы Шэіна 1632—1634 гг., а тым больш адзінкі, зь якімі ваявала армія Кароны і Княства ў часе Вялікай смуты. Аднак палкі новага строю заўсёды заставаліся ў маскоўскім войску меншасьцю, іх практычна не было ў складзе корпусаў, што наступалі на Вялікае Княства Літоўскае зь іншых кірункаў, апроч смаленскага.

У вайне 1654—1655 гг. маскоўскае войска пераважна ўяўляла сабою традыцыйныя адзінкі, арганізацыя і ўзбраеньне якіх ня надта зьмяніліся з часу Івана IV Жахлівага. Стрыжнем збройных сілаў была шляхецкая коньніца (яе таксама называлі памеснай). Служыць у ейных шэрагах абавязалі фэадалаў, якія гаспадарылі ў дадзеных царом дзяржаўных сядзібах (г. зв. памесьцях). Гэта былі перадусім прадстаўнікі вышэйшых станаў — найбагацейшыя баяры, а таксама дваране, якія складалі сярэднюю клясу, і г. зв. баярскія дзеці[53], апроч таго, татарская арыстакратыя, а часам і г. зв. службовыя казакі. Служба ў памеснай коньніцы была спадчыннай, а колькасьць ваяроў, што мусіла выставіць сядзіба, залежала ад ейнай велічыні: прыблізна з 50 га зямлі (100 чэтаў) — адзін цалкам узброены жаўнер, які атрымліваў невялікую плату зь дзяржаўнай казны. Маскоўская шляхецкая коньніца паводле арганізацыі нагадвала польскае паспалітае рушаньне. Адно што зрэдку праводзіліся ейныя попісы, а на вайну яна выпраўлялася пасьля працяглай мабілізацыі. Узровень дысцыпліны, а таксама вывучка і ўзбраеньне жаўнераў пакідалі жадаць лепшага, а адзіным козырам у сутычцы з польскай ці літоўскай коньніцай была колькасная перавага.

Самым шматлікім зь пешых фармаваньняў у маскоўскім войску сярэдзіны XVII ст. былі стральцы (у 1651 г. яны складалі трохі больш за 33 % арміі). Іх набіралі, як

[52] Razin E. Historia sztuki wojennej... S. 201—204; Чернов А. В. Вооруженные силы русского государства в XV—XVII в. Москва, 1954. С. 134—156.

[53] Гаспадарылі яны на невялікіх надзелах зямлі і цалкам залежалі ад баяраў.

правіла, з свабодных людзей. Служылі яны за невялікую плату (тры рублі за год), а таксама атрымлівалі ў вечнае валоданьне ўчасткі зямлі каля гарадоў. У мірны час стралецкія аддзелы не распускаліся па дамох, а з цэлымі сем'ямі жылі ў г. зв. стралецкіх слабодах, займаючыся, галоўным чынам, гандлем і рамесьніцтвам. Пэрыядычна праходзілі вучэньні і вайсковыя агляды. Стральцы таксама выконвалі ў гарадох функцыі паліцыі.

Стральцы вызначаліся нашмат лепшай вывучкай, чым коньніца, і ажно да зьяўленьня палкоў новага строю складалі эліту маскоўскай арміі. Адрозна ад кавалерыі, яны мелі аднолькавую форму і ўзбраеньне (шабля, бердыш і пішчаль або мушкет) зь дзяржаўнай казны. Ня маючы апірышча ў выглядзе палявых умацаваньняў або сталых фартыфікацыяў, стралецкія аддзелы слабей ваявалі на полі. Затое яны выдатна паказвалі сябе ў абаронных дзеяньнях, у чым неўзабаве давялося шматкроць пераканацца літоўскім камандзірам[54].

У вайне з Рэччу Паспалітай маскоўскую армію падтрымлівалі таксама вайсковыя фармаваньні народаў, якія прызнавалі зьвершнасьць Маскоўскай дзяржавы: астраханскія (і, напэўна, казанскія) татары, грузіны, чувашы, башкіры, а таксама данскія казакі. Аднак яны не адыгралі ў бітвах ніякай значнай ролі.

Маскоўскія войскі пачалі зьбірацца ўвосень 1653 г. Першымі сталі рыхтавацца да вайны аддзелы, якія мусілі наступаць на Вялікае Княства Літоўскае з поўначы. Месцам збору ім прызначаліся тэрыторыі паміж Псковам і Вялікім Ноўгарадам. Ужо 15 кастрычніка 1653 г. у Ноўгарад дасланыя вайскаводцы палкоў, якія мусілі стварыць стрыжань новай арміі: Сямён Стрэшнеў (13 студзеня яго адкамандзіравалі ў Пскоў), Ждан Кандрыеў і прызначаны галоўным вайскаводцам корпусу Васіль Пятровіч Шарамецеў. Базай для нападу цар вызначыў Вялікія Лукі, дзе знаходзіўся ваявода Барыс Пляшчэеў — ён адказваў за збор запасаў правіянту і амуніцыі. У сярэдзіне сакавіка 1654 г. пад горадам пачалі сыходзіцца першыя аддзелы Шарамецева, а ў сярэдзіне траўня ўсё войска было падрыхтаванае да пераходу мяжы[55].

Галоўным зборным пунктам арміі, якая мусіла наступаць на Беларусь з паўднёвага захаду, быў Бранск — грунтоўна ўмацаваны горад, што знаходзіўся побач ня толькі зь літоўскай, але і паўночнай украінскай мяжою.

2 лістапада 1653 г. цар прызначыў вайскаводцам гэтай групоўкі князя Аляксея Трубяцкога. Ён мусіў прыбыць з усімі сваімі аддзеламі ў Бранск да 19 траўня 1654 г., завяршыць за некалькі тыдняў апошні этап падрыхтоўкі і рушыць на захад. Першыя салдацкія палкі гэтай арміі выступілі з Масквы яшчэ ў сакавіку, а апошнія аддзелы — толькі 5 траўня. Таму вызначаны царом графік трохі зьбіўся, і Трубяцкой рушыў на фронт зь невялікім спазьненьнем.

Месцам збору трэцяй, самай моцнай групы маскоўскіх войскаў была Вязьма, што знаходзілася на шляху да Смаленску, зусім побач зь літоўскай мяжою. У лістападзе

[54] Чернов А. В. Вооруженные силы русского государства в XV—XVII в... С. 126—129; Razin E. Historia sztuki wojennej... T. II. S. 319—323.

[55] Новосельский А. Очерк военных действий боярина Василия Петровича Шереметьева в 1654 г. // Новосельский А. Исследования по истоии эпохи феодализма. Москва, 1994. С. 117—119; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 24—27.

1653 г. цар выдаў загад мясцоваму ваяводу Івану Хаванскаму, каб той пачаў зьбіраць запасы правіянту і сена. Вялася таксама мадэрнізацыя гарадзкіх умацаваньняў і будова новых фартыфікацыяў. У студзені ў Вязьму адкамандзіравалі з Масквы 500 стральцоў. Усьлед за імі сталі падыходзіць чарговыя аддзелы. У канцы красавіка Вязьма ператварылася ў вялікі вайсковы лягер. Увесь наступны месяц з сталіцы бесьперапынна рушыла вялізнае войска. Палкі, нярэдка сфармаваныя ў вельмі аддаленых землях Масковіі, зьбіраліся спачатку пад мурамі Крамля. Пасьля агляду Аляксеем Міхайлавічам яны выпраўляліся на захад, дзе завяршалася падрыхтоўка да наступу[56].

У сталіцы войска праводзіла праваслаўнае духавенства на чале з маскоўскім патрыярхам Ніканам. Жаўнерам казалі, што блізкая вайна будзе змаганьнем супраць няверных папістаў за сьвятую праваслаўную веру. Рэлігійны псыхоз распальвала і ўмелая агітацыя сьвецкіх уладаў. 21 траўня цар выдаў грамату да жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, у якой даводзіў, што рушыць на Рэч Паспалітую, каб зьдзейсьніць малітвы вызнаўцаў грэцкай веры і зьнішчыць ейных перасьледнікаў. Апроч таго, ён заклікаў насельніцтва не супраціўляцца маскоўцам, абяцаючы наўзамен захаваньне правоў і маёмасьці[57]. Праз тыдзень, 28 траўня, сам Аляксей Міхайлавіч пакінуў сталіцу і выправіўся да свайго войска пад Вязьму.

## Разьдзел II

# ЛЕТНЯЯ КАМПАНІЯ 1654 г. БІТВА ПАД ШКЛОВАМ І ШАПЯЛЕВІЧАМІ

*На сёмы год казацка-татарскай вайны, на шосты панаваньня Яна Казімера, распачалася страшная вайна; збройна ўвайшоў на Русь паклíканы Хмяльніцкім В[ялікі] Князь Маскоўскі на Літву*[58].

Напрыканцы траўня — у пачатку чэрвеня 1654 г. маскоўскія войскі перайшлі мяжу Вялікага Княства Літоўскага. Сілы былі надзвычай няроўныя. Дадаткова перабольшвалі дыспарытэт распаўсюджаныя ў шматлікіх копіях рэляцыі, якія на падставе зьвестак, наўмысна перадаваных маскоўскай прапагандай, значна завышалі коль-

[56] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 27—32.

[57] VS. T. IV. Cz. 2 / Изд. А. Сапунов. Витебск, 1885. Nr 4. S. 29—30.

[58] Rudawski W. Historja polska od śmierci Władysława IV aż do pokoju oliwskiego / Tłum. W. Spasowicz. T. I. Petersburg i Mohylew, 1859. S. 249.




2. Летняя кампанія 1654 г.

касны склад паасобных царскіх арміяў. Аўтар адной зь іх, пад назвай «Рэляцыя пра ваенную экспэдыцыю Ягонай Царскай Вялікасьці Аляксея Міхайлавіча на Літву супраць Яна Казімера Караля Польскага ў 1654 г.», ацэньваў колькасьць маскоўскага войска прыблізна на 200 000 чалавек[59]. Яшчэ больш абсурдныя зьвесткі падае «Перапіс войскаў Царскай Вялікасьці, якія пайшлі на Літву і на Ўкраіну ў розны час 1654 г.». Паводле гэтага дакумэнту, толькі з самім Васілём Пятровічам Шарамецевым мусілі рушыць на вайну ажно 34 500 чалавек, а пад Смаленск зь Мікітам Адоеўскім і Якавам Чаркаскім выправіліся адпаведна 46 400 і больш за 43 000 жаўнераў. Увогуле, як скрупулёзна падлічыў аўтар, «перайшло тады войска праз сталіцу ў розны час [...] 258 838». Але гэта яшчэ ня ўсё: частка войскаў, улучна з 86 500 татарамі, у вышэйзгаданым разьліку ня бралася пад увагу, бо гэтыя аддзелы рушылі на фронт крыху пазьней[60].

Схільнасьць значна перабольшваць маскоўскія сілы мы бачым таксама ў некаторых польскіх мэмуарыстаў. У Мацея Форбэк-Летава чытаем, што «маскоўскі цар [...] Хмяльніцкаму на дапамогу паслаў 40 000. Да Невелю, Северу адправіў 40 000. Сам, у 140 000 узяўшы Дарагабуж, ішоў пад Смаленск»[61]. Значна перабольшваў і Ваўжынец Рудаўскі, пішучы, што войска цара складалася з 200 000 маскоўцаў, 12 000 французаў, 6000 шкотаў і 20 000 казакоў[62]. Больш рэалістычна падлічыў колькасьць варожых войскаў Вэспасіян Кахоўскі: «Маскоўскі цар з 80 000 войска, апроч калмыкаў, увайшоў у Літву»[63]. Ягоная ацэнка прынцыпова ня розьніцца ад лічбаў, што падаюцца ў працах сучасных гісторыкаў. Нядаўна Г. Сагановіч ацаніў агульны лік царскіх сілаў прыблізна на 70 000 чалавек, зь якіх разам з царом на цэнтральны фронт рушылі каля 41 000 чалавек, а з Васілём Пятровічам Шарамецевым і Аляксеем Трубяцкім — з кожным 15 000 жаўнераў[64]. Раней да падобных высноваў прыйшоў Мальцаў, зьвяртаючы ўвагу, што фактычная колькасьць арміі Шарамецева была крыху ніжэйшая[65]. Разам пад ягоным камандаваньнем ваявала крыху больш за 13 000 жаўнераў[66].

Апроч сілаў, задзейнічаных на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, на пачатку 1654 г. цар даслаў крыху больш за 10 000 жаўнераў на чале з Васілём Пятровічам Шарамецевым і Фёдарам Бутурліным ва Ўкраіну, каб падтрымаць аддзелы Хмяльніцкага, якія ваявалі супраць арміі Кароны. У складзе гэтай групы былі чатыры палкі пяхоты (адзін зь іх на чале зь Юр'ем Гутціным быў скіраваны ў кіеўскую залогу), а таксама

[59] Ojczyste spominki... T. I. S. 100.

[60] Тамсама. S. 105—108; Кубала Л. (Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 218), базуючыся на гэтым сьведчаньні, некрытычна сцьвярджае, што «сілы, якія меў цар Аляксей, складалі паўмільёна чалавек». Яшчэ вышэйшую колькасьць — 700 000 войска — падаў у размове з Канстантынопальскім патрыярхам і антыяхейскім патрыярхам Нікан (тамсама).

[61] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 182.

[62] Rudawski W. Historja polska od śmierci Władysława IV aż do pokoju oliwskiego... S. 249.

[63] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 178.

[64] Сагановіч Г. Невядомая вайна... С. 10.

[65] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 25, 29.

[66] Новосельский А. Очерк военных действий... С. 118.

аддзел сеўскага ваяводы Андрэя Бутурліна, які налічваў 4000 чалавек[67]. Усяго ў нападзе на Рэч Паспалітую ўдзельнічала каля 65 % усіх войскаў, якімі ў сярэдзіне XVII ст. мог распараджацца Аляксей Міхайлавіч[68]. Гэта яскрава сьведчыць, што цар надаваў вялікае значэньне будучай вайне. Ён напэўна разьлічваў на значныя тэрытарыяльныя набыткі і далёкасяжныя палітычныя посьпехі, у тым ліку на пацьверджаньне ўлады Масковіі над Украінай і, магчыма, нават на разрыў польска-літоўскай уніі.

Мэтай кампаніі 1654 г. на Беларусі было перадусім завалодаць землямі Вялікага Княства Літоўскага на ўсход ад Бярэзіны, якую Масковія традыцыйна лічыла мяжой рускіх земляў. Дзеля гэтага трэба было спачатку здабыць магутную смаленскую фартэцыю, а тады захапіць замкі на лініі Дняпра. Гэтыя задачы мусілі выканаць дзьве маскоўскія арміі. Першая зь іх, на чале якой намінальна стаяў сам цар, а фактычна — Мікіта Адоеўскі, Якаў Чаркаскі і Міхаіл Цёмкін-Растоўскі, накіравалася проста пад Смаленск.

Галоўнай мэтай аддзелаў Аляксея Трубяцкога, якія наступалі на поўдзень ад асноўных сілаў Аляксея Міхайлавіча, на першым этапе кампаніі было здабыць Амсьціслаў, а потым выйсьці на Дняпро ў раёне Шклова — Копысю. Цар плянаваў потым скіраваць гэты корпус ва Ўкраіну, на дапамогу Хмяльніцкаму. Меркавалася нават, што калі казакі здолеюць распачаць наступ у глыб земляў Кароны, то Трубяцкой пойдзе на Валынь у раён Луцку, каб потым наступаць на Люблін.

Армія Васіля Пятровіча Шарамецева мусіла захапіць тэрыторыі на поўнач ад Дзьвіны, а таксама Полацак, Віцебск і Невель[69]. З захаду з Шарамецевым узаемадзейнічала невялікая група войскаў на чале зь Лявом Салтыковым і Сьцяпанам Ялагіным. Гэтая групоўка зьбіралася марудна, таму яна ўвайшла на тэрыторыю польскіх Інфлянтаў (Латгаліі) толькі ў верасьні 1654 г., каб паспрабаваць узяць у аблогу Дзьвінск.

У падмацаваньне маскоўскім войскам з Украіны рушыў дапаможны казацкі корпус, які на пачатковым этапе кампаніі дзейнічаў у паўднёвай частцы Беларусі. Цар дамагаўся скіраваньня гэтых аддзелаў на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага з красавіка 1654 г. 6 красавіка, прымаючы казацкіх паслоў — генэральнага судзьдзю Самойлу Заруднага і палкоўніка Паўла Цяцеру, — ён перадаў ім дакумэнт з наказам Хмяльніцкаму даслаць войскам, што рушылі на Смаленск, дапамогу на 18 000 жаўнераў. Гэтым корпусам мусілі камандаваць сам Павел Цяцера і нежынскі палкоўнік Іван Залатарэнка. У адказе на гэты ліст ад 26 красавіка Хмяльніцкі згадзіўся даслаць патрабаваныя царом сілы, але папярэдзіў, што ня зможа адысьці Пераяслаўскі полк — адзін з наймацнейшых у запароскай арміі, — бо Ўкраіне пагражае наступ арміі Кароны[70]. Замест Пераяслаўскага ў Беларусь накіраваўся Чарнігаўскі полк, а з завэрбаваных у чэрвені і ліпені 1654 г. пазьней утварылі Старадубскі полк. У добраахвотніках ваяваць зь ляхамі не было нястачы, таму корпус на парозе кампаніі налічваў значна больш за 18 000 жаў-

[67] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 34—36.

[68] У 1651 г. маскоўская армія налічвала крыху больш за 133 000 чалавек: Чернов А. В. Вооруженные силы русского государства в XV—XVII в... С. 167.

[69] Новосельский А. Очерк военных действий... С. 117—120.

[70] AJZR. T. X. S. 506—507, 675—678.

нераў. У чэрвені пад зброяй былі, як паведамляў пасланец цара ў лягеры казакоў Ціма-фей Спасіцелеў, 20 000 адной коньніцы, ня лічачы пяхоты[71].

Казацкія аддзелы зьбіраліся каля Нежына, адкуль перайшлі ў раён Ноўгараду Северскага і Старадубу. Паколькі полк Цяцеры застаўся ва Ўкраіне, іхным адзінаасобным вайскаводцам стаў урэшце Іван Залатарэнка. З таго часу ён атрымаў тытул наказнога гетмана. Швагер Хмяльніцкага, сваёй вайсковай кар'ерай ён быў абавязаны найперш сваяцкім сувязям. Напэўна, яны і сталіся галоўным аргумэнтам у выбары яго вайскаводцам корпусу, тым больш, што пра магчымы ваенны талент Залатарэнкі і ягоныя ранейшыя посьпехі на полі бітвы вядома няшмат. У верасьні і кастрычніку 1651 г. ён быў у складзе пасольства запароскага войска ў Маскву. З 1652 г. узначальваў Корсунскі полк, а з 1653 г. — Нежынскі. У 1653 г. падчас жванецкай кампаніі ён стаяў на чале Чарнігаўскага, Нежынскага і Пераяслаўскага палкоў, а таксама невялікай групы татараў у ваколіцах Чарнігава, перакрываючы шлях ва Ўкраіну літоўскім войскам, што месьціліся пад Рэчыцай[72].

Распачаты ў чатырох кірунках наступ маскоўска-казацкіх войскаў разьвіваўся маланкава. Недастаткова падрыхтаваны да абароны край стаўся лёгкай здабычай для ворага. Праваслаўнае насельніцтва памежжа часта з хлебам і сольлю вітала ў брамах сваіх гарадоў аддзелы Аляксея Міхайлавіча, не аказваючы ніякага супраціву. Царскія войскі перайшлі мяжу, вызначаную ў Палянаве на пачатку 1654 г. Першы посьпех яны зьведалі на паўночным флянгу, дзе 11 чэрвеня практычна без супраціву здаўся Невель[73]. Добраахвотна капітулявалі таксама жыхары Себежу. Зрэшты, яны нецярпліва чакалі прыйсьця маскоўскіх войскаў, якія вёў з Апочкі мясцовы ваявода Афанасі Ардзін-Нашчокін[74].

Празь некалькі дзён царскія аддзелы ўжо стаялі пад Полацкам. Як толькі захопнікі авалодвалі гэтым горадам, перад імі практычна адкрываўся бесьперашкодны шлях у глыб дзяржавы, а Вільня заставалася безь ніякай абароны з поўначы. Нягледзячы на сваё стратэгічнае значэньне, улетку 1654 г. Полацак быў абсалютна не падрыхтаваны да абароны. Гарадзкія фартыфікацыі і ўмацаваньні трох гарадзкіх замкаў знаходзіліся ў жахлівым стане. Збудаваныя яшчэ паводле сярэднявечных правілаў, яны не маглі забясьпечыць належнай абароны ад агню артылерыі. Яны яшчэ больш пацярпелі ў выніку двух вялікіх пажараў (1614 і 1643 гг.) і ваенных дзеяньняў у 1632—1634 гг. Хоць справай іхнай адбудовы займаўся нават сойм (у 1626 г. на гэтую тэму выдалі спэцыяльную пастанову), аднак праз адсутнасьць фінансавых сродкаў праца ў іхным аднаўленьні не пачалася[75]. У 1654 г. у горадзе не было ніводнай сталай вайсковай залогі. «Васіль Пятровіч Шарамет, — пісаў Форбэк-Летаў, — *in praesisio* (у

[71] AJZR. T. X. S. 681—682. У лісьце ад 11 [21] чэрвеня 1654 г. да цара з-пад Ноўгараду Северскага Залатарэнка паведамляў, што, выпраўляючыся на фронт, мае ў распараджэнні 20 000 казакоў і пешых (Тамсама. T. XIV. Санкт-Петербург, 1889. С. 127—130).

[72] Українське козацтво. Мала енціклопедія. Київ, 2002. С. 176.

[73] VS. T. IV. Cz. 2. Nr 1. S. 12; Nr 81. S. 265—266.

[74] BVEF. T. II. Mińsk, 1960. Nr 32. S. 62—64.

[75] Naronowicz-Naroński J. Budownictwo wojenne / Wyd. J. Nowakowa. Warszawa, 1957. S. 5; Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Минск, 1987. С. 114—115.

залозе) знайшоў усяго некалькі дзясяткаў чалавек»[76]. Затое, паводле Альбрыхта Станіслава Радзівіла, «пакінуты замак і горад баранілі шэсьць езуітаў і каля трыццаці чалавек з шляхты»[77]. Не было адказнага за падрыхтоўку да абароны, бо па сьмерці 23 сакавіка 1654 г. ваяводы Аляксандра Людвіка Радзівіла гэтая пасада заставалася вакантная. Праўда, меў намер яе заняць, разьлічваючы ўвайсьці ў кола сэнатараў, стрыечны брат памерлага, канюшы літоўскі Багуслаў Радзівіл. У жніўні 1654 г. ён атрымаў нават падтрымку вялікай часткі мясцовай шляхты, але на той час Полацак быў ужо страчаны[78]. Імклівае разьвіцьцё маскоўскага наступу, а таксама пахаладаньне стасункаў Багуслава Радзівіла з дваром прывялі да таго, што да прызначэньня ўсё ж не дайшло[79].

Разумеючы, што дзейсны супраціў жаўнерам Шарамецева немагчымы, шляхта і багатыя мяшчане пачалі пасьпешліва ўцякаць з гораду ў Вільню ці Рыгу. Затое, як вынікае з рэляцыі Афанасія Ардзіна-Нашчокіна, частка купцоў, а таксама бурмістар Іван Міхновіч засталіся ў Полацку і не маглі дачакацца прыходу маскоўскіх войскаў[80]. Абарона гораду сапраўды працягвалася нядоўга. Паводле найбольш верагоднай рэляцыі Васіля Пятровіча Шарамецева, ужо 27 чэрвеня, пасьля ўсяго некалькіх гадзінаў аблогі, Полацак здаўся[81]. Польскія крыніцы кажуць пра трохдзённы супраціў і капітуляцыю 30 чэрвеня[82]. За добраахвотнае падпарадкаваньне палачанаў сваёй уладзе 17 верасьня 1654 г. цар выдаў указ, якім пацьвердзіў іхныя ранейшыя гандлёвыя прывілеі, а таксама паўнамоцтвы гарадзкога самакіраваньня[83].

Здабыўшы Полацак, маскоўскія войскі рушылі на навакольныя гарады. Напрыканцы ліпеня — у пачатку жніўня аддзел, які ўзначальвалі сын Шарамецева Мацьвей і Сямён Стрэшнеў, здолеў бяз бою заняць Дзісну. Пасьля кароткага бою капітулявала Друя. 20 жніўня Стрэшнеў пасьля тыднёвай аблогі заняў Азярышча, а 2 верасьня яму здаліся Ўсьвяты[84]. У маскоўскія рукі трапіла Сапегава Іказьнь.

У Вільні падзеньне Полацку выклікала шок і паніку. 8 ліпеня, калі ўжо было вядома пра ягоную капітуляцыю, у сталіцы Княства разышлася пагалоска, «што нібы Масква ўжо пад Нямenчынам (г. зн. каля 20 кілямэтраў на паўночны захад ад гораду. — **К. Б.**) перапраўлілася». Толькі тэрмінова пасланыя разьезды крыху супакоілі насельніцтва, паведамляючы, што вораг «паўсюль над Дзьвіной спыняецца, чакаючы царскага загаду, ці за Дзьвіну глыбей у Літву ісьці павінны»[85]. Зрэшты, у наступныя месяцы ў Вільні часта распаўсюджваліся зьвесткі пра набліжэньне з поўначы

[76] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 282.

[77] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 429.

[78] AGAD. AR. Dz. II. Nr 1288, 1289, 1290.

[79] Bogusław Radziwiłł do NN, b. m. d. AGAD. AR. Dz. II [дадатак]. Nr 591.

[80] BVEF. T. II. Nr 34. S. 62—64; Nr 35. S. 64.

[81] VS. T. IV. Cz. 2. Nr 1. S. 13; Новосельский А. Очерк военных действий... С. 121—122.

[82] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 428.

[83] RBS. Nr 282. S. 302, 303.

[84] VS. T. IV. Ч. 2. № 1. С. 13, 14; № 80. С. 264—265; паводле іншай крыніцы, Азярышча здалося бяз бою 13 жніўня 1654 г. (Новосельский А. Очерк военных действий... С. 124).

[85] Абедзьве цытаты паводле: Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 183, 184.

варожых войскаў. Асабліва баяліся іхнага прыйсьця на пачатку жніўня, пасьля разгрому пад Глыбокім шляхецкага аддзелу полацкага кашталяна Крыштафа Рудаміна Дусяцкага маскоўскімі сіламі на чале з Жданам Кандрыевым. Вораг стаяў тады ўсяго за 150 кілямэтраў на поўнач ад сталіцы Вялікага Княства Літоўскага[86].

Армію Трубяцкога, якая напала на Беларусь з паўднёвага ўсходу, таксама спрыяў посьпех. Ужо ў чэрвені бяз бою капітуляваў прымежны Рослаўль, жыхары якога самі адчынілі браму перад царскім войскам. Далей быў Амсьціслаў — сталіца ваяводзтва і важны фінансавы цэнтар. Тут маскоўцы сутыкнуліся з жорсткім супрацівам. Яны атачылі горад 18 ліпеня. Залогу складалі сабраныя ў вялікай колькасьці мясцовая шляхта і мяшчане на чале зь Янам Станкевічам. Абаронцы адкінулі прапановы капітуляцыі, вырашыўшы абараняцца, пакуль не падыдзе дапамога ад літоўскай арміі. Хоць узмоцненыя ў 30-х гг. XVII ст. гарадзкія фартыфікацыі знаходзіліся ў неблагім стане, яны, на жаль, ня вытрымалі інтэнсіўнага артылерыйскага агню і загарэліся, а за імі і пераважна драўляная забудова. У дадатак з гораду пад выглядам экспэдыцыі ўцякла вялікая група абаронцаў[87]. Праз чатыры дні штурму, 22 ліпеня, царскія войскі ўварваліся ў Амсьціслаў і павыразалі ягоных насельнікаў[88]. Далейшы шлях на Дняпро для арміі Трубяцкога быў адкрыты.

Безь перашкодаў разьвіваўся і наступ маскоўцаў на цэнтральным фронце. Ужо 11 чэрвеня полк ваяводы Цёмкіна-Растоўскага бяз бою заняў Белую, а праз два дні капітуляваў Дарагабуж. Ніхто не абараняў дарогі на Смаленск, якой рушылі шматтысячныя царскія аддзелы. Пасьля сутычак зь літоўскімі разьездамі 6 ліпеня пад смаленскай крэпасьцю праз больш як дваццаць гадоў зноў зьявіліся маскоўскія войскі. Пачалося змаганьне за горад, узяцьце якога дазволіла б цару кантраляваць усю ўсходнюю Беларусь да самага Дняпра і Бярэзіны. Сам Аляксей Міхайлавіч прыбыў пад Смаленск 8 ліпеня, каб асабіста натхняць сваё войска на зацятасьць у штурме і цяжкую працу пры аблозе[89].

У апошняй дэкадзе чэрвеня з поўдня ў Беларусь увайшоў таксама корпус Залатарэнкі. Нягледзячы на шматлікія лісты Аляксея Міхайлавіча, якімі ён загадваў казакам рушыць да галоўнай маскоўскай арміі пад Вязьму ці Смаленск, тыя скіраваліся пад Гомель, цэнтральны асяродак Пасожжа — раёну Вялікага Княства Літоўскага, які расьцягваўся ўздоўж ракі Сож да самага ейнага ўпадзеньня ў Дняпро. У адказах цару Залатарэнка даводзіў, што ня можа пакідаць у сваім тыле фартэцыі, укамплектаванай значнымі сіламі непрыяцеля, і зможа скіравацца на вызначанае месца, толькі завалодаўшы горадам. Зразумела, насамрэч казакі не паслухаліся царскага загаду зь іншай прычыны. Хмяльніцкі паставіў перад імі задачу заваяваць як мага большыя абшары паўднёвай Беларусі, каб далучыць іх да Ўкраіны. Таму Залатарэнка амаль два месяцы вёў аблогу Гомелю, і толькі калі падзеньне гораду ўжо не выклікала сумневаў, паслаў пад Смаленск аддзел колькасьцю каля 1000 чалавек на чале з

[86] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 186; List z Wilna z 8 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 111, 112.

[87] J. Radziwiłł do biskupa wileńskiego J. Tyszkiewicza, 8 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 112.

[88] Историко-юридические материалы, извлеченные... Т. XXV. Витебск, 1894. S. 9—10; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 142—143.

[89] DR. T. III. Sankt Petersburg, 1852. S. 425, 430, 432.

сваім братам Васілём, які зьявіўся ў лягеры цара толькі 25 жніўня. Сам жа Залатарэнка і надалей адмаўляўся злучыцца з галоўнымі сіламі Аляксея Міхайлавіча[90].

Здабыць Гомель было нялёгка. Горад меў моцныя, хоць і састарэлай канструкцыі ўмацаваньні, грунтоўна адрамантаваныя на загад Януша Радзівіла пасьля разбурэньня ў вайне з казакамі ў 1648—1651 гг. Добра ўмацаваны быў мясцовы замак, разьмешчаны на стромкім схіле пагорку ля сутокі ракі Гамяльчанкі і Сажа. Не было недахопу ў артылерыі, прывезенай зь віленскага арсэналу[91]. Гомель меў моцную залогу, якая часткова складалася з кампутовых войскаў. Горад рашуча абаранялі аддзелы польскай пяхоты Зыгмунта Служкі, Вацлава Шалеўскага, Войцеха Слаўкоўскага і Стэфана Жыжэмскага, а таксама нямецкай пяхоты Мікалая Гедройця, якія налічвалі 500—600 жаўнераў[92]. Гэтак ацэньваў сілы абаронцаў у сакавіку 1654 г. на падставе сьведчаньняў палоннага старадубскі палкоўнік Ерамееў[93]. Затое ў лісьце да цара ад 9 ліпеня Залатарэнка ацэньваў сілы абаронцаў на 2000 жаўнераў. Напэўна, апроч згаданых адзінак, у сваім падліку ён узяў пад увагу ваколічную шляхту і сялянаў, якія шукалі схову за мурамі ўмацаваньняў, а таксама здольных трымаць зброю мяшчанаў. На чале залогі стаяў ротмістар казацкай харугвы, берасьцейскі земскі пісар Станіслаў Казімер Бабраўніцкі[94].

Перш як ісьці на Беларусь, Залатарэнка не забясьпечыў свайго корпусу належнай артылерыяй. У лягеры пад Старадубам Цімафей Спасіцелеў налічыў толькі 7 «пушак»[95] — цяжка ўявіць, каб праз некалькі тыдняў пад Гомелем было іх значна больш. Таму пасьля пачатку аблогі казакі без адпаведнай агнявой падтрымкі доўга не маглі зламіць супраціву ліцьвінаў. Абаронцаў спрабавалі змусіць да капітуляцыі праз голад і смагу, адрэзаўшы доступ да правіянту і пітной вады. Слабыя спробы атак залога зь лёгкасьцю адбівала, наносячы ворагу сур'ёзныя страты. Часам ліцьвіны пераходзілі ў наступ, і ў адной з вылазак яны нават забілі аднаго з казацкіх зьвершнікаў, чарнігаўскага палкоўніка Сьцяпана Падабайлу[96].

Аднак Іван Залатарэнка не марнаваў часу пад валамі Гомелю. Разасланыя ім па абодва бакі Дняпра разьезды займалі навакольныя замкі. Праўда, 3 ліпеня не ўдалося зьнянацку захапіць Чачэрск, але ўжо 25 ліпеня ў лісьце да цара нежынскі палкоўнік мог пахваліцца ўзяцьцем Рэчыцы, Жлобіна, Стрэшына, Горвалю і Рагачова[97]. Тыднем раней, 17 ліпеня, казацкія аддзелы разьбілі ў раёне Мазыра полк Сымона

[90] AJZR. T. XIV. S. 129—132, 139—144.

[91] Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 66—71.

[92] LVIA. Fond SA. Nr 4106. K. 260—269; Nr 4107. K. 32v—37; K. Bohuszewicz do K. L. Sapiehy, [Stary] Bychów 19 VII 1654. LwNB. Fond 103. Nr 1648. Апроч таго, у Гомелі знаходзілася татарская харугва Абулевіча (60 коней), а таксама, магчыма, рота драгуноў М. Францкевіча-Радзімінскага (120): APKr. Zb. Rus. Nr 70. S. 129.

[93] AMG. T. II. Nr 593. S. 371—372.

[94] AJZR. T. XIV. S. 129—132.

[95] Тамсама. T. X. S. 681—682.

[96] K. Bohuszewicz do K. L. Sapiehy, [Stary] Bychów 13 VII 1654. LwNB. Fond 103. Nr 1647; Z listu pewnego korespondenta: AGAD. AZ. Nr 3031. K. 46; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 71.

[97] K. Bohuszewicz do K. L. Sapiehy, [Stary] Bychów 13 VII 1654. LwNB. Fond 103. Nr 1647; AJZR. T. XIV. S. 135—138.

Паўшы лікам пяць казацкіх і татарскіх харугваў і сто драгунаў, які абараняў межы Вялікага Княства з поўдня[98]. Аднак у рэляцыях, а таксама лістах Залатарэнкі да цара ня згадваецца, каб ліцьвінаў атакавалі аддзелы нежынскага палкоўніка. Напэўна, як паведамляў Паўша, у гэтай сутычцы брала ўдзел нейкая іншая група казацкіх войскаў, якая ўваходзіла ў склад дасланага Хмяльніцкім на Палесьсе корпусу лікам каля 7000 чалавек[99]. Пасьля паразы літоўскія харугвы адступілі ў Перыкаў, і празь іхную малалікасьць у Вільні занепакоіліся, што вораг пойдзе на Слуцак, каб дэзарганізаваць тыл войскаў, што змагаюцца на Дняпры[100]. Аднак згаданы казацкі корпус ня браў удзелу ў далейшых баях у Беларусі і, напэўна, яшчэ ў ліпені адступіў пад Кіеў.

Сам Гомель абараняўся да 23 жніўня. Шматлікія пажары, голад, сканчэньне боепрыпасаў у сытуацыі, калі няма ніякай надзеі на дапамогу, урэшце змусілі ліцьвінаў да ганаровай капітуляцыі. Ейных умоваў казакі не зьбіраліся выконваць: насуперак пагадненьню, затрымлівалі палонных і вывозілі з гораду насельніцтва[101]. 4 верасьня Залатарэнка паведаміў цару пра чарговы посьпех — захоп Чачэрску, а праз чатыры дні Аляксей Міхайлавіч дазнаўся, што заняты Прапойск і Новы Быхаў[102]. Два з паловаю месяцы запароскім войскам спрыяў поўны посьпех: яны завалодалі вялікай часткай паўднёвай Беларусі і басэйнам Дняпра да самага Старога Быхава.

Зьвесткі пра ўварваньне маскоўскіх войскаў на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага дайшлі да Варшавы падчас надзвычайнага сойму, што пачаўся 9 чэрвеня. На ягоных паседжаньнях двор і апазыцыя дасягнулі ўяўнага кампрамісу. Націск шляхты, падбухторанай на сойміках праціўнікамі караля на чале зь Янушам Радзівілам і Крыштафам Апалінскім, а таксама рост пагрозы звонку прымусілі караля раздаць вакантныя булавы. 17 чэрвеня з згоды ўсяго сэнату ён прызначыў вялікім гетманам літоўскім Януша Радзівіла, аднак пры гэтым выказаў пратэст, заявіўшы, што яго да гэтага змусілі. Наступнага дня Ян Казімер вырашыў аддаць польную літоўскую булаву літоўскаму падскарбію Вінцэнту Гасеўскаму. Як потым выявілася, гэтае прызначэньне істотна паўплывала на хаду ваенных дзеяньняў у наступныя некалькі гадоў. Гасеўскі быў чалавек двара, дадаткова зьвязаны зь ім праз шлюб з дворнічнай каралевы, эльблёнскай кашталянкай Магдаленай Канапацкай. Дзякуючы пратэкцыі караля ён зрабіў наўзьдзіў імклівую і пасьпяховую палітычную кар'еру[103]. Гасеўскі належаў да групоўкі маладых і амбітных прадстаўнікоў «новага магнацтва», з дапамогай якога Ян Казімер хацеў стварыць залежную ад караля ўладную

[98] List S. Pawszy, Petryków 17 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 118—120; List z Wilna, 8 VIII 1654. Тамсама. S. 112; Rachuba A. Pawsza Szymon (Siemion) // PSB. T. XXV. 1980. S. 521.

[99] List S. Pawszy, Petryków 17 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 118—119.

[100] List z Wilna, 8 VIII 1654 // Ojczyste spominki... S. 112.

[101] Konfesata Kozaków zaporoskich, pobranych w Wielatyczach, dzierżawie JM Pana Pisarza Polnego Wielkiego Księstwa Litewskiego i przyprowadzonych z Berezyny, 18 X 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 98. S. 421—424 (часткова друкаваная рэляцыя: Materyały dla historyi Małej Rossyi. Listy i uniwersały za Jana Kazimierza od 1650 do 1660 / Wyd. P. K. Swidziński. T. II. Kijów, 1852. S. 39—41— тут дата 10 X).

[102] AJZR. T. XIV. S. 145—149; DR. T. III. S. 445.

[103] Przyboś A. Gosiewski Wincenty // PSB. T. VIII, 1959—1960. S. 343—347.

эліту, каб адсунуць на ўзбочыну старыя арыстакратычныя роды і аблегчыць увядзеньне элемэнтаў абсалютызму. Апроч Гасеўскага, рэй у партыі рэгалістаў у Літве на той час пачынаюць весьці ягоныя блізкія сваякі Пацы. Сярод іх вылучаўся малады і надзвычай здольны Крыштаф Зыгмунт, у 1654 г. харужы, а ўжо праз чатыры гады вялікі канцлер літоўскі. Але пахаладнелі стасункі з дваром у Сапегаў — іхны гонар моцна закранула тое, што пры раздачы булаваў іх абмінулі[104].

Сабраная ў сталіцы эліта Рэчы Паспалітай, несумненна, усьведамляла, што вайны з Масковіяй не пазьбегнуць. На жаль, гэтую небясьпеку ўвесь час недаацэньвалі. Таму навіны пра маланкавы посьпех ворага выклікалі шок і недавер. Як пісаў Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, калі зьявіліся першыя чуткі пра страту Полацку і Дарагабужа, «Варшава доўга не хацела верыць у такі вялікі посьпех непрыяцеля»[105]. Аднак відаць, што ўжо 7 ліпеня ананімныя крыніцы ў сойме сьцьвердзілі, што «Невель, Дарагабуж, Віцебск і Полацак нібыта ўжо, мусіць, асаджаныя, спустошаныя і забраныя Масквой»[106]. Зрэшты, зьвесткі пра Віцебск не адпавядалі рэчаіснасьці. Даведаўшыся пра маштабы маскоўскай агрэсіі, сойм нарэшце перастаў марнаваць час на ўнутраныя спрэчкі і заняўся ўмацаваньнем абароны Вялікага Княства. Паслы і ад Кароны, і ад Княства згадзіліся ўхваліць надзвычай высокія падаткі: для Кароны — 24 паборы і 50 000 злотых ад купцоў, прызначаныя на плату за вайсковую службу ад 1 кастрычніка 1653 г. да 30 верасьня 1654 г., а таксама 7,5 пабору на плату за службу на кожны квартал да канца 1655 г. (у суме 61,5 пабору), а для Літвы — аплачаныя ў тры чаргі 22 пад'ёмныя і пагалоўныя выплаты ад габрэяў 40 000 злотых[107]. Тэарэтычна, атрыманых сродкаў мусіла хапіць, каб набраць 35 000 жаўнераў на тэрыторыі Кароны і 18 000 у Літве[108]. На жаль, праз слабасьць казначэйскага апарату чаканыя сумы маглі паступіць у казну толькі ў наступным годзе. Таму разьлічваць на тое, каб сабраць гэткую вялікую армію ўлетку 1654 г., не выпадала. Да таго ж сойм занадта позна прыняў рашэньне даслаць ад арміі Кароны дапамогу літоўскаму войску, каб падтрымаць яго ў баёх ва ўсходняй Беларусі. З гэтых прычынаў Вялікае Княства Літоўскае, застаўшыся без дапамогі Кароны, было загадзя асуджанае на паразу ў супрацьстаяньні з нашмат мацнейшым ворагам.

Літоўская армія шмат месяцаў зьбіралася ў лягеры пад Воршай, не праяўляючы ад раньняй вясны амаль ніякай актыўнасьці. Жаўнеры працяглы час ня мелі вайскаводцы, бо Януш Радзівіл прыбыў у лягер толькі пад канец чэрвеня. Тэарэтычна войска мусіла налічваць, паводле пастановаў берасьцейскага сойму ад 1653 г., 15 000 жаў-

[104] A. Leszczyński do W. K. Gosiewskiego, 2 VIII 1654. Źródła do dziejów Polski / Wyd. F. Nowakowski. T. I. Berlin, 1841. S. 41; S. Kobierzycki do K. L. Sapiehy, Warszawa 9 XI 1654. LwNB. Fond 103. TP. Nr 149 / Va. K. 276—277.

[105] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 421.

[106] BOssol [Biblioteka Ossolińskich]. Rkps 189/II. S. 693.

[107] Wimmer J. Wojsko i finanse Rzeczypospolitej w czasie wojny ze Szwecją 1655—1660 // Wojna polsko-szwedzka 1655—1660 / Red. nauk. J. Wimmer. Warszawa, 1973. S. 52—53.

[108] Літоўскія паслы згадзіліся 17 жніўня выставіць 15 000 войска і склікаць паспалітае рушаньне (Ochmann-Staniszewska S. Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej... S. 224).

нераў, але фактычная колькасьць істотна розьнілася ад меркаванай. Паводле перапісу ў ліпені 1654 г., пад камандай гетмана было 11 211 коней і порцыяў, г. зн. каля 10 000 жаўнераў[109]. Гэтыя сілы складаліся з трох гусарскіх харугваў (374 кані), сямі рэйтарскіх (1020 коней), 26 казацкіх (2424 кані), двух палкоў і шасьці ротаў нямецкай пяхоты (2909 порцыяў), а таксама сямі ротаў польска-вугорскай пяхоты (800 порцыяў). Аднак, як ведаем, армія ня здолела да канца рэарганізаваць сілы пасьля стратаў ад паморку ў папярэдні год. Апроч таго, большая частка пяхоты скіравалася ў залогі крэпасьцяў, шмат аддзелаў спазьніліся ў лягер, а некаторыя харугвы, як згаданы полк Паўшы, знаходзіліся на памежных абшарах. Таму цяжка не згадзіцца з словамі вялікага гетмана, які, апраўдваючыся за свае няўдачы, пісаў у сакавіку 1655 г. да шляхты: «Не мая віна, што як і ніколі раней, так і цяпер гэтага войска, што на службе было, цэлага гуртам у поле вывесьці я ня мог, бо праз шырыню межаў Вялікага Княства Літоўскага і паўстаньне ўласных падданых ледзьве не палова людзей на розным і далёкім ад сябе памежжы *in praesidiis* (у залогах) замкаў або для абароны паветаў быць мусіла»[110].

Таму хоць тэарэтычна Радзівіл мог выставіць каля 8000 жаўнераў, але ў лягеры пад Воршай ён сабраў значна меншае войска. Як вынікае з ананімных рэляцыяў, напісаных, магчыма, самім гетманам, у ліпені 1654 г. пад ягонай камандай было ўсяго каля 4000 кампутовых жаўнераў[111]. Яны маглі разьлічваць толькі на падтрымку аддзелаў ваколічнай шляхты лікам некалькі тысячаў, якія, зрэшты, не сьпяшаліся на змаганьне з ворагам[112]. Дый тыя не вызначаліся надта высокай баяздольнасьцю. Найлепш пра гэта сьведчыць апісаньне адной сутычкі з мэмуараў Альбрыхта Станіслава Радзівіла. На пачатку жніўня, падчас адступленьня з-пад Воршы пад Шклоў, Януш Радзівіл «запрашаў таксама Аршанскі павет далучыцца, але яны не хацелі. Потым ганебна загінулі, бо непрыяцель іх атакаваў, хоць гетман паслаў чатыры харугвы, якія добра адзначыліся. Аршанцы не па-жаўнерску кінуліся на ўцёкі. І калі натоўпам пераходзілі праз мост на рацэ Сож, ён паламаўся, і шмат патанула, паглынутых ракою»[113].

Дазнаўшыся пра напад ворага, Януш Радзівіл паспрабаваў разьведаць колькасьць і кірункі наступу асобных царскіх арміяў. Дзеля гэтага ён паслаў зь лягеру два разьезды. Першы зь іх, на чале зь верпскім харужым Германам Ганцкопфам, вайскаводцам драгунскага палка вялікага гетмана, скіраваўся 1 ліпеня напярэймы галоўным

[109] Kotłubaj E. Dzieje wojenne Polski... T. III. BPAN Kr. Rkps 1404. T. III. S. 134—137. Іншая крыніца, на якую спасылаецца Я. Вімэр, Dyslokacja wojska litewskiego z lata 1654 roku, падае зьвесткі пра 11 770 аплатных ставак жаўнераў: 330 гусараў, 3120 казакоў, 1020 рэйтараў, 2260 драгуноў, 4220 іншаземнай пяхоты, 800 польскай пяхоты (Wojsko i finanse... S. 53. Дакумэнт гэты знаходзіцца ў Нацыянальным архіве ў Парыжы).

[110] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 128.

[111] Listy z obozu litewskiego spod Orszy z 20 VII i 2 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 109, 110.

[112] На маруднасьць шляхты Радзівіл наракаў між іншым ва ўнівэрсале, выдадзеным у лягеры пад Воршай 6 жніўня 1654 г. APKr. Pinoc. Nr IT 363. S. 1105—1106.

[113] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 432.

царскім сілам, якія рушылі на Смаленск. Гэты аддзел складаўся з чатырох ротаў драгуноў з палка Ганкопфа, 13 харугваў лёгкай коньніцы і роты райтарыі[114]. Агулам разьезд мог налічваць крыху менш за 2000 чалавек, хоць некаторыя крыніцы кажуць пра 2500 або 3000 жаўнераў.

4 ліпеня, абмінуўшы яшчэ ня ўзяты ў аблогу ворагам Смаленск, ліцьвіны пераправіліся праз Дняпро і за мілю ад гораду, пад Новай Вадою, натыкнуліся на маскоўскі лягер. Непрыяцель акурат у той дзень сьвяткаваў дзень сьв. Яна паводле праваслаўнага календара, і таму большасьць вайскаводцаў і жаўнераў спала ў намётах пасьля цэлага дня бяседы[115].

Напэўна, ніхто не чакаў літоўскіх войскаў так далёка на ўсходзе, таму лягер належным чынам не ахоўваўся. Праведзеная ў ноч з 4 на 5 ліпеня атака закончылася поўным посьпехам. Яскравае апісаньне сутычкі падаў у «Гісторыі панаваньня Яна Казімера» Вэспасіян Кахоўскі: «Масква, заснулая пасьля п'янкі глыбокім сном, якая ледзьве прачнулася ад ранаў і забойства, калі загулі ў трубы і ўсчаўся шум, у цёмнай ночы запаліла колькі стагоў саломы, каб сваім паведаміць пра варожую інкурсію. Дапамагло гэта Літве, ясьней было забіваць»[116]. Масква страціла, напэўна, максымум 1000 чалавек, хоць некаторыя крыніцы падаюць значна большыя лічбы. Ліцьвіны захапілі шмат палонных і трафэяў, у тым ліку 13 харугваў, потым перададзеных гетману. 5 ліпеня Ганцкопф, якога перасьледавалі новыя аддзелы непрыяцеляў, што падцягваліся з усходу, пасьпяхова адступіў на правы бераг Дняпра. У экспэдыцыі ліцьвіны страцілі каля трыццаці чалавек, а пры пераправе давялося пакінуць частку здабычы і забіць шмат вязьняў[117].

Нягледзячы на пасьпяховы напад, прынесеныя зьвесткі пра вялізныя царскія сілы, што рушылі на захад, паказалі Радзівілу, што яго чакае вельмі цяжкая задача. Гетман усьведамляў, якое нешматлікае ў яго войска, і разумеў, як цяжка будзе паўтарыць манэўр свайго бацькі Крыштафа. Той у 1632—1633 гг. двойчы правозіў з раёну Краснага ў асаджаны Шэіным Смаленск харчы і запасы, дапамагаючы залозе дзейсна абараняцца, аж пакуль не падышла падтрымка ад Кароны. Напэўна, падобныя пляны меў напачатку Януш. Абапіраючыся на ўмацаваны лягер у Воршы, што недалёк ад Краснага, ён намерваўся нападаць на меншыя групы войскаў праціўніка і дапамагаць абложаным крэпасьцям.

Таму 15 ліпеня гетман паслаў другі разьезд, на гэты раз у паўночным кірунку. Ягонай мэтай было «чаты[118], пушчаныя з Полацку ў глыб Літвы, *non infelici* (не бяз шчасьця) тут і там з посьпехам інфэстуючы (атакуючы) непрыяцеля, стрымаць і ад Вільні адвярнуць»[119]. Камандзірам аддзелу быў прызначаны паручнік казацкай харугвы, харужы літоўскага надворнага Зыгмунта Слушкі Станіслаў Ліпніцкі, «бо іх

[114] Awizy z Litwy o wojnie moskiewskiej, Orsza 4 VII 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 721.

[115] TE. T. VII. Frankfurt am Mayn, 1685. S. 614; Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 178.

[116] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 179.

[117] Awizy spod Orszy z 7 VII 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 723—724.

[118] З вугорск., галоўны аддзел забесьпячэньня падчас стаянкі. — *Перакл.*

[119] Manifestacja Księcia JM Pana hetmana wielkiego Wielkiego Księstwa Litewskiego Janusza Radziwiłła wojewody wileńskiego. BPAN Kyr. Rkps 991. K. 452.

мосьцяў паноў ротмістраў пры харугвах увогуле не было, толькі пачыналі зьяжджацца»[120]. Дасьведчаны жаўнер, Ліпніцкі адтачыў вайсковае майстэрства ў арміі Кароны ва Ўкраіне яшчэ пад камандаю гетмана Станіслава Каняцпольскага[121]. Яму ў распараджэньне далі чатыры харугвы кампутовай коньніцы і каля 2000 паспалітага рушаньня. Ліцьвіны здолелі разьбіць у ваколіцах Улы і Сушы два маскоўскія аддзелы лікам 600 і 200 чалавек, а таксама ўзяць шмат палонных, сярод іх нават царскага стрыечніка, нейкага Барыса Марцыянава, і дзесяць ганарлівых баяраў. Аднак на гэтым посьпех Ліпніцкага скончыўся. У наступнай сутычцы яму супрацьстаяла ўжо значна большая група варожых войскаў — ейная колькасьць, паводле перабольшаных зьвестак, складала больш за 10 000 чалавек. Ужо на пачатку бою зь лягеру ўцяклі харугвы жаўнераў з паспалітага рушаньня. Застаўшыся ўсяго зь некалькімі сотнямі жаўнераў, Ліпніцкі здолеў адступіць пасьля трохгадзіннай бітвы, страціўшы забітымі некалькі латнікаў і больш за дзесяць слугаў. Сам ён таксама некалькі разоў апынаўся ў сур'ёзнай небясьпецы, быў паранены ў нагу, пад ім забілі трох коней, і толькі на чацьвертым ён здолеў уцячы з-пад шабляў непрыяцеля. Напярэдадні 20 ліпеня раз'езд вярнуўся ў лягер, прывёз Радзівілу пяць здабытых харугваў, а таксама трывожныя зьвесткі пра посьпехі войскаў Шарамецева ў раёне Полацку. Гетман ніяк ня мог ім супрацьдзейнічаць[122].

Радзівіл рашыўся на чарговую спробу патурбаваць маскоўскія сілы, калі атрымаў зьвесткі, што войска Трубяцкога ўзяло ў аблогу Амсьціслаў. Пакінуўшы пад Воршай пяхоту і драгуноў пад камандаю генэрала літоўскай артылерыі, мальтыйскага кавалера Мікалая Юдыцкага, гетман сам таемна рушыў на чале камуніку[123] каля 3000 коньніцы на дапамогу амсьціслаўцам[124]. На жаль, Радзівіл спазьніўся з гэтай выправай — яна нічога не дала. «Але мы нічога не ўчынілі, — пісаў адзін з удзельнікаў паходу, — бо непрыяцель быў ужо ўсё высек і спаліў, перш чым прыйшлі з дапамогай, а праз благія пераправы мы не маглі так хутка, як хацелі, напасьці на непрыяцеля»[125]. Трэба было тэрмінова вяртацца ў галоўны лягер, бо ў Горах Радзівіл атрымаў зьвесткі, што цар скіраваў пад Воршу армію на чале з адным з сваіх найздольнейшых вайскаводцаў Якавам Чаркаскім. Аляксей Міхайлавіч выдатна ўсьведамляў, што выпады Радзівіла могуць дэзарганізаваць тыл войскаў, якія ўзялі ў аблогу Смаленск. Ён таксама баяўся, што літоўскія аддзелы паспрабуюць паўтарыць манэўр Крыштафа Радзівіла 1633—1634 гг. з дастаўкай правіянту ў Смаленск. Таму ён вырашыў ліквідаваць або прымусіць да адступленьня войскі, засяроджаныя пад Воршай.

120 K. Bohuszewicz do K. L. Sapiehy, [Stary] Bychów 13 VII 1654. LwNB. Fond 103. Nr 1647.

121 Merita JM Pana Stanisława z Lipnik Lipnickiego marszałka mozyrskiego... VUB. Fond 3. Nr 89. K. 344.

122 Тамсама; List z obozu litewskiego spod Orszy, 20 VII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 108—109; TE. T. VII. S. 614.

123 Конны аддзел, коньніца бязь лягераў і гарматаў. — *Перакл.*

124 List z Wilna z 8 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 110—111; Z listu pewnego korespondenta // AGAD. AZ. Nr 3031. K. 46.

125 List z obozu pod Orszą, 2 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. l. S. 109; list z Wilna, 8 VIII 1654 // Тамсама. S. 110—111; J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, 8 VIII 1654 // Тамсама. S. 112.




3. Бітва пад Шкловам — 12 жніўня 1654 г. (спроба рэканструкцыі)

У сваё падпарадкаваньне Чаркаскі атрымаў каля 20 000 жаўнераў, галоўным чынам коньніцы, непрыдатнай пры аблозе Смаленску[126]. У дадатак, супраць ліцьвінаў з боку Амсьціслава рушыла армія Трубяцкога, г. зн. каля 15 000 чалавек. 5 жніўня Радзівіл вырашае скіраваць лягеры і артылерыю пад прыкрыцьцём пяхоты і часткі драгуноў у Шклоў, а адтуль, дарогай на захад, на Галоўчын. Рэшта арміі чатыры дні чакала Чаркаскага ў ваколіцах Воршы, каб сысьціся зь ім у бітве. З увагі на паведамленьні пра шматлікія аддзелы ворага, што падцягваліся ад Смаленску і Амсьціслава, гетман адмовіўся ад гэтага рызыкоўнага пляну і пачаў 9 жніўня адступленьне да Шклова[127]. Маскоўскія аддзелы ішлі сьледам за ліцьвінамі, палячы і рабуючы навакольныя вёскі і мястэчкі. Яны бяз бою занялі Воршу і Копысь, а потым рушылі пад Шклоў.

12 жніўня пад гэтым горадам «у самае страшнае прыцьменьне сонца адбылася жорсткая і крывавая, але з ласкі Божай шчасьлівая бітва з ворагам». Радзівіл вырашыўся пачаць барацьбу з больш шматлікімі сіламі праціўніка, каб не дапусьціць злучэньня Чаркаскага з Трубяцкім, які ў той час падыходзіў ужо да Дняпра.

Гетман абраў вельмі выгоднае месца для бітвы. Ён вырашыў сустрэць праціўніка за некалькі кілямэтраў ад гораду, дзе два равы засланялі ягоныя крылы. Гэта была адзіная дарога на Шклоў, бо ісьці ў абыход не давалі Дняпро і ставы. Маскоўскія войскі мусілі прыняць бітву ў вузкай цясьніне, што не дазволіла б ім выкарыстаць вялізную колькасную перавагу і акружыць ліцьвінаў. Да таго ж літоўскі фронт абараняла балоцістая рэчка Шклоўка, і войска Радзівіла магло змагацца толькі з той часткай царскіх аддзелаў, што перайшла брод. Больш за тое, як вынікае з рэляцыі Януша Радзівіла, Чаркаскі не плянаваў бітвы ў гэты дзень — ён зьбіраўся атакаваць толькі 13 жніўня. Таму 12 жніўня большасьць ягоных аддзелаў яшчэ пераходзіла да Шклова і магла ўзяць удзел у бітве толькі праз некалькі гадзінаў[128].

У гэтай сытуацыі вялікі гетман літоўскі вырашыў уцягнуць у бітву авангард маскоўскіх сілаў, а потым па чарзе разьбіваць асобныя групы варожых войскаў. Пасьля сутычак разьездаў, у якіх зь літоўскага боку ўдзельнічала больш за дзесяць коньнікаў з казацкай харугвы Януша Радзівіла, а таксама тры іншыя казацкія харугвы, ліцьвінам удалося завабіць зь лесу на выбранае гетманам поле першыя аддзелы Чаркаскага. Распачаўся амаль пяцігадзінны зацяты конны бой, у якім ніводзін з бакоў доўга ня мог дасягнуць перавагі. Сытуацыя пагаршалася, бо да бітвы няспынна далучаліся ўсё новыя маскоўскія палкі, якія падцягваліся з боку Копыся. Кожнай з літоўскіх харугваў даводзілася прынамсі пяць-шэсьць разоў атакаваць праціўніка, «асабліва гетманская казацкая (пад камандаю Аляксандра Мяжанскага. — **К. Б.**) ударала больш за дзесяць разоў». Часта аддзелы коньніцы адступалі пад націскам мас-

[126] Сагановіч Г. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мінск, 1994. С. 55. Натуральна, польскія крыніцы значна павялічваюць гэтую колькасьць (параўн.: J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, 8 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 113; List spod Szkłowa, 12 VIII 1654 // Тамсама. S. 114; J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Hołowczyn 14 VIII 1654 // Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 191—195).

[127] Z obozu litewskiego, 14 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 117—118.

[128] Z obozu litewskiego, 13 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 114; J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Hołowczyn 14 VIII 1654 // Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 191—192.

коўцаў, наводзячы праціўніка на схаваныя ў засадах па равах драгунскія палкі, якія эфэктыўным агнём не дазвалялі зламаць фронт Януша Радзівіла. Зацяты бой доўжыўся аж да дзявятай гадзіны вечара. Пералом прынесла толькі атака ўсёй літоўскай коньніцы. Як пісаў адзін з удзельнікаў бітвы, «так амаль адчайна мы наляцелі на іх, што з Божае ласкі мы выгналі ворага і больш за мілю за ім ехалі». Пры гэтым удалося выкарыстаць замяшаньне ў шэрагах ворага, выкліканае памылкай аднаго з рэйтарскіх палкоў, які ў цемры абстраляў уласныя аддзелы. Маскоўцы адступілі ў лягер, а на полі бітвы засталіся пераможныя літоўскія аддзелы.

Бітва пад Шкловам пацьвердзіла выдатную вывучку і высокую баяздольнасьць кампутовага літоўскага жаўнера. Нягледзячы на вялізную стомленасьць працяглай бітвай з шматкроць мацнейшым праціўнікам, ён адважыўся на яшчэ адну вырашальную атаку, якая ў выніку прывяла да жаданай перамогі. Аднак гэты посьпех быў бы немагчымы, калі б на чале літоўскай арміі не стаяў Януш Радзівіл. Гетман асабіста ўдзельнічаў у бітве і, варта падкрэсьліць, «не шкадаваў сябе, але і сам рызыкаваў, скіроўваючыся і туды, і сюды, і на крылы, і ў самы перад; ня толькі загадваў біцца, але і сам стаяў на чале»[129]. Прыклад галоўнага вайскаводцы перадаўся ягоным падначаленым і паспрыяў пералому ў многіх крызісных момантах. Аўтарытэт і вялікі давер, якім карыстаўся ў войску Радзівіл, дазволілі яму пераканаць жаўнераў у неабходнасьці зноў і зноў атакаваць усё новыя аддзелы праціўніка да перамогі. Радзівіл выдатна вёў бітву на абранай ім мясцовасьці і, умела распараджаючыся сваімі малымі сіламі, атрымаў паказальную перамогу над войскамі Чаркаскага.

Аднак за посьпех давялося дорага заплаціць. Вельмі вялікія страты зазнала адборная гусарская харугва вялікага гетмана, якая, апроч сямі забітых коньнікаў і больш за дзесяцёх іхных памочнікаў (сьвіты), страціла таксама сваю харугву. Налажыў галавою і адзін з найбольш дасьведчаных літоўскіх жаўнераў, вайсковы судзьдзя Марцін Ян Чудоўскі, які пачаў сваю вайсковую кар'еру яшчэ ў хоцімскім паходзе 1621 г. Варта дадаць, што ягоныя пяць братоў таксама аддалі свае жыцьці за Айчыну ў войнах Рэчы Паспалітай з Швэцыяй, Масковіяй і туркамі ў першай палове XVII ст.[130]. Значныя страты панесьлі таксама іншыя адзінкі, каля 50 забітых было ў рэйтарскім палку Януша Радзівіла. Палег малады Геранім Мірскі, адзіны сын літоўскага стражніка Рыгора і паручнік ягонай гусарскай харугвы. Загінуў таксама паручнік казацкай харугвы кіеўскага падкаморага Юр'я Нямірыча Немста[131].

Літоўскія крыніцы па-рознаму ацэньваюць страты арміі Януша Радзівіла. У датаваным 23 жніўня лісьце зь Вільні згадваецца, што «...загінула саміх коньнікаў і ротмістраў 200 [...] і шмат іншых жаўнераў колькасьцю 1000»[132]. Затое пра крыху іншыя страты чытаем у распаўсюджаным у форме ўлёткавай газэткі паведамленьні

[129] Z obozu litewskiego, 13 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 115—116.

[130] RGADA. Fond 389. Nr 124. K. 150—151.

[131] Regestry pobitych, poranionych w potrzebie pod Szkłowem die 12 VIII 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 75, а таксама значна шырэйшы пералік: APKr. Pinoc. Nr IT 363. S. 1157—1158 .

[132] AGAD. APP. Nr 9. T. III. S. 213.

[133] BN. Mf 37625.

зь літоўскага лягеру ад 12 жніўня: «...паручнікаў двое, коньнікаў больш за 50 было забіта». Увогуле літоўская армія, мусіць, паменшылася на 700 чалавек[133]. Пра 200 палеглых піша Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, але ў гэтым выпадку ягоныя зьвесткі — не найбольш вартая даверу крыніца[134]. Шмат параненых памерла адразу пасьля бітвы праз адсутнасьць мэдычнай апекі, бо, як мы памятаем, лягеры выправіліся з-пад Воршы на Галоўчын 5 жніўня і толькі 14 жніўня далучыліся да рэшты арміі[135]. У кожным разе, не падлягае сумневу, што Шклоўская бітва вырвала з шэрагаў літоўскага войска некалькі сотняў найлепшых жаўнераў. Іх страта сур'ёзна адбілася на маральным духу і баяздольнасьці аддзелаў Януша Радзівіла, што, у сваю чаргу, спрычынілася да пазьнейшых няўдачаў у летняй кампаніі 1654 г.

Маскоўскі бок таксама панёс пад Шкловам істотныя страты, прычым трэба адзначыць, што пададзеная ў адной з крыніцаў лічба 7000—8000 забітых значна завышаная[136]. Літоўскія чаляднікі налічылі на полі бітвы крыху больш за 3000 трупаў непрыяцеля, і, здаецца, гэта нашмат больш праўдападобны падлік[137]. Несумненна, гэта сур'ёзныя страты, але празь вялізную няроўнасьць сілаў не такія балючыя і лягчэй узнаўляльныя, чым у ліцьвінаў. Як сьведчылі літоўскія крыніцы, у бітве загінулі таксама двое маскоўскіх ваяводаў[138]. Аднак вестка пра сьмерць прынамсі аднаго зь іх, князя Юр'я Баратынскага, не адпавядала рэчаіснасьці.

Дарэчы, варта згадаць, што расейскія крыніцы і дасьледчыя працы або абмінаюць бітву маўчаньнем, або прызнаюць яе посьпехам Чаркаскага[139]. Уласна, толькі ў працы Сагановіча мы можам пазнаёміцца з аб'ектыўным паказам падзеяў 12 жніўня[140].

Слабасьць літоўскіх сілаў не дазволіла належным чынам выкарыстаць перамогу. З усходу праз Дняпро перапраўлялася ўжо войска Трубяцкога, якое, паведамлялі перабежчыкі, «спазьнілася толькі на гадзіну бітвы»[141]. Але гэта быў адно авангард сілаў, якія рушылі ад Амсьціслава, — уся армія зьявілася на правым беразе ракі толькі каля 20 жніўня. Аддзелы Чаркаскага адступілі пасьля бітвы ў бок Воршы, але, нягледзячы на панесеныя страты, захавалі сваю баяздольнасьць і празь некалькі дзён рэарганізацыі маглі зноў распачаць наступ. Калі б ліцьвіны вырашылі застацца пад Шкловам, гэта магло б абярнуцца для іх бітвай зь яшчэ мацнейшымі аддзеламі праціўніка. Таму Радзівіл пачаў адступленьне на захад.

[134] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 432.

[135] TE. T. VII. S. 617.

[136] Z obozu litewskiego, 12 VIII 1654. BN. Mf 37625.

[137] Z obozu [litewskiego], 14 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 116—117.

[138] Тамсама. S. 116; J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Holowczyn 14 VIII 1654 // Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 194.

[139] Гэтыя падзеі абмінае напр. С. М. Салаўёў: Соловьев С. М.: История России с древнейших времен... С. 627. Тэндэнцыйна і нязгодна з крыніцамі ацэньвае бітву А. Мальцаў: Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 43. У: DR. T. III. S. 440 — чытаем, што 7 [17] жніўня да цара прыбылі паслы ад Чаркаскага з навіной пра разгром ліцьвінаў і захоп палонных.

[140] Сагановіч Г. Невядомая вайна... С. 18.

[141] Z obozu litewskiego, 14 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 117.

[142] Awizy z Wilna z 23 VIII 1654. AGAD. APP. Nr 9. T. tli. S. 213.

13 жніўня ў літоўскі лягер прыбыла дапамога — 2500 «сьвежага люду [...] князя Багуслава і пана Нямірыча»[142]. Напэўна, гэта былі дзьве адзінкі — драгунскі полк Багуслава Радзівіла на чале з Эбэрхардам Путкамэрам (600 порцыяў), а таксама полк нямецкай пяхоты Юр'я Нямірыча на чале з Багуславам Прыпкоўскім (1000 порцыяў). Сумнеўна, каб трэцяй адзінкай быў полк Багуслава Радзівіла — вялікі гетман Кароны Станіслаў Рэўра Патоцкі толькі 27 ліпеня адкамандзіраваў яго сваім загадам з арміі Кароны ў літоўскае войска[143]. Гэтая адзінка ня брала ўдзелу ў бітве пад Шапялевічамі, а ў лягер Януша Радзівіла прыбыла толькі на мяжы жніўня і верасьня[144]. Або пададзеная лічба 2500 жаўнераў завышаная, або аўтар меў на ўвазе нейкую іншую адзінку — магчыма, полк нямецкай пяхоты вялікага гетмана, які налічваў 1050 порцыяў.

14—22 жніўня літоўская армія адпачывала пад Галоўчынам. Каб дазнацца пра пляны Трубяцкога і Чаркаскага, 16 і 19 жніўня Януш Радзівіл двойчы высылаў пад Копысь разьезд, які налічваў каля 1000 коней, на чале з падстоліем літоўскім Аляксандрам Гіляр'ем Палубінскім. Толькі 20 жніўня зьявіліся пэўныя зьвесткі, што на захад рухаюцца аддзелы Аляксея Трубяцкога. Праз дзень яны падышлі пад Галоўчын. 22 жніўня перад сьвітаньнем ліцьвіны адступілі пад Бялынічы і разьбілі лягер на левым беразе ракі Друці. Напэўна, там, абапіраючыся на сьпехам збудаваныя земляныя фартыфікацыі, Радзівіл зьбіраўся даць войску Трубяцкога абарончую бітву. Аднак два дні былі страчаныя праз нездароўе гетмана, «які і стаць ня мог ніякім чынам, ані на каня сесьці»[145]. Трубяцкой выкарыстаў гэтае прамаруджаньне, абышоў літоўскія войскі з поўначы і ў Цяцерыне перайшоў бродам Друць, адразаючы далейшы шлях адступленьня. Калі на сьвітаньні 24 жніўня літоўскія харугвы рушылі да Шапялевічаў, яны засьпелі там гатовыя да бою аддзелы праціўніка.

На гэты раз, адрозна ад Шклоўскай бітвы, Трубяцкой засьпеў зьнянацку ліцьвінаў. Радзівілу давялося прыняць бой на вельмі нязручнай для яго мясцовасьці. Ягоныя аддзелы, адкінутыя на першым этапе бітвы агнём пяхоты і драгуноў ад збудаваньняў Шапялевічаў, мусілі біцца ў адкрытым полі, без аніякага апірышча на прыродныя перашкоды. Маскоўскія войскі маглі ў гэтай сытуацыі ў поўнай меры выкарыстаць сваю колькасную перавагу.

Армія Трубяцкога налічвала пад Шапялевічамі каля 25 000 жаўнераў[146], а Радзівіл мог выставіць супраць яе ўсяго толькі 5000—6000 чалавек[147]. Гэтая вялізная няроўнасьць выявілася ўжо на першым этапе бітвы. Калі пасьля разгрому маскоўскага разьезду некалькі лёгкіх літоўскіх харугваў уварваліся ў Шапялевічы, яны адразу

[143] AGAD. AR. Dz. II. Nr 1286.

[144] Падрабязьней гл.: Bobiatyński K. Działania posiłkowego korpusu koronnego na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1654—1655 // SMHW. T. XLI. S. 61—81.

[145] Relacya potrzeby, która zaszła między wojskiem Wielkiego Księstwa Litewskiego, a Moskwą pod Ciecierzynem die (dnia) 24 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 122.

[146] Трубяцкой атрымаў падмацаваньні з-пад Амсьціслава. Пасьля бітвы пад Шкловам да ягоных аддзелаў далучылася таксама частка адзінак Чаркаскага. Варта згадаць, што Януш Радзівіл у лісьце да ўпіцкага падчашага Крыштапа Даўгялы Стрыжкі ад 18 верасьня 1654 г. з Койданава ацэньваў сілы праціўніка на 83 000 чалавек: Kotłubaj E. Życie... S. 372—373.

[147] Тамсама. S. 373.

трапілі пад моцны агонь пяхоты і былі вымушаныя адступіць. На шырокім полі адбылася конная бітва, у якой малы літоўскі фронт ня мог доўга стрымліваць напор праціўніка. «Калі ўсе іхныя палкі надышлі і гэтыя палі, на якіх нас ня знаць было, — пісаў адзін зь літоўскіх жаўнераў, — усе пакрылі, пачалі на нашых моцна наступаць»[148].

Маскоўцы хутка абышлі правае крыло войскаў Радзівіла і прымусілі яго адступаць. Даўжэй супраціўляліся шыхты драгунаў, што стаялі ў цэнтры, якімі камандавалі Герман Ганцкопф, Эбэрхард Путкамэр і Эрнэст Ян Корф. Але і яны «праз мноства непрыяцеля, разарваныя маскоўскай райтарыяй, мусілі ўцякаць». Мала дапамаглі двухразовыя контратакі палка Палубінскага, што падцягнуўся на поле бітвы, як пачаўся бой, і цяпер спрабаваў адчайнай атакай прыкрыць адступленьне рэшты арміі. Таму адыход хутка ператварыўся ва ўцёкі: «Тады цэлую мілю або паўтары ехаў непрыяцель, дыхаючы нам у каркі»[149].

Надзвычай драматычныя падзеі адбыліся каля пераправы праз Друць пад Чэрцамі. Маскоўцы асабліва зацята атакавалі Януша Радзівіла, які вылучаўся сярод сваіх жаўнераў: «...значны быў між іншымі ў белым атлясовым жупане, на пярэстым кані»[150]. Князь змагаўся па-геройску, атрымаў рану ў правую нагу і страціў каня. У пэўны момант сытуацыя выглядала цалкам безнадзейна. «Ля адной пераправы чатыры варожыя харугвы так нас абскакалі, што з 40 альбо 50 коней маёй казацкай харугвы засталося ўсяго толькі ўжо пяць чалавек, якія бараніліся каля мяне», — згадваў гэтыя хвілі ў верасьні 1654 г. гетман[151]. Жыцьцё ўратаваў яму харужы Грэфэнбэрг, які прыняў на сябе кулі і ўдары рагацінай, прызначаныя вайскаводцу. Пры пераходзе мосту Радзівіла некалькі разоў сьпіхвалі ў балота, ён перабраўся на другі бераг Друці, шмат перацярпеўшы. Небясьпечную сытуацыю ўратавала толькі ўмяшаньне роты вугорскай пяхоты Самуэля Яна Юшкевіча, якая эфэктыўным агнём прымусіла адступіць тыя адзінкі праціўніка, што спрабавалі працягваць пагоню на другім беразе ракі.

У выніку паразы пад Шапялевічамі літоўская армія страціла каля 1000 чалавек. У гэты лік, напэўна, трапілі і жаўнеры, якія здолелі ўратавацца, але, раскіданыя па навакольлі, не дайшлі за некалькі першых тыдняў пасьля бітвы да сваіх адзінак. Загінула некалькі афіцэраў, у тым ліку польны пісар Мацей Францкевіч Радзімінскі[152]. Першая сутычка пад Шапялевічамі прынесла адносна малыя страты, затое значна больш жаўнераў наклалі галавою пад Чэрцамі і падчас пазьнейшых уцёкаў, паміж Друцьцю і Бярэзінай.

25 жніўня маскоўцы амаль пад корань выразалі полк нямецкай пяхоты вялікага гетмана, «цудоўна добры і магутны»[153], зьнянацку засьпеўшы яго пры адной зь пераправаў. Вельмі вялікія страты зазналі палкі драгуноў і рэйтараў, асабліва ў гет-

[148] Z obozu litewskiego, Mińsk 4 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 75v.

[149] Opis na podstawie Relacyi potrzeby // Ojczyste spominki... T. I. S. 123.

[150] Z obozu litewskiego, Mińsk 4 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 76.

[151] J. Radziwiłł do K. Stryżki, Kojdanów 18 IX 1654 // Kotłubaj E. Życie... S. 373.

[152] Тамсама.

[153] J. Mierzeński do S. Korycińskiego, Wilno 30 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 126—127; Z obozu litewskiego, Mińsk 4 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 76—76v.

манскім палку на чале з Германам Ганцкопфам. Пад Чэрцамі была выразаная Радзівалава казацкая харугва, якая складала ягоную асабістую ахову. Як пісаў у вершы, прысьвечаным камандзіру ягонай адзінкі, паручніку Аляксандру Межанскаму, Зьбігнеў Морштын, выбітны паэт эпохі барока:

*Сто пяцьдзясят змагалася нас,*
*а засталося толькі сорак пяць;*
*ніхто не памёр і ніхто ня ўцёк,*
*але кожны загінуў*[154].

Каля 270 жаўнераў, між іншымі обэрштэрлейтэнант рэйтарскага палка вялікага гетмана Эрнэст Закен, трапілі ў палон[155]. Была страчаная большая частка лягеру, разрабаванага, зрэшты, уласнымі чаляднікамі. Затое ліцьвіны здолелі захаваць усю артылерыю. Пяць палявых гарматаў уратаваў ад разгрому Самуэль Ян Юшкевіч, які вывеў на Бярэзіну таксама ўсе роты вугорскай пяхоты. Не панёс значных стратаў і апошні полк нямецкай пяхоты, які застаўся ў літоўскай арміі, — полк Нямірыча[156].

Царскія войскі, напэўна, атрымалі ў бітве параўнальныя страты. Перамога маскоўцаў 24 жніўня мела для абедзьвюх арміяў вялізнае псыхалягічнае значэньне. Маскоўскі бок пабачыў, што можа перамагаць на полі жаўнера Рэчы Паспалітай, у сутычках зь якім некалькі дзесяцігодзьдзяў запар Масковія зьведвала балючыя паразы. Літоўская армія ня толькі на шмат тыдняў цалкам страціла баяздольнасьць, але і перастала верыць у сваю перавагу над ворагам і здольнасьць супрацьўляцца ягоным больш шматлікім сілам. Гэты дух паразы, няўпэўненасьць у магчымасьці посьпеху будуць спадарожнічаць ліцьвінам у далейшых кампаніях супраць царскіх войскаў аж да 1660 г.

## Разьдзел III

# АБЛОГА І ПАДЗЕНЬНЕ СМАЛЕНСКУ

Пасьля бітвы пад Шапялевічамі аддзелы Трубяцкога не пайшлі далей на захад. Маскоўцаў цалкам задавальняла, што літоўская армія адкінутая за лінію Бярэзіны, а магчымае рашэньне наконт паходу ў глыб Рэчы Паспалітай адкладалася на 1655 г.

[154] Morsztyn Z. Wybór wierszy / Opr. J. Pelc. Wrocław, 1975. S. 47. Брат вайскаводцы харугвы Ян Мяжэнскі (Jan Mierzeński) пісаў у лісьце ад 30 жніўня вялікаму канцлеру Кароны С. Карыцінскаму (S. Koryciński), што ў шэрагах харугвы засталося толькі 30 чалавек (Ojczyste spominki... T. I. S. 126—127).

[155] DR. T. III. S. 444; у царскі лягер пад Смаленск Трубяцкой адправіў каля 230 чалавек, зь якіх 209 выслалі ў Казань, а 18 — у Вязьму (Готье Я. В. Замосковный край. Москва, 1937. С. 183).

[156] Relacya potrzeby... // Ojczyste spominki... T. l. S. 124—125; J. Radziwiłł do K. Stryżki, Kojdanów 18 IX 1654 // Kotłubaj E. Życie... S. 373.

Таму Трубяцкой ня рушыў пад Луцак, дзе яго меліся чакаць адзінкі Хмяльніцкага. Сам казацкі гетман, якога царскія пасланцы неаднаразова падгаворвалі пайсьці на Валынь, спачатку быў супраць гэтай выправы, бо баяўся пакінуць Украіну на здабычу татарскіх аддзелаў[157]. Аднак пад канец жніўня ён рушыў на захад разам зь нешматлікімі маскоўскімі аддзеламі пад камандаю Васіля Бутурліна. Каля 15 верасьня ён дайшоў да ваколіцаў Бярдычава, але пазьней адступіў пад Белую Царкву, бо дасланыя разьезды не змаглі зьвязацца з Трубяцкім, і паступілі зьвесткі, што армія Кароны рыхтуецца да контрнаступу[158].

Між тым царскія войскі заняліся захопам гарадоў усходняй Беларусі, якія яшчэ абараняліся. Бітва пад Шапялевічамі значна аблегчыла для іх справу, бо літоўскія залогі, ураджаныя зьвесткамі пра паразу, ня маючы надзеі на дапамогу, як правіла, не выяўлялі вялікай волі да супраціву.

Ужо 3 верасьня бяз бою здаўся Магілёў — галоўны цэнтар гандлю з Усходам, найвялікшы і найбагацейшы горад у гэтай частцы Вялікага Княства Літоўскага, у якім у першай палове XVII ст. жылі больш за 10 000 чалавек[159]. Галоўную ролю ў тым, каб схіліць мяшчанаў да капітуляцыі, адыграў шляхціц зь Пінскага павету Канстанцін Паклонскі[160]. Ягонае прозьвішча ўпершыню згадваецца ў крыніцах 15 чэрвеня 1654 г., калі разам з больш як дзесяцьцю магілёўцамі ён прыбыў у лягер Залатарэнкі нібыта ад імя вялікай групы шляхты, якая намервалася прызнаць уладу цара. Нежынскі палоўнік пераслаў «пасольства» да Хмяльніцкага. Той прыняў Паклонскага з пашанаю і скіраваў дыпляматычны ліст да Аляксея Міхайлавіча. 1 жніўня Паклонскі з таварышамі зьявіўся ў лягеры пад Смаленскам. Раманаў вельмі зычліва яго прыняў і шчодра адарыў, а праз тыдзень даслаў у Магілёў з царскім дваранінам Міхаілам Ваейкавым, каб схіліць горад да капітуляцыі.

Па дарозе Паклонскі пераконваў жыхароў Амсьціслаўскага ваяводзтва прыняць уладу Масквы. Ён таксама зьбіраў пад сваю каманду шматлікіх добраахвотнікаў. Ужо 21 жніўня ў раёне Чавусаў ён камандаваў аддзелам, які налічваў 1000 пешых і 100 конных сялянаў. Адначасова ён працягваў перамовы з магілёўцамі, абяцаючы ім шчодрыя ўзнагароды за добраахвотную капітуляцыю. Мяшчане спачатку адкідалі гэтыя прапановы, баючыся помсты непадалёк разьмешчанай арміі Януша Радзівіла. Толькі параза ліцьвінаў пад Шапялевічамі прымусіла жыхароў Магілёва 3 верасьня адчыніць браму гораду і прынесьці ўрачыстую клятву на вернасьць Аляксею Міхайлавічу. Ва ўзнагароду за пакорлівасьць 19 верасьня горад атрымаў ад цара грамату, якая гарантавала ягоныя правы на самакіраваньне, а таксама гандлёвыя прывілеі[161].

[157] Dokumenty poselstwa Iwana Riewskiego i Grigorija Bogdanowa do Chmielnickiego // AJZR. T. XIV. S. 1—44.

[158] Федорук Я. О. Міжнародна дипломатія і політика... С. 121, 129.

[159] Лаўмянскі (Handel Mohylewa w XVI wieku // Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 512) піша аб 10 000 насельніцтва ў 1609 годзе; Мялешка падае лічбу 11 000 для пачатку XVII ст. (Могилев в XVI — середине XVII в. Минск, 1988. С. 20).

[160] Rachuba A. Pokłoński Konstanty Wacław // PSB. T. XXVII. 1983. S. 234.

[161] AJZR. T. VIII. S. 383—384; T. X. S. 681—682; T. XIV. S. 188—194, 212—217, 227—229, 233—236; Акты исторические, собранные и изданные Археографическою Комиссиею. Т. IV. Санкт-Пецярбург, 1842. № 82. С. 225—229.

Праз тыдзень пасьля Магілёва, 10 верасьня, капітуляваў Шклоў, які бараніўся ўсяго толькі адзінаццаць дзён. У канцы верасьня Паклонскаму ўдалося ўгаварыць здацца Крычаў[162].

У той час вырашаўся таксама лёс Смаленску — гораду, які называлі ключом як да Масквы, так і да Вялікага Княства Літоўскага. Заняўшы яго, вораг мог цалкам кантраляваць надзвычай важную стратэгічную прастору Смаленскай брамы — калідору шырынёю каля 80 кілямэтраў між Дняпром і Дзьвіною. Тут праходзіла найкарацейшая дарога з Масквы на Менск і далей на Вільню, якая дазваляла абмінуць цяжкадольную балоцістую тэрыторыю паміж Дняпром і Бярэзінай і разьмешчанае далей на поўнач Паазер'е паміж Лепелем, Бешанковічамі і Полацкам.

Здабыць Смаленскую крэпасьць было нялёгка. Горад абаранялі як магутныя фартыфікацыі, так і прыродныя перашкоды. Смаленск стаяў на левым беразе Дняпра — паўнаводнай ракі шырынёю каля 310 мэтраў. Высокі і стромкі бераг прыкрываў паўночную сьцяну крэпасьці. З усходу подступы абараняў шырокі роў, па якім цёк невялікі ручай. Збудаваная на ім грэбля ўтварала два ставы, што дадаткова ўскладняла вядзеньне аблогі. Глыбокі роў з ручаём ахоўваў горад і з захаду. Таму дзейсна наступаць магчыма было толькі з поўдню і паўднёвага ўсходу.

Гарадзкія ўмацаваньні, збудаваныя за часам Фёдара Іванавіча і Барыса Гадунова ў 1596—1602 гг., мелі магутныя муры вышынёю 10—15 мэтраў і таўшчынёю 5—6 мэтраў. Іхная даўжыня ў пэрымэтры складала каля 6500 мэтраў. Да вышыні 2 мэтраў муры былі збудаваныя зь белага каменю, а рэшта — з чырвонай цэглы. Працу мінэраў ускладняў двухмэтровы каменны цокаль, а таксама падмуркі глыбінёю 4 мэтры і таўшчынёю 6,5 мэтра. З мэтай іхнай хуткай лякалізацыі звонку цьвердзі былі змайстраваныя «подслухі» — ірвы глыбінёй 2 мэтры, шырынёй 1,25 мэтра, прысыпаныя 70-сантымэтровым пластом зямлі. Яны стаялі праз кожныя некалькі дзясяткаў крокаў на адлегласьці 8 мэтраў ад умацаваньняў. Муры былі ўзмоцненыя 36 вежамі вышынёй 21 мэтар, разьмешчанымі праз кожныя 150—300 мэтраў, і былі аздобленыя зубцамі (блянкамі) на вышыні да 2,5 мэтра, прыкрытыя двухсхільным дахам, што засланяў як ад варожага агню, так і ад дажджу і сьнегу. У горад вялі 9 брамаў, зь якіх 8 месьціліся пад вежамі. Абароназдольнасьць гораду павышалі і два сучасныя форты, збудаваныя пасьля адваёвы крэпасьці Рэччу Паспалітаю ў 1611 г. З захаду Смаленск абараняла пяцівежавая цытадэль, г. зв. Зыгмунтоўскі форт (большы вал), збудаваны ў 1629—1631 гг. З паўднёвага ўсходу, адкуль пагражала найвялікшая небясьпека, падыход абараняў значна меншы Ўладзіславаўскі форт (меншы вал), збудаваны паміж Яленскай і Молахаўскай брамамі на месцы 300-мэтровага адрэзку муроў, разбуранага падчас баёў у 1632—1633 гг. Знутры горад абараняў яшчэ адзін вал з дрэва і каменю, насыпаны маскоўцамі ў 1609 г., які ствараў другую лінію абароны на адрэзку ад Молахаўскай да Абрамоўскай брамы[163].

На жаль, на парозе вайны з Масковіяй фартэцыі знаходзіліся ў занядбаным стане. Хоць гэтай справай шмат разоў займаўся сойм, які прымаў адпаведныя пастановы ў 1643, 1646, 1650, 1652 і 1653 гг., выдаткоўваў сродкі і склікаў камісіі, смаленскія ўмацаваньні руйнаваліся ўсё больш[164]. Не ўдалося нават ліквідаваць усіх разбурэньняў з

[162] AJZR. T. XIV. S. 407—411; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 47, 50—51.

[163] Kupisz D. Smoleńsk 1632—1634. Warszawa, 2001. S. 15—21.

[164] VL. T. IV / Wyd. J. Ohryzko. Sankt Petersburg, 1859. S. 36—37, 47, 159, 175, 187.

часу 1609—1611 і 1632—1633 гг. Чытаючы інвэнтар Смаленску першай паловы 1654 г., мы ўвесь час бачым зьвесткі пра расколіны ў мурох і брамах, пра пагнілыя і дзіравыя дахі і памосты, пра вежы, якія развальваюцца, пра зруйнаваныя земляныя валы і г. д.[165]. На соймавым працэсе ў 1658 г., калі расьсьледаваліся прычыны хуткага падзеньня гораду, адзначалася, «што валы альбо пераломы абодва *funditus* (дашчэнту) зруйнаваныя, празь якія непрыяцель, як праз адчыненыя брамы, мог уехаць. Муры шмат у якіх месцах да зямлі патрэсканыя, што мог у некаторых мужык у іх праз гэтыя расколіны пралезьці»[166]. Стан артылерыі таксама не адпавядаў патрэбам абароны. Крэпасьць мела 56 гарматаў, зь якіх толькі 42 стаялі на мурах і валах, а 14 знаходзілася ў цэйхгаўзе. Гэтага, бясспрэчна, замала, каб прыкрыць ажно 6500 мэтраў умацаваньняў. Не ставала і іншага вайсковага рыштунку. З 44 гакаўніцаў ажно 31 патрабавала рамонту, а астатнія 13 — «старыя, разарваныя, ні да чога непрыдатныя». Бракавала пораху, а наяўны захоўваўся ў жахлівых умовах, таму часткова быў непрыдатны для выкарыстаньня. Не ставала таксама салетры і волава, гранатаў, пэтардаў, боепрыпасаў для мушкетаў, інжынэрнага абсталяваньня. У цэйхгаўзе захоўвалася небагата ручной і халоднай зброі. Затое ўдалося сабраць шмат боепрыпасаў для гарматаў — 4300 жалезных куляў вялікага і 11 300 малога калібру[167].

Падрыхтоўку Смаленску да абароны дадаткова ўскладніла спрэчка, выкліканая прызначэньнем на пасаду мясцовага ваяводы Піліпа Казімера Абуховіча. Гэты дасьведчаны парлямэнтар, выдатны прамоўца і таленавіты палітык зусім не надаваўся да такой адказнай вайсковай функцыі. Шмат гадоў праслужыўшы ў літоўскай арміі, спачатку ротмістрам у харугвах Лява Сапегі, пазьней у рангу палкоўніка пад камандаю Януша Радзівіла, ён ня вызначыўся нічым асаблівым на палёх бітваў. Будучы ў 1648 г. маршалкам палаты паслоў, ён праводзіў нарады элекцыйнага сойму, чым здабыў сымпатыю Яна Казімера. З таго часу ён лічыўся ў Літве галоўным прадстаўніком каралеўскага лягеру[168]. Таму зразумела, што ягонае прызначэньне ваяводам смаленскім 25 верасьня 1653 г., пасьля таго, як ад пасады адмовіўся Павел Ян Сапега, вельмі адмоўна прынялі прыхільнікі Януша Радзівіла. Сам гетман убачыў у ім чарговы крок караля, які абмяжоўваў уплыў Радзівіла ў войску. 18 кастрычніка 1653 г. ён пісаў свайму стрыечнаму брату Багуславу: «Смаленскае ваяводзтва да таго дайшло, што ўсе мы павінны дзівіцца з гэтага, але і сам прафэсар (Абуховіч. — **К. Б.**) недзе дзівіцца зь сябе заўсёды, калі нагадвае сабе, што Пан Айцец, ці, інакш кажучы, дзед нядаўна ў Мазыры быў вазьніцам. На такі час і ў такую небясьпечную пагрозу ад Масквы гэтае месца, амаль адзіную абарону нашых межаў, якое і так у суседа навідавоку, не параіўшыся з Гетманам, такому даручаць!»[169].

[165] ASD. T. XIV. Wilno, 1904. S. 1—2.

[166] Sejmowy dekret w sprawie obwinienia wojewody smoleńskiego Filipa Obuchowicza o poddanie Smoleńska wojskom moskiewskim w 1654 roku z 1658 roku // ASD. T. XIV. S. 40.

[167] Увесь фрагмэнт на падставе інвэнтара гораду Смаленску і Смаленскага ваяводзтва з 1654 г.: ASD. T. XIV. S. 2—5.

[168] Przyboś A. Obuchowicz Filip Kazimierz // PSB. T. XXIII. 1978. S. 473—475.

[169] J. Radziwiłł do B. Radziwiłła, obóz pod Horwolem 18 X 1653 // Kotłubaj E. Życie... S. 386.

У наступныя месяцы Радзівіл амаль нічым не дапамог гораду рыхтавацца да абароны і, больш за тое, верагодна, стаяў за скандальнымі падзеямі напрыканцы 1653 г. Былы мясцовы падваявода, Пётра Казімер Вяжэвіч, які, меркавалася, залежаў ад гетмана, з 7 да 21 сьнежня не пускаў Абуховіча ў горад, не хацеў нават выдаваць яму ключоў ад замку і падбухторваў мясцовую шляхту[170]. Прычынаю гэтай антыпатыі, зрэшты, магла быць амбітнасьць Вяжэвіча, бо ён таксама прэтэндаваў на пасаду смаленскага ваяводы[171]. Іншыя надзеленыя ўладай асобы, зьвязаныя зь віленскім ваяводам Янушам Радзівілам — харужы Ян Храпавіцкі і падсудак Станіслаў Уніхоўскі, — ня толькі сарвалі нарады сойміку (той скончыўся вынікова толькі на другі раз, 31 сьнежня 1653 г.), але яшчэ і пагражалі Абуховічу сьмерцю[172].

Хоць 11 студзеня 1654 г. Ян Казімер у лісьце да смаленскага ваяводы абвясьціў, што ўсе вінаватыя ў тым, што Абуховіча не пусьцілі ў горад, будуць адказваць перад каралеўскім судом, праблема ня вырашылася. Януш Радзівіл яшчэ некалькі разоў выдаваў унівэрсалы, у якіх загадваў прызнаваць вайсковае кіраўніцтва палкоўніка Вільгельма Корфа, — ён камандаваў наёмнымі аддзеламі, што знаходзіліся ў горадзе. Гэта адпавядала пастанове сойму 1613 г., якая прызнавала за ваяводам юрысдыкцыю над смаленскім замкам і ягонай залогай[173]. Сам Абуховіч абсалютна не даваў рады ў складанай сытуацыі, а цяжкасьці і прыніжэньні, зь якімі сутыкаўся, прымусілі яго некалькі разоў заяўляць каралю пра сваё жаданьне адмовіцца ад пасады. Аднак Ян Казімер не згадзіўся з такім рашэньнем і 8 і 29 красавіка чарговы раз заклікаў у сваіх лістах палкоўніка, афіцэраў і жаўнераў смаленскай залогі прызнаць кіраўніцтва ваяводы[174]. Апошні ўнівэрсал у справе ваяводы кароль выдаў 8 чэрвеня 1654 г. Ён загадваў, «каб падчас небясьпекі ў нашым смаленскім замку тамтэйшыя грамадзяне і рыцарства пад кіраўніцтвам і ўладай вяльможнага смаленскага ваяводы заставаліся»[175]. Як мы ведаем, маскоўскія войскі тады пераходзілі ўжо межы Вялікага Княства Літоўскага.

На жаль, не ўдалося нагнаць час, змарнаваны ў сварках, і належна падрыхтаваць крэпасьць да абароны. Толькі 28 красавіка кароль паведаміў Абуховічу, што дасылае ў Смаленск свайго інжынэра, італьянца Яна Якуба Банэлі. Пад ягоным кіраўніцтвам праводзіўся самы неабходны рамонт умацаваньняў. Ён прысьпешыўся толькі на пачатку чэрвеня, калі ў горад дайшла вестка пра падзеньне Дарагабужу. Працай пры большым вале кіраваў Корф, даючы прыклад сваім падначаленым: «...плетучы сваімі рукамі кашы, кладучы з афіцэрамі дзёран і ўсё належнае для абароны робячы, шчыра і адважна працаваў». Сам Банэлі назіраў за працай пры меншым вале, а Абуховіч заняўся расстаноўкай артылерыі на мурох. Усе брамы засы-

170 Pamiętniki historyczne do wyjaśnienia spraw publicznych w Polsce XVII wieku, posługujące w dziennikach domowych Obuchowiczów i Cedrowskiego pozostałe / Wyd. M. Baliński. Wilno, 1859. S. 44—45.

171 J. Radziwiłł do I. Chodkiewiczowej, [да 7.VIII.1653]. APKr. AMCh. Nr 101. S. 31—33.

172 Relacja obsydji i dedycji Smoleńska. BCzart. Rkps 147. Nr 182. S. 880—881; Sejmowy dekret... // ASD. T. XIV. S. 40, 51.

173 Ostrowski B. Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej // Acta Baltico-Slavica. T. XIII. 1980. S. 150—151, 168.

174 Sejmowy dekret... // ASD. T. XIV. S. 40, 51.

175 BPAN Kyr. Rkps 2649. K. 47.

палі зямлёй і каменьнем, за выключэньнем дзьвюх — Каралеўскай і Молахаўскай, празь якія абаронцы зьбіраліся рабіць вылазкі на пазыцыі праціўніка. Каралеўскую браму прыкрылі грунтоўна ўмацаваным блякгаўзам, які абкружаў вал і частакол. Абаронцы мелі надзею, што менавіта гэтай дарогай, падобна як у 1633 г., у горад прыйдзе дапамога. Дадатковым «прывалкам» была ўмацаваная і Молахаўская брама[176]. Аднак сьпехам праведзены рамонт не ліквідаваў большасьці хібаў, узьніклых за папярэднія дваццаць гадоў.

Піліпу Абуховічу, апроч таго, было вельмі няпроста сабраць у горадзе ваколічную шляхту, якая — незвычайны для Рэчы Паспалітай выпадак — мусіла ў рамках паспалітага рушаньня паўгоду служыць на мурах. Апроч паноў-брацьці, падобны абавязак распаўсюджваўся і на іншых земляўласьнікаў — татараў, казакоў, арандатараў, арандадаўцаў і нават мяшчанаў і плебэяў, якія мелі хоць нейкую маёмасьць[177]. Толькі 9 чэрвеня ваявода здолеў правесьці прагляд, які паказаў, што прыбыло 349 чалавек шляхты, 156 даслалі сваіх намесьнікаў, а шэсьць адсутнічалі. Разам зь сьвітай зьявілася 987 чалавек[178]. Большасьць паспалітага рушаньня не была падрыхтаваная да працяглай аблогі і не выяўляла жаданьня змагацца. Частка шляхты ня мела, зрэшты, нічога супраць маскоўскага падданства пры захаваньні прывілеяў і маёмасьці. Да таго ж частка паспалітага рушаньня незадоўга да аблогі самавольна пакінула горад, «зьехаўшы з замку, а іхныя месцы занялі падлеткі-хлапчукі і простыя рамесьнікі»[179]. Несумненна, гэта паўплывала на маральны дух астатняй залогі.

Апроч паспалітага рушаньня, у горадзе знаходзіліся два палкі нямецкай пяхоты на чале зь Вільгельмам Корфам і Мікалаем Тызенгаўзам, якія тэарэтычна налічвалі каля 1400 порцыяў[180]. Аднак ня выключана, што насамрэч у іхных шэрагах было значна менш жаўнераў. Відаць, у сьнежні 1653 г., калі гэтыя адзінкі прыбылі зь лягеру з-пад Рэчыцы, «смаляне [...] толькі васямсот налічылі і то немалую частку між іх габрэяў»[181]. Аднак варта памятаць, што гэтыя закіды рабілі падчас вострай палітычнай барацьбы праціўнікі Януша Радзівіла, і іхны зьмест не заўсёды адпавядаў рэчаіснасьці. Горад абаранялі каля 600 мяшчанаў і каля 400 казакоў. У крэпасьці знаходзіліся таксама некалькі соцень жаўнераў польскай пяхоты. Невядома, ці апынуліся сярод абаронцаў 600 добраахвотнікаў, нанятых, як вынікае з крыніцаў, яшчэ ў першыя дні ліпеня[182]. Разам смаленская залога налічвала каля 3500 чалавек. Гэтыя зьвесткі, адпаведныя падлікам хоць бы ваяводы Абуховіча, толькі нядаўна пацьвердзілі польскія гісторыкі на падставе крыніцаў[183]. Раней лічбы, датычныя сілаў абаронцаў,

[176] Sejmowy dekret... // ASD. T. XIV. S. 42, 51.

[177] Ostrowski B. Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej... S. 153—156, 167.

[178] ASD. T. XIV. S. 18—36.

[179] Relacja obsidji... BCzart. Rkps 147. Nr 182. S. 872.

[180] Apologia Magnifici Domini Wilhelmi Korff... BN. Mf 19805; BPAN Kr. Rkps 1404. T. I. S. 156—159.

[181] Remanifestacja na Manifestację... BPAN Kyr. Rkps 991. K. 454.

[182] Kroll P. Obrona Smoleńska w 1654 r. // Staropolska sztuka wojenna XVI—XVII wieku. Prace ofiarowane Profesorowi Jaremie Maciszewskiemu / Red. M. Nagielski. Warszawa, 2002. S. 158.

[183] Kroll P. Obrona Smoleńska w 1654 r...; Sejmowy dekret... // ASD. T. XIV. S. 41; Ostrowski B. Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej... S. 181.

вельмі істотна розьніліся. На падставе сьведчаньняў уцеклага абаронцы крэпасьці Мальцаў палічыў, што яе ахоўвалі толькі 1200 чалавек[184]. У сваю чаргу, Катлубай ацаніў колькасьць смаленскай залогі аж на 8700 чалавек — 4700 пяхоты і 4000 шляхты[185].

На пачатку ліпеня 1654 г. у горадзе ўдалося сабраць большую залогу, чым тая, што ў 1632—1633 гг. восем месяцаў з посьпехам адбівала варожыя атакі. На жаль, у яе шэрагах былі жаўнеры зь нізкім маральным духам, схільныя да бунту і здрады. Настрою не паляпшала адсутнасьць надзеі на хуткую дзейсную дапамогу, а таксама значная запазычанасьць у заробках. Нямецкая пяхота не атрымала грошай за пяць кварталаў, а старой замкавай пяхоце не плацілі за апошнія 16 гадоў службы![186] Не ставала таксама моцнай рукі галоўнага вайскаводцы, вартага Самуэля Друцкага-Сакалінскага — смаленскага падкаморага, які ачольваў абарону ў папярэдняй вайне (цяжка хворы, ён знаходзіўся ў горадзе і памёр у апошнія дні аблогі[187]). Зрэшты, Абуховіч, усьведамляючы, што ня мае адпаведнага досьведу і аўтарытэту сярод залогі, засяродзіўся толькі на цывільных і палітычных справах (перамовы з Масковіяй). Ён стараўся не мяшацца ў чыста вайсковыя праблемы. Імі займаўся Вільгельм Корф, які ўкамплектаваў наёмнымі жаўнерамі найважнейшыя ўчасткі ўмацаваньняў — абодва валы, а абарону астатніх адрэзкаў — г. зв. кватэраў — пакінуў шляхце, мяшчанам і казакам[188].

Рэгулярная аблога Смаленску пачалася 8 ліпеня 1654 г. На два дні раней перад горадам зьявіліся пасьля сутычкі з разьездам Ганцкопфа пярэднія аддзелы маскоўцаў, якімі камандаваў Фёдар Адоеўскі. Яны пачалі будаваць лягер і мост цераз Дняпро на ўсход ад крэпасьці, у раёне Багданавай ваколіцы. Перарваўшы сувязь з тылам, пачалі насыпаць шанцы і рыхтаваць пазыцыі для артылерыі. Хоць абаронцы і спрабавалі супрацьдзейнічаць гэтаму, праз некалькі дзён маскоўцы пачалі абстрэл з пазыцыяў, што часам знаходзіліся ўсяго за 170 мэтраў ад муроў. Асаблівая небясьпека пагражала гораду з боку батарэяў, пастаўленых на Пакроўскай Гары (на поўнач ад гораду), у ваколіцах царквы Сьв. Міхала (на захадзе) і з паўднёвага захаду, адкуль кіраваў дзеяньнямі шатляндзкі генэрал Аляксандар Лэсьлі. Яму, вэтэрану арміі Шэіна, ужо другі раз выпала ваяваць за Смаленск. Інтэнсіўны агонь, у тым ліку з 19 гарматаў, спэцыяльна прызначаных для асады, выклікаў вялікія разбурэньні. «З магутных картанаў білі безупынна, — паведамляў адзін з тых, хто быў у аблозе, — ад чаго муры, хоць і новыя, але вельмі слабыя, рассыпаліся, як гліна»[189]. У кепскім праўдзеньні рамонту абвінавачвалі потым смаленскага дойліда Якуба Вонляра (Фуляра), «які муры фартэцыі на згубу гораду гэтага, разьбітыя Шэіным, кавалкамі цэглы паламанай і кепскаю вапнаю і вежы некаторыя паляпіўшы, быў вялікай прычынай,

[184] Мальцев А. Н. Война за Белоруссию и освобождение Смоленска в 1654 г. // Исторические записки. № 37. 1951. С. 139.

[185] Kotłubaj E. Dzieje wojenne Polski... T. III. BPAN Kr. Rkps 1404. T. III. S. 147—148.

[186] Sejmowy dekret... //ASD. T. XIV. S. 40; BCzart. Rkps 147. Nr 172. S. 818.

[187] Czart. 147. Nr 172. S. 818.

[188] Ostrowski B. Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej... S. 168—169; Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. 1 // SMHW. T. XIX. Warszawa, 1973. S. 130.

[189] Relacja obsidji... BCzart. Rkps 147. Nr 182. S. 867; Sejmowy dekret... // ASD. T. XIV. S. 43—44.

што занадта хутка зьбілі дзьве сьцяны і адну вежу дашчэнту, і другой, разваленай на трое ад аднаго толькі гуку сьценабойных гарматаў»[190]. З Смаленску ўцёк адзін з артылерыстаў. Ён паведаміў праціўніку пра аслабленыя ўмацаваньні ля Молахаўскай брамы[191]. Таму батарэі Лэсьлі засяродзілі агонь на адным месцы, спрабуючы прабіць пралом. Вялікія пашкоджаньні былі таксама каля Каралеўскай брамы, дзе ад снарадаў пацярпеў блякгаўз і разьмешчаная пад ім сама брама.

У дадатак да артылерыйскага абстрэлу, маскоўскае войска распачало таксама рыць падкопы пад муры, каб падарваць іх. У супрацьвагу абаронцы выкапалі ўздоўж умацаваньняў глыбокі (ажно да падмурку) і шырокі (2,5 мэтра) роў, які мусіў бараніць іх ад выбуху, накіроўваючы выбуховую сілу ня ўгору, а па баках. Будаваліся таксама спэцыяльныя «подслухі», каб сачыць за падземнымі работамі праціўніка. У самім горадзе рэстаўравалі земляны вал і рыхтавалі драўляна-земляныя ўмацаваньні — другую лінію абароны на выпадак, калі вораг возьме муры. Абуховіч спрабаваў таксама рабіць вылазкі на шанцы непрыяцеля, аднак яны не прынесьлі посьпеху[192]. У адной зь іх ліцьвіны страцілі 70 чалавек, а іншым разам 400-асабовы аддзел заняў перадавыя пазыцыі маскоўцаў, але потым мусіў адступіць, пакінуўшы 36 чалавек забітымі[193]. Большым посьпехам завяршылася атака, праведзеная ў ноч 27—28 ліпеня на шанцы Лэсьлі. Праўда, засьпеты зьнянацку праціўнік хутка сабраўся з духам і адкінуў абаронцаў пад муры фартэцыі, але падчас пагоні трапіў пад агонь літоўскай артылерыі і панёс адчувальныя страты.

Першыя шэсьць тыдняў маскоўскія войскі практычна абмяжоўваліся артылерыйскім агнём. Нешматлікія спробы іхных атак (напрыклад, 7 жніўня з боку Дняпра) зь лёгкасьцю былі адбітыя. Абаронцы, наколькі дазвалялі іхныя абмежаваныя сілы, спрабавалі адказваць з сваіх гарматаў. Яны здолелі зьнішчыць частку варожых пазыцыяў у раёне царквы Сьв. Міхала. Але аблога працягвалася, запасы пораху і правіянту канчаліся, пра дапамогу не было ніякіх зьвестак. Таму настрой ліцьвінаў няспынна пагаршаўся. У абстрэлах згарэла некалькі дамоў гараджанаў, а муры ў многіх месцах былі аслабленыя. Таму ўзьнікалі небеспадстаўныя сумневы, ці здолее залога адбіць вырашальны штурм маскоўскіх войскаў.

Ён адбыўся 26 жніўня. Уначы невялікая група царскіх жаўнераў увайшла ў адну зь вежаў на ўсходнім адрэзку ўмацаваньняў, разбураную падчас абстрэлу, і разьбіла нешматлікую варту з аддзелу шляхты Паўла Анікяевіча. Аднак з вырашальным наступам маскоўцы пачакалі да раніцы. А трэцяй гадзіне пачаўся штурм Зыгмунтоўскага форту. Яго адбіла зь вялікімі стратамі пяхота Корфа. Вельмі напружаныя баі вяліся ў раёне Каралеўскай брамы, якую абаранялі мяшчане пры падтрымцы аддзелу шляхты з 15 чалавек і роты пяхоты. За боем назіраў з Пакроўскай гары сам Аляксей Міхайлавіч. Ліцьвіны зацята супраціўляліся ворагу: «Білі абложнікаў зьверху, спус-

[190] Protestacja Pana Filipa Obuchowicza, wojewody smoleńskiego i inszych obywatelów województwa smoleńskiego, Dokszyce 23 X 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 135. S. 663.

[191] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 181.

[192] Болей: P. Kroll // Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 161—163.

[193] List z Wilna 20 X 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 729; Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 181.

каючы на іх дрэвы, густа ранячы пальбой, камянямі і цэглаю б'ючы». Калі маскоўцы пачалі сячы частакол, на дапамогу абаронцам прыйшлі іхныя жонкі, «ліючы зьверху кіпень і пасыпаючы іх вугольлем, непрыяцель ня мог вытрымаць і мусіў адступіць». Няўдачай для маскоўцаў завяршылася таксама атака каля вежы Вусалухі. Калі ліцьвінам не хапіла баявога рыштунку і камянёў, «яны кінулі два вульлі з пчоламі, якія хутка загналі Маскву ў шанцы»[194].

Найбольш драматычныя баі вяліся на ўсходнім адрэзку муроў. Пры падтрымцы аддзелу, які ўначы заняў вежу, іншыя групы маскоўскіх войскаў з Лэсьлі на чале занялі праломы ў мурах, а таксама два пляцдармы. Склалася крытычная сытуацыя: «…ужо 16 маскоўскіх харугваў было на мурах»[195]. Маскоўцы ўцягнулі на вежу дзьве гарматы і пачалі абстрэльваць зь іх горад унутры, наносячы абаронцам адчувальныя страты. Посьпех непрыяцеля на пэўны час стрымала контратака казацкай харугвы ротмістра Аўруцкага. Гэта дазволіла падцягнуць нямецкую пяхоту Корфа, якая авалодала сытуацыяй. Толькі пасьля сямі гадзінаў бітвы, паставіўшы гармату вялікага калібру і абстраляўшы зь яе занятую вежу, ліцьвіны здолелі адкінуць ворага. «Пасьля ўдару (з гарматы. — **К. Б.**), калі немалы кавалак муру зваліўся на іх, маскоўцы, уцякаючы ўперамешку, — пісаў адзін з абаронцаў, — запалілі свой порах і самі сябе падарвалі». Як вобразна дадае іншы, «падсмажаныя порахам, як вераб'і разьляцеліся ў паветры»[196].

Вельмі цяжка давялося падчас атакі і жаўнерам палка Мікалая Тызенгаўза, якія абаранялі малы вал. Гэты адрэзак знаходзіўся побач з участкам умацаваньняў, часова занятым аддзеламі Лэсьлі. Непрыяцель зь вялікім стратамі пераадолеў частакол і адціснуў абаронцаў зь пярэдняй часткі форту. Група маскоўцаў нават прабілася на вяршыню валу, пагражаючы пазыцыям артылерыі. У крытычны момант абаронцаў падтрымаў падасьпелы з раёну Молахаўскай брамы аддзел Станіслава Ўніхоўскага, які атакаю на бердышы прымусіў праціўніка адступіць. Відаць, калі б штурм працягваўся яшчэ паўгадзіны, вораг «уварваўся б у замак праз гэты вал, бо нашы, кінуўшы страляць, апусьцілі рукі, а дапамагаць не было каму»[197]. У бітве значна пацярпеў малы вал — спатрэбілася некалькі дзён рамонту, каб ён зноў стаў прыдатным для абароны.

Галоўнай прычынай няўдачы штурму 26 жніўня была, як слушна заўважыў Пётар Крол, недастатковая падтрымка групы Лэсьлі. Калі б аддзелы шатляндзкага генэрала, зламіўшы абарону ліцьвінаў, атрымалі дапамогу, то далейшая атака зь вялікай верагоднасьцю магла б зламіць супраціў абаронцаў. Нязладжанасьць у дзеяньнях маскоўцаў, а таксама недастатковае выкарыстаньне агнявой перавагі дазволілі ліцьвінам сьцягнуць у раён, які апынуўся пад пагрозай, рэзэрвы і адбіць страчаныя пазыцыі[198]. Абодва бакі зазналі за цэлы дзень баёў значныя страты. Маскоўскія войскі страцілі, як пісаў Аляксей Міхайлавіч сваім сёстрам, 300 забітымі і 1000 параненымі[199].

[194] Opis na podstawie Sejmowego dekretu... // ASD. T. XIV. S. 44—45.

[195] List z Wilna, 20 X 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 729. У дэкрэце сойму (с. 45) згадваецца пра 12 харугваў.

[196] Relacja obsydji... BCzart. Rkps 147. Nr. 182. S. 869; List z Wilna, 20 X 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 729.

[197] Sejmowy dekret... //ASD. T. XIV. S. 45—46.

[198] Kroll P. Obrona Smoleńska w 1654 r... S. 166.

[199] Соловьев С. М. История России с древнейших времен... С. 628.

Зьвесткі зь літоўскіх рэляцыяў, у якіх гаворыцца пра 7000 ці 7800 забітых, зразумела, завышаныя[200].

Затое абаронцаў Смаленску да канца жніўня паменела да 2591 жаўнера. Сілаў ледзьве хапала, каб укамплектавць абодва валы і найбольш небясьпечныя адрэзкі муроў[201]. Частка мяшчанаў, шляхты і добраахотнікаў наагул пакінула свае пазыцыі, таму некаторыя ўчасткі ўмацаваньняў увогуле засталіся безабаронныя. Не ставала таксама людзей, каб весьці неабходныя рамонтныя работы, асабліва з паўднёвага ўсходу — там умацаваньні найбольш пацярпелі ў ранейшых баёх і патрабавалі неадкладнага рамонту. Паступова сканчаліся запасы пораху. З 45 бочак, якія захоўваліся ў цэйхгаўзе, на 26 жніўня засталося толькі 23. Было толькі 18 бочак гарматнага пораху — гэтага магло хапіць толькі на чатыры гадзіны інтэнсіўнага артылерыйскага абстрэлу[202]. Пачынала адчувацца і нястача правіянту. Па праўдзе, склепы мяшчанаў і багацейшай шляхты стаялі поўныя, але іхныя гаспадары не зьбіраліся дзяліцца з рэштай смалянаў, «адкуль узьніклі штоночныя крадзяжы і рабункі, калі знаходзілі багацейшых і здабывалі харчы, выцягваючы з камораў і сьвірнаў»[203]. Сярод абаронцаў пачалі распаўсюджвацца заразныя хваробы.

Як падаюць шматлікія крыніцы, ліцьвінаў моцна ўразілі зьвесткі пра паразу пад Шапялевічамі. Іх неўзабаве пацьвердзілі дасланыя Масковіяй палонныя, а таксама паказ здабытых харугваў[204]. У залогі зьнікла ўсялякая надзея на дапамогу, пачалі шырыцца паразьніцкія настроі. Іх яшчэ ўзмацнілі навіны, што маскоўцы вадой перапраўляюць пад Смаленск некалькі дзясяткаў сьценабойных гарматаў. Непрыяцель таксама няспынна спрабаваў запалохаць абаронцаў інтэнсіўным артылерыйскім агнём, а таксама падрыхтоўкай да новых нападаў.

Адным зь першых выявіў упадніцкі дух ваявода Абуховіч. Ужо 30 жніўня на нарадзе старшынаў ён заявіў, што сумняецца ў магчымасьці далейшай абароны, і зьвярнуў увагу на аслабленьне дысцыпліны сярод часткі залогі, якая пакінула некаторыя кватэры. Хоць умовы для далейшай абароны, несумненна, існавалі, у першыя дні верасьня пачаліся перамовы пра здачу крэпасьці. Абуховіч забараніў у той час рабіць вылазкі на пазыцыі маскоўцаў. Прыхільнікам далейшай абароны, якіх падтрымлівалі езуіты, ён адказаў: «...немагчыма ім замак утрымаць пры такой варожай магутнасьці, з такімі недахопамі, дзе ані пораху, ані людзей няма, і ніхто мяне на гэта не ўгаворыць. Лепш я страчу толькі замак, чым і замак, і ўвесь гэты люд»[205]. Прыклад вайскаводцы найгоршым чынам падзейнічаў на залогу і жыхароў Смаленску. Хоць афіцэры зь Вільгельмам Корфам на чале заявілі, што гатовыя працягваць супраціў, частка жаўнераў пачала самавольна пакідаць кватэры і пераходзіць на бок непрыяцеля. Урэш-

[200] List z Wilna, 20 X 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 729; Sejmowy dekret... // ASD. T. XIV. S. 46.

[201] BOssol. Rkps 16321/111. S. 47—50. Мусіла застацца 238 прадстаўнікоў шляхты і 493 сьвіты з гаспадарамі, 860 нямецкай пяхоты, 300 польскай пяхоты, 300 казакоў, 400 мяшчанаў.

[202] ASD. T. XIV. S. 46.

[203] Тамсама. S. 41.

[204] Relacja obsidji... BCzart. Rkps 147. Nr 182. S. 871; Manifestacja obywateli smoleńskich, 25 IX 1654. BOssol. Rkps 13621/111. S. 53—56.

[205] Relacja obsidji... BCzart. Rkps 147. Nr 182. S. 873.

це дайшло да таго, «што нямецкая пяхота зь некаторымі афіцэрамі пачала масава пераходзіць да Масквы, што з абодвух палкоў засталося ўсяго толькі трыста чалавек»[206]. Актывізавалася таксама шляхецкая групоўка прыхільнікаў маскоўскай улады на чале зь лідзкім падчашым Альбрыхтам Галімантам і сынам гераічнага вайскаводцы 30-х гг. Казімерам Друцкім-Сакалінскім. «Харугвы ад мяне ваяводы і ад ротмістраў нечакана забралі і, несучы варту ў Молахаўскай браме, пану Галіманту і шляхце, што ад цара ішла, без майго ведама ўзводы (вароты. — **К. Б.**) сваявольна адчынілі, — пісаў у кастрычніку 1654 г. Абуховіч, спрабуючы зваліць на іх віну за капітуляцыю, — а затым непрыяцельскі люд, пушчаны ў муры, заняў муры і валы»[207]. Пад канец верасьня шляхта ўжо ладзіла адкрытыя п'янкі з маскоўцамі, браталася зь непрыяцелем і масава пераходзіла ў ягоны лягер.

У гэтай сытуацыі ваяводу сапраўды не заставалася нічога іншага, як толькі падпісаць капітуляцыю, што ён і зрабіў 29 верасьня[208]. Праз чатыры дні войскі Рэчы Паспалітай назаўсёды пакінулі муры Смаленску. На захад скіраваліся каля 300 жаўнераў, паколькі рэшта перайшла на службу да цара. Большасьць шляхты таксама засталася ў горадзе, і толькі некалькі дзясяткаў чалавек уключна з Абуховічам ня вырашыліся прыняць апекі чужынцаў. Магутная смаленская крэпасьць, якая абараняла ўсходні флянг польска-літоўскай дзяржавы і адвеку была прадметам зацятай барацьбы з Масковіяй, назаўжды перайшла ў рукі праціўніка. Зразумела, страта гораду выклікала шок у Рэчы Паспалітай — гэтую падзею яшчэ некалькі гадоў шырока абмяркоўвалі. Як заўсёды, шукалі вінаватых. Шляхта пераважна была схільная крытыкаваць таго, хто нёс найбольшую адказнасьць за капітуляцыю. Па краі пракацілася хваля памфлетаў і пасквіляў, у якіх высьмейваўся Піліп Абуховіч і ягоныя дзеяньні[209]. У адным з ананімных вершаў гаварылася:

*Абуховіч выводзіць свой тытул з абуха,*
*але не з таго, што задаволеныя ўжываюць,*
*для расколваньня дрэва, б'ючы ў моцныя кліны.*
*Бо ў здачы Смаленску ён ня быў бы вінаваты,*
*калі б паказаў Маскве ганарлівае, як абух, сэрца.*
*[У такім разе] ён мае свой тытул ад таго абуха,*
*што на дзьвюх нагах ходзіць, але*
*дзьмухае, як [баязьлівы] тхор*[210].

На сойме ўвесну 1655 г. рабіліся спробы распачаць працэс супраць Абуховіча паводле абвінавачаньня ў здрадзе і службовай нядбайнасьці. Праўда, праз умяшаньне

[206] Тамсама. S. 879—880; Пра пазыцыю Корфа: Aktykowanie procesu i listu JKM prywatnego w sprawie JM Pana Korffa pułkownika JKM // AVAK. T. XXXIV. Nr 19. S. 18—19.

[207] Protestacja Pana Filipa Obuchowicza... BCzart. Rkps 147. Nr 135. S. 662.

[208] Умовы капітуляцыі Смаленску: AJZR. T. XIV. S. 253—258.

[209] Перадусім распаўсюджваны ў шматлікіх копіях ліст Цыпрыяна Камарэнкі (Камунякі) да Піліпа Абуховіча (між іншым: AGAD. Arch. Przeździeckich. Nr B-972; AGAD. A-Tyz. NrG-807).

[210] BOssol. Rkps 3564/11. K. 310—310v.

караля да працэсу ўрэшце не дайшло, але сойм вырашыў да высьвятленьня справы выдаліць Абуховіча з сэнату[211]. Толькі ў 1658 г. пад наглядам Яна Казімера адбыўся працэс, які зьняў з Абуховіча ўсе абвінавачаньні. Сам ён, зрэшты, не дачакаўся апраўданьня, бо памёр на два гады раней.

Затое партыя караля не пакінула сухой ніткі на Янушу Радзівілу: гетмана вінавацілі ў тым, што ён не аказаў ніякай дапамогі крэпасьці і наўмысна слаба падрыхтаваў яе да абароны. Зьявіліся таксама розныя творы, у якіх віна за капітуляцыю ўскладалася на Вільгельма Корфа, хоць акурат ягоныя паводзіны падчас аблогі выклікалі найменей нараканьняў. Нягледзячы на гэта, на яго ўзводзілі паклёпы, ня надта выбіраючы выразы:

*Вернасьць Госпаду і Айчыне, што захоўваць мусіў,*
*ты сквапна парушыў ганебнаю здрадай.*
*Бачу, што ўсякая вернасьць вельмі сьмярдзіць для цябе,*
*можаш шыбеніцу і пекла паабяцаць сабе*[212].

Палкоўніка таксама не абмінуў працэс. 16 лістапада 1654 г. на паседжаньнях скарбовай камісіі ў Менску яго дапытвалі пра прычыны такой хуткай капітуляцыі крэпасьці. Абараняючыся, Корф прывёў сьведчаньні Абуховіча, смаленскай шляхты і сваіх падначаленых, якія прыўзносілі ягоныя заслугі і бездакорныя паводзіны падчас аблогі. Урэшце палкоўніка не асудзілі, а ягоную справу таксама адклалі да будучага сойму[213].

Узяўшы Смаленск, цар практычна атрымліваў у свае рукі тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага на ўсход ад Бярэзіны. Тут, зразумела, можна задаць пытаньне, ці магчыма было працягваць абарону. Праціўнікі абвінавачвалі Абуховіча, што ён здаў горад, нягледзячы на невялікія страты сярод залогі, і лічылі, што абаронцы «на два гады мелі правіянту, люду 2000 да бою, пораху 300 вялікіх бочак, а толькі 40 растрацілі на стрэлы»[214]. Як ведаем, гэта не адпавядала праўдзе — запасы пораху ўжо амаль скончыліся, а большасьць жаўнераў ня мела волі змагацца. Адзіны шанец давала зацягваньне абароны і перамоваў да канца кастрычніка. Заставалася невялікая надзея, што тады распачне контранаступ і прыйдзе на дапамогу літоўская армія, якая зьбіралася пад Менскам. Аднак пасьля паразы пад Шапялевічамі паўсюль панавала адчуваньне, што разьлічваць на дапамогу нерэальна, а Смаленск пакінуты на здабычу Маскові. Да таго ж застаюцца сумневы, ці даходзілі да абаронцаў зьвесткі,

[211] Ochmann-Staniszewska S. Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej... S. 234—239; Leszczyński J. Dwa ostatnie sejmy przed «potopem» szwedzkim w oczach dyplomaty cesarskiego // Śląski Kwartalnik Historyczny «Sobótka». T. XXXIX. 1975. Nr 2. S. 294—295; A. Leszczyński do Jana Kazimierza, Skierniewice 29 XII 1654. BPAN Kyr. Rkps 2649. K. 48—49.

[212] BCzart. Rkps 417. K. 149.

[213] Apologia Magnifici Domini Wilhelmi Korff...; Diariusz komisji mińskiej. BCzart. Rkps 147. Nr 139. S. 680; AVAK. T. XXXIV. Nr 19. S. 18—19; Nr 26. S. 26—28; W. Korff do F. Obuchowicza, Mińsk 7 XI 1654. BOssol. Rkps 13622/11. S. 67.

[214] List z Wilna, 20 X 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 731; [падобна] BOssol. Rkps 189/11. S. 716—717.

што Януш Радзівіл зьбірае свае аддзелы. У гэтай сытуацыі далейшы супраціў здаваўся бессэнсоўным, і абаронцы палічылі найлепшым выйсцем ганаровую капітуляцыю.

У кастрычніку спыніліся шырокамаштабныя наступальныя дзеяньні маскоўскіх войскаў. 9 кастрычніка, пасьля некалькіх тыдняў аблогі, аддзелы Аляксея Трубяцкога занялі крэпасьць у Горах, якая належала Сапегам[215]. Аж да 22 кастрычніка геройчна супраціўляліся прыдняпроўская Дуброўна, горад жмудзкага старасты Юр'я Караля Глябовіча. Ягоную залогу складала перадусім ваколічная шляхта і мяшчане, напэўна, пры падтрымцы прыблізна сотні жаўнераў з роты польскай пяхоты, пазначанай у перапісе пад імем Глябовіча[216]. Узначальваў абарону рукадайны слуга[217] гаспадара гораду, менскі мечнік Аляксандар Казімер Юзафовіч Глябіцкі. Царскія войскі вялі аблогу Дуброўны амаль тры месяцы. У кастрычніку, калі ўжо здаўся Смаленск, пад ейнымі ўмацаваньнямі стаялі з сваімі аддзеламі найлепшыя маскоўскія вайскаводцы: Якаў Чаркаскі, Аляксей Трубяцкой, Мікіта Адоеўскі, Міхаіл Цёткін-Растоўскі, Фёдар Куракін[218]. Нават даведаўшыся пра капітуляцыю Смаленску, дубровенцы ўсё роўна працягвалі супраціў. Толькі пасьля шэрагу штурмаў, калі скончыліся запасы і абаронцы панесьлі вялікія страты, Глябіцкі вырашыў распачаць перамовы аб капітуляцыі. Пасьля працяглых перамоваў царскія вайскаводцы згадзіліся на выгодныя для дубровенцаў умовы. Між іншым, ім гарантавалі, што тым, хто захоча вярнуцца ў Рэч Паспалітую, ня будуць чыніць ніякіх перашкодаў. Аднак пасьля здачы зброі выявілася, што падступны вораг, як і ў Горах, не зьбіраецца выконваць дамовы. Пад выглядам сустрэчы з царом абаронцаў вывезьлі ў Смаленск. Умацаваньні і забудову Смаленску зраўнялі зь зямлёю. Мужчынаў выслалі ў Казань, разлучыўшы іх з жонкамі і дзецьмі, якіх зьняволілі ў Смаленску[219].

Пасьля падзеньня Дуброўны маскоўская армія ваявала яшчэ два гарады. На паўночным фронце зь сярэдзіны жніўня Васіль Пятровіч Шарамецеў узяў у аблогу Віцебск, а на лініі Дняпра корпус Івана Залатарэнкі безвынікова спрабаваў здабыць Стары Быхаў, які мусіў стаць базай для далейшых дзеяньняў казакоў у Беларусі. Апрача гэтага, невялікія царскія аддзелы ваявалі ў Польскіх Інфлянтах, а казакі спрабавалі заняць тэрыторыю паміж Дняпром і Бярэзінай. Для цара Аляксея Міхайлавіча кампанія 1654 г. практычна скончылася, бо ён дасягнуў вызначаных мэтаў. Між тым насоўвалася зіма, а ў гэтую пару маскоўская армія старалася ня весьці ваенных дзеяньняў. Да працяглай вайны не былі звыклыя і аддзелы паспалітага рушаньня — па заканчэньні кампаніі іх распусьцілі па хатах.

Спыніць ваенныя дзеяньні царскую армію прымусіла і эпідэмія чумы, якая ахапіла Масковію ў жніўні-кастрычніку 1654 г. Паводле ў чымсьці непраўдападобных зьвестак расейскага гісторыка Міхаіла Гелера, ад заразы нібыта памерла ў залеж-

[215] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 47; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 105.

[216] LVIA. Fond SA. Nr 4106. K. 263.

[217] Рукадайны слуга — дваранін шляхецкага паходжаньня, які служыў на магнацкім двары. — *Рэд.*

[218] DR. T. III. S. 453—454.

[219] Testament Hlebickiego, Kazań 16 VIII 1656. RGADA. Fond 389. Nr 135. K. 540—541; List z Radoszkowic, 26 X 1654. Materyały dla historyi... T. II. S. 48—49; TE. T. VII. S. 619.

насьці ад рэгіёну ад 85 да 97 % насельніцтва[220]. Ва ўсякім разе маштаб дэмаграфічных стратаў быў вялізны. Больш як палове жыхароў давялося пакінуць сталіцу, а толькі ў Калузе лік насельніцтва зьменшыўся на 70 %[221]. Гарады бязьлюднелі ня толькі таму, што жыхароў касіла чума, але і таму, што насельніцтва пераяжджала на іншыя землі, куды не дайшоў паморак і ягоны спадарожнік голад. На дарогах шырыўся бандытызм, расла колькасьць уцеклых сялянаў. Падобна як у час Вялікай смуты, людзі страцілі адчуваньне бясьпекі і давер да ўлады, ня здольнай даць рады катаклізму. Грамадзтва напаткаў і рэлігійны крызіс, бо эпідэмію лічылі пакараньнем, спасланым Богам за рэформу традыцыйных праваслаўных канонаў, праведзеную патрыярхам Ніканам[222].

Усе гэтыя падзеі дэзарганізавалі тыл арміі, якая ваявала ў Вялікім Княстве Літоўскім. Навіны пра маштабы памору напэўна ўплывалі на настрой жаўнераў, хоць камандаваньне намагалася схаваць ад іх праўду пра падзеі ў глыбіні краю. Каб авалодаць сытуацыяй, цар мусіў адкласьці канчатковую расправу з польска-літоўскай дзяржавай да вясны 1655 г. 15 кастрычніка ён зьехаў з Смаленску ў Вязьму, куды прыбыў 31 кастрычніка[223]. 24 кастрычніка цар загадаў Хмяльніцкаму перапыніць дзеяньні ва Ўкраіне[224]. У Вязьме Аляксей Міхайлавіч заставаўся аж да лютага 1655 г. Напэўна, ён не сьпяшаўся ў сталіцу ня толькі з прычыны эпідэміі, але і таму, што непакоіўся, як сустрэнуць людзі ягонае зьяўленьне ў Крамлі.

**Разьдзел IV**

# У ЦЯНІ ПАРАЗЫ.

# АДНАЎЛЕНЬНЕ ЛІТОЎСКАЙ АРМІІ ПАСЬЛЯ ШАПЯЛЕВІЧАЎ

У час, калі маскоўскія войскі вялі аблогу яшчэ не захопленых гарадоў усходняй Беларусі, за Бярэзінай пачалося аднаўленьне арміі Вялікага Княства Літоўскага. Ужо празь некалькі дзён пасьля паразы пад Шапялевічамі тыя, здолеў ўратавацца ў бітве, сталі зьбірацца ў ваколіцах Менску. 27 жніўня сюды прыбыў Януш Радзівіл, якога

220 Heller M. Historia imperium rosyjskiego. Warszawa, 2000. S. 273.

221 Longworth P. Alexis Tsar of the All the Rusias. London, 1984. S. 100—102.

222 Иловарский Д. И. История России. Т. V. Москва, 1905. С. 137.

223 DR. T. III. S. 452—454.

224 Грушевский М. История Украины-Руси. Т. IX. Ч. 2. Киев, 1997. С. 961.

Віндава
Мітава
Біржы
Рэжыца
Люцын
Дзьвіна
Вялікія Лукі
Себеж
Невель
Белая
Друя
Азярышча
Дынабург
Дзісна
Усьвят
Вяліж
Ікаsucceeded
Полацак
Сураж
Кейданы
Вількамір
Нёман
Віцебск
Коўна
Дняпро
УСХОДНЯЯ ПРУСІЯ
Дуброўна
Смаленск
ВІЛЬНЯ
Талачын
Трокі
Ворша
Смалявічы
Барысаў
Копысь
Ашмяны
Горы
Шклоў
Амсьціслаў
Ракаў
Шапялевічы
Магілёў
Рослаў
Ліда
Бялынічы
Менск
Чавусы
Горадня
Крычаў
Наваградак
Сьмілавічы
Стары Быхаў
Сьвіслач
Мір
Новы Быхаў
Прапойск
Нясьвіж
Бярэзіна
Бабруйск
Чачэрск
Клецак
Слуцак
Старадуб
Гомель
Рэчыца
Пінск
Тураў
Мазыр

ЛЕГЕНДА
Пераход дывізіі Гасеўскага
Рух падмацаваньняў Кароны
Дзеяньні корпусу Камароўскага
Дзеяньні партыі Аскеркі
Раён збору літоўскай арміі
Значныя аблогі
Населеныя пункты, занятыя маскоўцамі і казакамі

4. Дзеяньні войскаў Рэчы Паспалітай увосень 1654 г.

правялі з поля бою праз лясы і балоты мясцовыя сяляне[225]. Тады гетман пры дапамозе Аляксандра Гіляр'я Палубінскага і Зыгмунта Слушкі распачаў зьбіраць раскіданыя аддзелы, спачатку ў Смалявічах, а пазьней у лягеры пад Сьмілавічамі. 12 верасьня ў Вільні паявіліся зьвесткі, што там стаіць 3000 войска[226]. Крыху пазьней Стэфан Мэдэкша, напэўна ўжо калі папоўніліся некаторыя аддзелы, ацэньваў колькасьць падначаленага Радзівілу войска найболей на 4000 чалавек[227].

Рэшткі літоўскай арміі былі ў жахлівым стане: «Войска няма, калі ёсьць — мізэрнае, галоднае, пазбаўленае ўсяго»[228], — пісаў да віленскага біскупа Юр'я Тышкевіча віленскі ваявода. Жаўнеры ня мелі ніякай ахвоты ваяваць далей, больш за тое, бунтавалі, патрабуючы належнай платы. Яшчэ за некалькі гадзінаў да Шклоўскай бітвы, раніцою 12 жніўня, генэральная рада пасьля перамоваў з каралеўскім пасланцом, менскім пісарам земскім Крыштапам Валадковічам, паставіла ўладам цьвёрдыя ўмовы наконт працягу службы. Жаўнеры чарговы раз пагражалі пакінуць войска, калі іхных патрабаваньняў не задаволяць па заканчэньні найбліжэйшага кварталу (9 лістапада 1654 г.)[229]. Яны чакалі паседжаньняў скарбовай камісіі, прызначанай у Менску на 3 лістапада, і абураліся, што дзяржаўныя грошы выдаткоўваюцца на вэрбоўку новых жаўнераў, між тым як бракуе сродкаў, каб задаволіць прэтэнзіі старых[230]. Таму зусім не зьдзіўляюць нараканьні Радзівіла, што войска «страціла надзею атрымаць сваю плату, а непакорныя правінцыі, адкуль прапала найбольш падаткаў, яшчэ нешта і атрымліваюць»[231]. У гэтай сытуацыі не магло быць і гутаркі пра ніякі наступ, каб дапамагчы крэпасьцям, што трымалі варожую аблогу.

Адразу пасьля паразы пад Шапялевічамі ліцьвіны вельмі баяліся, што Масковія рушыць далей на захад, і вельмі зьдзівіліся, калі царскія войскі спыніліся на ўсход ад Бярэзіны. 8 верасьня Януш Радзівіл пісаў віленскаму біскупу: «*Interim* (тым часам) яшчэ нешта дзіўнае робіць Бог, што непрыяцель *non persequitur victoriam* (не выкарыстоўвае перамогі) і не ідзе ўглыб, хоць бы і пад Варшаву, а хто б яму аказаў супраціў?»[232] Разумеючы, што край застаўся практычна безабаронны, гетман паклапаціўся пра ўласны маёнтак, распарадзіўся наконт магчымай эвакуацыі рухомай маёмасьці і бібліятэкі з Кейданаў і Краснага Двара[233]. Ён стараўся таксама закрыць пераправы цераз Бярэзіну, даслаўшы пад Ігумен на тракт з Бабруйску ў Менск тры роты вугорскай пяхоты на чале з Самуэлем Янам Юшкевічам[234]. Радзівіл непакоіўся, што Хмяльніцкі можа пайсьці на Палесьсе, тым болей калі пад Менск даходзілі весткі,

[225] Z obozu litewskiego, Mińsk 4 1X1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 76—76v; J. Mierzeński do S. Korycińskiego, Wilno 30 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 126—127.

[226] List z Wilna, 12 IX 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 129.

[227] Medeksza S. Księga Pamiętnicza... S. 1.

[228] J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, Mińsk 8 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 78v.

[229] Źródła do dziejów Polski... S. 150—153.

[230] B. Radziwiłł do S. Korycińskiego, Kopyl 9 IX 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 128.

[231] J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, Mińsk 8 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 78v.

[232] Тамсама. S. 78.

[233] J. Radziwiłł do W. Kochańskiego, Mińsk 12 XI 1654 // ASD. T. VIII. Wilno, 1870. S. 370—372.

[234] AJZR. T. XIV. S. 331—332; J. Radziwiłł do K. Stryżki, Kojdanów 18 IX 1654; Kotłubaj E. Życie... S. 373.

што казакі рушаць на Тураў і Давыд-Гарадок, а адтуль мусяць наступаць на Пінск, Берасьце і Слуцак[235]. Каб выведаць намеры ворага на гэтым кірунку, у бок Гомеля накіраваўся моцны разьезд пад кіраўніцтвам Зыгмунта Слушкі, які, аднак, ня меў на сваім рахунку ніякіх посьпехаў у баях з праціўнікам[236].

Тым часам у лягер пачалі пакрысе прыбываць падмацаваньні з глыбіні краю. Нарэшце ўдалося арганізаваць аддзелы новага набору. Згодна зь перапісам, яны налічвалі 5450 коней і порцыяў, г. зн. каля 5000 жаўнераў у трох гусарскіх харугвах (440 коней), дзесяць казацкіх (1180), чатыры татарскія (450), шэсьць рэйтарскіх (920), дзесяць драгунскіх (1560), полк нямецкай пяхоты (600 порцыяў) і полк польскай пяхоты (300)[237]. Стварыць гэтыя адзінкі плянавалася яшчэ вясною, але праз зрыў сойму ў сакавіку іхная грунтоўная арганізацыя распачалася толькі ў ліпені.

Набор гэтых аддзелаў — пераважна з ваколіцаў Вільні — ішоў марудна. Не ставала грошай, каб выплаціць аванс у лік платы новым жаўнерам, бракавала дасьведчаных людзей, каб весьці набор. У сталіцу Вялікага Княства Літоўскага доўга не прыяжджаў адказны за арганізацыю новых адзінак Вінцэнт Корвін Гасеўскі. У паведамленьні ад 8 жніўня чытаем: «Пана палявога гетмана не відаць, і мы маем зьвесткі, што ён сядзіць яшчэ ў Варшаве; а калі б быў у Вільні, меў бы цяпер некалькі тысячаў нямецкага жаўнера, бо шмат афіцэраў прыехала на службу, якія маюць гатовы люд, патрабуюць толькі грошай»[238]. Насуперак прыведзеным у некаторых ранейшых дасьледаваньнях зьвесткам, Гасеўскі ня браў удзелу ў бітве пад Шапялевічамі, бо толькі 24 жніўня зьявіўся ў Вільні. Зразумела, тады было ўжо занадта позна, каб падтрымаць аддзелы Януша Радзівіла, якія абаранялі ўсходнюю Беларусь[239]. Падскарбі знаходзіўся ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага да 12 верасьня, а потым рушыў на чале сабраных аддзелаў у бок Менску[240]. Іхная колькасьць значна розьнілася ад закладзенага ў перапісе — яны налічвалі ня больш за 3000 чалавек. Увесну 1655 г. Януш Радзівіл згадваў, што «новых набораў яшчэ па 2000 застаецца на воласьці»[241]. Увогуле, паводле ацэнак падканцлера Кароны Андрэя Трабіцкага, у першай дэкадзе кастрычніка ўся літоўская армія мела каля 8000 жаўнераў[242].

У верасьні на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага ўвайшлі падмацаваньні Кароны. Іхная адсутнасьць падчас летняй кампаніі напэўна сталася адной з прычынаў паразы. Літоўская армія ад пачатку XVI ст. не магла самастойна даць рады маскоўскім наездам, а значных посьпехаў у змаганьні з усходнім суседам дасягалі толькі

[235] J. Radziwiłł do K. L. Sapiehy, Kojdanów 3 X 1654. BCzart. Rkps 917. S. 1354.

[236] Rachuba A. Słuszka Zygmunt Adam // PSB. T. XXXIX. 1999. S. 153. Напэўна, у гэтых дзеяньнях брала ўдзел коньніца з палка прыдворных харужых (630 коней): APKr. Zb. Rus. Nr 70. S. 129.

[237] Kotłubaj E. Dzieje wojenne Polski.... T. I. BPAN Kr. Rkps 1404. T. I. S. 154—156. Аўтар, напэўна, абмінуў у сваіх падліках адну казацкую харугву, бо побач ён піша пра 11 казацкіх харугваў і 5600 коней і порцыяў.

[238] List z Wilna, 8 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 111.

[239] Kotłubaj E. Galeria nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857. S. 150; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 195.

[240] List z Wilna, 12 IX 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 129.

[241] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 132.

[242] A.Trzebicki do A. Leszczyńskiego, Grodno 11 X 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 61. S. 133.

аб'яднаныя сілы Рэчы Паспалітай. Ад самага пачатку канфлікту з Масковіяй у Варшаве выдатна ведалі, што ў Літву трэба даслаць адзінкі арміі Кароны. Ужо на пачатку 1654 г. мы чуем пра пляны накіраваць пэўныя аддзелы ў Вялікае Княства[243]. Гэтую тэму ўзьняў у лісьце да караля ад 15 сакавіка палявы гетман Кароны Станіслаў Рэвэра Патоцкі. Ён прапаноўваў склікаць на вайну з Масковіяй 36 000 войска, зь якіх 10 000 мусілі рушыць на дапамогу Радзівілу[244]. Праз складаную сытуацыю ва Ўкраіне, а таксама ўнутраныя праблемы канкрэтныя рашэньні былі прынятыя толькі ў ліпені. Першым загад на выступленьне атрымаў ужо згаданы пяхотны полк Багуслава Радзівіла. Напэўна, ён зьявіўся пад Менскам разам з сваім намінальным кіраўніком у апошнія дні жніўня[245]. Фактычна камандаваў палком обэрштэрлейтэнант Вільгельм Патэрсан, у тым часе прызначаны губэрнатарам Слуцку — прыватнай крэпасьці Радзівілаў, якая пасьпешліва рыхтавалася супрацьстаяць царскім войскам. У наступныя месяцы Патэрсан кіраваў там работамі ў аднаўленьні фартыфікацыяў. Між тым у Слуцку за вельмі кароткі час збудавалі цытадэль. Намесьнікам Патэрсана стаў Ян Бэрк, які адначасова быў обэрштэрам іншага пяхотнага палка, што пакуль заставаўся ў складзе арміі Кароны[246].

Большая частка корпусу выправілася на ўсход, напэўна, у пачатку верасьня. Яшчэ 30 жніўня пра іхны рух нічога ня ведаў Гасеўскі, які знаходзіўся ў Вільні[247]. Войска ішло вельмі марудна. 12 верасьня зь Вільні пісалі: «Маю зьвесткі, што адны каля Горадні, а другія каля Мастоў, аднак не абяцаюць зьявіцца ў Менску нават праз два тыдні. Добра Ваша Мосьць Пан маеш ласку пісаць, што ў вёсках і мястэчках яны бавяцца, як вераб'і на каноплях»[248]. Яшчэ праз два тыдні нейкія аддзелы арміі Кароны знаходзіліся ў Жамойці. Як наракаў віленскі падваявода Павел Марцінкевіч, замест таго, каб ісьці ў лягер, яны, галоўным чынам, займаліся рабункамі сярод мясцовага насельніцтва[249]. Магчыма, частка адзінак, асабліва гвардыя, суправаджала караля на шляху ў Горадню — там ён меўся сустрэцца зь літоўскімі сэнатарамі[250]. Таму толькі ў другой палове кастрычніка ўсе аддзелы арміі Кароны сабраліся пад Менскам.

[243] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 178.

[244] S. Potocki do Jana Kazimierza, Podhajce 15 III 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 102. S. 524.

[245] 30 жніўня канюшы быў у Копылі: B. Radziwiłł do B. Olszewskiego. AGAD. AR. Dz. IV. Teka 9. Kop. 89. Nr 1090.

[246] Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła // Autobiografia Bogusława Radziwiłła. S. 45, 47; Nagielski M. Gwardia przyboczna i komputowaza dwóch ostatnich Wazów (1632—1668). T. II. Warszawa, 1981. S. 454 [машынапіс кандыдацкай дысэртацыі ў IHUW (Інстытуце гісторыі Варшаўскага ўнівэрсытэту)].

[247] W. Gosiewski do S. Korycińskiego, Wilno 30 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 127—128.

[248] List z Wilna, 12 IX 1654 // Ojczyste spominki... T. I. S. 128. На марудны рух аддзелаў наракаў таксама кароль у лісьце да К. Л. Сапегі: Warszawa 18 IX 1654. AGAD. Nabytki Kolekcjonerskie. Nr 59.

[249] List z Wilna od podwojewodziego wileńskiego, 26 IX 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 728; K. L. Sapieha do A. H. Połubińskiego, Grodno 9 XI 1654. BCzart. Rkps 2749. Nr 93. S. 337.

[250] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 184. Ян Казімер 3 кастрычніка праяжджаў праз Саколку на Падляшшы, потым некалькі дзён знаходзіўся ў Новым Двары, а ў Горадні зьявіўся сама позна 15 кастрычніка (RGADA. Fond 389. Nr 129. S. 507—510; Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 435).

Дагэтуль гісторыкі вельмі па-рознаму ацэньвалі колькасьць падмацаваньняў Кароны[251]. Уважлівы аналіз крыніцаў дазваляе назваць лічбу 5800—6000 коней і порцыяў, г. зн. 5300—5400 жаўнераў. У баях на тэрыторыі Вялікага Княства напэўна ўдзельнічалі два палкі пяхоты — Багуслава Радзівіла і каралеўскай гвардыі (на чале з Фромгальдам Вольфам), два палкі драгуноў — Людвіка Вэйгера і Фрыдэрыка Моля (гвардыя), пяць палкоў — Гэнрыка Валенрода (гвардыя), Салямона Закена, Тэадора Лескванта, Якуба Вэйгера, Зыгмунта Дэнгофа, а таксама I рэйтарская рота (Багуслава Ляшчынскага) і шэсьць татарскіх харугваў — прыдворная каралеўская Мурзы Багдановіча, Мустафы Судыча, Галембэка Мараўскага, Адама Фалькоўскага, Яна Сядлецкага і Адама Тарашэўскага[252]. У чацьвертым квартале 1654 г. гэтыя аддзелы налічвалі 5792 коні і порцыі. Вельмі магчыма, што ў склад дапаможнага корпусу ўваходзілі таксама дзьве татарскія харугвы Багдана Мурзы і Мікалая Пагойскага, што разам давала б каля 6000 коней і порцыяў[253].

Увогуле ў вайне з Масковіяй на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўдзельнічала каля 20 % арміі Кароны. У чацьвертым квартале 1654 г. яна налічвала 31 333 кані і порцыі, зь якіх ва Ўкраіне ваявала каля 22 000—23 000. Пагроза на паўднёвым флянгу не дазваляла выслаць больш сілаў на дапамогу ліцьвінам. Падмацаваньні Кароны, нягледзячы на нешматлікасьць, значна павысілі баяздольнасьць арміі Януша Радзівіла. Пра тое, якое вялікае значэньне надавалася належнаму ўмацаваньню літоўскай арміі, сьведчыць факт, што ў склад корпусу ўвайшла большая частка кампутовай каралеўскай гвардыі — найлепш вывучаныя і ўзброеныя палкі ва ўсёй арміі Кароны. Полк Вольфа, аднаўлены пасьля пілаўскай паразы, між іншым, адыграў важную ролю ў трэцім дні бітвы пад Берастэчкам 30 чэрвеня 1651 г. Адборнымі адзінкамі лічыліся таксама палкі Моля і Валенрода, створаныя ў ходзе рэарганізацыі войска пасьля паразы пад Батогам у другой палове 1652 г.[254].

Менавіта на гэтыя падразьдзяленьні, а таксама на пяхотныя палкі Багуслава Радзівіла і драгуноў Людвіка Вэйгера ўскладаўся цяжар ваенных дзеяньняў у наступныя месяцы. З увагі на іхны характар (галоўным чынам аблогі), пяхота і драгуны адыгрывалі нашмат большую ролю, чым харугвы коньніцы. Увосень 1654 г. гэтыя два віды войскаў у літоўскай арміі знаходзіліся ў вельмі кепскім стане. З палкоў нямецкай пяхоты, пазначаных у перапісе, толькі полк Юр'я Нямірыча выяўляў поўную баяздольнасьць. Не былі аднаўленыя адзінкі, што баранілі Смаленск, а полк Януша Радзівіла, выразаны пад Шапялевічамі, заставаўся недаўкамплек-

[251] Параўн. падлікі: Wimmer J. Wojsko i finanse... S. 53 [i] Wisner H. Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła // Rocznik Białostocki. T. XIII. 1976. S. 104; Janusz Radziwiłł... S. 188.

[252] BCzart. Rkps 148. Nr 191. S. 905; Nr 192. S. 911; AGAD. ASW. Dz. 85. Nr 72. S. 107—111, 175—176; L. Weyher do K. L. Sapiehy, Barszten (?) 18 X 1654. LwNB. Fond 103. Nr 1650; Wimmer J. Wojsko polskie... S. 90. Падрабязьней гл.: Bobiatyński K. Działania posiłkowego korpusu....

[253] Wimmer J. Materiały do zagadnienia organizacja i liczebności armii koronnej w latach 1648—1655 // SMHW. T. V. 1960. Непранумараваныя старонкі.

[254] Nagielski M. Przeobrażenia w armii koronnej w dobie walk z powstaniem B. Chmielnickiego // Między Zachodem a Wschodem. Studia z dziejów Rzeczypospolitej w epoce nowożytnej. Toruń, 2002. S. 318, 322, 325.

таваны[255]. Полк генэрала артылерыі Мікалая Юдыцкага, створаны з новага набору, напэўна ня ўзьнік да вясны 1655 г., і вельмі праўдападобна, што ўвогуле ня выйшаў на службу[256]. Крыху лепшая сытуацыя была з драгунамі. Да канца 1654 г. іх набралі каля 3000, але полк стрыечніка палявога гетмана Мацея Гасеўскага, што мусіў налічваць цэлых 1000 порцыяў[257], ня быў сфармаваны.

Варта зазначыць, што ў склад корпусу, скіраванага на дапамогу літоўскаму войску, увайшлі ўсе рэйтарскія часьці арміі Кароны. Літоўскіх рэйтараў на той час практычна не існавала, бо палкі старога набору былі зьнішчаныя пад Шапялевічамі, а аддзелы новага набору яшчэ толькі арганізоўваліся. У студзені 1655 г. частка палка Вінцэнта Гасеўскага на чале з Крыштапам Гротузам знаходзілася на тэрыторыі Жамойці[258].

Літоўскую армію падтрымала таксама большасьць зь дзесяці конных татарскіх харугваў, незаменных цягам наступных месяцаў у шматлікіх дывэрсіях у тыле ворага, асабліва для зьнішчэньня ягоных камунікацыяў.

Вялікае Княства Літоўскае мабілізавала на вайну з Масковіяй ня толькі наёмныя войскі. На падставе асобнай пастановы сойму кароль мусіў склікаць паспалітае рушаньне. Ужо 28 ліпеня ягоная канцылярыя выдала ўнівэрсал на першыя і другія, а празь некалькі тыдняў і на трэція віці *[260]. Тэарэтычна, у выніку кампутовая армія мелася павялічыцца прыкладна на 23 000 чалавек[261]. Зразумела, на практыцы мабілізаваць столькі людзей было немагчыма, а іхная нізкая баяздольнасьць увогуле выклікала пытаньне, ці ёсьць сэнс у іхнай мабілізацыі. Больш за тое, паны-брацьця зусім не сьпяшаліся на дапамогу арміі Януша Радзівіла. Ян Казімер, выпраўляючыся ў канцы верасьня ў Горадню, лічыў, што адной з мэтаў ягонага падарожжа было, каб «паспалітае рушаньне, дагэтуль *in confusum* (расьцярушанае), можна было прывесьці ў добры стан»[262]. Падобная інфармацыя зьмешчаная ў ананімнай газэтцы таго пэрыяду: «Сюды адтуль унівэрсалы на трэція

[255] Хоць фігуруе ў колькасьці 1050 порцыяў у пераліку адзінак вялікага гетмана, якія служылі ад 9 лістапада 1654 г. да 9 жніўня 1655 г. (Rachunek Sławnej Pamięci Jaśnie Oświeconego Księcia JM Pana wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego Wielkiego Księstwa Litewskiego, o zasługi ludzi Księcia JM z skarbu Rzeczypospolitej Wielkiego Księstwa Litewskiego winne, doskonale sporządzony. AGAD. AR. Dz. XI. Nr 39. S. 124—125).

[256] У 1662 г. ён атрымаў плату толькі за адзін квартал (LVIA. Fond SA. Nr 4106. K. 260).

[257] Толькі ўвесну 1655 г. у ягоных шэрагах мусіла быць 800 жаўнераў (J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1043).

[258] LNB. PR 727. Nr 42. K. 118—119, 122—123. З 474 рэйтараў палка палявога гетмана, прадугледжаных прыпаведным лістом, у лістападзе 1654 г. у лягеры пад Менскам зьявілася толькі 224 (BCzart. Rkps 121. Nr 151. S. 578).

* Лазовыя пруткі або пучкі вяровак, якія рассылаліся рыцарам як позва зьявіцца на ваенную выправу, пазьней — каралеўскія ўнівэрсалы, якія склікалі паспалітае рушаньне. — *Перакл.*

[260] AVAK. T. XXXIV. Nr 11. S. 10—11; Nr 12. S. 11—13; VL. T. IV. S. 216.

[261] Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965. S. 136.

[262] Jan Kazimierz do K. L. Sapiehy, Warszawa 18 IX 1654. AGAD. Nabytki Kolekcjonerskie. Nr 59.

віці ў Літву пайшлі, але шляхта літоўская ня хоча кранацца зь месца, ажно каб сам Кароль Я[го] М[осьць] прынамсі ў Горадні зьявіўся»[263].

Зрэшты сойм, разумеючы, што шляхта ня хоча асабіста зьяўляцца ў лягер, пакінуў паасобным ваяводзтвам і паветам свабоду выбіраць, як удзельнічаць у вайне з Масковіяй. Неўзабаве высьветлілася, што толькі Берасьцейскае ваяводзтва і Пінскі павет з увагі на неабходнасьць бараніць паўднёвыя межы Вялікага Княства ад казакоў з Украіны вырашыліся выступіць у форме традыцыйнага паспалітага рушаньня — зьезду ўсіх грамадзянаў, абавязаных да службы ці вызначаных імі намесьнікаў пад харугвай пэўнай зямлі[264]. Часам шляхта спачатку зьяўлялася асабіста, але потым разьяжджалася па дамох. У Віленскім ваяводзтве зь ліпеня да кастрычніка грамадзяне служылі ў некалькіх харугвах паспалітага рушаньня (у верасьні іх было пяць), але пазьней вырашылі прыняць падатак, зь якога меркавалася аплаціць 120 рэйтараў[265]. Яны ўтваралі павятовую харугву, выстаўленьне якой вызваляла шляхту гэтага ваяводзтва ці павету ад абавязку асабіста ўдзельнічаць у ваеннай выправе.

Увосень 1654 г. пад уражаньнем паразы пад Шапялевічамі соймікі Вялікага Княства пастанавілі, каб кожны павет, які ня выставіў паспалітага рушаньня, выправіў чатыры харугвы: гусарскую, казацкую, рэйтарскую і пяхотную[266]. З разьліку сто чалавек на харугву іхны агульны лік мусіў складаць 8000 жаўнераў. Зразумела, з многіх прычынаў, найперш таму, што маскоўскія войскі занялі ці спустошылі некалькі ваяводзтваў, склікаць пад зброю столькі людзей было нерэальна. Больш за тое, у асобных паветах рашэньні склікаць канкрэтныя аддзелы прымаліся ў розны час, і таму колькасьць выстаўленых харугваў увесь час зьмянялася. Калі канчаўся тэрмін найму пэўнай часьці, яна часта распускалася, і толькі пасьля прыняцьця новага *laudum*[267] можна было яе наноў арганізаваць. Шмат якія пастановы соймікаў прымаліся праз некалькі месяцаў па заканчэньні сойму, што дадаткова затрымлівала мабілізацыю. Альбрыхт Станіслаў Радзівіл адзначаў у сваіх мэмуарах ад 9 верасьня 1654 г.: «Адбыліся соймікі ў Літве. У Коўне, дзе я быў у справе паспалітага рушаньня, выставілі сто гусараў і казакоў, якіх, аднак, выправілі толькі на чацьверты месяц; у пэўных іншых месцах зрабілі гэтак сама»[268].

Шляхта часта прамаруджвала з выплатай ухваленых на набор сумаў або ня мела дастаткова грошай, каб хутка экіпаваць дарагія аддзелы. Жаўнеры, якія служылі ў іх, атрымлівалі значна вышэйшую плату, чым аналягічныя рэгулярныя адзінкі. Ваўкавыскі павет у верасьні 1654 г. плаціў коньніку казацкай харугвы 150 злотых за квартал разам з хлебнымі, тады як прафэсійны жаўнер гэтага фармаваньня мог

[263] BCzart. Rkps 147. Nr 63. S. 319.

[264] Jan Kazimierz do A. S. Radziwiłła, Warszawa 6 VII 1654. AGAD. APP. Nr 7. T. III. S. 14—15; AVAK. T. XXXIV. Nr 13. S. 13—14; Nr 15. S. 14—15; Nr 17. S. 16—17. У 1655 г. пра выстаўленьне паспалітага рушаньня заявіў таксама Браслаўскі павет (BCzart. Rkps 148. Nr 191. S. 908).

[265] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 190—202.

[266] Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. 1. S. 113; AJZR. T. XIV. S. 331—332.

[267] Ухвала земскіх соймікаў, якая мае заканадаўчую моц і без зацьверджаньня каралём. — *Перакл.*

[268] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 434; пра падобную праблему таксама мы чытаем у *laudum* Слонімскага павету ад 28 лістапада 1654 г.: BCzart. Rkps 147. Nr 144. S. 697—699.

разьлічваць толькі на 41 злоты асноўнай платы зь невялікімі дадаткамі. Напэўна, яшчэ вышэйшай была плата ў іншых паветах, дзе гусар нібыта атрымліваў штоквартальна 300 злотых, а казак — 200 злотых[269]. Таму часта прынятыя абавязаньні пераўзыходзілі фінансавыя магчымасьці шляхты. У Лідзкім павеце часткова спагналі грошы, каб выставіць дзьве адзінкі, толькі ў красавіку 1655 г., хоць іх трэба было сплаціць ужо ўвосень папярэдняга году[270]. Падобныя выпадкі таксама мелі месца ў Віленскім ваяводзтве і Жмудзкім старастве[271]. Зрэшты, жаўнеры, даведзеныя да адчаю адсутнасьцю належнай платы і, магчыма, не спадзеючыся атрымаць яе, самі бралі заробак маёмасьцю, што дадаткова затрымлівала іх на шляху ў лягер[272].

Нягледзячы на такую высокую плату, літоўскія павятовыя харугвы ня мелі ў вачах сучасьнікаў занадта высокай рэпутацыі. Адрозна ад Кароны, дзе іх рэкрутавалі найчасьцей з былых жаўнераў, у Вялікім Княстве, дзе з 1648 г. не хапала сталых узброеных сілаў, амаль не было войскаў пры дварох магнатаў, а значыць, былі меншыя рэзэрвы вэтэранаў і незанятых прафэсійных вайскоўцаў. На службу часта прымалі шляхту безь ніякага баявога досьведу. Гэтымі адзінкамі камандаваў ротмістар, не абавязкова з афіцэрскім стажам, якога абіраў соймік зь ліку мясцовых грамадзянаў. Часта гэтыя харугвы абаранялі толькі пэўны павет, а каб аддаць іх пад каманду гетмана, патрабавалася адмысловая згода шляхты[273].

У 1654 г. надзвычай цяжкая ваенная сытуацыя прымусіла шляхту пагадзіцца падпарадкаваць павятовыя харугвы Радзівілу. Але, нягледзячы на гэта, Радзівіл ня меў практычна ніякай магчымасьці затрымаць пэўную адзінку ў лягеры па сканчэньні тэрміну службы.

Здараліся таксама выпадкі, калі харугва прыбывала ў лягер у няпоўным складзе, які часам істотна розьніўся ад вызначанага пастановай сойміку. Перапісаная 23 сьнежня 1654 г. казацкая харугва Ваўкавыскага павету на чале зь мясцовым старастам Янам Трызнам замест 100 коней налічвала толькі 58. Больш за тое, перад палявым пісарам не зьявіўся сам ротмістар, а частка коньнікаў уцякла з сваімі слугамі перад перапісам, забраўшы раней грошы[274].

У выніку да канца 1654 г. удалося выставіць толькі 2000 павятовых жаўнераў[275]. Да галоўнага лягеру дайшлі ўсяго некалькі харугваў. У напісаным пад канец ліста-

[269] Laudum powiatu wołkowyskiego z 9 IX 1654. AGAD. AR. Dz. II supplement. Nr 543; J. Mierzeński do Leszczyńskiego, Mińsk b. d. BCzart. Rkps 417. K. 152.

[270] AGAD. AR. Dz. II. Nr 1294, 1296, 1298.

[271] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 202; Źródła do dziejów... T. I. S. 154.

[272] Uniwersał Jana Kazimierza do szlachty, Grodno 31 X 1654. LVIA. Fond 1275. Opis 1. Nr 608.

[273] Rachuba A. Siły zbrojne Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVII wieku // Przegląd Wschodni. T. III. Z. 3. 1994. S. 393; Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. 1. S. 107—112.

[274] AGAD. AR. Dz. X. Nr 220b; пра гэтую праблему пісаў таксама кароль К. Л. Сапегу: Sowia Wola 23 I 1655. AGAD. Nabytki Kolekcjonerskie. Nr 59.

[275] Listy do prymasa od A. Trzebickiego, Grodno 11 X 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 61. S. 133 [i] J. Mierzeńskiego, Mińsk b. d. BCzart. Rkps 417. K. 152. Найбольшай колькасьці павятовыя харугвы дасягнулі ў першай палове 1655 г., калі пад зброяй было 3125 чалавек, зь якіх 2825 выставілі паветы, а 300 чалавек у павятовых харугвах — ураднікі (пералік адзінак: BCzart. Rkps 148. Nr 191. S. 907—909).

пада лісьце Ян Мяжэнскі паведамляў, «што з усяго гэтага набору адна гусарская харугва ашмянская, другая казацкая троцкая ў лягер прыйшлі, іншых не відаць і ня чуць»[276]. Перад паходам галоўнай арміі супраць аддзелаў Івана Залатарэнкі ейныя шэрагі папоўнілі яшчэ некалькі адзінак, у тым ліку гусарскія харугвы Навагрудзкага ваяводзтва і Жмудзкага стараства. Рэшта павятовых харугваў ваявала на менш важных адрэзках фронту, засланяючы Вільню ад вылазак маскоўскіх гарнізонаў з раёну Полацку і абараняючы Дзьвінск.

Хоць павятовыя жаўнеры былі ня надта падрыхтаваныя, яны ўсё ж значна пераўзыходзілі традыцыйнае паспалітае рушаньне. Таму трэба прызнаць, што лепш было выставіць іх, чым склікаць пад зброю ўсіх абавязаных да службы жыхароў Вялікага Княства Літоўскага.

Увосень 1654 г. у лягер зьявіліся таксама прыватныя аддзелы наймагутнейшых літоўскіх магнатаў — Радзівілаў і Сапегаў. Толькі гэтыя дзьве сям'і маглі выставіць уласныя харугвы. Зрэшты, пазьней, каб перакласьці іхнае ўтрыманьне на дзяржаўную казну, некаторыя іхныя камандзіры, як правіла, стараліся ўключыць прыватныя аддзелы ў рэестар. Між іншага, часта завышаўся склад паасобных адзінак, каб прысвоіць частку выдаткаваных сродкаў. У такіх махінацыях абвінавачвалі і Багуслава Радзівіла, які, паводле сьведчаньняў Тадэвуша Васілеўскага, у 1651—1652 гг. абакраў казну на значныя сумы[277]. Ня ведаем, ці здаралася нешта падобнае падчас набораў 1654 г. А яны былі немалыя, бо пад імем канюшага, апроч палка пяхоты з арміі Кароны, выступаў таксама шэраг іншых адзінак: полк драгуноў, рота польскай пяхоты, казацкая і рэйтарская харугвы[278]. Разам гэтыя аддзелы налічвалі каля 2000 жаўнераў.

Уласныя харугвы, прызначаныя папоўніць войскі новага набору, прыслаў у лягер пад Менск яшчэ адзін Радзівіл — літоўскі краўчы Міхал Казімер. Сын памерлага 23 сакавіка 1654 г. літоўскага маршалка Аляксандра Людвіка, ён прэтэндаваў на ролю лідэра нясьвіскай галіны роду. Набор на вайну з Масковіяй стаўся для гэтага маладога, яшчэ толькі 19-гадовага магната дэбютам у палітычнай дзейнасьці. Вярнуўшыся ў чэрвені ў Літву пасьля году ў Італіі, Міхал Казімер амаль адразу ўключыўся ў падрыхтоўку краіны да абароны[279]. Ужо ў ліпені ён пачаў набіраць пяхоту і драгуноў, якія мусілі складаць залогу Нясьвіжу. Неўзабаве ён атрымаў ад Януша Радзівіла два прыпаведныя лісты[280] для набору харугвы коньніцы — гусарскай і казацкай[281]. Жаўнераў у гэтыя адзінкі Радзівіл вэрбаваў, галоўным чынам, на Падляшшы пры пасярэдніцтве свайго даверанага слугі, берасьцейскага падсудка Марціна Бухавецкага. На жаль, як звычайна, бракавала наяўных грошай, былі таксама вялікія праблемы з закупам узбраеньня для гусараў. Апроч таго, рэкруты без гаран-

[276] J. Mierzeński do A. Leszczyńskiego, Mińsk b. d. BCzart. Rkps 417. K. 152.

[277] Zarys dziejów... S. 44.

[278] BPAN Kr. Rkps 1404. T. I. S. 151—154; Rkps 1404. T. III. S. 134—137.

[279] Jaroszuk J. Radziwiłł Michał Kazimierz // PSB. T. XXX. 1987. S. 292—293.

[280] Ліст, які давернік, напр. кароль, князь, горад, дае вайскаводцу з дазволам на вэрбаваньне з акрэсьленай мэтай. — *Перакл.*

[281] Захаваўся таксама ліст на набор 120 гусарскіх коней ад 5 жніўня 1654 г. зь лягеру пад Воршай (AGAD. AR. Dz. II. Nr 1287).

тыі грашовага авансу ў кошт платы не сьпяшаліся ісьці на службу. Каб атрымаць патрэбныя сродкі, Міхал Казімер Радзівіл быў вымушчаны аддаць некалькі фальваркаў у арэнду мясцовай шляхце і габрэям, як правіла, за сумы, значна меншыя за магчымыя даходы ад гэтых маёнткаў[282]. З усіх гэтых прычынаў абедзьве харугвы зьявіліся ў лягеры пад Менскам досыць позна. Як вынікае зь перапісу гусараў, праведзенага 21 верасьня, не хапала шмат коньнікаў. Напэўна, каб папоўніць шэрагі, харугву даслалі ў раён Наваградку і Ліды, і 26 кастрычніка Януш Радзівіл загадаў ёй як мага хутчэй прыбыць адтуль пад Менск[283]. Напэўна, з сваімі падначаленымі ў лістападзе да арміі далучыўся і Міхал Казімер Радзівіл.

Значныя сілы на вайну з Масковіяй выставілі таксама Сапегі — гэтая сям'я лічылася тады найбагацейшай у Літве. Галава роду, літоўскі падканцлер Казімер Лявон ужо раней за 13 ліпеня пакінуў сойм у Варшаве і накіраваўся на тэрыторыю Вялікага Княства, каб падрыхтаваць свае ўласныя мястэчкі да абароны[284]. Аднак большасьць зь іх: Горы, Іказьнь і Друя (Сапежын) — трапіла ў рукі маскоўскіх войскаў у чэрвені—кастрычніку 1654 г. Зацяты супраціў аказвала толькі наймагутнейшая сапегаўская крэпасьць Стары Быхаў, якую ад пачатку верасьня асаджаў корпус Івана Залатарэнкі. Падканцлер стварыў у горадзе моцную залогу, не было недахопу ў ваенным рыштунку, што дазволіла пасьпяхова адбіваць атакі казакоў. Маючы вялікія грашовыя сродкі, Сапега ўзяўся таксама фармаваць палявыя аддзелы. Сам кароль схіляў яго хутка наняць жаўнераў, жадаючы, каб Сапега падтрымаў сваімі харугвамі рэестравае войска[285]. Вэрбоўкай кіраваў далёкі сваяк Казімера Лявона, віцебскі ваявода Павал Ян, які ў мінулым ужо адказваў за набор у харугвы падканцлера падчас кампаніі ва Ўкраіне[286]. Дакладную колькасьць выстаўленых у 1654 г. Сапегам адзінак нялёгка вызначыць — ягоны прыватны полк не ўключаўся ў перапіс і не фігуруе ў вайскова-скарбовых актах. Кахоўскі піша, што ўвосень 1654 г. Павал Ян Сапега мусіў прыбыць на збор у Горадню разам з 2000 чалавек[287]. Аднак меркаваць на гэтай падставе пра колькасьць прыватных аддзелаў Сапегі ўсё ж немагчыма, тым больш што застаюцца сумневы, ці быў сам віцебскі ваявода ў Горадні[288]. Затое сапегаўскія адзінкі мы сустракаем у двух недатаваных пераліках, што паходзяць з 1655 г. У адным зь іх фігуруе гусарская харугва Паўла Яна, у другім пад імем падканцлера зьяўляюцца тры харугвы драгуноў, адна казакоў, а таксама кампанія польскай пяхоты[289]. Разам колькасьць палка не перавышала 1000 чалавек.

[282] Listy M. K. Radziwiłła do M. Buchowieckiego z VIII 1654 roku [тры]. AGAD. AR. Dz. IV. T. 26. K. 361; listy M. Buchowieckiego do M. K. Radziwiłła z okresu VI—IX 1654 r. [шэсьць]. AGAD. AR. Dz. V. Nr 1569.

[283] AGAD. AR. Dz. II. Nr 1293; Dz. VII. Nr 227.

[284] Jan Kazimierz do A. S. Radziwiłła, Warszawa 13 VII 1654. BOssol. Rkps 2280/I. K. 271v. У жніўні падканцлер знаходзіўся ў ваколіцах Наваградку, найперш у сваім маёнтку Волпе. (APKr. Pinoc, nr IT 363. S. 1111—1112).

[285] Jan Kazimierz do K. L. Sapiehy, Warszawa 21 VIII 1654. AGAD. Nabytki Kolekcjonerskie. Nr 59.

[286] Rachuba A. Sapieha Paweł Jan // PSB. T. XXXV. 1994. S. 138—139.

[287] Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 184—185.

[288] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002. S. 286.

[289] BCzart. Rkps 148. Nr 191. S. 906; BCzart. Rkps 2749. Nr 112. S. 407—410.

Хоць Сапегаў з Радзівіламі здаўна падзялялі самыя розныя канфлікты, а ў апошні час паміж імі ўзьнікла няпрыязь праз новыя прызначэньні гетманаў, аднак Казімер Лявон аддаў свае харугвы пад каманду Януша Радзівіла. Сапега выдатна ўсьведамляў, што ягоныя нешматлікія аддзелы ня здолеюць ні дапамагчы залозе Старога Быхава, ні забясьпечыць належную абарону прыдняпроўскіх уладаньняў сям'і. Таму перад абліччам пагрозы ён згадзіўся супрацоўнічаць зь Янушам Радзівілам[290].

Затое не пайшоў на такі крок і не прыехаў у лягер віцебскі ваявода Павал Ян, здаўна вядомы сваёй непрыязнасьцю да віленскага ваяводы. Таму, калі полк Сапегаў прыбыў найпазьней у пачатку лістапада 1654 г. пад Менск, ачоліў яго пляменьнік падканцлера (сын ягонай стрыечнай сястры) Аляксандар Гіляры Палубінскі[291].

Апроч рэестравых, павятовых і прыватных аддзелаў, у 1654 г. на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўтвараліся шматлікія добраахвотніцкія харугвы. Яны складаліся з добраахвотнікаў, рэкрутаваных з розных пластоў грамадзтва, часткова з бандытаў і звычайных злачынцаў. У сувязі з усё большымі посьпехамі ворага Януш Радзівіл ужо з жніўня выдаваў шматлікія прыпаведныя лісты на набор падобных адзінак[292]. Зразумела, мы ня ведаем, колькі дакладна добраахвотніцкіх харугваў брала ўдзел у вайне з Масковіяй. Ня ведаем і колькасьці паасобных партыяў, бо ў лістах з загадамі гетман наказваў ротмістрам «зьбіраць добраахвотнікаў так шмат, колькі толькі магчыма будзе сабраць»[293]. Зрэшты, шмат аддзелаў чыніла беззаконьне, пераважна рабуючы насельніцтва. Таму нярэдка кароль ці вялікі гетман выдавалі ўнівэрсалы пра скасаваньне свавольных груповак[294]. Частка фармальна нанятых аддзелаў таксама, унікаючы змаганьня з ворагам, спусташала ўласны край і прыгнятала землякоў. Нярэдка шляхта мусіла разам зь сялянамі брацца за зброю, каб абараніць уласную маёмасьць. Пра такія здарэньні чытаем, напрыклад, ва ўспамінах Альбрыхта Станіслава Радзівіла. Сам стары канцлер увосень 1654 г. на чале сваіх людзей вёў сутычкі з двума аддзеламі добраахвотнікаў, якія пад камандай нейкага Мікалая Пашкоўскага пагражалі ягоным уладаньням[295].

Адсюль відаць, што, як правіла, харугвы добраахвотнікаў замест таго, каб умацоўваць рэгулярную армію, дэзарганізоўвалі ейны тыл і перасьледавалі суграмадзянаў. Таму здараліся выпадкі, калі Януш Радзівіл караў сьмерцю іхных ачольнікаў за розныя эксцэсы. Зьвесткі пра забойства аднаго зь іх, Станіслава Адахоўскага, у ліпені 1655 г. падае Мацей Форбэк-Летаў[296]. З увагі на іхную нізкую баяздольнасьць і ад-

[290] J. Radziwiłł do K. L. Sapiehy, Kojdanów 3 X 1654. BCzart. Rkps 917. S. 1353—1359, а таксама згадка ў лісьце гетмана да А. Ляшчынскага: Mińsk 2 XII 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 147. S. 717 (часткова друкаваны ў: Kotłubaj E. Życie... S. 393—399).

[291] K. L. Sapieha do A. H. Połubińskiego, Grodno 9 XI 1654. BCzart. Rkps 2749. Nr 93. S. 337; A. H. Połubiński do K. L. Sapiehy, obóz pod Nowym Bychowem 31 I 1655. LwNB. Fond 103, TP. Nr 149/Va. K. 279.

[292] AVAK. T. XXXIV. Nr 16. S. 16—17; Nr 31. S. 33; VUB. Fond 7. Nr 16/14468; Nr 170.

[293] List przypowiedni dla M. Paszkowskiego, Mińsk 2 IX 1654. VUB. Fond 7. Nr 16/14468; Nr 170.

[294] Напрыклад, унівэрсал Яна Казімера ад 5 жніўня 1654 г. (AVAK. T. XXXIV. Nr 14. S. 14); унівэрсал Я. Радзівіла (Mohylew 10 III 1655. LNB. PR 727. K. 128—129).

[295] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 434, 438.

[296] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 225.

сутнасьць дысцыпліны добраахвотнікі ня ўдзельнічалі ў баёх на галоўных участках фронту. На працягу зімова-веснавой кампаніі 1655 г. Януш Радзівіл выкарыстоўваў іх, галоўным чынам, для абарончых дзеяньняў у раёне Віцебску, Полацку, Амсьціслава, а таксама для рэйдаў у глыб тэрыторыі праціўніка.

Завяршаючы разгляд мабілізацыі літоўскага войска ў 1654—1655 гг., варта згадаць пра задуму аднавіць выбранецкую пяхоту. На жаль, гэтыя захады, што пачаліся ў 1653 г., не далі належнага выніку. Мы ведаем, што напэўна набралі прынамсі 101 селяніна — Януш Радзівіл прызначыў іх абараняць сваю ўласную крэпасьць у Біржах, якой пагражаў як напад маскоўцаў, так і ўдар швэдаў з Інфлянтаў[297]. Напэўна, пехацінцаў набралі толькі на тэрыторыі Шаўляйскай эканоміі (каралеўскіх уладаньняў. — **К. Б.**)[298].

Дарэчы, варта згадаць, што сойм, што адбываўся ў траўні—чэрвені 1655 г., прыняў рашэньне выставіць — першы раз у гісторыі Вялікага Княства — ланавую пяхоту[299]. Ад кожных дваццаці аселых валокаў у каралеўскіх уладаньнях патрабаваўся адзін экіпаваны пехацінец[300]. Аднак праз сытуацыю на фронце гэтае рашэньне засталося толькі на паперы.

На мяжы кастрычніка і лістапада ў ваколіцах Менску сабраліся значныя сілы, якія ў некалькі разоў перавышалі колькасьць арміі пад Шкловам і Шапялевічамі. Іхны лік можна ацаніць прыблізна на 15 000 чалавек (8000 літоўская рэестравая армія, больш за 5000 падмацаваньняў Кароны, частка павятовых харугваў, сапегаўскія аддзелы). З глыбі краю падцягваліся іншыя харугвы з складу літоўскай арміі. Як вынікае з кнігі скарбовай камісіі 1662 г., з 9 лістапада 1654 г. на дзяржаўным утрыманьні меліся знаходзіцца каля 14 250 коней і порцыяў, г. зн. каля 12 850 жаўнераў[301]. Аднак, як мы ўжо ведаем, у гэтым дакумэнце пазначаныя некалькі адзінак як старога, так і новага набору, утвораныя толькі празь некалькі месяцаў. Апроч таго, у актах значыцца асабісты склад аддзелаў — нярэдка, як паказваюць захаваныя рэестры перапісаў зь лістапада 1654 г., завышаны ў параўнаньні з фактычным станам[302]. Таму нельга дакладна вызначыць колькасьць літоўскай арміі пад канец 1654 г. Можна прыблізна меркаваць, што яна налічвала 10 500—11 000 чалавек. Зь іх больш за 7500 прыпадала на дывізію правага крыла, а 3100—3200 — на дывізію левага крыла. Адзінкі, якімі кіраваў Януш Радзівіл, больш чым удвая пераўзыходзілі харугвы Гасеўскага.

Разам на другі этап вайны з Масковіяй удалося сабраць каля 18 000 рэгулярных жаўнераў, без уліку некалькіх тысячаў добраахвотнікаў. Аднак да самага пачатку

[297] Tyszkiewicz E. Birże. Rzut oka na przeszłość zamku, miasta i ordynacji. St. Petersburg, 1869. S. 49—50; J. Radziwiłł do K. Stryżki, Kojdanów 18 IX 1654. Kotłubaj E. Życie... S. 373.

[298] P. Horbowski do K. Stryżki, Bejszagoła 11 X 1653. AGAD. AR. Dz. V. Nr 5353.

[299] Ланавая пяхота (piechota łanowa) — род войскаў Рэчы Паспалітай, уведзены ў 1655 г. Набор праводзіўся з каралеўскіх, шляхецкіх і касьцельных земляў. Кожны землеўласьнік павінен быў выставіць аднаго жаўнера з 15 ланаў ураблянай зямлі. З 1673 году была замененая т. зв. пяхотай дымовай. — *Рэд.*

[300] VL. T. IV. S. 221—222; Rachuba A. Siły zbrojne... S. 388.

[301] LVIA. Fond SA. Nr 4106; Nr 4107; пералік адзінак Гасеўскага: BPAN Kr. Rkps 360. Nr 219. S. 566—571.

[302] Перадусім: BCzart. Rkps 121. Nr 151. S. 575—578.




Ротмістар гусарскай літоўскай арміі

студзеня войска не вяло амаль ніякіх збройных дзеяньняў супраць Масковіі, а «стаяла на пастоях у менскім ваяводстве *toto autumno* (цэлую восень)»[303]. Заканчвалася пара году, зручная для вядзеньня ваенных апэрацыяў, пачыналася восеньская слота, надыходзілі зімовыя маразы. Бясцэнны час марнаваўся ў сварках і спрэчках, асабістыя антыпатыі і амбіцыі ставіліся вышэй за абарону Айчыны, а складаная ўнутраная сытуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім прывяла да таго, што на пэўны час вайна з Масковіяй адступіла на другі плян.

**Разьдзел V**

# ПАМІЖ КАРАЛЁМ І ГЕТМАНАМ.

# УНУТРАНЫ КАНФЛІКТ У ЛІТВЕ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 1654 г.

Прызначэньне Вінцэнта Гасеўскага палявым гетманам літоўскім прынамсі з вайсковага пункту гледжаньня ня мусіла выклікаць ніякіх спрэчак. Малады, крыху больш за трыццаць гадоў, афіцэр ужо меў за плячыма шэсьць гадоў службы і меў рэпутацыю таленавітага вайскаводцы і мужнага жаўнера. Несумненна, ён заслугоўваў на гэтую пасаду. Ваюючы ў 1648 г. пад камандаю Януша Радзівіла як камандзір коннага палка, Гасеўскі вылучыўся ў Першай Лоеўскай бітве ў 1649 г. — ён кіраваў атакай гусараў на левае крыло арміі Міхайлы Крычэўскага. У 1651 г. ужо генэралам літоўскай артылерыі ён удзельнічаў у Другой Лоеўскай бітве, пазьней разьбіў пад Дымарам, на рацэ Ірпень, войскі палкоўніка Антона Ждановіча, адкрыўшы аддзелам Януша Радзівіла дарогу на Кіеў. Свой вайскаводчы талент Гасеўскі пазьней ня раз пацьвярджаў у час «патопу». Хоць гістарыяграфія па-рознаму ацэньвала ягоныя заслугі на полі бітвы, адно несумненна: «...ён належаў, бадай, да апошняга шэрагу выбітных літоўскіх вайскаводцаў, хоць поруч з праблісками генія здараліся ў яго ваенныя і палітычныя памылкі»[304].

Да самага 1654 г. дачыненьні Гасеўскага зь Янушам Радзівілам былі прынамсі карэктныя. «Спадарожнічак цягам тых усіх войнаў В[ашай] Кн[яскай] Мосьці (быў. — **К. Б.**), якога ты і сам выхоўваў для гэтай пасады і ня раз публічна ўзносіў»[305], — пісаў вялікаму гетману прымас, для якога, падобна як і для многіх іншых сьведкаў падзеяў, сварка паміж гетманамі сталася вялікай неспадзяванкай. Магчыма, да яе не дайшло

[303] Skorobohaty A. D. Diariusz / Opr. T. Wasilewski. Warszawa, 2000. S. 63.

[304] Rachuba A. Wincenty Korwin Gosiewski Hetmani Rzeczypospolitej // Pod red. M. Nagielskiego. Warszawa, 1995. S. 483—484, 491.

[305] A. Leszczyński do J. Radziwiłła, Łowicz 8 XI 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 140. S. 685.

б, калі б прызначэньне Гасеўскага ня мела палітычнага падтэксту. На жаль, яно было галоўным элемэнтам стратэгіі, якую некалькі месяцаў праводзіў двор, каб абмежаваць уплыў Радзівіла ў арміі. Вынікі гэтага аказаліся згубнымі для Літвы.

У Вялікім Княстве Літоўскім у XVII ст. сфэры кампэтэнцыі гетманаў не былі дакладна акрэсьленыя і падзеленыя. Палявы гетман фармальна не падпарадкоўваўся вялікаму, і толькі ад ягонай волі залежала, ці ён аддасьць пад каманду вялікага гетмана аддзелы, якія набраў сам. Таму прызначэньне Вінцэнта Гасеўскага стварыла беспрэцэдэнтную сытуацыю. Ён адмовіўся прызнаваць зьвершнасьць Радзівіла і ўтварыў з адзінак новага набору асобную дывізію г. зв. левага крыла (аддзелы старога набору называліся адгэтуль дывізіяй правага крыла). Такім чынам партыя двара магла кантраляваць, а калі трэба, пасьпяхова нэўтралізаваць усялякія падазроныя для іх пачынаньні віленскага ваяводы. Аднак такое рашэньне выклікала абвастрэньне ўнутранага канфлікту і ўскладніла вядзеньне ваенных дзеяньняў. І гэта ў час, калі сытуацыя вымагала кансалідацыі ўсяго грамадзтва, каб засяродзіць усе сілы на змаганьні з захопнікам.

Дадатковым козырам Гасеўскага было тое, што з 1652 г. ён выконваў функцыі падскарбія вялікалітоўскага. У ягонай кампэтэнцыі між іншым было распараджэньне даходамі ад падаткаў і выплата ротмістрам грошай на новыя наборы і на іншыя вайсковыя патрэбы. Як падскарбі, ён мог таксама правяраць, наколькі адпавядае фактычнаму стану заяўленая ў дакумэнтах колькасьць асобных аддзелаў, і, выявіўшы злоўжываньні, прыпыняць выплаты[306]. Гэтая прэрагатыва неўзабаве вельмі прыдалася ў барацьбе з Радзівілам.

Прызначэньне Гасеўскага было ня першым ударам па пазыцыях вялікага гетмана. Ужо ад пачатку 1654 г. Радзівіл скардзіўся, што кароль перашкаджае яму выдаваць прыпаведныя лісты, так што папоўніць войска да вызначаных берасьцейскім соймам 15 000 чалавек сталася немагчымым. І ў той жа час за сьпінай вялікага гетмана праводзіліся нейкія наборы, над якімі ён ня меў кантролю. Гетман наракаў у лісьце да Багуслава Радзівіла, што «былі выдадзеныя нейкія прыватныя бэшталюнкі (дамовы на найм палка. — **К. Б.**) на некалькі соцень чалавек, хлеб ім у эканоміях указаўшы»[307]. У дадатак, перад летняй кампаніяй кароль даслаў у лягер камісараў, якія мусілі кантраляваць намеры галоўнага вайскаводцы і на ваеннай радзе бараніць пляны, якія адпавядалі намерам двара[308].

Аднак зьдзіўляе падбор людзей на гэтыя ролі. Вэндэнскі ваявода Мікалай Корф больш за трыццаць гадоў служыў пад камандаваньнем Крыштапа і Януша Радзівілаў. Ён карыстаўся вялікім даверам Радзівіла і нярэдка выконваў ягоныя вайсковыя і палітычныя даручэньні[309]. Нічога не вядома пра рэгалісцкія погляды жмудзкага кашталяна Яўстаха Кердэя, затое ягоны подпіс адным зь першых стаіць у актах II Кейданаўскай дамовы ад 26 кастрычніка 1655 г.[310]. Нядоўга знаходзіўся ў лягеры апошні з камісараў, менскі пісар Крыштап Валадкевіч, які 15 жніўня, адразу пасьля Шклоў-

306 Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. 3 // SMHW. T. XXI. Warszawa, 1978. S. 51, 65.

307 J. Radziwiłł do B. Radziwiłła, Wilno 10 V 1654. BCzart. Rkps 1664. S. 423.

308 Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza... S. 175.

309 Kotarski H. i Przyboś A. Korff Mikołaj // PSB. T. XIV. 1968—1969. S. 71—72.

310 Akta ugody kiejdańskiej 1655 roku / Wyd. W. Konopczyński, K. Lepszy // Ateneum Wileńskie. T. X. 1935. S. 205.

скай бітвы, зьехаў у Варшаву, каб адвезьці пэтыцыю войска ў справе выплаты запазычанасьці[311].

Навіну аб прызначэньні Гасеўскага Радзівіл успрыняў зь непрыхаванай злосьцю, бо палічыў гэта вынікам працяглых інтрыг двара супраць яго самога. «Я хварэю, працую, падстаўляю лоб, завіхаюся *unus et solus pro salute [rei] public[a]e* (зусім адзін дзеля дабра Айчыны), — пісаў віленскаму біскупу, — а там прыватна супраць мяне знаходзяць захады *contra salutem meam* (супраць майго здароўя)»[312]. Радзівіл меў уласных кандыдатаў на булаву, і тое, што іх абмінулі, успрыняў як яшчэ адну абразу.

У лісьце да Гасеўскага віленскі ваявода згадваў, што «ён жадаў сабе паплечніка сваёй крыві і ўласнага роду, паводле прынятага *antiquitus* (здаўна) звычаю»[313]. Ён, напэўна, меў на ўвазе свайго стрыечніка Багуслава, кандыдатуру якога, зрэшты, кароль спачатку разглядаў[314]. Іншым цікавым кандыдатам мог быць літоўскі абозны Самуэль Камароўскі, дасьведчаны і здольны афіцэр, да таго ж адзін з давераных асобаў Радзівілаў.

Непаразуменьні паміж гетманамі пачаліся яшчэ раней, чым Гасеўскі прыбыў пад Менск. У Вільні падскарбі, прадбачыўшы непазьбежную барацьбу з Радзівілам, прасіў канцлера Альбрыхта Станіслава Радзівіла выдаць яму дадатковыя прыпаведныя лісты, каб максымальна ўмацаваць сілы сваёй дывізіі[315]. Пры гэтым Гасеўскі спрабаваў разьвеяць падазрэньні віленскага ваяводы, пераконваючы яго, што будзе камандаваць новымі наборамі толькі падчас арганізацыйнай працы ў Вільні і пераходу пад Менск, а пазьней адмовіцца ад камандаваньня. Ён слушна даводзіў, што Радзівіл, засяроджаны на тым, каб стрымаць наступ маскоўцаў, ня зможа асабіста заняцца гэтымі праблемамі. Пры нагодзе Гасеўскі наракаў, што Радзівілаў служка Ян Мяжэнскі, які ў той час быў у Вільні, падбухторвае супраць яго войска[316].

Шмат спрэчак выклікала справа камандаваньня над паспалітым рушаньнем. Папраўдзе, ужо III Літоўскі статут акрэсьліў, што ў адсутнасьць караля ўзначальваць яго мусіць вялікі гетман, але сойм пацьвердзіў гэтае палажэньне толькі ў 1659 г.[317]. Таму ў 1654 г. Ян Казімер мог згодна з законам прызначыць любога намесьніка на сваё месца. У выдадзеных пад канец верасьня ўнівэрсалах манарх загадаў шляхце зьбірацца да 20 верасьня пад Менск пад камандаю палявога гетмана[318]. Аднак гэткія дзеяньні караля сустрэла агульнае абурэньне, бо яны парушалі звычаі таго часу. Зразумела, ніхто ня верыў тлумачэньням, што камандаваньне Гасеўскага — толькі часовае і абумоўленае толькі тым, што Радзівіла няма ў глыбіні краю[319]. Зрэшты, у адказ

[311] Źródła do dziejów Polski... T. I. S. 150—153; List z Wilna, 20 VIII 1654 // Ojczyste spominki... T. l. S. 120.

[312] J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, Mińsk 8 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 78; J. Leszczyński do A. Leszczyńskiego, Goślina 6 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 72. S. 166.

[313] Źródła do dziejów Polski... T. I. S. 143.

[314] B. Radziwiłł do NN, b. m. d. AGAD. AR. Dz. II [дадатак]. Nr 591.

[315] W. Gosiewski do A. S. Radziwiłła, Wilno 3 IX 1654 // Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 420.

[316] Relacja wysłannika arcybiskupa, księdza M. Wituskiego // Źródła do dziejów Polski... T. I. S. 144—148.

[317] Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. 1. S. 92; Cz. 3. S. 56, 60; Rachuba A. Siły zbrojne... S. 383—384.

[318] B. Radziwiłł do B. Olszewskiego, Kopyl 30 VIII [1654]. AGAD. AR. Dz. IV. Teka 9. Kop. 89. Nr 1090.

[319] J. Leszczyński do J. Mierzeńskiego, Goślina 9 X 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 56. S. 124.

на каралеўскія лісты віленскі ваявода выдаваў уласныя адозвы да шляхты, таксама заклікаючы яе зьявіцца пад Менск 24 верасьня, каб пад ягонай камандаю «*iunctis viribus et consiliis* (злучанымі сіламі і шэрагамі) ня толькі *resistere impetus* (супрацьстаяць памкненьням) непрыяцеля, на захоп дзяржаваў (państw) Рэчы Паспалітай накіраваным, але і тыя, якімі ён ужо авалодаў, *recuperare* (вярнуць) з Божай дапамогай маглі»[320]. На шчасьце, гэтае пытаньне хутка страціла актуальнасьць, бо шляхта адмовілася асабіста ўдзельнічаць у выправе, выставіўшы павятовыя харугвы.

Прыбыўшы пад Менск, аддзелы новага набору разьбілі вялізны лягер каля Ракава (стары набор стаяў у Сьмілавічах). Ужо гэта відавочна сьведчыла, што яны не прызнаюць камандаваньня Януша Радзівіла. Назіральнікі не сумняваліся, што неўзабаве сытуацыя прывядзе да адкрытага канфлікту, бо, як пісаў лэнчыцкі ваявода Ян Ляшчынскі, «ад пачатку сьвету ўсе вялікія гетманы асьцерагаліся таго, каб *independentes milites* (незалежных апалчэнцаў) у сваіх лягерах мець»[321]. Асабістыя дачыненьні паміж гетманамі адпачатку склаліся кепска. Радзівіл нібыта прывітаў малодшага калегу словамі: «Я табе не давяраю, бо ты абраны для ўціску на мяне»[322]. У лягерах здараліся непрыемныя інцыдэнты, сваркі і нават бойкі паміж афіцэрамі і жаўнерамі абедзьвюх дывізіяў. На адной бяседзе дайшло да скандалу. Тады ў прысутнасьці многіх саноўнікаў Самуэль Камароўскі выступіў з прамовай супраць сэнатараў, вядомых непрыхільнасьцю да віленскага ваяводы. Абозны востра нападаў і на Гасеўскага, вінавацячы яго ў дзеяньнях на шкоду жаўнерам. Падчас іншай бяседы, у лістападзе, з абразьлівым тостам супраць падскарбія выступіў швагер вялікага гетмана, жмудзкі стараста Юры Кароль Глябовіч, які «за здароўе сапраўднага гетмана, а не лісьлiўцаў піў». Гасеўскі не адрэагаваў на гэтую дзёрзкасьць, бо, падпіўшы, заснуў раней. Толькі даведаўшыся на другі дзень пра інцыдэнт, запатрабаваў выбачэньняў. Іншым разам падскарбія нібыта абразіў просты казацкі коньнік, «які, прыйшоўшы ў карчму, выклікаў яго на двубой»[323].

Паміж гетманамі здараліся і вельмі сур'ёзныя асабістыя сутычкі. Ёсьць сьведчаньні, што напрыканцы 1654 г. яны сышліся ў двубоі, які скончыўся раненьнем Гасеўскага[324]. А гістарыёграф Станіслаў Тэмбэрскі адзначаў у сваіх запісах за 1654 г. што падчас нарады ў віленскага біскупа Тышкевіча дайшло да бойкі паміж Гасеўскім і Радзівілам. Віленскі ваявода нібыта кінуўся на падскарбія з шабляй і параніў яго, а на біскупу, які спрабаваў яго стрымаць, парваў плашч і ланцуг[325]. Напэўна, у абедзьвюх крыніцах ідзе гаворка пра адну падзею. На жаль, мы ня ведаем, калі і зь якіх

[320] Uniwersał J. Radziwiłła do szlachty żmudzkiej, Mińsk 12 IX 1654. VUB. Fond 7. Nr 16/14468; Nr 202.

[321] J. Leszczyński do A. Leszczyńskiego, Goślina 4 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 65. S. 145; ён жа да Я. Мяжэнскага (J. Mierzeński): ceduła do listu z 9 X. Тамсама. Nr 56. S. 137.

[322] J. Leszczyński do A. Leszczyńskiego, Goślina 6 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 72. S. 166; раней лэнчыцкі ваявода згадваў прымасу пра гэтую падзею ў лісьце ад 13 лістапада (Тамсама. Nr 67. S. 151).

[323] Jakie dysgusty ponosi Gosiewski od Komorowskiego i inszych. BCzart. Rkps 147. Nr 174. S. 825—827.

[324] K. Schaum do A. Klobuszyckiego, Lublin 8 I 1655 // S. Szilagyi, II Rakoczy Gyorgy esaz Europai diplomaczia. Budapeszt, 1875. Nr 92. S. 159—161.

[325] Temberski S. Roczniki 1647—1656 / Wyd. W. Czermak // Scriptores Rerum Polonicarum. T. XVI. Kraków, 1897. S. 283.

прычынаў яна адбылася. У кожным выпадку вельмі праўдападобна, што гэтак Радзівіл зрэагаваў на дзеяньні Гасеўскага, якія аслаблялі ягоныя пазыцыі ў арміі.

А падобныя крокі палявы гетман рабіў ужо з канца верасьня. Прыбыўшы ў Ракаў, ён даслаў свайго даверанага чалавека, Стэфана Мэдэкшу, у Кейданы, прыватнае мястэчка Радзівілаў, дзе была стаўка віленскага ваяводы. Фармальна гэтая місія мела на мэце дастаўку лістоў і ўсталяваньне кантакту паміж гетманамі. Але, апроч таго, Мэдэкша зьбіраўся весьці закулісныя размовы з афіцэрамі, «каб іх ад фракцыі радзівілаўскай, на бок швэдзкі і Ракочага павернутых, адвярнуць у бок Я[го] К[аралеўскай] М[о]сьці»[326].

Галоўную ролю ў плянах партыі двара адыгрываў Аляксандар Гіляры Палубінскі. Дагэтуль ён лічыўся верным вялікаму гетману афіцэрам, якому ў значнай ступені быў абавязаны сваёй імклівай вайсковай кар'ерай[327]. Але ён падтрымліваў і добрыя стасункі з дваром, бо ведаў, што ад ласкі караля залежыць як ягоная палітычная кар'ера, гэтак і яго даходы. І Палубінскі не расчараваўся, бо Ян Казімер палічыў яго найлепшым кандыдатам на пасаду польнага пісара, незанятую па сьмерці пад Шапялевічамі Мацея Радзімінскага Францкевіча[328]. Паводле задумы караля і Гасеўскага, гэтае прызначэньне мусіла найперш умацаваць фінансавы кантроль за віленскім ваяводам[329]. Польны пісар, як чытаем у пастанове сойму ад ліпеня 1654 г., меўся кожны квартал перапісваць харугвы коньніцы, а кожны месяц — пяхотныя адзінкі. Складзеныя рэестры траплялі потым, між іншым, у рукі падскарбія[330]. Праз Палубінскага Гасеўскі мог потым атрымаць праўдзівыя доказы фінансавых махінацыяў Радзівіла. А пра тое, што падазрэньні падскарбія былі небеспадстаўныя, сьведчыць рэляцыя Мэдэкшы, што ў лягеры пад Сьмілавічамі войска старога набору «было не больш за 4000, а плату бралі на 15 000»[331]. У кастрычніку Гасеўскі размаўляў з Палубінскім, з тым каб распрацаваць стратэгію паводзінаў у дачыненьні да Радзівіла на скарбовай камісіі, якая пачыналася ў Менску 3 лістапада.

Спрэчкі паміж гетманамі вяліся і праз тое, каму павінны падпарадкоўвацца падмацаваньні Кароны. Фармальна ўзначальваць прынамсі частку гэтых аддзелаў мусіў Багуслаў Радзівіл, бо з 1649 г. ён меў годнасьць генэрала каралеўскай гвардыі[332]. Аднак ад пачатку 1654 г. канюшы аддаліўся ад двара. Калі абвастрыўся канфлікт караля зь Янушам Радзівілам, Багуслаў прыняў бок стрыечнага брата[333]. Таму ягоныя раней вельмі добрыя стасункі зь Янам Казімерам пачалі псавацца. Багуслаў расцэньваў дзеяньні манарха ў дачыненьні да яго ў першай палове 1654 г. як жаданьне пазбавіцца ад яго ў арміі Кароны і перадаць камандаваньне над іншаземнымі пал-

[326] Medeksza S. Księga Pamiętnicza... S. 1.

[327] Nagielski M. Połubiński Aleksander Hilary // PSB. T. XXVII. 1982. S. 358—359.

[328] Гэты чын Палубінскі мусіў заняць з 1 X 1654 (Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII wieku / Opr. H. Lulewicz i A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 110).

[329] Rachuba A. Konfederacja wojska... S. 16.

[330] VL. T. IV. S. 216.

[331] Medeksza S. Księga Pamiętnicza... S. 1.

[332] Wagner M. Kadra oficerska armii koronnej w drugiej połowie XVII wieku. Toruń, 1992. S. 174—175.

[333] Zarys dziejów... S. 46—47.

камі генэралу Крыштапу Гувальту, які заставаўся тады на польскай службе[334]. У наступныя месяцы Багуславу Радзівілу не ўдалося атрымаць, насуперак абяцаньням двара, ні булавы літоўскага палявога гетмана, ні полацкага ваяводзтва. У Літве ўвосень 1654 г. канюшы ўсяляк спрыяе свайму стрыечнаму брату ў ягоных палітычных плянах, падтрымлівае яго парадай і вайскаводчым талентам на полі бітвы і нават часта прымае зь ягоных рук камандаваньне. Таму сумнеўна, каб кароль, змагаючыся ўвосень 1654 г. з уплывам Януша Радзівіла, хацеў разам з тым аддаць пад кіраўніцтва ягонага найбліжэйшага супольніка палкі сваёй адборнай гвардыі.

Корпус Кароны, як і аддзелы новага набору, зьявіўшыся пад Менскам, разьбіў лягер ня ў Сьмілавічах, а каля Ракава. Гэта несумненна сьведчыць пра тое, што кароль меў намер перадаць яго пад каманду палявога гетмана. Як паказалі падзеі наступных трох месяцаў, манарх і на гэты раз пераацаніў уплыў партыі двара ў Літве, але недаацаніў рашучасьці вялікага гетмана ў імкненьні ўмацаваць свае пазыцыі ў войску.

Залагоджаньню сытуацыі, безумоўна, не паспрыяла рашэньне Яна Казімера асабіста прыехаць у Літву. У сярэдзіне кастрычніка кароль прыбыў у Горадню. Там мусіла прайсьці скліканьне літоўскіх сэнатараў, каб абмеркаваць цяжкую сытуацыю, у якой апынулася дзяржава. На жаль, з праўнага гледзішча гэтая сустрэча не магла значна паўплываць на вайсковае становішча Вялікага Княства. Каб прыняць новыя падаткі ці неяк інакш падтрымаць літоўскую армію, трэба было зьбіраць новы сойм. Права выдаваць заканадаўчыя акты мела яшчэ г. зв. віленская канвакацыя[335], якая праводзілася нерэгулярна як зьезд земскіх паслоў, абраных соймікамі, літоўскіх сэнатараў і ўрадоўцаў. Хоць увосень 1654 г. за яе галасавалі ў тым ліку і Януш Радзівіл, кароль тады яшчэ ня вырашыўся на такі крок[336].

Дарогаю ў Горадню Ян Казімер у лісьце да віленскага біскупа выклаў свой пратэст, абвінаваціўшы вялікага гетмана ў паразах, панесеных падчас ранейшых бітваў з Масковіяй. Кароль сьцьвярджаў, што Януш Радзівіл недаацаніў прысыланыя яшчэ з-пад Жванца папярэджаньні пра пагрозу нападу маскоўцаў, кепска падрыхтаваў памежныя крэпасьці, сарваў сакавіцкі сойм, ня выканаў загаду рушыць усімі сіламі пад Дарагабуж, дзе нібыта трэба было спыніць наступ ворага. Закіды караля не абмінулі і іншых літоўскіх саноўнікаў, якія не сьпяшаліся стаць на ягоны бок[337].

Палітычная эліта Літвы ўспрыняла гэты дакумэнт досыць варожа. Ягонае абнародаваньне яшчэ больш пагоршыла дачыненьні двара з Радзівілам[338]. У сваіх лістах таго часу гетман не шкадаваў зьедлівых заўваг на адрас манарха. Напрыклад,

[334] Bogusław Radziwiłł do NN, b. m. d. AGAD. AR. Dz. II suplement. Nr 591.

[335] Канвакацыя (лац. *convocatio* — «скліканьне») — лякальны сойм. — *Рэд.*

[336] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie... S. 243—246, 269—270. Варта згадаць, што першы раз з ініцыятывай скліканьня яшчэ ў канцы чэрвеня выступіла група літоўскіх сэнатараў, сабраных у Вільні на чале з А. С. Радзівілам. Кароль адкінуў гэтую прапанову, палічыўшы, што ўхваленьнем чарговых падаткаў займецца сойм, а праводзіць без караля канвакацыю «дазволіць мы не маглі б як рэч новую і з законам нязгодную» (Jan Kazimierz do A. S. Radziwiłła, Warszawa 6 VII 1654. AGAD. APP. Nr 7. T. III. S. 14—15).

[337] Jan Kazimierz do J. Tyszkiewicza, Bejczany 19 IX 1654. BOssol. Rkps 1453/11. S. 386.

[338] J. Leszczyński do A. Leszczyńskiego, Goślina 6 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 72. S. 167—168 (ceduła).

16 верасьня ён пісаў: «Я біўся, прайграў, гэтак бывае; не ўцякаў, як пад Пілаўцамі, і не адкупіўся, як пад Зборавам, і ня выпрасіўся, як пад Берастэчкам»[339]. У кастрычніку Радзівіл падрыхтаваў вялікі маніфэст, у якім лягічна абвяргаў большасьць закідаў сваіх праціўнікаў. На абвінавачаньне, што не аказаў супраціву непрыяцелю пад Дарагабужам, ён адказаў, што гэта азначала б страціць армію і аддаць Вялікае Княства ворагу на самым пачатку вайны. Радзівіл шмат разоў падкрэсьліваў малалікасьць уласных сілаў, адсутнасьць дапамогі Кароны і вялізную перавагу праціўніка і даводзіў, што ягоны плян кампаніі быў адзіны рэальны. Перабольшваючы свае посьпехі на полі бітвы, гетман спрабаваў пераканаць грамадзтва, што зрабіў усё магчымае, каб стрымаць нашэсьце ворага. Затое ён падрабязна раскрытыкаваў ранейшую палітыку караля датычна Хмяльніцкага, якая, на ягоную думку, прывяла да нападу царскіх войскаў на не падрыхтаваную да абароны Літву.

Большасьць закідаў, датычных ваенных пытаньняў, была беспадстаўная. Але прэтэнзіі двара да Радзівіла ў палітычных і фінансавых справах трэба прызнаць значна больш абгрунтаванымі. Многія зь іх фігуравалі ў адказе партыі караля на маніфэст гетмана. Яго надрукавалі ў сьнежні, калі ўжо завяршыліся паседжаньні скарбовай камісіі ў Менску. У дадатак да абвінавачаньняў, зьмешчаных у верасьнёўскім лісьце караля, у гэтым дакумэнце гетману прыгадалі шмат якія іншыя мінулыя справы: ягоныя паводзіны падчас Жванецкай кампаніі і зрыў соймаў. Зьявіліся закіды ў злоўжываньні сродкамі, прызначанымі для войска, і ў інтрыгах з Хмяльніцкім і Масковіяй. Партыя двара ўскладала на Радзівіла віну за змарнаваны на ўнутраныя спрэчкі час і за тое, што войскі, сабраныя пад Менскам, не прыйшлі на дапамогу Віцебску і Старому Быхаву.

Апроч гэтых відавочна небеспадстаўных папіканьняў, у дакумэнце ёсьць і шэраг абсурдных закідаў. Між іншым гетмана вінавацілі ў тым, што ён не стрымаў царскіх войскаў на Дняпры да прыходу падмацаваньняў Кароны, як гэта зрабіў у свой час ягоны бацька Крыштап. Аргумэнт пра няроўнасьць сілаў адкідаўся — маўляў, у мінулым войскі Рэчы Паспалітай давалі рады ў яшчэ горшых сытуацыях: «Жалкеўскі лічыў Маскву пад Клюшынам[340], калі, маючы некалькі тысячаў, зьнішчыў 80 000 маскалёў і 10 000 швэдзкага сьпісьніка[341]. [...] *A novissime* (нядаўна) пан бацька наш (Крыштап Радзівіл. — **К. Б.**) расказваў нябожчыку Каралю Ягамосьці (Уладзіславу IV. — **К. Б.**), што, маючы 3000, наколькі я памятаю, падышоў да ўсіх непрыяцельскіх сілаў і, стаўшы за некалькі міляў, інфэставаў (дапякаў) таго няспыннымі нападамі і дывэрсіямі»[342].

[339] J. Radziwiłł do K. Stryżki, Kojdanów18 IX 1654; Kotłubaj E. Życie... S. 373.

[340] Клюшын (Клюшына) — вёска ў Расеі пад Смаленскам. 4 ліпеня 1610 г. польска-літоўскае войска на чале з гетманам Станіславам Жалкеўскім, адным з найбольш выбітных вайскаводцаў у гісторыі Рэчы Паспалітай, перамагло расейскую армію князя Шуйскага і дапаможны швэдзкі корпус, якія ў чатыры разы перавышалі ягоныя сілы. Расейская армія і швэдзкі корпус сьпяшаліся на дапамогу асаджанаму Смаленску. Гэты посьпех адкрыў Жалкеўскаму шлях на Смаленск. — *Перакл.*

[341] Сьпісьнік — старапольская назва жаўнера, узброенага сьпіцай (дзідай?), кап'ёўшчыка. — *Перакл.*

[342] Абодва маніфэсты захаваліся ў шматлікіх копіях у розных польскіх архівах, зь якіх выкарыстаныя: BPAN Kyr. Rkps 991. K. 450v—455; BOssol. Rkps 206/II. K. 114—123v; BN. Rkps 6634/I. K. 50—61.

Дыскрэдытацыі Радзівіла служыў таксама рапаўсюджаны вялікім накладам грубы пасквіль, у якім яго вінавацілі ў здрадзе і намеры аддаць Літву пад уладу Масквы. Доказам гэтага нібыта былі наўмысна няўдалыя дзеяньні гетмана падчас летняй кампаніі, найперш тое, што ён здаў ворагу чарговыя крэпасьці і дапусьціў, каб ягоных жаўнераў выразалі пад Шапялевічамі. Зноў паўтараліся абвінавачаньні ў фінансавых махлярствах, у абкраданьні суграмадзянаў, а таксама ў тым, што Радзівіл спэцыяльна марудзіў з пачаткам ваенных дзеяньняў, калі армія сабралася пад Менскам. Аўтар пасквілю абліваў Радзівіла абразамі, не выбіраючы словаў. Між іншым ён пісаў: «Маскоўская, бачу, вельмішаноўнага Пана на чорнай птушцы фарба, трэба разумець Януша, або па-нашаму, або па-вугорску крывіць рот», — разьлічваючы, напэўна, што так лягчэй дойдзе да розумаў простай шляхецкай брацьці[343].

Канвакацыя ў Горадні адбылася ў атмасфэры абвастрэньня прапагандысцкай барацьбы і ўсё больш відавочнага расколу літоўскай эліты на два варожыя лягеры. Кароль доўга чакаў прыезду сэнатараў, дзень за днём адкладаў пачатак паседжаньняў. Як вызначыў нядаўна Анджэй Рахуба, яны прайшлі 28—29 кастрычніка[344]. Прысутнасьць атрымалася нешматлікая — узялі ўдзел толькі дзевяць сэнатараў. Януш Радзівіл у Горадню не прыехаў і ў дадатак пагражаў двару, што скліча асобны зьезд сваіх прыхільнікаў у Вільні 19 лістапада[345]. На паседжаньнях панаваў прыгнечаны настрой, бо да Горадні дайшлі весткі пра здачу Смаленску. Напэўна, менавіта гэтыя цяжкія навіны прымусілі двор на пэўны час спыніць дзеяньні супраць апазыцыі і засяродзіцца на абароне краю. Каб памірыць гетманаў, кароль даслаў у Менск духоўнага рэфэрэндара[346] літоўскага, ксяндза Яна Даўгялу Завішу, які прыбыў туды 10 лістапада[347]. За незалежнае пасярэдніцтва ўзяўся таксама прымас Андрэй Ляшчынскі, які ў даўгім лісьце прасіў Радзівіла спыніць звадкі сярод братоў перад пагрозай катастрофы: «А дзеля Бога! Дрэнна было б не згаджацца, калі б непрыяцель быў яшчэ за Волгай, а цяпер, калі *in visceribus* (унутры), толькі рахункі зводзіць?»[348].

Да прыезду Яна Казімера ў Горадню Януш Радзівіл падрыхтаваў вялікі мэмарыял пад назвай «Разважаньні наконт цяперашняй абароны Вялікага Княства Літоўс-

[343] BCzart. Rkps 147. Nr 110. S. 561—566; BUW. Rkps 66. S. 85—88; BN. Rkps 6634/III. K. 48—50.

[344] Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie... S. 269.

[345] Тамсама; Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 437—438; A. Trzebicki do A. Leszczyńskiego, Grodno 11 X 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 61. S. 133—134; K. L. Sapieha do A. Leszczyńskiego, Grodno 23 X 1654. Materyaiy dla historyi... T. II. S. 47—48.

[346] Рэфэрэндар (referendarz) — дзяржаўная пасада, уведзеная пастановай сойму 1507 г. у сувязі з скасаваньнем пасады прыдворнага судзьдзі (sędziego nadwornego). Існавалі два рэфэрэндары: сьвецкі і духоўны (асобна для Кароны і Літвы). Рэфэрэндары служылі пастаянна пры каралеўскім двары (не маглі зь яго аддаляцца). Іхным абвязкам было прыняцце ад насельніцтва просьбаў і скаргаў, якія яны пасьля перадавалі (рэфэравалі, адкуль і іхная назва) канцлерам і каралю. — *Рэд.*

[347] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 437; Diariusz... BCzart. Rkps 147. Nr 139. S. 679; Laskowski do Koniecpolskiego, Grodno 18 XI 1654. AGAD. AZ. Nr 450. S. 124; J. Mierzeński do A. Leszczyńskiego, Mińsk b. d. BCzart. Rkps 417. K. 151v.

[348] A. Leszczyński do J. Radziwiłła, Łowicz 8 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 140. S. 689; таксама лісты прымаса да Яна Мяжэнскага (J. Mierzeński), Uniejów 8 XI 1654. BCzart. Rkps 417. K. 149—151.

кага ў 1654 г.», у якім выказаў свае погляды на далейшае вядзеньне вайны з Масковіяй. Гэты дакумэнт перадаў каралю Ян Мяжэнскі праз некалькі дзён пасьля скліканьня. Імкнучыся палепшыць стасункі з гетманам, манарх зычліва абышоўся падчас аўдыенцыі зь ягоным пасланцом і паабяцаў яму, што ўхваліць прынамсі шэраг з выкладзеных Радзівілам патрабаваньняў[349]. Мэмарыял таксама прыхільна прыняла вялікая частка саноўнікаў Кароны і Княства, якія лічылі, што патрабаваньні гетмана — гэта цікавая альтэрнатыва ранейшай палітыцы двара[350].

Сам Радзівіл ужо ва ўступе ўсклаў віну за ранейшыя няўдачы ў вайне з царом на тых, хто «жадалі дамовым сваркам і дыфэрэнцыям *vacare* (звадкам аддавацца), хацелі *obstinatione* (упарта) пасольскай палатай *certare* (змагацца), хацелі соймы зрываць», выразна ўказваючы на партыю двара. Пішучы пра цяжкасьці падрыхтоўкі літоўскай арміі, ён раіў адкласьці ваенныя дзеяньні да вясны. Закранаючы падзел літоўскай арміі на дывізіі, патрабаваў папаўненьня адзінак старога набору замест вэрбоўкі недасьведчаных жаўнераў новага: «Больш варты даверу жаўнер дасьведчаны і *benemeritus* (з добрымі заслугамі), а да таго *pignore* (гарантыяй) сваіх заслуг да Рэчы Паспалітай *obstrictus* (прывязаны), чым новы, неабазнаны, незаслужаны і якога ня мае за што Рэч Паспалітая трымаць». Каб палепшыць матэрыяльны стан войска, ён прапанаваў ускласьці кошты ўтрыманьня жаўнераў на вызваленыя дагэтуль ад гэтага абавязку эканоміі — задума, выразна скіраваная супраць караля.

Вялікую частку сваіх разважаньняў гетман прысьвяціў таму, што павінна зрабіць Рэч Паспалітая на міжнароднай арэне. Ён скептычна выказваўся наконт магчымай выгады ад саюзу з татарамі, ратыфікаванага соймам у ліпені 1654 г. Каб належным чынам падрыхтаваць Літву да далейшай вайны, ён лічыў неабходным заключыць праз пасярэдніцтва курляндзкага князя або брандэнбурскага электара часовае замірэньне з Масковіяй. Радзівіл зьвяртаў увагу на магчымасьць выкарыстаць пасярэдніцтва Швэцыі або нават атрымаць ад яе дапамогу зброяй. Гетман адзначаў, што Стакгольм занепакоены экспансіяй Масквы ў бок Балтыйскага мора: «Швэдам важна тое, каб маскаль занадта верху ня браў». Аднак найбольш увагі гетман прысьвяціў казацкай праблеме. Ён слушна лічыў, што толькі разрыў хаўрусу Хмяльніцкага з Аляксеем Міхайлавічам можа зьмяніць ход вайны і вярнуць ранейшы расклад сілаў у гэтай частцы Эўропы. Радзівіл папярэджваў, наколькі небясьпечная пераяслаўская унія для будучыні Рэчы Паспалітай: «Сьцеражы, Божа, каб казакі пры Маскве застацца мелі: ня толькі зь Белай Русьсю і Ўкраінай, але і з рэштай Літвы [...] навек нам давялося б разьвітацца, але і зь іншымі народу рускага правіцыямі»[351].

Зрэшты, Радзівіл спрабаваў разарваць хаўрус Масквы з казакамі ад самага пачатку вайны. Калі царскія войскі ўвайшлі ў Беларусь, ён дасылаў лісты Хмяльніцкаму і

[349] J. Leszczyński do A. Leszczyńskiego, Goślina 13 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 67. S. 153.

[350] A. Leszczyński do Gorajskiego, Goślina 12 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 66. S. 148—150; А. Тшабіцкага (A. Trzebickiego): 13 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 68. S. 153—158; Я. Мяжэнскага: 13 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 69. S. 158—159.

[351] BN. Rkps 6634 / III. K. 45—48; таксама ліст Ляскоўскага да Каняцпольскага (Laskowski do A. Koniecpolskiego): Grodno 5 XI 1654. AGAD. AZ. Nr 3031. K. 44—45v.

казацкай старшынаой, прапаноўваючы спыніць баявыя дзеяньні і пачаць перамовы пра вяртаньне Ўкраіны пад уладу Яна Казімера[352]. У верасьні ён накіраваў у Чыгірын сваіх паслоў — старадубскага падчашага Рыгора Куніцкага і кіеўскага палкоўніка Антона Ждановіча. Апошняга яшчэ ў жніўні 1653 г. Хмяльніцкі паслаў на перамовы зь Янам Казімерам пад Гліняны, дзе яго зьняволілі палякі. 2 красавіка 1654 г. яго перадалі з згоды караля Радзівілу, «каб празь яго зрабіць нешта добрае і разарваць хаўрус з Масковіяй»[353].

13 кастрычніка Антон Ждановіч разам з Куніцкім зьявіўся ў Хмяльніцкага. Ён прывёз лісты Януша і Багуслава Радзівілаў да гетмана і Івана Выгоўскага. Віленскі ваявода прапаноўваў казакам пагадненьне з Рэччу Паспалітай на ўмовах белацаркоўскага міру і даводзіў, што хаўрус з Масковіяй азначае ў будучыні заняпад Украіны і значна горшае становішча казакоў, чым у Рэчы Паспалітай да 1648 г. За выкананьнем пагадненьня меліся сачыць хан, Ракочы і самі Радзівілы. Яно гарантавала захаваньне прывілеяў запароскага войска, прыватных інтарэсаў Хмяльніцкага і казацкіх старшынаў, а таксама непарушнасьць правоў праваслаўя. Спрэчкі сярод гісторыкаў выклікае прапанова зь ліста віленскага ваяводы прызнаць за казакамі частку тэрыторыяў Вялікага Княства, напэўна, паўднёвую Беларусь. Невядома, ці гэты крок мусіў дапамагчы падштурхнуць Хмяльніцкага да разрыву пераяслаўскай уніі, ці Радзівіл таксама спрабаваў гэткім чынам схіліць казакоў на свой бок у магчымым збройным выступленьні апазыцыі супраць Яна Казімера. Аднак далейшыя разважаньні на гэтую тэму беспрадметныя, бо казакі адкінулі прывезеныя Ждановічам і Куніцкім прапановы[354]. Нягледзячы на няўдачу, у наступныя месяцы гетман не спыняў захадаў, каб пераканаць прынамсі частку казакоў вярнуцца на службу Рэчы Паспалітай.

Празь некалькі дзён пасьля збору ў Горадні, 3 лістапада, у Менску пачала свае нарады скарбовая камісія. Яна мэла на мэце ўрэгуляваць пазыкі перад войскам, а таксама наняць жаўнераў на далейшую службу. Пачаткова месцам паседжаньняў камісіі сойм абраў Воршу, дзе ў ліпені, калі прымалася адпаведная пастанова, яшчэ стаяла літоўская армія. Аднак у ёй адзначалася, што калі Воршу зойме вораг, камісію перанясуць у Менск. Сэнат прызначыў чальцамі камісіі жмудзкага старасту Глябовіча і Амсьціслаўскага кашталяна Крыштапа Цеханоўскага, а пасольская палата — Яна Мяжэнскага, вількамірскага падкаморага Яна Камарніцкага, а таксама лідзкага падкаморага Якуба Тэадора Кунцэвіча[355].

Перад камісіяй адразу стаяла вельмі цяжкая задача. Дзяржаўнай казьне хранічна бракавала службоўцаў. Таму ў выніку не ўдалося своечасова спагнаць ухваленыя ў ліпені падаткі. Недабораў нельга было пакрыць з сталых даходаў літоўскай казны — яны скадалі толькі каля 20 000 злотых штогод. У дадатак, калі маскоўскія войскі

[352] AJZR. T. XIV. S. 42—43, 131—134.

[353] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 416; Mironowicz A. Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. Białystok, 1997. S. 121.

[354] Федорук Я. О. Міжнародна дипломатія і політика... С. 117—118; Грушевский М. История Украины-Руси... С. 885, 950—951; Matwijów M. Próba mediacji... S. 22—27.

[355] VL. T. IV. S. 216.

разрабавалі або захапілі вялікую частку літоўскіх земляў, фінансавыя магчымасьці шляхты значна скараціліся, а шмат паветаў увогуле не сплацілі належнага[356].

Пачатак нарадаў быў адметны тым, што Гасеўскі абвінавацiў Радзівіла ў фінансавых махінацыях і завышэньні колькасьці войска, каб скрасьці грошы з казны. На паседжаньні 9 лістапада падскарбі адмовіўся выплаціць 60 000 злотых для пяхотнага палка Багуслава Радзівіла і 12 000 злотых для казацкай харугвы вялікага гетмана. Выступ Гасеўскага стаўся апагеем канфлікту паміж гетманамі і яшчэ больш распаліў абурэньне войска. У дзёньніку камісіі адзначалася, што «гэтыя прыватныя гамонкі *commoverat* (узрушылі) горад і рыцарства»[357]. Сытуацыя была настолькі напружаная, што некаторыя саноўнікі лічылі большай пагрозай для дзяржавы ўнутраныя сваркі, а не маскоўскія войскі. Напрыклад, Ян Ляшчынскі заўважаў у адным з сваіх лістоў: «Я больш баюся гэтых *diffidentii* (сварак), чым самога непрыяцеля»[358]. Здавалася, што Радзівіл і далей будзе імкнуцца любым коштам адхіліць Гасеўскага ад камандаваньня дывізіяй левага крыла, а партыя караля не адступіцца ад таго, каб абмежаваць уладу вялікага гетмана[359].

На шчасьце, прыезд у Менск ксяндза Завішы крыху залагодзіў справу. 10 лістапада ён здолеў замірыць супернікаў. Бясспрэчна, гэта паспрыяла больш плённай працы камісіі. Гасеўскі згадзіўся зьняць абвінавачаньні ў фінансавых злоўжываньнях, а Радзівіл перастаў падрываць прэстыж маладога гетмана. 12 лістапада пачаліся гетманскія суды, а 18 лістапада, па заканчэньні працэсу Вільгельма Корфа, нарэшце дайшло да перамоваў з войскам[360]. Яны былі нялёгкія. Аддзелы старога набору дамагаліся перш за ўсё выплаты запазычанасьці за службу, якая складала каля мільёна злотых[361]. Трэба было таксама дасягнуць паразуменьня ў пытаньні выдачы харчаваньня, раздачы вакансіяў і падатковых ільготаў[362], а таксама вызначыць памеры платы. Жаўнеры пагражалі кінуць службу, калі іхных патрабаваньняў не задаволяць. Толькі праз некалькі тыдняў цяжкіх перамоваў пры дапамозе абяцаньняў на далёкую пэрспэктыву іх удалося схіліць да кампрамісу.

3 сьнежня камісія абнародавала дэклярацыю, у якой былі зьмешчаныя найважнейшыя пункты дамовы, заключанай з войскам. Паколькі было сабрана значна менш сродкаў, чым вынікала з падатковых дэклярацыяў, пададзеных падчас апошняга сойму, жаўнераў нанялі толькі на тры кварталы, да 9 жніўня 1655 г. Да гэтага тэрміну меркавалася ліквідаваць перад імі ўсялякія запазычанасьці. Будучую плату павін-

[356] W. Gosiewski do B. Radziwiłła, Wilno 10 IX 1654. AGAD. AR. Dz. V. Nr 4567/l; Wimmer J. Wojsko i finanse... S. 39.

[357] Diariusz... BCzart. Rkps 147. Nr 139. S. 678.

[358] J. Leszczyński do A. Naruszewicza, Goślina 1 XI 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 64. S. 141.

[359] Jakie dysgusty... BCzart. Rkps 147. Nr 174. S. 827.

[360] Diariusz... BCzart. Rkps 147. Nr 139. S. 679—681.

[361] Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 150. Сумневы ў добрасумленнасьці гэтага падліку выказвае А. Рахуба (A. Rachuba): Konfederacja wojska... S. 14.

[362] Дасло̂ўна «Ćwierci darowne» — г. зн. звальненьне ад абвязку выплачваць падатак 25 % ад свайго даходу. — *Рэд.*

ны былі гарантаваць сваёй маёмасьцю сэнатары, чальцы камісіі і сам Януш Радзівіл[363]. Плату старому набору плянавалася атрымаць з спагнаньня двух збораў падымнага падатку, а таксама з трэцяга збору, які мусіў паступіць у скарб да 20 сакавіка 1655 г. За адзін квартал з жаўнерамі мусілі расплаціцца жывымі грашыма, а на два астатнія плянавалася ўзяць крэдыт[364]. 19 сьнежня камісія выдала дадатковыя дэкларацыі зь іншымі гарантыямі для арміі[365]. У той жа дзень Януш Радзівіл таксама выдаў бязь ведама камісіі прыватную дэкларацыю для старога набору, у якой пераконваў жаўнераў, што паклапоціцца, каб ім сплацілі належныя грошы, і ня будзе нікога сілай трымаць у шэрагах арміі, «але, наадварот, кожнага, хто б даўжэй ня мог працягваць службы, адпусьціць»[366]. Гэтак ён хацеў забясьпечыць сабе падтрымку на выпадак, калі б дайшло да абвастрэньня канфлікту з Гасеўскім. 23 сьнежня, калі завяршалася праца камісіі, падскарбі заключыў дамову з Фрэдыянам Марыконі на атрыманьне крэдыту, які мусіў пакрыць плату за адну чвэрць. На ейнай падставе Марыконі абавязаўся выдаць асыгнацыі на грошы і боны памерам 425 000 злотых.

Увогуле камісіі ўдалося ўрэгуляваць доўг перад войскам старога набору за чатыры кварталы (у тым ліку за адзін — бонамі) за пэрыяд з 9 траўня 1653 г. да 9 лістапада 1654 г. (а значыць, заставалася запазычанасьць за два кварталы), а таксама пытаньне зарплаты да 9 лютага 1655 г.[367]. Гэта не да канца задавальняла жаўнераў, і ў наступныя месяцы яны шмат разоў дамагаліся выплаты рэшты пазыкі.

Рашэньні менскай скарбовай камісіі крытыкавалі многія саноўнікі Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Усе згаджаліся, што казна ня здолее выканаць абавязаньняў перад войскам, бо падатковыя паступленьні значна скараціліся. З шкадаваньнем адзначаў гэта і Альбрыхт Станіслаў Радзівіл: «Я, Бог мне сьведка, магу прадбачыць толькі канчатковы заняпад, бо лічу немагчымым, каб ухвалілі падаткі, якія б пакрылі такія высокія пазыкі, хіба толькі з асабліваю Божаю дапамогай»[368]. Вельмі скептычна наконт магчымасьці выканаць патрабаваньні жаўнераў выказваўся сам кароль, які ў апошняй дэкадзе сьнежня вярнуўся зь Літвы ў Варшаву[369]. У лісьце да мальборскага ваяводы Якуба Вэйнэра ён казаў, што войска «ў далейшую службу ў доўг невыноснымі амаль умовамі да 9.VIII наняцца дазволіла»[370]. Адзіны спосаб атрымаць неабходныя грошы на плату манарх убачыў у тым, каб склікаць зьезд у Вільні, хоць яшчэ тры месяцы таму рашуча супрацiўляўся падобнай прапанове. Зьезд прызначаўся на 10 траўня і меў на мэце спагнаць падаткі, прынятыя надзвычайным

[363] Адпаведны дакумэнт гетман выдаў 13 сьнежня 1654 г. (BCzart. Rkps 147. Nr 151. S. 739).

[364] BCzart. Rkps 147. Nr 150. S. 737—738; зьмест дэкларацыі, дадзенай войску: Тамсама. Nr 148. S. 727—733 (у крыху іншай рэдакцыі: AGAD. AKW. Dz. rosyjski. Nr 55c/81).

[365] BCzart. Rkps 147. Nr 153. S. 743—746.

[366] Тамсама. Nr 154. S. 747.

[367] Rachuba A. Konfederacja wojska... S. 17—18.

[368] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 437.

[369] З Горадні манарх ад'ехаў каля 20 лістапада ў Новы Двор, адкуль, напэўна, 6 сьнежня скіраваўся ў Каменку, а потым у Варшаву (Laskowski do A. Koniecpolskiego, Grodno 18 XI 1654. AGAD. AZ. Nr 450. S. 124; List z Nowego Dworu, 29 XI 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 146. S. 712).

[370] Jan Kazimierz do J. Weyhera, Warszawa 28 I 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 5. S. 23.

соймам 1654 г. Дзеля гэтага патрабавалася пераразьмеркаваць сумы паміж не занятымі Масковіяй паветамі і вызначыць новыя тэрміны іхнай выплаты[371].

Вельмі адмоўна да пастановаў менскай камісіі паставілася таксама літоўская шляхта. Асабліва востра нападаў ня толькі на камісію, але і на ўсю рэестравую армію ў адрасаваным на соймік дакумэнце ад 19 красавіка 1655 г. літоўскі мечнік Юры Тызенгаўз. Ён ня толькі выказваўся супраць высокіх падаткаў, але таксама прапанаваў арыгінальнае, хоць і неадэкватнае ў тагачаснай сытуацыі рашэньне, каб пасьля заканчэньня тэрміну службы, г. зн. пасьля 9 жніўня, цалкам распусьціць прафэсійнае войска. Тызенгаўз абвінавачваў жаўнераў, што замест таго, каб бараніць Айчыну, яны бязьлітасна рабуюць уласны край і атрымліваюць занадта высокую плату. На думку Тызенгаўза, для абароны Літвы ад цара хопіць паспалітага рушаньня, а таксама аддзелаў, выстаўленых шляхецкімі, духоўнымі і каралеўскімі ўладаньнямі, мусіць, на ўзор павятовых харугваў, дадаткова падмацаваных звольненымі з шэрагу прафэсійных вайскоўцаў. Да таго ж ад службы трэба адхіліць іншаземцаў, «якія вялікай страты ад'ездам сваім не прынясуць»[372].

Канчатковыя пастановы менскай камісіі так і засталіся нявыкананыя, бо на паседжаньнях парлямэнту ў чэрвені-ліпені 1655 г. Ян Казімер адклаў іхны разгляд да наступнага сойму[373]. А жаўнерам давялося чакаць выплаты належнай пазыкі ажно восем гадоў, да віленскай камісіі 1662 г.

У сьнежні 1654 г. удалося, нягледзячы на ўнутраныя спрэчкі і вялікія фінансавыя цяжкасьці, наняць на службу армію, якая пры спрыяльным надвор'і і адпаведным забесьпячэньні напэўна здолела б дасягнуць значных посьпехаў у змаганьні з ворагам. На жаль, аддзелы, якія знаходзіліся пад Менскам, не адзначаліся высокай баяздольнасьцю. Жаўнеры былі здэмаралізаваныя чатырма месяцамі бязьдзейнасьці, бо з канца жніўня літоўскае войска практычна не ваявала. Асобныя апэрацыі мелі толькі лякальны характар, а ўдзел у іх бралі нешматлікія харугвы.

У канцы верасьня і ў кастрычніку яшчэ існавала надзея, што неўзабаве пасьля таго, як пад Менск зьявяцца аддзелы новага набору і падмацаваньні Кароны, армія рушыць у контранаступ. Яму спрыяла б тое, што пасьля бітвы пад Шапялевічамі наступ Трубяцкога спыніўся, і праціўнік засяродзіўся на літоўскіх крэпасьцях, якія трымалі абарону. 26 верасьня віленскі падваявода Павел Марцінкевіч пісаў: «Літоўскія войскі даўняга набору, страціўшы сваё забесьпячэньне (dostatki) і беручы *ad rationem* (на рахунак) грошай крыху на зброю і іншыя *bellica instrumenta* (вайсковыя прылады), чакаюць толькі на харугвы нованабраных і павятовых; а як зьбяруцца з Божай дапамогай, яны паглядзяць мужна ў вочы праціўніку»[374]. Яшчэ ў другой палове кастрычніка даходзілі зьвесткі, што нібыта войска з дня на дзень распачне наступ за Бярэзінай[375]. Але яны не пацьвярджаліся фактамі. Жаўнеры чакалі, калі

[371] AVAK. T. XXXIV. Nr 32. S. 33—35; Jan Kazimierz do K. L. Sapiehy, Sowia Wola 23 I 1655. AGAD. Nabytki Kolekcjonerskie. Nr 59; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie... S. 270.

[372] J. Tyzenhauz do braci na sejmik zgromadzonych, Maluny 19 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 29. S. 147—158.

[373] VL. T. IV. S. 225—226; Rachuba A. Konfederacja wojska... S. 19.

[374] Jakuba Michałowskiego... S. 728.

[375] List z Wilna, 20 X 1654 // Jakuba Michałowskiego... S. 731.

задаволяць іхныя фінансавыя прэтэнзіі, паміж гетманамі разгараліся спрэчкі, да таго ж Януш Радзівіл не хацеў праводзіць шырокамаштабных ваенных дзеяньняў у восеньска-зімовую пару. У выніку армія марнавала каштоўны час у лягерах пад Ракавам і Сьмілавічамі. Пры нагодзе войскі бязьлітасна рабавалі ўласны край, адымалі майно ў сялянаў і спусташалі шляхецкія маёнткі.

Заўважную актыўнасьць у той час выявілі толькі добраахвотніцкія аддзелы. Найбольшых посьпехаў дасягнуў, змагаючыся на Бярэзіне, аддзел мазырскага земскага судзьдзі Самуэля Аскеркі — дасьведчанага афіцэра, які служыў у войску з часу выправы каралевіча Ўладзіслава на Маскву[376]. У ягоны склад уваходзілі, паводле крыху завышаных зьвестак шляхціца Шчаўканава, які служыў у Аскеркі і якога ўзялі ў палон маскоўцы ў сьнежні непадалёк ад Магілёва, дзьве харугвы шляхецкай коньніцы, сем харугваў татараў, харугва драгуноў, конная харугва добраахвотнікаў, пяхотная харугва добраахвотнікаў, а таксама чатыры харугвы вугорскай пяхоты — усяго каля 4000 чалавек[377].

Гэтыя аддзелы распачалі наступ на мяжы верасьня і кастрычніка. Пераправіўшыся праз Бярэзіну, яны напалі на разьмешчаных у навакольных вёсках і мястэчках казакоў з корпусу Івана Залатарэнкі, які асаджаў Стары Быхаў[378].

8 кастрычніка ліцьвіны засьпелі ворага зьнянацку пад Клічавам і прымусілі яго ўцякаць. Казакі страцілі ў гэтай сутычцы каля 500 чалавек. Пагнаўшы войскі праціўніка ў раёне Сьвіслачы, Аскерка скіраваўся на поўдзень, у бок Барысава, ліквідуючы па дарозе разрозьненыя сялянскія аддзелы. У вёсцы Рыні ён натыкнуўся на моцны табар, у якім знаходзіліся аддзелы на чале з мазырскім сотнікам Аксёнам Змалевічам. Завязаўся ўпарты бой. Мазырскі судзьдзя паведамляў: «Яны стаялі на моцна агароджаным гумне, мы атакавалі іх, яны моцна бараніліся, амаль дзьве гадзіны, ужо некалькіх з нашых падстрэлілі [...] але калі агнём падпалілі, толькі тады пачалі ўцякаць, там жа іх з ласкі Божай я зьнішчыў некалькі сотняў гэтых здраднікаў, а іншыя прабіваліся праз харугвы, раненых і падстрэленых некалькі дзясяткаў пайшло плыўма праз рэчку на балота»[379]. У гэтай бітве, паводле падлікаў праціўніка, загінула 900 казакоў. Каля 13 кастрычніка Аскерка ўвайшоў у Бабруйск, а ўначы з 15 на 16 кастрычніка выгнаў казакоў зь мястэчка Бялынічы, разьмешчанага менш як за 40 кілямэтраў на захад ад Магілёва. Посьпехі літоўскіх аддзелаў выклікалі паніку як сярод жыхароў гэтага гораду, так і ў шэрагах корпусу Залатарэнкі[380]. Непрыяцель чакаў, што яны рушаць далей на ўсход, палічыўшы, што гэта пачатак наступу ўсёй арміі Радзівіла. Маскоўскія крыніцы ацэньвалі пад канец кастрычніка ўсе літоўскія сілы (разам з падмацаваньнямі Кароны) ажно на 35 000 чалавек і таму, зразумела, баяліся, што ліцьвіны рушаць нават на ўсход ад мяжы, вызначанай у Палянаве[381]. На жаль, з посьпехаў Аскеркі не скарысталіся гетманы і не падтрымалі

[376] Wasilewski T. Oskierko Samuel // PSB. T. XXIV. 1979. S. 362—363.

[377] AJZR. T. XIV. S. 481—484.

[378] Тамсама. S. 405—406.

[379] S. Oskierko do B. Radziwiłła, Bobrujsk 13 X 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 133. S. 657—658.

[380] AJZR. T. XIV. S. 424—426, 429—430, 433—434; AMG. T. II. Nr 612. S. 384—386.

[381] AMG. T. II. Nr 612. S. 384—386; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 67.

яго рэестравымі аддзеламі. Таму пад канец кастрычніка мазырскі судзьдзя спыніў наступ і аж да канца сьнежня не рабіў ніякіх значных выправаў.

Несумненна, у кастрычніку можна было значна меншымі ахвярамі дасягнуць больших посьпехаў, чым падчас цяжкіх зімовых баёў. У сьнежні, калі пачаўся наступ, зьнік і фактар нечаканасьці, бо праціўнік меў больш за два дадатковыя месяцы, каб падрыхтавацца адбіваць атакі і ўмацавацца на здабытых пазыцыях. У бязьдзейнасьці арміі вінавацілі найперш галоўнага вайскаводцу. Асабліва востра крытыкаваў Радзівіла кароль і ягонае атачэньне. Гетмана абвінавачвалі, што «...ніякім спосабам нічога рабіць ня хоча, спасылаючыся на перавагу непрыяцеля, а супраць яе *impares vires* (няроўныя сілы) тутэйшага войска»[382]. З Горадні шмат разоў чуліся заклікі распачаць больш энэргічныя дзеяньні і прыйсьці на дапамогу гарадам; якія ўсё яшчэ абараняліся. Падкрэсьлівалася, што далейшая бязьдзейнасьць абернецца тым, што частка аддзелаў разыдзецца, перадусім нанятыя на кароткі тэрмін павятовыя харугвы і магнацкія сьвіты. Кароль баяўся таксама, што падчас працяглай стаянкі ў цяжкіх лягерных умовах частка адзінак, «менавіта пяхота, будзе гінуць, і войска будзе скарачацца», а вораг, «пакінуўшы ў замках пяхоту, зможа коннае войска адвесьці на зіму ў Маскву, а летам прыйшоў бы сьвежы»[383]. На жаль, гэтыя аргумэнты не знайшлі разуменьня пад Менскам: большасьць жаўнераў, асабліва стары набор, не хацелі выходзіць на поле, пакуль ня будуць задаволеныя іхныя патрабаваньні наконт заробку.

Іншыя настроі панавалі ў шэрагах дапаможных войскаў Кароны. Пад Менскам шмат разоў даходзіла да спрэчак паміж Радзівілам і афіцэрамі Кароны наконт канцэпцыі далейшага вядзеньня вайны. 9 лістапада супраць гетмана выступіў обэрштэр палка пяхоты гвардыі Фромгальд Вольф, які дзякуючы высокай пасадзе і вялікаму досьведу меў сярод жаўнераў Кароны асаблівы аўтарытэт. 3 лістапада ён выправіўся ў бок Бярэзіны і Любашанаў (населены пункт на поўнач ад Сьвіслачы), каб знайсьці адпаведнае месца для зімовага лягеру. Вярнуўшыся ў Менск, ён заявіў, што «на Бярэзіне добрае і для лягеру, і для зімовай стаянкі месца ўгледзеў», — дадаючы адразу ж, што «не для таго ад Караля Я[го] М[осьці] пасланы, каб у Ракаве ў пустцы, у балотах і ў вялікай галечы люд караля Я[го] М[о]сьці губіць дарэмна, але каб прыгнечанай айчыне і дзяржаве, якая ўжо тоне, руку падаць і ратаваць». Потым папрасіў, каб вялікі гетман выдаў загад рушыць пад Любашаны, але Радзівіл на гэта ніяк не адказаў[384].

Бязьдзейнасьць не найлепшым чынам уплывала і на іншых афіцэраў Кароны. Маральны дух жаўнераў упаў ня толькі праз цяжкія ўмовы ў лягеры пад Ракавам. Калі сталі выконвацца патрабаваньні ліцьвінаў наконт заробку, жаўнеры Кароны таксама пачалі дамагацца выплаты запазычанасьці і ўзнагароды за службу ў Літве. Каб палагодзіць сытуацыю, вялікі канцлер Кароны Стэфан Карыцінскі выдаў дэклярацыю, у якой ад імя караля гарантаваў выплату належных грошай[385]. Будучыя вып-

[382] Laskowski do A. Koniecpolskiego, Grodno 18 XI 1654. ACAD. AZ. Nr 450. S. 123.

[383] Laskowski do A. Koniecpolskiego, Grodno 5 XI 1654. AGAD. AZ. Nr 3031. K. 44—44v.

[384] Diariusz... BCzart. Rkps 147. Nr 139. S. 677, 679.

[385] S. Koryciński do oficerów i deputatów na komisję lwowską regimentów w Wielkim Księstwie Litewskim będących. Warszawa 20 XII 1654. BPAN Kyr. Rkps 350. K. 59.

латы меркавалася рабіць з казны Каралеўства, бо літоўская казна зеўрала пустэчай. Частка ваяводстваў супраціўлялася такому рашэньню, патрабуючы, як бэлская шляхта, каб «палкам і людзям, якія пры войску літоўскім былі, каб ім Княства Літоўскае, а не казна Каралеўства за той час, што там былі, плаціла»[386].

Калі ў Менску працягваліся сваркі паміж гетманамі, а войска вяло складаныя перамовы з скарбовай камісіяй наконт умоваў службы, за 200 кілямэтраў на поўнач заканчвалася гераічная абарона Віцебску. Гэты горад узялі ў аблогу 24 жніўня аддзелы Васіля Пятровіча Шарамецева лікам 4000 чалавек. У верасьні маскоўцы атрымалі падмацаваньне — прыблізна 1000 казакоў на чале з Васілём Залатарэнкам, якіх цар накіраваў з-пад Смаленску. Хоць фартыфікацыі Віцебску знаходзіліся ў надзвычай благім стане, жыхары адкінулі прапанову аб капітуляцыі і распачалі абарону[387].

Умацаваньні гораду, які выдатны вайсковы інжынэр XVII ст. Юзаф Нарановіч-Наронскі пагардліва назваў «бязладна абнесеным куратнікам», састарэлі[388]. Абодва замкі, высокі і нізкі, з пачатку XVII ст. некалькі разоў (у 1614 і 1624 гг.) зазналі вялізныя пажары, ад якіх значна пацярпелі іхныя муры. Умацаваньні ніжняга замку, спаленыя ў 1626 г., часткова адбудавалі з дрэва, што яшчэ больш зьніжала іхную ўстойлівасьць перад агнём артылерыі[389]. Навакольная шляхта выдатна ўсьведамляла, што фартыфікацыі ў вельмі кепскім стане, і ў інструкцыі на зімовы сойм 1654 г. прасіла зрабіць рамонт умацаваньняў, забясьпечыць горад адпаведнай залогай і рыштункам, а таксама прысладзь гарматы, вывезеныя раней у Смаленск (напэўна, у часе вайны 1632—1634 гг.) або нанова адлітыя ў віленскай людвізарні[390]. Пастановы, датычныя ўмацаваньня абароны Віцебску, сойм прыняў толькі ў ліпені 1654 г. Гэта былі запозьненыя і недастатковыя захады, бо апроч таго, што ўсіх мяшчанаў і ваколічную шляхту абавязалі несьці службу ў віцебскіх замках, горад не атрымаў практычна ніякай дапамогі. З рэестравых войскаў у Віцебск прыбыла толькі рота драгуноў лікам 100 чалавек на чале з капітанам Рыгорам Крыштапам Мажэйкам. Апроч таго, залогу складалі 800 мяшчанаў і 42 пушкары[391]. Ліцьвіны пасьпешліва рамантавалі ўмацаваньні, будавалі новыя астрогі і парканы вакол замкаў, аднаўлялі разбураныя гарадзкія муры.

Сама абарона гораду працягвалася ажно 14 тыдняў, хоць ад пачатку аблогі ў Літве лічылі, што слабыя ўмацаваньні і адсутнасьць пораху не дазволяць віцяблянам доўга супраціўляцца[392]. Абаронцы некалькі разоў пасьпяхова адбівалі штурмы маскоўцаў, наносячы непрыяцелю вялікія страты[393]. Тым ня менш, вычарпаньне запасаў пра-

[386] BCzart. Rkps 395. S. 211.

[387] RBS. Nr 280. S. 300—301; VS. T. IV. Cz. 2. Nr 5. S. 30—33; Новосельский А. Очерк военных действий... С. 124—127.

[388] Naronowicz-Naroński J. Budownictwo wojenne... S. 51.

[389] Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 124—125; Егоров Я. А. Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954. С. 50—58.

[390] BCzart. Rkps 147. Nr 157. S. 753—759.

[391] AVAK. T. V. Wilno 1871. Nr 489. S. 174; VL. T. IV. S. 218—219; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 126.

[392] List z Wilna, 12 IX 1654 // Ojczyste spominki... T. 1. S. 129.

[393] Усяго Шарамецеў страціў у сутычцы падчас аблогі 383 жаўнераў, г. зн. каля 10 % арміі (Новосельский А. Очерк военных действий... С. 127).

віянту і боепрыпасаў рабіла капітуляцыю гораду толькі пытаньнем часу. Між тым дапамога не прыходзіла. У кастрычніку, калі ўжо завяршыўся збор арміі, дапамагчы Віцебску заміналі толькі ўнутраны канфлікт і варажнеча гетманаў. Апроч таго, да Менску не даходзілі дакладныя зьвесткі пра падзеі, што разыгрываліся на Дзьвіне, і таму там недаацэньвалася сур'ёзнасьць сытуацыі, у якой апынуліся абаронцы. Віна за такі стан рэчаў кладзецца перадусім на Януша Радзівіла. Калі вялікі гетман вырашыў нарэшце пасласць дапамогу, горад быў ужо на мяжы капітуляцыі.

Падзеньне Віцебску ў значнай ступені паскорыла здрада часткі залогі і мяшчанаў, якія насялялі прадмесьце на другім беразе Дзьвіны. Гэтая група абаронцаў, «высекшы паркан, здрадзіла, і гэты ўчастак голы безь людзей застаўся, адразу войска маскоўскае праз гэтую дзірку разам зь імі ўварвалася ў горад»[394]. Шмат ліцьвінаў пазабівалі, а тыя, хто ацалеў, схаваліся ў ніжнім і верхнім замку. Гэта здарылася ў пятніцу 27 лістапада. Праз пяць дзён, 2 сьнежня 1654 г., Віцебск здаўся[395]. Тым жыхарам, якія прынялі праваслаўе (або раней вызнавалі грэцкую веру) і царскае падданства, пакінулі прывілеі і маёмасьць. Тым, хто хацеў вярнуцца пад уладу Яна Казімера, праз два тыдні нібыта дазвалялася выехаць у глыб Літвы. Аднак, калі тэрмін прайшоў, выявілася, што Масква не зьбіраецца захоўваць умоваў капітуляцыі. Нібыта спачатку цар увогуле хацеў пазабіваць тых з абаронцаў, якія не сьпяшаліся прыняць ягоную апеку, але ўрэшце перадумаў, паддаўшыся просьбам жонкі і сына. Аднак віцяблянаў пазбавілі ўсёй маёмасьці («толькі ў жупанах адных пакінулі»), а потым зьняволілі і выслалі ў глыб маскоўскай дзяржавы, пераважна ў Казань[396].

Толькі 9 сьнежня, г. зн. праз тыдзень па капітуляцыі, пад горадам зьявілася дапамога[397]. Яе было вырашана даслаць у другой палове лістапада, калі дачыненьні гетманаў часова палепшыліся. Гэтыя аддзелы налічвалі 3000 чалавек, а на чале іх стаяў Самуэль Камароўскі. У склад корпусу ўваходзілі, галоўным чынам, адзінкі новага набору, для якіх гэта было баявое хрышчэньне[398]. Тое, што яны паступілі ў падпарадкаваньне абознаму, чалавеку, як вядома, зьвязанаму з Радзівіламі, можна расцаніць як чарговы падступны захад гетмана, які крок за крокам намагаўся скасаваць адасобленасьць дывізіі Гасеўскага і падпарадкаваць сабе ягоныя аддзелы. З гэтай нагоды ўзьнік канфлікт з афіцэрамі Кароны, якія мусілі браць удзел у выправе. Яны самі адмовіліся падпарадкавацца Камароўскаму і прапанавалі пасласць толькі сваіх жаўнераў[399].

[394] APKr. Arch. Sang. Nr 67. S. 339. У здрадзе мяшчане абвінавачвалі таксама аднаго з кіраўнікоў абароны, гарадзкога віцебскага судзьдзю Аляксандра Войну-Ясянецкага (AVAK. T. XIII. Wilno 1886. Nr 28. S. 93—98; BOssol. Rkps 364/ II. K. 81v—82).

[395] DR. T. III. S. 454—455; RBS. Nr 289. S. 311—315; VS. T. IV. Cz. 2. Nr 1. S. 15; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 54. У Менску пра капітуляцыю крэпасьці даведаліся найпазьней 5 сьнежня. Гэтая інфармацыя зьмяшчаецца ў пасланым у той дзень лісьце Г. Ганцкопфа да В. Тызэнгаўза (AGAD. A-Tyz. Nr E-351).

[396] APKr. Arch. Sang. Nr 67. S. 339; AVAK. T. V. Nr 489. S. 173—176; T. XIII. Nr 28. S. 93—98; T. XXXIV. Nr 56. S. 62—64; VS. T. IV. Cz. 2. Nr 87. S. 302—314.

[397] AVAK. T. XIII. Nr 28. S. 97.

[398] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 438.

[399] Jakie dysgusty... BCzart. Rkps 147. Nr 174. S. 827.

Корпус абознага рушыў з-пад Менску 27 лістапада. На шляху праз Лагойск і да пераправы цераз Бярэзіну пад Барысавам яго праводзіў сам вялікі гетман[400]. Зразумела, Камароўскі не пасьпеў прайсьці да 2 сьнежня каля 200 кілямэтраў да Віцебску, каб своечасова дапамагчы абаронцам. Але зьяўленьне пад горадам моцнага корпусу дапамогі ўсяго праз некалькі дзён па капітуляцыі сталася для маскоўскіх жаўнераў неспадзеўкай. Пасьля ўдалага заканчэньня аблогі яны не зважалі на элемэнтарныя меры бясьпекі, паставіўшы лягер безь ніякага прыкрыцьця на лугах пад умацаваньнямі. Жаўнеры Камароўскага сьпярша разьбілі сонную варту, а потым пайшлі на сам Віцебск. «Тым ахвотней наступаючы, так магутна на іх націскалі, што іх аж у поле выгналі, — апісваў штурм Януш Радзівіл. — Там жа, бо ім пляц даўшы, адкрытым полем з абодвух бакоў біліся, і так з ласкай Божай і там з нашымі перамога засталася, што на колькі міляў трупаў паклалі». Частка царскіх жаўнераў паўцякала, шмат патапілася ў Дзьвіне. Ёсьць зьвесткі, што Камароўскі нібыта ўзяў у палон 5000 стральцоў, але лічба здаецца значна завышанай[401]. На жаль, не ўдалося вярнуць віцебскіх замкаў. Посьпех абознага сьведчыць, што калі б дапамогу даслалі раней, горад мог бы пазьбегнуць капітуляцыі. Пасьля гэтых некалькіх баёў Камароўскі даслаў аддзелы ў глыб Маскоўскай дзяржавы, а сам з галоўнымі сіламі скіраваўся ў раён Полацку. Аднак там ён не дабіўся посьпеху і ў канцы сьнежня вярнуўся пад Менск[402].

Захоп Віцебску стаўся апошнім значным посьпехам маскоўскіх войскаў у 1654 г. У той самы дзень здаўся яшчэ разьмешчаны непадалёк ад Полацку Сураж, узяты ў аблогу Сямёнам Стрэшневым[403]. Адзінай крэпасьцю на поўначы, якая да вясны 1655 г. заставалася ў руках ліцьвінаў, быў Вяліж. У апошнія месяцы 1654 г. маскоўскія сілы актыўна дзейнічалі і ў Інфлянтах. У кастрычніку і сьнежні аддзелы Лява Салтыкова і Сьцяпана Ялагіна занялі Рэжыцу і Луцын. Царскія камандзіры не адважыліся напасьці на Дзьвінск, чакаючы падмацаваньняў з Пскова[404].

Цьвёрда супраціўлялася ворагу залога Старога Быхава, які з пачатку верасьня ўзяў у аблогу корпус Залатарэнкі. Адсутнасьць належнай артылерыі і малы ваенны досьвед зводзілі на глум усе намаганьні казакоў. Стары Быхаў, з 1625 г. уласнасьць Сапегаў, належаў да найбольш сучасна ўмацаваных літоўскіх крэпасьцяў. Горад атачалі фартыфікацыі старагаляндзкай сыстэмы — земляныя валы вышынёю сем-восем мэтраў і шырынёю каля падножжа да трыццаці мэтраў, умацаваныя 11 бастыёнамі і равэлінамі, з трыма брамамі. Дапамагала адбіваць атакі надзвычай шырокая лінія абароны, бо Стары Быхаў быў пабудаваны ў форме паўкола з дыямэтрам усяго толькі 800 мэтраў. З усходу подступ дадаткова абараняў высокі бераг Дняпра, а таксама каменны замак памерам 77x100 мэтраў[405]. Казімер Лявон Сапега забясьпечыў

[400] Тамсама; J. Radziwiłł do K. Stryżki, przeprawa pod Borysowem 29 XI 1654. AGAD. AR. Dz. IV. Teka 16. Kop. 19. Nr 304.

[401] J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, Mińsk 21 XII 1654. BOssol. Rkps 3564/II. K. 324v—325.

[402] Eigentliche Erzahlung welchergestalt [...] Janus Radziwil [...] gefiihrte Armee zeitherogeschwachet und zuriicke zu gehen genythiget. BN. Mf 11 806.

[403] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 53.

[404] Тамсама. С. 55; VS. T. IV. Cz. 2. Nr 1. S. 16; Новосельский А. Очерк военных действий... С. 128—130.

[405] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Менск, 1985. С. 45; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 80—82.

крэпасьць моцнай артылерыяй, запасамі правіянту і ўвёў у яе шматлікую залогу. Паводле сьведчаньняў палонных, якія абаранялі горад і трапілі ў рукі казакоў, у сьнежні 1654 г. у склепах заставаліся рэзэрвы хлеба і солі мінімум на год. Залогу складалі, відаць, ажно 2000 мяшчанаў, 600 наёмных жаўнераў, 200 гайдукоў, 100 драгуноў, каля 300 шляхты (найперш уцекачы з Рэчыцкага павету), а таксама 1000 габрэяў[406]. А згодна з ацэнкамі ачольніка абароны, даверанага служкі Сапегаў Канстанціна Багушэвіча, у ліпені ў Старым Быхаве знаходзіліся 3000 чалавек, якія служылі пад 21 харугвай. Тады да крэпасьці яшчэ не дайшлі абяцаныя падканцлерам палкі нямецкай пяхоты, якія, аднак, далучыліся да абаронцаў яшчэ да пачатку аблогі[407]. Артылерыя гораду налічвала, паводле зьвестак за ліпень 1655 г., чатыры цяжкія гарматы і 26 палявых[408].

Ад пачатку аблогі ліцьвіны не чакалі пасіўна, што зробіць праціўнік. Яны стараліся шматлікімі вылазкамі спаралюшаваць падначаленых Залатарэнкі і нанесьці ім як мага больш адчувальныя страты. Пра адзін з такіх выпадкаў мы можам даведацца зь сьведчаньняў казака Нежынскага палка Лаўрына Шылы, крыху пазьней узятага ў палон у Вяляцічах каля Барысава. Абаронцам удалося высечы залогі шанцаў, разьмешчаных паблізу Магілёўскай і Ніжняй брамаў, здабыць тры гарматы і заняць адзін з табараў. Уцякаючы ў пярэпалаху, казакі «праз Дняпро пусьціліся, і шмат іх патанула, а нашы, парубіўшы іх, табар спалілі і цэлыя ў горад вярнуліся»[409]. З набліжэньнем зімы рабілася відавочным, што аблога крэпасьці асуджаная на няўдачу, а ейнае спыненьне застаецца толькі пытаньнем часу.

Аднак казакі знаходзіліся пад Старым Быхавам аж да 26 лістапада. У той час Залатарэнка спрабаваў замацавацца на захопленых за апошнія месяцы абшарах і пашырыць іх, намерваючыся, між іншым, падпарадкаваць сабе Магілёў. Аднак нежынскі палкоўнік сустрэўся зь нечаканым праціўнікам. Ім быў Канстанцін Паклонскі, той самы, які, як мы памятаем, прывёў горад да добраахвотнай капітуляцыі на пачатку верасьня. У кастрычніку 1654 г. ён ужо стаяў на чале моцнага, арганізаванага паводле ўзору ўкраінскай пяхоты палка, што налічваў каля 4000 жаўнераў з добраахвотнікаў сярод мясцовага насельніцтва. З 15 верасьня ён узяў сабе тытул беларускага палкоўніка[410]. Як мяркуюць некаторыя гісторыкі, Паклонскі меў амбіцыі — хіба крыху на вырост — утварыць на тэрыторыях паміж Бярэзінай і Дняпром дробную аўтаномную дзяржаву, якая, прызнавала б апеку цара, але не падначальвалася б маскоўскім вайскаводцам[411]. Таму ягоныя пляны супярэчылі задумам Залатарэнкі.

Ужо ў сярэдзіне верасьня адбіліся сутычкі паміж аддзеламі праціўнікаў. Калі магіляўчане адмовіліся падпарадкавацца Залатарэнку, казакі ўвайшлі ў ваколіцы гораду, абрабавалі шэраг вёсак і мястэчка Чавусы, а таксама зьнішчылі ў навакольлі за-

[406] AJZR. T. XIV. S. 443—448; падобныя ацэнкі на с. 467.

[407] K. Bohuszewicz do K. L. Sapiehy, [Stary] Bychów 13 VII 1654. LwNB. Fond 103. Nr 1647.

[408] AJZR. T. XIV. S. 715—716.

[409] Konfesata Kozaków zaporoskich... Materyały dla historyi. T. II. S. 40.

[410] AJZR. T. XIV. S. 151—154, 295.

[411] Погилевич. Д. Л. Белорусское козачество // Питання історії СРСР. Львівський державний університет ім. І. Франка. Наукові записки. Т. XLIII. 1957. Вип. VI. С. 162.

пасы правіянту. Умяшаўся сам цар: ён забараніў пад пагрозай сьмерці рабункі ў Магілёўскім уезьдзе, а пасьля, прыняўшы 30 верасьня ў лягеры пад Смаленскам Залатарэнку, дазволіў толькі браць крыху правіянту ў трох вайтоўствах. Аляксей Міхайлавіч, зрэшты, не заняў у гэтым канфлікце адназначнай пазыцыі. Хоць ён рашуча выступіў супраць прэтэнзіяў казакоў на Магілёў, але таксама абмежаваў амбіцыі Паклонскага і забараніў яму далей набіраць добраахвотнікаў у свае аддзелы. Праводзячы такую палітыку, цар меў надзею, што ніводзін з бакоў не дасягне перавагі і ў выніку ня зможа пагражаць інтарэсам Масковіі. Але неўмяшаньне цара абярнулася ў другой палове лістапада чарговым братазабойчым канфліктам з мноствам сьмяротных ахвяраў[412]. Сытуацыю залагодзіла толькі адступленьне Залатарэнкі пад Новы Быхаў. Тут трэба згадаць, што 1 сьнежня Хмяльніцкі зьвярнуўся да цара з просьбай дазволіць аддзелам нежынскага палкоўніка вярнуцца ва Украіну, каб узмацніць абарону, калі ўжо распачаўся наступ арміі Кароны[413]. Аднак на гэта не згадзіўся сам Залатарэнка, бо тады яму давялося б адмовіцца ад здабытага за апошнія месяцы, а таксама адкінуць надзею на новыя посьпехі ўвесну 1655 г.

У ваколіцах Магілёва застаўся толькі корпус Паклонскага. У сьнежні 1654 г. стасункі «беларускага палкоўніка» з Масковіяй нечакана пагоршыліся. Паклонскі не прымаў палітыкі захопнікаў у дачыненьні да мясцовай шляхты, масавых высылак, перасьледаў, рабункаў, парушэньня ўмоваў капітуляцыі паасобных гарадоў. Ён наракаў на адсутнасьць рэлігійнай талерантнасьці і парушэньне прывілеяў, якімі грамадзяне карысталіся пад уладай польскага караля. На зьмену поглядаў Паклонскага паўплывала і адмоўнае стаўленьне маскоўскіх уладаў да ягоных палітычных задумаў, а таксама падманутыя асабістыя амбіцыі. У лістах за студзень 1655 г. да цьвярскога намесьніка Васіля Бутурліна палкоўнік скардзіўся, што цар не падтрымаў яго ў канфлікце з Залатарэнкам, што ягоныя аддзелы сутыкаліся з абмежаваньнямі і, нарэшце, што ён атрымаў ва ўзнагароду занадта малыя маёнткі[414]. У ягоных разьліках не апошнюю ролю адыграла крытычная ацэнка падрыхтоўкі маскоўцаў да абароны перад наступам літоўскай арміі, што сабралася пад Менскам. Спадзеючыся, што тэрыторыі паміж Дняпром і Бярэзінай могуць неўзабаве вярнуцца пад уладу Яна Казімера, палкоўнік вырашыў усталяваць кантакт зь Янушам Радзівілам. Ягоным галоўным пасярэднікам у перамовах быў даўні служка Сапегаў, смаленскі гараднічы Траян Сулоўскі, які таксама хацеў пакінуць царскую службу[415]. Але толькі ў сярэдзіне лютага 1655 г., калі літоўскія войскі падышлі пад Магілёў, Паклонскаму давялося чарговы раз адыграць істотную ролю ў ваенных і палітычных справах.

[412] AJZR. T. XIV. S. 153—164, 167—174, 297—300, 379—380, 407—408, 433—436, 439—442, 453—454.

[413] Документи Богдана Хмельницького... № 290. С. 400—401.

[414] AJZR. T. XIV. S. 491—493, 507—509 (матывы сваіх паводзінаў Паклонскі таксама выклаў у лісьце да невядомага маскоўскага ўрадніка, напісаным пад канец сакавіка 1655 г.: Тамсама. S. 509—514).

[415] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135.




5. Зімова-веснавая кампанія войскаў Рэчы Паспалітай (студзень-травень 1655 г.)

## Разьдзел VI

# ПАЧАТАК ЗІМОВАГА КАНТРАНАСТУПУ. АБЛОГА НОВАГА БЫХАВА

У апошнія дні сьнежня 1654 г., пасьля чатырох месяцаў амаль поўнай бязьдзейнасьці, войскі Рэчы Паспалітай пачалі шырокамаштабныя дзеяньні супраць Масковіі. Як мы ўжо згадвалі, з каралеўскага двара ўжо з кастрычніка паступалі загады як мага хутчэй распачаць кантранаступ. Пра ўзнаўленьне вайны, відаць, гаварылася на сходзе ў Горадні. За рашучыя захады, апроч прыхільнікаў караля ў Літве, выказаўся ў тым ліку і Казімер Лявон Сапега, бо толькі так можна было прыйсьці на дапамогу Старому Быхаву[416].

Пляны караля падтрымалі і саноўнікі Кароны. Як і Ян Казімер, яны лічылі, што аднbackchannel ўдар літоўскай арміі ў Беларусі і войскаў Кароны пры падтрымцы татарскіх войскаў на Брацлаўшчыне дазволіць пераламіць ход вайны з Масковіяй і схіліць шалі перамогі на польска-літоўскі бок. Зразумела, яны спадзяваліся, што, задзейнічаўшы вельмі значныя ў параўнаньні з магчымасьцямі дзяржавы сілы (разам Карона і Літва сабралі каля 40 000 жаўнераў), удасца разарваць Пераяслаўскую дамову, вярнуць казакоў пад уладу Рэчы Паспалітай.

Посьпех на ўсходнім флянгу таксама дапамог бы палепшыць, на думку палякаў, дачыненьні з Швэцыяй. У студзені 1655 г. у Стакгольм прыбыў пасланец Яна Казімера Анджэй Морштын, каб перадусім весьці перамовы пра агульнае выступленьне абедзьвюх дзяржаваў супраць Аляксея Міхайлавіча[417]. Чакалася, што швэды, баючыся росту магутнасьці Масковіі, які парушаў ранейшы расклад сілаў у басэйне Балтыйскага мора, могуць пагадзіцца на хаўрус з Рэччу Паспалітай. У адваротным выпадку меркавалася выкарыстаць перамогі на ўсходнім фронце, каб прымусіць швэдаў адмовіцца ад плянаў нападу на Польшчу. На жаль, Ян Казімер не згадзіўся безумоўна зрачыся правоў на трон Вазаў, а значыць, Морштын зьявіўся ў Стакгольм без адпаведных паўнамоцтваў, і таму ягоная місія завяршылася фіяска. Больш за тое, ход перамоваў, а таксама беспасьпяховасьць вайны з Масковіяй падштурхнулі швэдаў на мяжы сакавіка і красавіка 1655 г. вызначыць мэтаю свайго нападу польска-літоўскую дзяржаву і адкласьці зьвядзеньне рахункаў з Масковіяй[418].

Пляны аднавіць баявыя дзеяньні на беларускім фронце адразу натыкнуліся на шэраг перашкодаў. Як мы ўжо ведаем, жаўнеры рэестравай літоўскай арміі і слухаць не хацелі пра выступленьне да заканчэньня працы скарбовай камісіі. Але супраць

[416] Аднак падканцлер скептычна выказваўся наконт магчымасьці дасягнуць значнага посьпеху падчас зімовай кампаніі: «Непагадзь і час вайны зімою маскалю выгаднейшыя, чым нашым» (List do A. H. Połubińskiego z 9 XI 1654. BCzart. Rkps 2749. Nr 93. S. 337).

[417] Заборовский Л. В. Россия... С. 98.

[418] Stade A. Geneza decyzji Karola X Gustawa o wojnie z Polską w 1655 r. // SMHW. T. XIX, 1973. Cz. 2. S. 19—91.

вайны з Масковіяй да вясны 1655 г. увесь час выступаў Януш Радзівіл. Шмат хто меркаваў, што падставай таму — ягоная асабістая антыпатыя да караля і Гасеўскага. Так лічыў між іншым і Ян Ляшчынскі, які ў адным з сваіх лістоў наракаў, што «літоўскае войска і прыстойнае, і вялізнае, і ахвотнае там бязьдзейнічае. Наколькі магу калігаваць (рабіць выснову) з усіх акалічнасьцяў, то нішто іншае гэта не выклікае, як толькі да Пана *dissidentia* (варожасьць)»[419].

Але, здаецца, галоўная прычына была ў іншым. Вялікі гетман папросту рэальна ацэньваў баяздольнасьць і магчымасьці сваіх жаўнераў, абсалютна не падрыхтаваных да цяжкіх і надзвычай зьнясільвальных ваенных дзеяньняў узімку. Ужо 8 верасьня 1654 г. у лісьце да віленскага біскупа ён адзначаў: «Канчаецца ваенная пара, холадна, надыходзіць слата. Што тут адразу зробіць хоць бы і найвялікшае войска? Увесь край зьнішчаны і спалены, дзе лягеры, дзе правіянт? Так шмат гарадоў, прабіваючыся да Смаленску, здабываць трэба, так шмат не *praesidia* (залог), а такіх войскаў зьнішчаць — ці восеньскай гэта парою?» Радзівіл таксама вельмі нізка ацэньваў баяздольнасьць аддзелаў новага набору і шляхецкіх харугваў: «А палкі і з новага набору і паспалітага рушаньня, — паведамляў у тым самым лісьце, — якія, лепей гэта там вельмішаноўны Пан ведаеш, бо сядзіш *in metropoli* (у сталіцы — Вільні)»[420]. Свайго меркаваньня ён не зьмяніў і тады, калі прыбылі падмацаваньні Кароны і ўсё войска сабралася пад Менскам. Таму, хоць нарады скарбовай камісіі завяршаліся, а большасьць маскоўскіх сілаў пакінула тэрыторыю Рэчы Паспалітай, армія ўвесь час бязьдзейна стаяла ў лягеры.

Супраць такіх паводзінаў Радзівіла рашуча выступаў двор. На мяжы лістапада і сьнежня кароль зьбіраўся нават пазбавіць яго паўнамоцтваў галоўнага вайскаводцы і перадаць іх Гасеўскаму. Калі б Ян Казімер так і зрабіў, напэўна абвастрыўся б канфлікт між гетманамі, і ў выніку было б немагчыма весьці хоць якія ваенныя дзеяньні. Таму намеры манарха рашуча крытыкавалі сьведкі падзеяў, якія цьвяроза ацэньвалі сытуацыю. Сярод іх быў і Ян Ляшчынскі: «Такія *media* (сродкі), якія Я[го] К[аралеўская] М[осьць] піша, каб вайсковае кіраўніцтва палявому (гетману. — **К. Б.**) даручыць і загадаць яму рушыць супраць непрыяцеля, гэтага забясьпечыць мне не дапамогуць». Ён таксама заўважаў, што гэткія захады прывядуць да «згубы не Літвы, а ўсёй Айчыны»[421].

На шчасьце, двор ня здолеў ажыцьцявіць гэтых задумаў. Пазыцыя Януша Радзівіла была настолькі моцная, што ўсякія спробы адхіліць яго ад палітыкі і кіраваньня літоўскім войскам ня мелі шанцаў на посьпех. Як слушна заўважыў Ляшчынскі, калі б «палявому (гетману. — **К. Б.**) даручыўшы камандаваньне, трэба было супраць непрыяцеля загадаць (змагацца. — **К. Б.**), а ён такі магутны ня будзе, каб непрыяцеля зьнішчыць, бо вялікі гетман палкоў сваіх пад камандаваньне сваё не паслаў бы»[422]. Аддзелы Гасеўскага налічвалі ўдвая менш жаўнераў, чым дывізія правага крыла, і былі занадта слабыя, каб пачынаць самастойныя дзеяньні супраць маскоўскіх войскаў.

[419] J. Leszczyński do Z. Gorajskiego, Goślina 6 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 71. S. 161.

[420] J. Radziwiłł do J. Tyszkiewicza, Mińsk 8 IX 1654. BPAN Kr. Rkps 1017. K. 78, 79.

[421] J. Leszczyński do A. Leszczyńskiego, Goślina 6 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 72. S. 168—169.

[422] Ляшчынскі да У. Цецішоўскага: Goślina 6 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 73. S. 171.

Прыхільнікі караля сутыкаліся, зрэшты, з рашучым супрацьдзеяньнем Радзівіла. Князь вырашыў публічна прынізіць Гасеўскага і даказаць двару, што ніхто ня мае права ставіць пад сумнеў ягоны аўтарытэт як галоўнага вайскаводцы літоўскай арміі.

У сярэдзіне сьнежня пад Менскам здарыўся інцыдэнт, дэталёва апісаны ў данясеньні аднаго з чальцоў скарбовай камісіі. Паручнік з дывізіі Гасеўскага заступаўся перад капітанам драгунаў Радзівіла Марцінам Харасманскім за несправядліва арыштаванага і замкнёнага ў вязьніцы прыслужніка. Выбухла сварка, у якой адзін чалядзінец паручніка быў забіты, а другі паранены. Сьледзтва вызначыла, што вінаваты Харамански, які «захопам на вуліцы таго салдата, зраненьнем яго і зьняволеньнем у прыватную вязьніцу даў нагоду для забойства тых, каго забілі»[423]. Меркавалася пакараць яго платай галоўшчыны. Тады ў справу ўмяшаўся вялікі гетман. На сьпехам зладжаным на другі дзень паседжаньні суду ён апраўдаў капітана, а на сьмерць асудзіў паручніка. Выканаць прысуд, на шчасьце, не пасьпелі, перадусім дзякуючы пасярэдніцтву камісіі. Пасьля доўгіх пераконваньняў Радзівіл згадзіўся ўрэшце пакінуць афіцэру жыцьцё. Спрэчку ўдалося замяць, але праціўнікі віленскага ваяводы маглі чарговы раз пераканацца, наколькі нерэальныя іхныя задумы адхіліць яго ад кіраваньня арміяй. Таму каралю давялося прыпыніць дзеяньні, якія расколвалі знутры літоўскае войска, і загадаць, каб дывізія левага крыла і корпус Кароны прызналі зьвершнасьць Радзівіла. Вялікі гетман мусіў наўзамен пагадзіцца захаваць арганізацыйную самастойнасьць аддзелаў Гасеўскага. Жаўнераў Кароны да таго ж запэўнілі, што іхнымі адзінкамі ня будуць камандаваць афіцэры дывізіі правага крыла. Такім чынам удалося прыцішыць канфлікт паміж гетманамі, але прычыны ягоныя засталіся, і было толькі пытаньнем часу, калі сварка зноў выбухне з падвоенай сілай.

Пад канец сьнежня 1654 г., пасьля трох месяцаў патрабаваньняў, Януш Радзівіл згадзіўся нарэшце вывесьці войска ў поле. Гэта не азначала, што ён зьмяніў думку наконт сэнсоўнасьці такога кроку. Яшчэ ў апошні дзень 1654 г. ён пісаў: «Як жа і цяпер я бачыў, што [...] для захаваньня да далейшай справы зімовая перадышка патрэбная як толькі нанятаму жаўнеру, так і старому набору, што працягвае служыць, а перадусім ранейшаму войску»[424]. Аднак далейшы супраціў плянам караля, якія падтрымлівала большасьць эліты Рэчы Паспалітай, пагражаў чарговым канфліктам і паглыбленьнем унутранага разладу ў дзяржаве.

Апроч таго, пад канец 1654 г. здавалася, што ёсьць рэальныя шанцы хутка і выгодна для Рэчы Паспалітай завяршыць вайну з Масковіяй. У лістападзе-сьнежні армія Каралеўства пачала ўжо наступ ва Ўкраіне, які спачатку разьвіваўся вельмі пасьпяхова. Войска разьбіла шэраг невялікіх казацкіх аддзелаў, заняло Бушу, а адным махам і выразала насельнікаў гораду, заняло пакінуты праціўнікам Брацлаў. Армія Кароны рыхтавалася рушыць у глыб Украіны і даць вырашальную бітву войску Хмяльніцкага, якое падтрымлівалі ня надта шматлікія царскія аддзелы. Таму, зразумела, ня толькі сярод прыхільнікаў караля панавала меркаваньне, што далучэньне да ваенных дзеяньняў літоўскай арміі можа прынесьці посьпех і на гэтым участку фронту, бо войскі праціўніка збольшага пакінулі тэрыторыю Вялікага Княства Літоў-

[423] Traktaty komisarzów z wojskiem. BCzart. Rkps 147. Nr 177. S. 837—841.

[424] J. Radziwiłł do J. Leszczyńskiego, obóz w Śmiłowiczach 31 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 76. S. 179.

скага. Затое бязьдзейнае знаходжаньне жаўнераў пад Менскам вымагала ад казны вялізных выдаткаў, што абсалютна не паскарала вяртаньня страчаных у першыя месяцы вайны земляў. У разьліку на посьпехі ня браліся пад увагу некаторыя надзвычай істотныя чыньнікі, пра якія ўвесь час нагадваў Януш Радзівіл — непадрыхтаванасьць жаўнераў да вайны ў гэтую пару году, унутраны надлом у арміі і, перш за ўсё, адсутнасьць адпаведнай артылерыі і інжынэрнага абсталяваньня, так што практычна выключалі спробы ўзяць лепш умацаваныя гарады.

Артылерыя літоўскага войска ў сярэдзіне XVII ст. знаходзілася ў вельмі цяжкім стане. Хоць з 1641 г. на ейныя патрэбы прызначалася г. зв. новая кварта[425], нязьменна бракавала сродкаў на ейную мадэрнізацыю і закупку[426]. Таму з крэпасьцяў салідную артылерыю меў толькі Смаленск. Разам з тым на баявыя дзеяньні выстаўлялася толькі невялікая частка палявых гарматаў. Яны маглі падтрымліваць войскі адно ў полі, а пры аблогах і штурмах рабіліся практычна бескарыснымі. Бракавала цяжкіх гарматаў. Але ў часе кампаніі іх трэба было выводзіць з цэхгаўзаў гарадоў, што належалі магнатам і дзякуючы абачлівасьці іхных уладальнікаў ня ведалі нястачы рыштунку. Толькі ў адных радзівілаўскіх Біржах Густаў Адольф захапіў у 1625 г. ажно 60 бронзавых гарматаў, а пасьля «патопу» ў мясцовым арсэнале знаходзілася 85 гарматаў і 6595 ядраў[427]. Для параўнаньня: у 1601 г. у дзяржаўных цэхгаўзах захоўваліся дзьве цяжкія гарматы (па адной у Вільні і Полацку)[428]. Літоўская армія балюча адчувала таксама недахоп пораху і волава. Падчас летняй кампаніі пушкары не давезьлі да лягеру пад Воршай дасланыя з Слуцку запасы і гарматы, бо ня мелі грошай наняць падводы і фурманоў[429]. З падобнай праблемай Януш Радзівіл сутыкнуўся і на год пазьней, у ліпені 1655 г.[430]. Увосень 1654 г. становішча крыху зьмянілася на лепшае, бо значныя запасы пораху (каля 200 цэнтнэраў) прывёз зь Вільні пад Менск Гасеўскі[431].

Літоўская армія цярпела і ад недастаткова дасьведчаных пушкароў. На іх шмат разоў наракаў Януш Радзівіл. Апісваючы штурм умацаваньняў Магілёва, ён сьцьвярджаў: «Пушкары і ўсе служачыя гэтай артылерыі такія дрэнныя і ні да чога непрыдатныя, што за ўвесь гэты час штурму толькі адзін снарад у горад трапіў, іншыя ўсе адны пераляцелі, другія не даляцелі і сваіх толькі людзей білі». Таму зусім ня дзіўна, што ў тым самым лісьце гетман вельмі трапна ацаніў агульны стан сваёй артылерыі:

[425] Кварта (лац. *quarta* — чацьвертая частка) — у Рэчы Паспалітай назва падатку, які налічаўся ў памеры 1/4 даходу, які прыносіла ўрабленьне каралеўскіх лятыфундыяў. Падатак быў прызначаны на ўтрыманьне войска. — *Рэд.*

[426] Даходы з новай кварты прыносілі штогадова толькі каля 25 000 злотых (у 1650-м — 25 500): Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. III. S. 124.

[427] Wasilewski T. Budowa zamku i rezydencji Radziwiłłów w Birżach w latach 1586—1654 // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Studia z historii architektury, sztuki i kultury ofiarowane Adamowi Miłobędzkiemu... Warszawa, 1988. S. 265; Tyszkiewicz E. Birże... S. 55.

[428] Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. III. S. 126—127.

[429] Сагановіч Г. Войска... С. 33.

[430] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, b. m. d. BCzart. Rkps 2105. S. 345.

[431] Źródła do dziejów Polski... T. I. S. 145—146.

«Гармата [...], якая і прыносіць найбольшую карысьць у такіх дзеяньнях, благая і нікчэмная, што цяжка і апісаць»[432]. Недахоп належнай агнявой падтрымкі, апроч вельмі цяжкіх прыродных умоваў, можна палічыць галоўнай прычынай няўдачаў, якія напаткалі літоўскую армію падчас зімова-веснавой кампаніі 1655 г.

Адзіны палявы корпус, які на мяжы 1654 і 1655 гг. знаходзіўся ў Беларусі і на які можна было наступаць, — гэта аддзелы Залатарэнкі, што стаялі лягерам за ўмацаваньнямі Новага Быхава. Таму пра разгром праціўніка ў генэральнай бітве гаворкі не вялося, а кантранаступ арміі Януша Радзівіла абмежаваўся толькі спробамі вярнуць гарады, занятыя Масковіяй улетку і ўвосень. Жаўнерам даводзілася весьці працяглыя аблогі, якія вымагалі вялікіх ахвяраў і праз згаданую нястачу зброі не маглі прынесьці чаканага выніку. Распрацоўваючы плян кампаніі, віленскі ваявода адмовіўся перакінуць свае аддзелы на паўночную Ўкраіну, каб зьменшыць нагрузку на армію Кароны ці дзейнічаць разам зь ёю на полі бітвы. На пачатку 1655 г. правядзеньне такога манэўру, як у 1649 і 1651 гг., не разглядалася найперш таму, што на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага заставаліся шматлікія маскоўскія залогі. Нават калі пакінуць убаку надзвычай цяжкія прыродныя ўмовы, трэба заўважыць, што калі б Радзівіл з Гасеўскім і вырашылі выслаць свае аддзелы на паўднёвы фронт, то праціўнік мог бы зь лёгкасьцю адрэзаць ім сувязь з тылам або нават напасьці на пазбаўленыя належнай заслоны тэрыторыі на захад ад Бярэзіны.

Літоўскія вайскаводцы палічылі, што на першым этапе кампаніі галоўнае — здабыць крэпасьці на лініі Дняпра (Новы Быхаў, Магілёў, Шклоў, Воршу, Дуброўну), каб стварыць там лінію абароны перад новым наступам маскоўцаў, якога чакалі ўлетку 1655 г. Згаданыя фартэцыі ня мелі сучасных умацаваньняў і, як правіла, ахоўваліся невялікімі сіламі. Таму камандаваньне літоўскага войска спадзявалася досыць хутка імі завалодаць. Потым меркавалася рушыць у глыб маскоўскай дзяржавы, але гэты варыянт залежаў бы ад посьпехаў арміі Кароны. Калі б удалося разьбіць Хмяльніцкага, а Радзівілу спрыяў бы посьпех, здавалася рэальным, «пакінуўшы на памежжы як у Вялікім Княстве Літоўскім, так і ў Кароне паспалітае рушаньне, для тых войскаў, якія тут у нас ёсьць непрыяцельскія, толькі для дэфэнсы (абароны), аб' яднаўшы войскі Літвы і Кароны з татарамі [...] рушыць на Маскву»[433], каб на тэрыторыі праціўніка давесьці вайну да канца.

Такога павароту падзеяў вельмі баяліся маскоўцы. Пра пляны польска-літоўскага войска яны даведаліся зь сьведчаньняў палонных, захопленых на пачатку студзеня пад Магілёвам. Яны перадалі, што Радзівіл, узяўшы Магілёў і Шклоў, пойдзе пад Смаленск, а тады, абмінуўшы яго, рушыць на саму сталіцу маскоўскай дзяржавы[434]. Таму ў многіх гарадах, у тым ліку ў Полацку, Магілёве і Шклове, рамантаваліся фартыфікацыі. У Смаленск, куды ваяводам прызначылі Рыгора Пушкіна, прыйшоў

[432] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1043.

[433] J. Leszczyński do J. Radziwiłła, Łowicz 30 III 1655. BCzart. Rkps 384. Nr 90. S. 205; таксама ягоны ліст да С. Патоцкага (S. Potocki): Kutno 30 III 1655. Тамсама. Nr 91. S. 208.

[434] AJZR. T. XIV. S. 487—488, 495—496; AMG. T. II. Nr 638. S. 398; Соловьев С. М. История России с древнейших времен... С. 642.

шматлікі гарнізон зь вялікім запасам правіянту і рыштунку. Усякія спробы здабыць гэтую крэпасьць без працяглай аблогі былі асуджаныя на няўдачу.

Першыя зьвесткі пра актыўныя дзеяньні войскаў Януша Радзівіла прыпадаюць на апошні тыдзень 1654 г. Тады заявілі пра сябе добраахвотніцкія аддзелы Самуэля Аскеркі. Як паведамляў узяты магілёўскай залогай палонны, раніцай 28 сьнежня з Бабруйску ў Стары Быхаў прыйшлі каля дзесяці харугваў коньніцы і пяхоты на чале з мазырскім судзьдзём. Праз тры дні, 31 сьнежня, пад крэпасьцю зьявілася на загад вялікага гетмана яшчэ пяць конных і пяхотных харугваў. Іншыя літоўскія аддзелы ў той час стаялі ў Бабруйску (дывізія Гасеўскага), Менску і Барысаве (дывізія Януша Радзівіла і, напэўна, полк Юр'я Караля Глябовіча, які ўваходзіў у ейны склад), а таксама ў Лукомлі, Чарэі і Талачыне (полк Сапегаў) і рыхтаваліся да наступу на Магілёў, што плянаваўся на пачатак новага году[435]. Палонныя падавалі значна завышаную колькасьць літоўскіх войскаў. Паводле адной з рэляцыяў, Гасеўскі меў 20 000 чалавек, а Радзівіл і Глябовіч — цэлых 30 000 жаўнераў. Паводле іншых, сукупнасьць сілаў, што мусілі ўдзельнічаць у наступе, ацэньвалася прыблізна на 40 000 жаўнераў[436].

Большая частка аддзелаў яшчэ 31 сьнежня знаходзілася ў сьмілавіцкім лягеры. Яны выйшлі ў поле, напэўна, у першыя дні студзеня. Ідучы на выправу, Януш Радзівіл зь непакоем пісаў лэнчынскаму ваяводу, што яго чакала супрацьстаяньне ворагу і прыродзе: «Я выходжу ў поле з войскам, зь якім тое рабіць буду, што час і сама *possibilitas* (магчымасьць) падасьць і дазволіць, *nec sine spe* (не без надзеі) на які-небудзь посьпех, калі толькі *inclementia caeli et asperitas* (бязьлітаснасьць клімату і лютасьць) зімы, асабліва перад драгунамі і пяхотай і для самой іншаземнай кавалерыі невыносная *asperitas* большых *non obiit* (не паставіць), чым *hostis* (вораг) перашкодаў»[437].

Пачатак кампаніі ішоў згодна з плянамі ліцьвінаў. Яны занялі Галоўчын і паволі ачышчалі ад аддзелаў праціўніка тэрыторыю паміж Дняпром і Бярэзінай. 8 студзеня паміж Старым Быхавам і Магілёвам адбылося сутыкненьне з корпусам Паклонскага. Ліцьвінам не ўдалося захапіць табар праціўніка, які адступіў у бок Магілёва і 11 студзеня стаў перад горадам, у прадмесьці Луполава. 10 студзеня Радзівіл і Гасеўскі з большай часткай сваіх войскаў падышлі пад Стары Быхаў. Частка аддзелаў, у тым ліку казацкі полк у складзе васьмі харугваў літоўскага стольніка Крыштапа Патоцкага, зьявілася ў наступныя дні ўсяго толькі за 25 кілямэтраў ад Магілёва, заняўшы кляштар у Баркулабаве і спустошыўшы навакольныя вёскі[438]. У самім Магілёве чакалі, што Радзівіл абярэ гэты горад першай мэтай наступу. Таму пасьпешліва рамантаваліся фартыфікацыі, узмацнялася мясцовая залога і папаўняліся запасы. Тым часам гетман нанёс удар у іншым кірунку. Армія скіравалася на поўдзень, каб выключыць з далейшых баявых дзеяньняў корпус Залатарэнкі. Радзівіл так тлумачыў сваё рашэньне: «Я скіраваўся туды [...] пад Новы

[435] AJZR. T. XIV. S. 465—468, 481—484; Mieszczanie starobychowscy do K. L. Sapiehy, Stary Bychów 4 I 1655, LMAB. Fond 139. Nr 545.

[436] AJZR. T. XIV. S. 469, 481—484.

[437] J. Radziwiłł do J. Leszczyńskiego, obóz w Śmiłowiczach 31 XII 1654. BCzart. Rkps 384. Nr 76. S. 179.

[438] AJZR. T. VIII. S. 384—385. T. XIV. S. 468—470, 485—489.

Быхаў, жадаючы [...] прыбраць тую перашкоду, якая *магла obiecet ponere* (замінаць) іншым дзеяньням»[439].

12 студзеня літоўскія аддзелы зьявіліся прыкладна за дзьве мілі на поўдзень ад гораду і разьбілі два лягеры. Першыя паважныя сутычкі завязаліся 14 студзеня. Казакі мусілі адступіць за лінію ўмацаваньняў. Пачалася рэгулярная аблога[440].

Новы Быхаў, разьмешчаны над Дняпром прыблізна за 20 кілямэтраў на поўдзень ад Старога Быхава, у сярэдзіне XVII ст. належаў сям'і Слушкаў. Горад атачалі ўжо крыху састарэлыя, але захаваныя ў добрым стане і, напэўна, дадаткова мадэрнізаваныя на загад Залатарэнкі земляныя фартыфікацыі, умацаваныя сямю бастыёнамі. «З аднаго боку, зь якога шырокія ў раўніне цягнуцца палі, быў апаясаны валам, з другога боку — цячэньне ракі Дняпра, а таксама моцныя штыкеты, частакол і тоўстыя дубы баранілі»[441]. Мясцовы замак меў грунтоўныя драўняна-земляныя ўмацаваньні, а з усходу яго дадаткова прыкрываў высокі дняпроўскі бераг, і ўзяць яго было цяжка.

У горадзе захоўваліся значныя запасы правіянту, пораху і куляў. Залатарэнка меў у сваім распараджэньні таксама моцную артылерыю, якая налічвала 30 гарматаў, пераважна нарабаваных у захопленых у 1654 г. беларускіх гарадох[442]. Сілы абаронцаў ацэньваліся ў розных крыніцах ад 5000 да 12 000 чалавек[443]. Здаецца, што найбольш блізкая да праўды лічба 8000 жаўнераў, пададзеная ў сьведчаньні пасла Сямёна Мартынава, дасланага магіляўчанамі да цара[444].

Такім чынам, корпус Залатарэнкі ў параўнаньні з ранейшым скараціўся больш як на 50 %. Галоўная прычына палягала ня ў стратах на полі бою, а ў масавым дэзэртэрстве сялянаў: улетку яны тысячамі найманіся на службу, а цяпер, ня вытрымаўшы цяжкасьцяў кампаніі, пакідалі шэрагі і вярталіся ў свае сялібы ва Украіне. У Новы Быхаў не зьявіўся своечасова адкамандзіраваны з-пад Віцебску полк Васіля Залатарэнкі, хоць цар даў яму адпаведны загад яшчэ 7 лістапада. Васіль рушыў пад Старадуб, не пераадолеўшы аблогі ліцьвінаў, а да брата далучыўся, калі яна ўжо скончылася[445].

Літоўская армія налічвала пад Новым Быхавам каля 12 000—14 000 жаўнераў, зь якіх каля 50 % складала кавалерыя, бескарысная пры аблозе[446]. Астатнім аддзелам

[439] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 132—133.

[440] AJZR. T. XIV. S. 495—496, 513—516; М. Ворбэк-Летаў (Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 211) падае дату на адзін дзень пазьнейшую — 15.I.1655, але напісаны 10 (20) студзеня ліст К. Паклонскага да В. Бутурліна — напэўна больш верагодная крыніца.

[441] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135; Żywot [...] Bogusława Radziwiłła. S. 114; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 89—90.

[442] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 211.

[443] Extrait d'une lettre ecrite par un Officier de 1'armee de Lithuanie logee dans la ville basse de Mohilev du 19 fevrier 1655 (BN. Mf 379 A) — 5000; TE. T. VII. S. 765 — 12 000; Eigentliche Erzählung... — 7000 (6000 казакоў і 1000 сялянаў), Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 212 — 10 000 (8000 сялянаў і 2000 украінскіх казакоў).

[444] AJZR. T. XIV. S. 468—470.

[445] AJZR. T. XIV. S. 503—504, 515—518, 519—521; AMG. T. II. Nr 612. S. 384—386.

[446] На 12 000 літоўскую армію ацэньваў Аляксей Міхайлавіч (Соловьев С. М. История России с древнейших времен... С. 641), а Іван Залатарэнка на падставе сьведчаньня палонных падаваў удвая большую лічбу (AJZR. T. XIV. S. 513—516).

Януш Радзівіл вызначыў іншыя задачы. Некалькім палкам коньніцы было даручана максымальна абмежаваць дзеяньні залог Магілёва і Шклова. Большасьць павятовых харугваў, а таксама добраахвотніцкія партыі гетман даслаў на поўнач ад Вільні, каб засланяць сталіцу Вялікага Княства ад нападаў непрыяцеля з боку Полацку. Урэшце некалькі адзінак узмацнілі абарону дзьвюх прыватных крэпасьцяў. Яшчэ ў сьнежні Радзівіл значна павялічыў залогу Слуцку, накіраваўшы туды пяхоту і рэйтараў на чале зь Міхалам Казімерам Радзівілам[447]. Удалося таксама належным чынам падрыхтаваць да баёў Стары Быхаў. Калі аблогу зьнялі, у горадзе папоўнілі запасы правіянту і рыштунку. У студзені і пераважна ў лютым, калі скончыліся баі пад Новым Быхавам, Казімер Лявон Сапега даслаў туды частку сваіх прыватных харугваў, чым значна ўмацаваў залогу[448].

Атачыўшы Новы Быхаў, ліцьвіны прыступілі да аблогі. Яны спрабавалі выкарыстаць супраць праціўніка агонь артылерыі. Ейны стан крыху палепшыўся, калі пры пасярэдніцтве палявога гетмана з Старога Быхава перапраўлілі некалькі цяжкіх гарматаў[449]. На жаль, абстрэл не прыносіў чаканых вынікаў, а ў прамерзлай зямлі немагчыма было рабіць падкопы і закладаць міны. Як скардзіўся праз амаль тры месяцы Януш Радзівіл, нельга было «ні рыдлёўкі, ні матыкі выкарыстаць, і звычайнымі ў здабычы гарадоў фартэлямі *rem agere* (весьці справу) непрыдатны зімовы час не дазваляў, а перш за ўсё, моцныя сілы непрыяцеля, якія зламаць без фартэляў, што *alio tempore* (у іншы час) служыць бы маглі, не далі»[450].

Падрыхтоўцы да штурму таксама заміналі шматлікія выпады казакоў. Падчас адной з такіх вылазак падначаленыя Залатарэнкі разьбілі татараў нясьвіскага князя (напэўна, татарскую харугву, якая належала да палка Міхала Казімера Радзівіла) і схапілі двух палонных[451]. Падчас іншай сутычкі ў сур'ёзнай небясьпецы апынуўся Багуслаў Радзівіл, які трапіў у засаду. Прывядзем апісаньне гэтага здарэньня: «У адной вылазцы пяхота, умяшаўшыся паміж коннымі казакамі і галінамі і пнямі высечаных дрэваў паабкладаўшыся, з тых схаваных засадаў нечакана з ручной стрэльбы шмат нашых пазабівала, і князь наш Багуслаў у вялікай быў небясьпецы. Бо адзін казак аднаго з важных саноўнікаў збоку ад князя Багуслава куляй з стрэльбы забіў. Куля другога казака, які ў самога Багуслава пацэліў, на шчасьце, збочыла і, толькі шмат рукава адарваўшы, палец крыху параніла»[452].

Ужо неўзабаве літоўскую армію чакалі значна сур'ёзьнейшыя праблемы. Праз некалькі дзён зьявіліся першыя цяжкасьці з правіянтам. Ваколіцы Новага Быхава ляжалі спустошаныя за некалькі месяцаў знаходжаньня ў ім корпусу Залатарэнкі. У дадатак той да зьяўленьня Радзівіла зьнішчыў усё ўшчэнт на многія кілямэтры ад гораду. Войска пакутавала ня толькі ад голаду, але і ад суворых маразоў. Уначы за-

[447] J. Radziwiłł do M. K. Radziwiłła, Mińsk 7 XII 1654. AGAD. AR. Dz. IV. Teka 16. Kop. 19. Nr 305.

[448] A. H. Połubiński do K. L. Sapiehy, obóz pod Nowym Bychowem 31 I 1655. LwNB. Fond 103, TP. Nr 149/Va. K. 279.

[449] Тамсама; Jan Kazimierz do K. L. Sapiehy, Warszawa 17 II 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 117.

[450] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 133.

[451] AJZR. T. XIV. S. 519—521, 521—524.

[452] Żywot [...] Bogusława Radziwiłła. S. 115—116. Крыху іншае апісаньне: Extrait d'une lettre...

мярзала віно, а посуд з вадою нельга было адарваць ад вуснаў, не пакрывавіўшы іх. Значна ўскладнялі становішча і моцныя сьнегапады[453]. Ня толькі жаўнеры, але і камандзіры жылі ў вельмі сьціплых умовах: «Для выгодаў такога Князя (Януша Радзівіла. — **К. Б.**) і месца не было, апроч адзінай дымам закуранай халупкі. І нашаму князю Багуславу ня лепшая станцыя была. Іншыя панове значнейшыя па гумнах, стадолах і хлявах мясьціцца мусілі. А паспаліты жаўнер на маразох і прыкрых вятрах безь ніякага прыкрыцьця пры запаленым агні станцыю мець мусіў»[454].

Ужо на пачатку аблогі ліцьвіны амаль на два тыдні засталіся без свайго вайскаводцы. Празь цяжкую хваробу Януш Радзівіл пэўны час ня мог асабіста кіраваць арміяй. Нездароўе гетмана спарадзіла сумневы наконт далейшага вядзеньня кампаніі, бо ўсе ўсьведамлялі, што ў войску няма каму яго замяніць. Між іншым, выказваў трывогу ў лісьце да свайго швагра, Вільгельма Тызенгаўза, Мікалай Корф, які пісаў з інфлянцкага памежжа: «Князь Я[го] М[осьць] Пан вялікі гетман вельмі хворы, якога няхай Найвышэйшы да пачатковага верне здароўя»[455]. Ва ўзьніклай сытуацыі вяршэнства павінен быў пераняць, згодна з законам і звычаем, ягоны намесьнік, г. зн. Вінцэнт Гасеўскі. Сумнеўна, аднак, каб так сапраўды сталася. Ачоліў дывізію правага крыла Багуслаў Радзівіл, які, паводле сьведчаньняў зь вядомых нам крыніцаў, не хацеў прызнаваць вяршэнства палявога гетмана. Больш за тое, з апісаньня пазьнейшых баёў відаць, што афіцэры практычна ніяк не залежалі адзін ад аднаго. У выніку ўзьнікалі недагаворкі, канфлікты на глебе размежаваньня кампэтэнцыі. Несумненна, гэта ўскладняла каардынацыю дзеяньняў на полі бітвы, а часам рабіла яе зусім немагчымай. Гэткае становішча паўплывала і на падзеі 24 студзеня 1655 г.

У гэты дзень адбыўся генэральны штурм Новага Быхава. Пра ягоны ход мы ведаем зь некалькіх сьведчаньняў, якія па-рознаму асьвятляюць паводзіны паасобных вайскаводцаў і прычыны паразы. Ведаем, што штурмам асабіста не кіраваў па-ранейшаму хворы Януш Радзівіл. Войска наступала, падзяліўшыся на дзьве групы. Правае крыло ўзначальваў Багуслаў Радзівіл. На чале левага, якое налічвала каля 2500 жаўнераў (драгуны і пяхотны полк каралеўскай гвардыі), стаялі Вінцэнт Гасеўскі і Фромгальд Вольф. Першыя ў бой пайшлі аддзелы канюшага[456]. Князь Багуслаў хацеў прабіцца ў крэпасьць у месцы, дзе ля берагу ракі падступ абаранялі толькі дубовыя частаколы, умацаваныя ўнутранымі падпорамі, насыпанымі зь зямлі. Казакі чакалі атакі ліцьвінаў з таго боку і таму, каб ускладніць ім доступ да лініі ўмацаваньняў, прарубілі ў лёдзе ў некалькіх месцах палонкі. Захапіць горад наступам з аднаго кірунку, напэўна, было немагчыма, бо абаронцы, выкарыстоўваючы лютыя маразы, палівалі ўмацаваньні вадою, і калі яна застывала, муры рабіліся практычна непрыступнымі. Слабая артылерыя не магла прабіць пралому, што яшчэ больш зьмяншала шанцы заняць горад. Аддзелы Багуслава пачалі штурм прыкладна за паўгадзіны да сьвітаньня. Засьпець праціўніка зьнянацку не атрымалася — напэўна, яго

[453] TE. T. VII. S. 765; Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 274.

[454] Żywot [...] Bogusława Radziwiłła. S. 115.

[455] M. Korff do W. Tyzenhauza, b.m. 30 I 1655. AGAD. A-Tyz. Nr F-115.

[456] Extrait d'une lettre...

пабудзіў залішні шум пры падрыхтоўцы да штурму. Непрыяцель пасьпеў паставіць шматлікія аддзелы і моцную артылерыю ўздоўж ракі. Ліцьвіны, «берагам высокім Дняпра прыкрываючыся, (падышлі. — **К. Б.**) па лёдзе аж пад самыя парканы; таксама нашы драгуны, у дзіры паркановыя мушкеты ўкладаючы, давалі агню, але бяз брэшы (праломаў. — **К. Б.**) і безь сякераў цяжка было праврвацца ў паркан». Контрудар казакоў прымусіў ліцьвінаў адступіць на зыходныя пазыцыі. Страты склалі 30 забітых і столькі ж параненых. Напэўна, найцяжэй прыйшлося ядру дывізіі правага крыла — палку нямецкай пяхоты кіеўскага падкаморага Юр'я Нямірыча, які ўзначальваў Багуслаў Прыпкоўскі. Яго самога «два разы ў гэтай бітве глётам (шротам. — **К. Б.**) падстрэлілі». Сьведкі падзеяў разыходзіліся ў ацэнцы пазыцыі левага крыла падчас штурму. Адзінкі палявога гетмана ўвогуле не пайшлі ў бой і пасіўна глядзелі, як заглынуўся наступ дывізіі канюшага. У сваёй «Аўтабіяграфіі» Багуслаў Радзівіл усклаў на Гасеўскага віну за гэтую няўдачу. Князь лічыў, што празь няздатнасьць, а магчыма, і наўмысную бязьдзейнасьць палявога гетмана «на мяне аднаго ўвесь імпэт (варожы. — **К. Б.**) абярнуўся, а потым *infectis rebus* (не зрабіўшы справы) мы вярнуліся»[457]. Напэўна, і Януш Радзівіл падзяляў меркаваньне свайго крэўнага.

Апісаныя вышэй непаразуменьні з разьмежаваньнем кампэтэнцыяй маглі вельмі істотна паўплываць на ход штурму. Аднак у самай падрабязнай справаздачы пра падзеі таго дня, складзенай адным зь літоўскіх афіцэраў, тлумачыцца, што аддзелы палявога гетмана не падтрымалі войска князя Багуслава перадусім таму, што канюшы занадта рана нанёс удар. Пры гэтым ня быў дадзены ўмоўны сыгнал, які мусіў падняць на атаку адзінкі Гасеўскага, што чакалі ў пералеску па другі бок гораду[458]. Наступоўцы хутка адступілі з-пад умацаваньняў, і ў выніку дывізія палявога гетмана не пасьпела далучыцца да бою. Зрэшты, калі зважаць на адсутнасьць у ліцьвінаў належнай артылерыйскай падтрымкі і моцны супраціў казакоў, можна сумнявацца, ці прынёс бы посьпех нават скаардынаваны наступ усёй літоўскай арміі.

Пасьля паразы 24 студзеня Януш Радзівіл адмовіўся ад далейшых спробаў узяць умацаваньні Новага Быхава. Пры гэтым ён апраўдваўся, што ня бачыў магчымасьці прымусіць праціўніка капітуляваць і таму не хацеў марных ахвяраў сярод жаўнераў[459]. Літоўская армія стаяла пад горадам яшчэ больш за два тыдні, да самага лютага. Ёй усё цяжэй было здабываць правіянт для жаўнераў і карміць коні. Відаць, вялікі гетман вырашыў не перакідаць покуль свае аддзелы ў іншы раён таму, што чакаў зьвестак з Украіны. Там у той час уваходзіў у вырашальную стадыю наступ арміі Кароны пры падтрымцы татараў. Несумненна, Януш Радзівіл ставіў свае далейшыя дзеяньні ў залежнасьць ад разьвіцьця сытуацыі на паўднёвым фронце.

Ва Ўкраіне 18 студзеня польскія войскі падышлі пад Гумань, які абараняла моцная залога на чале з кальніцкім палкоўнікам Іванам Богунам. Некалькі штурмаў скончыліся безвынікова — абаронцы не здаліся. Пасьля трохдзённых баёў войскі Кароны адмовіліся ад спробаў узяць Гумань, бо з усходу набліжаліся галоўныя сілы Хмяльніцкага пры падтрымцы маскоўскіх аддзелаў Васіля Барысавіча Шарамецева. З 29 сту-

[457] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135.

[458] Extrait d'une lettre...

[459] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 134.

дзеня пад Ахматавам ішлі ўпартыя баі, якія, праўда, прынесьлі перамогу палякам, але неразьбітыя аддзелы праціўніка ў баявым парадку адступілі ў бок Кіева. 2 лютага, пасьля бітвы, вялікі гетман Кароны Станіслаў Рэвэра Патоцкі вырашыў спыніць наступ і з большай часткай пяхоты і артылерыі адышоў на захад. Неўзабаве шэрагі войска пакінуў палявы гетман Станіслаў Лянцкаронскі, перадаўшы камандаваньне чарнігаўскаму ваяводу Крыштапу Тышкевічу. Ва Ўкраіне засталося ўсяго некалькі тысячаў коньніцы і шматлікія татарскія чамбулы, якія дашчэнту спусташалі Брацлаўшчыну. Дайшло нават да таго, што ардынцы змушалі палякаў падганяць ім ясыр.

Такім чынам, зімовы кантранаступ завяршыўся ва Ўкраіне поўным фіяска і прынёс толькі вялізныя спусташэньні. Як наракаў Тышкевіч: «Палі тут будуць, толькі Брацлаў і Гумань наўрад ці заселяцца, а 270 гарадоў паміж Бугам і Днястром попелам будуць ад Арды; за кароткі час, мяркую, пад 200 000 у Крым забралі, любы татарын меў з 30 душаў ясыру, адных дзяцей, па дарогах і гарадох палоўленых, пад 10 000, я загадваў іх сялянам хаваць, не было старэйшага між імі за адзін год, бо старэйшых першая арда пазабірала. Папы кучамі ходзяць за нашым войскам, аплакваючы сваё няшчасьце, цэркваў зруйнаваных налічваюць пад 2000, баронім ад Арды, колькі можам, але цяжка абараніць. Як разумею, казакі адступяць за Дняпро, а тут пустыня будзе, да гэтага ідзе»[460].

Параза арміі Кароны, бясспрэчна, зьмяніла намеры Януша Радзівіла. Вялікаму гетману давялося адмовіцца ад плянаў рушыць з аб'яднаным войскам Рэчы Паспалітай у глыб маскоўскай дзяржавы. Нерэальнымі сталі таксама надзеі нанесьці праціўніку ўзімку 1655 г. зьнішчальны ўдар. Практычна страціў сэнс і працяг вайны ў Беларусі. З пачатку кампаніі літоўскае войска зазнала сур'ёзныя страты ня столькі ў баёх з ворагам, колькі, хутчэй, ад маразоў і сьнегападаў, голаду, дэзэртэрства. Пераважыць іх не маглі і лякальныя посьпехі, хоць акурат іх у студзені і лютым 1655 г. было дастаткова.

Вялікі розгалас меў у Вялікім Княстве Літоўскім подзьвіг ротмістра казацкай харугвы Крыштапа Статкевіча. Як запісаў Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, гэты афіцэр у першыя дні студзеня, «з сотняй жаўнераў уварваўшыся паціху ў Воршу, заляцеў у палату маскоўскага ваяводы (Палуехтава. — **К. Б.**), узяў яго і зьвязанага аддаў гетману, страціўшы няшмат з сваіх»[461]. Задача Статкевіча аблягчалася, несумненна, тым, што гарадзкія фартыфікацыі знаходзіліся ў вельмі дрэнным стане. У выніку страшэннага пажару 7 траўня 1653 г. «з дапушчэньня Божага дашчэнту амаль пагарэла і ў попел абернута было[462]», таму кароль вызваліў горад ад падаткаў і жаўнерскіх пастояў на чатыры гады[463]. Каменны замак, які некалі, у час Ягайлавічаў і Сьцяпана Батуры, заставаўся пасьля страты Смаленску галоўным пунктам літоўскай абароны на лініі Дняпра, меў паламаныя зубцы, папсаваныя брамы і вежы, а частка муроў папросту ўпала. У благім стане знаходзіліся таксама драўляна-земля-

[460] K.Tyszkiewicz do J. Radziwiłła, Bracław19 III 1655. AGAD. AR. Dz. VI. Księga 11—51. S. 47.

[461] Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce... S. 439; М. А. Ткачоў (Замки Белоруссии... С. 101) датуе здабыцьцё Воршы самым канцом сьнежня паводле старога стылю, таму паводле грыгарыянскага календара гэтая падзея адбылася ў першыя дні студзеня 1655 г.

[462] Места. — *Перакл.*

[463] RGADA. Fond 389. Nr 128. K. 258—258v.

ныя гарадзкія фартыфікацыі, хоць маскоўцы ўвосень 1654 г. спрабавалі іх умацаваць драўляным астрогам[464]. Пра ўсё гэта напэўна ведаў Статкевіч — ён паходзіў з ваколіцаў гораду, а ў 1658 г., па сьмерці Яна Гектара Падбярэскага, атрымаў за свае заслугі на полі бітвы пасаду аршанскага падкаморага[465]. Бадай, таму ён і здолеў маланкава ўварвацца ў замак і абсалютна зьнянацку засьпець праціўніка.

На першым этапе кампаніі зь іншых прыдняпроўскіх гарадоў у рукі ліцьвінаў перайшлі таксама Дуброўна і Копысь. Заняць Дуброўну было зусім ня цяжка, бо, як мы ведаем, царскія аддзелы, захапіўшы горад у кастрычніку 1654 г., вывезьлі зь яго ледзь ня ўсё насельніцтва і часткова разбурылі ўмацаваньні. Амаль не супраціўляўся і Копысь. Ён меў толькі састарэлыя драўляныя ўмацаваньні, што, як сьведчыў інвэнтар, складзены ў 1651 г., вымагалі комплекснага рамонту і мадэрнізацыі. Заслонай для абаронцаў ня мог быць і драўляны двор над Дняпром, атачаны частаколам, — рэзыдэнцыя ўладальніка Копыся, Багуслава Радзівіла[466]. Маскоўскія вайскаводцы, разумеючы, што шанцаў утрымаць горад мала, пакінулі ў ім толькі 100 стральцоў з сотнікам Пятром Кіевам. Мясцовым ваяводам прызначылі Фёдара Малыгіна[467]. Яшчэ ў сьнежні 1654 г. залога, даведаўшыся, што войскі Януша Радзівіла рыхтуюцца да наступу, уцякла — у горадзе застаўся толькі сам Малыгін усяго з адным стральцом-пісарам. На пачатку студзеня ў ваколіцах Копыся некалькі разоў зьяўляліся літоўскія разьезды, але яны да пары не пачыналі наступу. Праз некалькі дзён пад горад прыбылі аддзелы Багуслава Радзівіла, якія перадалі мяшчанам ліст уладальніка Копыся. Канюшы заклікаў спыніць супраціў і неадкладна здацца. 23 студзеня Копысь адчыніў брамы перад літоўскімі харугвамі і аддаў ім у рукі Малыгіна. Потым яго перавезьлі ў галоўную стаўку войскаў Януша Радзівіла[468].

Пад канец студзеня толькі ў двух гарадох на лініі Дняпра на поўнач ад Новага Быхава — у Шклове і Магілёве — заставаліся маскоўскія залогі. Здабыць іх стала галоўнай мэтай літоўскай арміі. Януш Радзівіл не хацеў завяршаць кампаніі пад Новым Быхавам і адступаць за Бярэзіну, не атрымаўшы ніводнай паказальнай перамогі. Ён ведаў, што гэта азначала б для яго ня толькі ваенную паразу, але і ўдар па прэстыжы, які выклікаў бы новую хвалю крытыкі з боку двара і шматлікіх праціўнікаў. Адступаючы з-пад Новага Быхава, віленскі ваявода спадзяваўся, што, каб авалодаць Магілёвам і Шкловам, не спатрэбіцца шмат часу і высілкаў. Ён лічыў, несумненна, што кантакты з Паклонскім дазволяць яму хутка і зь мінімальнымі ахвярамі заняць Магілёў. Палкоўнік паабяцаў адчыніць перад ліцьвінамі брамы гораду і з сваім палком прыняць уладу Рэчы Паспалітай[469]. Януш Радзівіл разьлічваў, што жыхары Шклова таксама ня будуць супраціўляцца — яны абяцалі добраахвотна капітуляваць. Ужо ў лістападзе зьявіліся зьвесткі пра іхны канфлікт з маскоўскімі жаўнерамі. Прайшлі нават чуткі, што жыхары выразалі акупантаў[470].

[464] Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 93—101.

[465] Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131 / Opr. A. Rachuba. Warszawa, 2001. Nr 333. S. 102.

[466] AGAD. AR. Dz. XXV. Nr 1766. S. 1—33; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 59—60.

[467] DR. T. III. S. 453.

[468] RBS. Nr 311. S. 335—337; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 61.

[469] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135.

[470] List z Nowego Dworu, 29 XI 1654. BCzart. Rkps 147. Nr 146. S. 712; AJZR. T. XIV. S. 487—489.




**Нямецкая пяхота — капітан і мушкетэр**

**Разьдзел VII**

# БІТВА ЗА МАГІЛЁЎ

10 лютага літоўскія войскі пакінулі лягер і скіраваліся на Магілёў, які знаходзіўся прыкладна за 60 кілямэтраў на поўнач. Частка харугваў коньніцы, у тым ліку і частка харугваў Казімера Лявона Сапегі, засталася ў раёне Новага Быхава, каб адбіваць напады аддзелаў Залатарэнкі.

Армія рушыла пад Магілёў некалькімі групамі. У авангардзе — полк коньніцы на чале з Багуславам Радзівілам (у ягоны склад уваходзілі казацкія харугвы: Юр'я Караля Глябовіча на чале з Самуэлем Кміціцам, Яна Сасноўскага, Уладзіслава Юр'я Халецкага і Самуэля Высоцкага), а таксама вугорская пяхота на чале з Самуэлем Янам Юшкевічам[471]. За гэтымі адзінкамі ішлі драгуны, потым рэйтары, а «войска ўсё на шэсьць палкоў спраўленае ззаду цягнулася»[472]. Частка пяхотных палкоў Яна Бэрка ішла далёка ў тыле за рэштай аддзелаў, суправаджаючы табар. Напэўна, ён быў досыць вялікі, бо перавозіў запасы і рыштунак для больш чым дзесяцітысячнага войска. Пад Магілёў першыя літоўскія аддзелы прыбылі, відаць, 13 лютага, «у самыя масьленічныя дні»[473].

Януш Радзівіл, напэўна, разьлічваў хутка і бяскроўна ўзяць горад. Як усё ж аказалася, абяцаньні Паклонскага ня спраўдзіліся, а літоўская армія замест таго, каб прымаць добраахвотную капітуляцыю, мусіла доўгія тыдні весьці аблогу, якая не прыносіла чаканага посьпеху.

Магілёў быў адзіным беларускім горадам, умацаваньні якога мелі цэлыя тры лініі абароны. Найстарэйшая частка гораду — замак, збудаваны ў першай палове XVI ст. пры сутоку невялікай 17-кілямэтровай рэчкі Дубровенкі і Дняпра. Ягоную абарончую вартасьць падвышала выгаднае палажэньне на цяжкадаступным пагорку (названым пасьля вайны Касьцярняй), што на 20—25 мэтраў узвышаўся над астатнім горадам. Умацаваньні — вал з гліны і пяску, а таксама драўляныя сьцены з абарончай галерэяй, пакрытай гонтавым дахам, і сямю вежамі — стваралі пяцікутнік, пэрымэтрам крыху больш за 600 мэтраў. Іхная вышыня даходзіла да пяці мэтраў, а шырыня пры падмурку — да 16 мэтраў. Ад рэшты гораду замак аддзялялі, апроч схілу Касьцярні, глыбокі роў, а таксама з двух бакоў воды Дняпра і Дубровенкі. На ягонай тэрыторыі знаходзіліся: добра забясьпечаны цэхгаўз, склепы для правіянту, казармы для войска, лазьні, пякарні, кухні і нават царква.

Другую лінію абароны, даўжынёю больш за 140 мэтраў, складалі ўмацаваньні даўняга рыначна-рамесьніцкага прадмесьця — у крыніцах яго называлі Старым гора-

[471] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 214; Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135, згадвае толькі аб трох харугвах (Кміціца, Сасноўскага і Высоцкага).

[472] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 214—215.

[473] AJZR. T. XIV. S. 573—578; Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135; Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 274.

дам або Верхнім горадам. З замкам ён злучаўся толькі падымным мостам на калах. Умацаваньні гэтай часткі гораду будаваліся пераважна ў першым дзесяцігодзьдзі XVII ст., пасьля таго як у 1577 г. Магілёў атрымаў магдэбурскае права. У 1655 г. фартыфікацыі Старога гораду складаліся з высокага землянога валу з драўлянымі мурамі з тэрасамі, умацаванага шматлікімі бастыёнамі, а таксама чатырма брамамі. Умацаваньні мелі форму трохкутніка, прычым адзін бок ахоўвалі воды Дубровенкі, другі — Дняпра (часткова), а трэці, заходні, абаранялі глыбокі роў і падвойны паркан. Стары горад быў адміністрацыйна-эканамічным і рэлігійным цэнтрам Магілёва. Тут, на рынку, адбываліся кірмашы, у 1578 г. тут узьвялі першую драўляную ратушу, тут знаходзіліся таксама найбольш велічныя цэрквы і манастыры, а таксама дамы заможных мяшчанаў.

Трэцяя, самая шырокая лінія ўмацаваньняў, атачала даўнія прадмесьці, г. зв. новы горад. У пэрыяд эканамічнага росквіту ў першай палове XVII ст. яны ўвабралі тысячы прышлых людзей і шчыльна зьліліся з Магілёвам. Гэтыя фартыфікацыі, якія часта называлі палявым, або далейшым валам, збольшага будаваліся да 30-х гг. XVII ст., хоць шмат дзе заставаліся недаробленымі і ў 1655 г. У пэрымэтры яны мелі даўжыню прыкладна 5250 мэтраў. Умацаваньні складаліся зь землянога валу з бастыёнамі, абароненымі неглыбокімі равамі. У сярэдзіне XVII ст. палявы вал меў восем драўляных брамаў. Праз тры зь іх — Шклоўскую, Віленскую і Быхаўскую — у Магілёў вялі дарогі зь іншых буйных гарадзкіх цэнтраў Вялікага Княства Літоўскага. Уласныя фартыфікацыі засланялі таксама Лупулава і Зарэчча — прадмесьці на другім беразе Дняпра. Але гэтыя часовыя палявыя ўмацаваньні не маглі стрымаць штурму праціўніка падчас аблогі[474].

У ваколіцах Магілёва Дняпро меў шырыню ў сярэднім каля 90 мэтраў (ад 70 да 150). У наш час першыя маразы пачынаюцца каля 2 кастрычніка, а лядовае покрыва захоўваецца да 2 красавіка (лёд растае прыкладна каля тыдня). Можна меркаваць, што клімат зьмяніўся, і ў XVII ст. лёд на рацэ трымаўся даўжэй, чым цяпер. Зразумела, так было не штогод: напрыклад, у 1655 г. вясна прыйшла вельмі рана — ужо ў канцы сакавіка значна пацяплела. Затое, як згадвалася пры апісаньні падзеяў пад Новым Быхавам, зіма выдалася надзвычай лютая[475]. Таму раку скоўвала тоўстае лядовае покрыва, якое дазваляла войску перайсьці з аднаго берагу на другі.

Маючы магутныя ўмацаваньні ў добрым стане, Магілёў зь ягонай шматлікай залогай і пры падтрымцы моцнай артылерыі мог доўга трымаць аблогу. Але перад прыходам літоўскіх войскаў з абаронай гораду ўсё ж былі некаторыя праблемы. Перадусім у дрэнным стане заставаліся фартыфікацыі новага гораду. Як паведаміў 11 сьнежня 1654 г. у лісьце цару ваявода Іван Алфер'еў, не падрыхтаванымі да абароны былі равы, а сам далейшы вал меў значныя пашкоджаньні. Да таго ж подступ

[474] Апісаньне ўмацаваньняў Магілёва на падставе: Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии... С. 46; Чарняўская Т. Архітэктура Магілёва. Мінск, 1973. С. 7—11; Егоров Я. А. Градостроительство Белоруссии... С. 58; Кветницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии XVII в. // Всеобщая история архитектуры. Т. VI. Ч. III. Москва, 1968. С. 473—474; Могилев. Историко-экономический очерк. Минск, 1961. С. 3; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 73—85.

[475] Клюкин Н. К. Могилев. Историко-географический и экономический очерк. Минск, 1963. С. 7. Тэмпэратура ў раёне Магілёва нават у XX, а напэўна, і ў XXI ст. вельмі часта апускаецца ўзімку да -20°C.

да гораду аблягчалі шматлікія сады і гароды, што ішлі адразу за ўмацаваньнямі. Абарона гораду з боку Дняпра таксама жадала лепшага, а цяпер там нельга было насыпаць нават часовых фортаў, бо зямля наскрозь прамерзла. Таму Алфер'еў загадаў будаваць у гэтым месцы перашкоды з дрэва (парканы, невялікія вежы)[476]. Не найлепшым чынам выглядалі і ўмацаваньні замку — раней іх рэдка мадэрнізоўвалі, бо бракавала сродкаў, а пасьля пажару больш чым дваццацігадовай даўніны (1633 г.) іх яшчэ не да канца аднавілі[477]. Хоць умацаваньні сьпехам рамантаваліся, ліквідаваць усіх прагалаў у абароне да зьяўленьня пад горадам аддзелаў Януша Радзівіла не ўдалося.

Затое ў Магілёў своечасова ўвялі належную залогу і даставілі значныя запасы рыштунку і правіянту. Ужо 22 верасьня ў горад прыбыў першы маскоўскі аддзел — 200 стральцоў на чале зь Якавам Яфім'евым, адкамандзіраваных з арміі Трубяцкога, аднак 21 кастрычніка ён адышоў у Дуброўну. У другой палове лістапада разам з новым ваяводам Алфер'евым у Магілёў зьявілася нязначная частка салдацкага палка Івана Ніратморцава (толькі 331 чалавек) і два стралецкія прыказы Аўраама Лапухіна і Логіна Анічкава (784 чалавекі) — разам 1105 жаўнераў. 11 студзеня ў Лупулава прыбыў полк Паклонскага (4000 чалавек), раскватараваны ў наступныя дні за ўмацаваньнямі. У дадатак, 7 студзеня ў адказ на зьвесткі пра пагрозу гораду цар даслаў зь Вязьмы значныя падмацаваньні на чале з князем Юр'ем Рамаданаўскім — 400 конных і 3 салдацкія палкі. Разам зь імі ў Магілёў зноў адкамандзіравалі Міхаіла Ваейкава, які ў верасьні разам з Паклонскім прывёў горад да капітуляцыі[478]. Аддзелы Рамаданаўскага, насуперак таму, што сьцьвярджае Мальцаў, не змаглі прыйсьці ў горад да пачатку аблогі. Ваейкаў жа прыбыў своечасова і пераняў функцыі ваяводы і камандзіра маскоўскай залогі пасьля сьмерці ў другой палове сьнежня Алфер'ева[479]. Затое калі пад Магілёвам зьявіліся першыя аддзелы Радзівіла, магчыма, яшчэ 13 лютага, да гораду прабіўся пасланы з Шклова полк пяхоты новага строю лікам 1500 чалавек пад камандаю Германа ван Штадэна. Пры гэтым адбыліся сутычкі зь ліцьвінамі, у якіх маскоўцы захапілі 50 вазоў з правіянтам, а таксама палонных. Тыя паведамілі, што аддзелы Януша Радзівіла пад Магілёвам налічваюць разам абознымі чаляднікамі ажно 30 000 чалавек[480]. Усяго ў сярэдзіне лютага залогу складалі 2600 царскіх жаўнераў і каля 4000 казакоў Паклонскага, ня лічачы здольных да службы мяшчанаў. Гэта былі значныя сілы, якія дазвалялі пасьпяхова бараніць умацаваньні ад штурму літоўскай арміі.

У Магілёў перапраўлялі таксама значныя запасы пораху і волава, умацавалі артылерыі гораду. У верасьні 1654 г. у замку было ўсяго 4 гарматы, а на валах старога і новага гораду — 5 вялікіх гарматаў, 7 сярэдніх і малых. Апроч таго, у мясцовым цэхгаўзе знаходзілася 60 гакаўніц, 50 мушкетаў і 30 грыўнаў гарматнага пораху. Але бракавала волава, кнотаў і пораху для ручной зброі. Да сьнежня ў Магілёў даставілі

[476] AMG. T. II. Nr 617. S. 388; AJZR. T. XIV. S. 465—468.

[477] Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 79.

[478] AJZR. T. VIII. S. 384—385. T. XIV. S. 333—336, 338—339, 425—429, 465—468, 471—474.

[479] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 67.

[480] AMG. T. II. Nr 638. S. 398.

некалькі дзясяткаў гарматаў зь іншых прыднягіроўскіх гарадоў — Дуброўны, Копыся і Шклова, а запасы кнотаў, пораху і волава папоўніліся, галоўным чынам, за кошт здабытага ў Смаленску. У Магілёўскім уезьдзе пасьля спусташэньня, выкліканага рабункамі казакоў Залатарэнкі і Паклонскага, не ставала таксама правіянту. Неяк даць рады, дастаўляючы ў горад запасы жыта і аўса, спрабаваў яшчэ ваявода Алфер'еў[481]. Аднак для некалькіх тысячаў залогі гэтага было недастаткова, і ў пазьнейшыя месяцы ёй давялося ўжываць сабраныя мяшчанамі запасы. Таму неўзабаве галоўнай праблемай аблажанага гораду стаў голад.

Прыбыўшы пад Магілёў, Януш Радзівіл разьлічваў, што большасьць мяшчанаў і жаўнеры з палка Паклонскага пяройдуць на бок ліцьвінаў і прывядуць да добраахвотнай здачы рэшту залогі. 15 лютага Радзівіл даслаў магілёўцам некалькі лістоў, у якіх заклікаў тых вярнуцца пад уладу Яна Казімера. Пры гэтым ён пагражаў, «што калі *pertinanter* (надалей) у гэтай упартасьці шалёнай зацятасьці трываць будуць, ня толькі чалавека, але і сабаку пакідаць у жывых ня буду». Адказ абаронцаў стаўся для Радзівіла нечаканасьцю. Насуперак абяцаньням Паклонскага, яны ня проста адкінулі самую магчымасьць капітуляцыі, але жаўнеры Паклонскага і маскоўскі пяхотны полк на чале з ваяводам Ваейкавым нават выйшлі пад умацаваньні, каб паказаць, што яны гатовыя да бою. Толькі частка казакоў разам з сваім вайскаводцам ухілілася ад удзелу ў баі: «альбо бяз куляў, альбо ўверх агню давалі». Рэшта на чале з сотнікам Ільлём Бушаком узяла ўдзел у сутычцы з пасланым пад фартыфікацыі палком Аляксандра Гіляр'я Палубінскага, якая закончылася перамогай ліцьвінаў. Раней у горад сагналі мясцовую шляхту, якая зьбіралася перайсьці на бок Януша Радзівіла: «...з нашымі зьяжджалася і адны зь іх, пазнаўшыся, другія, пакуміўшыся з сабою, абвяшчалі зь сьлязьмі, што вызваленьня свайго чакаюць».

Пасьля гэтай сутычкі віленскі ваявода страціў рэшту надзеі, што яму ўдасца «мірнымі» сродкамі схіліць абаронцаў адмовіцца ад супраціву. Ён пачаў рыхтаваць свае аддзелы да генэральнага штурму, які разьлічваў правесьці на досьвітку 16 лютага. Радзівіл, аднак, спадзяваўся, што баі не зацягнуцца і што з дапамогай Паклонскага ён здолее заняць горад. Палкоўнік увесь час пераконваў яго праз сваіх пасланцоў, што перад атакай «зь людзьмі сваімі, колькі іх будзе мець, *obviam* (насустрач) выйдзе і браму адчыніць». Аднак перад самым пачаткам наступу, баючыся цяжкасьцяў, што напаткаюць ліцьвінаў у баёх унутры гораду, Паклонскі папрасіў гетмана адкласьці штурм. Але было ўжо позна, «дзень надыходзіў, і фартэлі нашыя адчыняцца пачалі, нельга было даўжэй чакаць». За дзьве гадзіны да сьвітаньня Паклонскі пакінуў Магілёў, але залога адразу зачыніла за ім браму. Разам зь ім выйшлі ўсяго толькі 400 чалавек, галоўным чынам, крычаўская шляхта і мяшчане. Рэшта палка засталася ў горадзе. Зьнікла апошняя надзея на хуткую і эфэктную перамогу[482].

[481] AJZR. T. XIV. S. 338—339, 425—429, 433—436, 455—456, 465—468, 501—504; AMG. T. II. Nr 617. S. 388; RBS. Nr 302. S. 326—327.

[482] Цытаты зь ліста Я. Радзівіла да Яна Казімера, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 47—49; апісаньне на падставе: Extrait d'une lettre...; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 215.

Першыя на штурм пайшлі аддзелы правага крыла. Камандаваў імі князь Багуслаў. Яны штурмавалі з поўначы праз задняпроўскае прадмесьце Лупулава, бо гэтым шляхам было найлягчэй трапіць у горад. Сьпярша адну з брамаў атакаваў полк коньніцы канюшага, якому, аднак, пад моцным агнём абаронцаў давялося адступіць. Але наступная атака пяхотных ротаў Самуэля Яна Юшкевіча і Станіслава Скарбка прынесла посьпех. Вялікі гетман занатаваў: «...браму высеклі, другія праз валы і парканы пераваліўшыся, непрыяцеля ў ёй зьнішчылі і яе адчынілі, аднак не бяз стратаў, бо адразу некалькі коньнікаў было забіта і падстрэлена і шмат служак пацярпела»[483]. Ліцьвіны ўварваліся ў прадмесьце і выгналі маскоўцаў ды казакоў з Лупулава. У авангардзе атакавалі драгунскія палкі Фрыдэрыка Мола, Эбэрхарда Путкамэра і Германа Ганцкопфа. Крыху марудней па глыбокім сьнезе ішоў наступ дывізіі Гасеўскага на левым крыле. Але ўрэшце і палявому гетману ўдалося заняць прадмесьце Зарэчча і выйсьці да Дняпра.

Літоўская армія перайшла скаваную лёдам раку, бязь цяжкасьцяў узяла часовыя ўмацаваньні, збудаваныя каля берагу, і ўвайшла ў новы горад. Дывізія правага крыла ў цяжкім баі авалодвала яшчэ адным раёнам Магілёва, аднак зазнала вялікія страты — пераважна ад агню абаронцаў з ручной зброі. Было паранена шмат афіцэраў, у тым ліку камандзір драгунскіх і рэйтарскіх палкоў Эрнэст Ян Корф. У сур'ёзнай небясьпецы апынуўся ў пэўны момант сам Багуслаў Радзівіл, «пад якім таксама самім параненым раз каня ў лоб, другі раз у самыя грудзі падстрэлілі»[484]. Найбольшыя страты напаткалі палкі гвардзейцаў Моля і Валенрода — ядро дывізіі, што штурмавала Магілёў (камандаваў гэтым ядром брат ганаровага вайскаводцы Гэнрыка, Марцін). Цяжкія страты панесьлі таксама казакі Паклонскага, якія перад сьвітаньнем перайшлі на літоўскі бок. Каля сямідзесяці зь іх палегла ў раёне Шклоўскага прадмесьця[485].

Пасьля некалькіх гадзінаў бою ліцьвіны здолелі нарэшце выцесьніць праціўніка ў Верхні горад. Яны таксама адбілі контратаку пяхотнага палка ван Штадэна, які «ад кавалерыі адарваны, страціўшы амаль палову палка і некалькі харугваў, мусіў адступіць у замак»[486].

Цяжкі бой вялі і адзінкі Гасеўскага. Тры харугвы: дзьве гусарскія палявога гетмана, якой камандаваў Казімер Жаромскі (дарэчы, у гэтай адзінцы служыў будучы вялікі гетман літоўскі Міхал Казімер Пац), і павятовая навагрудзкая на чале з Стэфанам Францкевічам, а таксама казацкая палявога гетмана на чале зь Янам Аляксандрам Ігнатовічам-Лубянскім — спрабавалі прарвацца з боку ракі на тэрыторыю Верхняга гораду. Абаронцы адрэзалі гэтыя аддзелы ад рэшты дывізіі. Тыя напружаныя падзеі апісаў у лісьце да бацькі коньнік гусарскай харугвы Гасеўскага, Крыштап Форбэк-Летаў: «Калі непрыяцель заўважыў, што нас было няшмат і харугвы разышліся рознымі вуліцамі, з усіх бакоў нас абкружылі, так што мы мусілі прабівацца праз кож-

[483] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 50; таксама сьведчаньні ў М. Форбэк-Летава (с. 215) і Б. Радзівіла (с. 135).

[484] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 215; Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135; Extrait d'une lettre... зьмяшчае інфармацыю ня толькі пра раненьне княжага каня, але і пра лёгкую кантузію князя.

[485] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 216.

[486] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 52.

ную вуліцу. Люта разілі нас шчыльным агнём з дамоў, асабліва ў цесных завулках, так што кулі як град ляцелі, а што шпілямі зь дзідамі калолі, бердышамі секлі, зашмат каб пра гэта пісаць. Патрапілі, як у пастку, ані назад, ані ў якую браму, бо пры кожнай браме некалькі соцень маскоўцаў і казакоў ля гарматаў стаяла. Праўда, мы скочылі па некалькі разоў да розных брамаў, жадаючы высечы і прарвацца, але цяжка было, так люта нас з самапалаў і мушкетаў абкурвалі. Натоўп непрыяцеля на нас з усіх бакоў, і сьпераду, і ззаду, і з бакоў наступаў, у кожнай вуліцы засады маючы, шпілямі, дзідамі, бердышамі праз іх усіх прабівацца давялося»[487].

Пасьля трох гадзінаў зацятага бою ліцьвінам удалося нарэшце адступіць у паўднёвыя раёны новага гораду, заняць Быхаўскую браму, здабыўшы пры гэтым малую гармату і гакаўніцу[488], і далучыцца да рэшты аддзелаў. Вялікі гетман і ягоныя падначаленыя, зрэшты, ужо не разьлічвалі ўбачыць жывымі сваіх таварышаў, «ня маючы ніякай надзеі на тое, што мы маглі б вырвацца ў невялікай грамадзе, абложаныя ў непрыяцеля, як у скрыні»[489]. Як прызнаў сам Януш Радзівіл, убачыўшы харугвы, якія падцягваліся з поўдня, ён падумаў, што гэта «непрыяцель з гораду выходзіць, і ўжо некаторыя палкі нашыя самкнуў быў [...] але нашых па харугвах пазналі»[490]. У гэтых баях адзінкі Гасеўскага панесьлі значныя страты. Загінуў у тым ліку і паручнік Наваградзкай харугвы, а Казімер Жаромскі атрымаў дзьве агнястрэльныя раны. Быў страчаны таксама сьцяжок палявога гетмана[491]. Варта згадаць, што маскоўцы значна перабольшвалі свае посьпехі ў гэтай сутычцы. Калі ўжо скончылася аблога, у рапарце ад 22 траўня ваявода Ваейкаў паведамляў, што падчас штурму абаронцы разьбілі дзьве гусарскія роты праціўніка, а папаўдні ў баі за Дубровенкай нібыта забілі 150 ліцьвінаў і захапілі шмат палонных[492].

Толькі пад вечар да Магілёва падцягнуліся пяхотныя палкі на чале зь Янам Бэркам, што суправаджалі табар. Тады ліцьвіны здолелі ўзяць паўднёвыя раёны новага гораду — Віленскае і Задубровенскае прадмесьці. Аднак замак і верхні горад, куды адступіла залога і большасьць мяшчанаў, засталіся ў руках маскоўцаў. Несумненна, калі б ліцьвіны наступалі на гэтыя раёны Магілёва, разграміўшы полк Германа ван Штадэна і заняўшы вялікую частку гораду, яны мелі б добрыя шанцы прымусіць абаронцаў спыніць супраціў. На жаль, групоўка Бэрка прыйшла запозна, і таму «мінула для нас, — пісаў Багуслаў Радзівіл, — аказія ўзяць замак»[493].

Нягледзячы на гэта, 16 лютага літоўская армія, несумненна, зьведала найбольшы ваенны посьпех падчас зімовай кампаніі. Праціўнік панёс сур'ёзныя страты. Старшыны палка Паклонскага, якія вырашылі заставацца ў горадзе, ацэньвалі іх на 300 мас-

[487] K. Vorbek-Lettow do M. Vorbek-Lettowa, Mohylew 26 II 1655 // Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 219—220.

[488] Гакаўніца — ручная стрэльба, да рулі якой зьнізу прыварваўся спэцыяльны зачэпны крук — гак, які гасіў аддачу. — *Рэд.*

[489] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 221.

[490] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 53.

[491] Тамсама; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 215—216, 221.

[492] AJZR. T. XIV. S. 587—590; AMG. T. II. Nr 662. S. 408; Nr 704. S. 430.

[493] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135.

коўцаў і 1000 казакоў[494]. Багуслаў Радзівіл пісаў толькі пра 500 забітых царскіх жаўнераў і некалькі здабытых гарматак, ня згадваючы пра страты сярод казакоў[495].

16 лютага 1655 г. Януш Радзівіл чарговы раз пацьвердзіў свой выдатны вайскаводчы досьвед. Калі ён ачуняў ад хваробы, спыніліся спрэчкі наконт кампэтэнцыі паміж Гасеўскім і Багуслвам Радзівілам, што паспрыяла большай зладжанасьці ў наступе. Гетман умела каардынаваў дзеяньні абедзьвюх дывізіяў і, наколькі было магчыма, падтрымліваў падмацаваньнямі аддзелы, якія біліся на самых цяжкіх участках. У баі вылучыўся і Багуслаў Радзівіл: ён ня толькі спраўна кіраваў даручанымі яму аддзеламі, але і вызначыўся вялікай асабістай адвагай. Трэба высока ацаніць паводзіны жаўнераў: як падкрэсьліваў вялікі гетман, яны засяродзіліся на змаганьні з ворагам, а не на рабаваньні пакінутага пры ўцёках майна мяшчанаў. Але на трафэі разьлічвалі чаляднікі ў лягеры. Аднак іх чакала вялікае расчараваньне, бо «ў замак заранёў усё было вывезена, пакінулі толькі жывёлу і гаспадарчыя прылады»[496].

Вялікім расчараваньнем для Януша Радзівіла сталася няўдалая спроба перацягнуць на бок Рэчы Паспалітай казакоў Паклонскага. Каля 90 % ягонага палка з сотнікам Ільлём Бушаком і судзьдзём Паўлам Акуркевічам засталіся служыць маскоўскаму цару. Чым яны кіраваліся? Здаецца, прычыны былі самыя розныя. Жаўнеры, якія паходзілі з Магілёва, мелі тут сем'і і маёмасьць, несумненна, баяліся помсты за здраду з боку маскоўскай залогі. Ня трэба забывацца, што для многіх служба ў палку Паклонскага, г. зн. *de facto* ў арміі Аляксея Міхайлавіча, азначала істотнае падвышэньне сацыяльнага стану, на якое ім не даводзілася разьлічваць у рамках невялікіх збройных структураў Вялікага Княства Літоўскага. Да таго ж большасьць мяшчанаў не сьпяшалася вяртацца пад уладу польскага караля. З Масковіяй іх яднала супольнае веравызнаньне, а часта і супольныя карані, бо ў горадзе жыло шмат перасяленцаў з-за ўсходняй мяжы. Панаваньне Яна Казімера асацыявалася ў іх найперш з сваркамі з адміністрацыяй магілёўскай эканоміі, якая мела сваю сядзібу ў замку, наконт паўнамоцтваў гарадзкога самакіраваньня і памеру падаткаў. Затое ад цара ім адразу ўдалося атрымаць гандлёвыя прывілеі і пацьверджаньне магдэбурскага права. Аляксей Міхайлавіч паклапаціўся і пра бясьпеку гораду, накіраваўшы ў Магілёў вялікую залогу і значныя запасы рыштунку. Маскоўскія жаўнеры ў значна меншай ступені спусташалі ваколіцы Магілёва, чым літоўская армія, калі ўдушала хваляваньні ў Беларусі ў 1648—1649 гг. або рабіла рэквізыцыі ў мірны час[497]. З гораду ня вывезьлі насельніцтва. Больш за тое, цар імкнуўся шчодра адорваць маёмасьцю і грашыма самых багатых і ўплывовых магілёўцаў, каб умацаваць іхную вернасьць. Аляксей Міхайлавіч не расчараваўся. Нягледзячы на паразу 16 лютага, абаронцы не зьбіраліся спыняць супраціву і катэгарычна адкінулі прапановы Януша Радзівіла здацца. Больш за тое, яны настолькі непахісна захоўвалі вернасьць цару, што віленскі ваяво-

[494] AMG. T. II. Nr 638. S. 398.

[495] B. Radziwiłł do B. Olszewskiego, Mohylew 25 II [1655]. AGAD. AR. Dz. IV. T. 9. K. 89. Nr 1093.

[496] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 52.

[497] На гэтую праблему зьвярнуў увагу ў лісьце да Я. Мяжэнскага прымас А. Ляшчынскі: Uniejów 8 XI 1654. BCzart. Rkps 417. K. 150v.

да без ваганьняў назваў у красавіку мяшчанаў «*caput rebellionis* (галава бунту) у гэтых краях»[498].

Тым ня менш, адразу пасьля штурму 16 лютага здавалася, што капітуляцыя Магілёва — гэта пытаньне ўсяго некалькіх тыдняў. На невялікай плошчы Верхняга гораду і замку ў аблозе апынуліся каля 5000 маскоўскіх жаўнераў і казакоў, а таксама больш за 10 000 мяшчанаў[499]. Апроч сталых жыхароў, у Магілёве знаходзіліся тысячы ўцекачоў, а значыць, яшчэ больш абвастралася праблема харчаваньня і перадусім пітной вады. Вялікі гетман пісаў: «Уся вада забрана ў іх, бо адзін толькі патаемнік у замку, да якога ўсё ж ня кожны здаровы дойдзе, бо нашыя ў замак з мушкетаў б'юць, а адну студню ў манастыры маюць, якой для такой зграі людзей *non sufficit* (не хапае)»[500]. Аднак практычныя маскоўцы далі рады. Праз пяць дзён пасьля штурму Януш Радзівіл даносіў каралю, што абаронцы «з дахаў сьнег п'юць і з вуліц гразь»[501]. А неўзабаве ім удалося дакапацца да глыбейшых пластоў вады, якіх цалкам хапала для патрэбаў залогі[502]. Бракавала харчоў, бо іх своечасова не перавезьлі ў замак і Верхні горад, але абаронцы маглі разьлічваць на вялізныя запасы, зробленыя мяшчанамі. Аднак дабрацца да млыноў было немагчыма, таму пячы хлеб перасталі[503].

Абаронцам істотна пагражалі абстрэлы літоўскай пяхоты, якія наносілі сур'ёзныя страты. Асаблівая небясьпека зыходзіла ад падначаленых Самуэля Яна Юшкевіча і Станіслава Скарбка. Яны разьмесьціліся побач з валам і нават падрыхтавалі пазыцыі для артылерыі і стральцоў пад купалам адной з цэркваў новага гораду (напэўна, Уваскрасенскай, найбліжэйшай да ўмацаваньняў). Адтуль выдатна праглядаліся пазыцыі непрыяцеля. Вельмі хутка адчула гэта залога — ад агню ліцьвінаў яна за больш як дзесяць дзён страціла каля 500 чалавек параненымі і забітымі[504]. Таму маскоўцы шмат разоў спрабавалі прымусіць праціўніка пакінуць храм. «З гарматаў няспынна б'юць, прымацаваныя агні кідаюць, але ён (Юшкевіч. — **К. Б.**) усяму гэтаму адпор дае, не бяз значных стратаў у пяхоце», — пісаў Мацей Форбэк-Летаў[505]. Падчас абстрэлу чарговы раз за некалькі тыдняў атрымаў кантузію Багуслаў Радзівіл, які акурат знаходзіўся з абодвума гетманамі ў царкве. Праз гады ён згадваў: «Стрэлілі ў мяне зьверху з гарматы праз акно царкоўнае, замест ядра, *ob defectum* (праз адсутнасьць) іх, паловай цагліны яе набіўшы, але так Госпад Бог учыніў, што гэтая палова цагліны сьпярша аб крыж у акне царкоўным ударылася і толькі, страціўшы імпульс, трапіла

[498] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 134.

[499] Крыніцы падаюць вельмі розныя лічбы. Паводле Форбэк-Летава, у замку і верхнім горадзе засталося аж 30 000 мяшчанаў (Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 216). А Я. Радзівіл 21 лютага паведаміў каралю, што «Масква налічвае чатыры тысячы, а мяшчан *quadruplo* (у чатыры разы) больш, чым Масквы» (г. зн. 16 000) (BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 54). І гэтыя ацэнкі, бадай, завышаныя.

[500] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 216.

[501] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 54—55.

[502] Nowiny z Warszawy 23 IV 1655, BOssol. Rkps 189/11. S. 741.

[503] Extrait d'une lettre...

[504] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 54.

[505] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 217.

мне ў правае плячо, так што ў мяне адразу вялікі гуз крывёй наліўся, і некалькі тыдняў я ледзьве мог падняць руку»[506].

Апроч абстрэлаў і інжынэрных работ для аслабленьня умацаваньняў, ліцьвіны таксама спрабавалі схіліць абаронцаў да здачы дыпляматычнымі захадамі. Ужо 22 лютага Януш Радзівіл даслаў залозе ліст, у якім заклікаў неадкладна капітуляваць і абяцаў наўзамен захаваць жыцьцё і маёмасьць[507]. Маскоўцы і казакі катэгарычна адмаўляліся пачаць перамовы. Іхны ваяўнічы імпэт падтрымлівала частка мяшчанаў. «Яны такія зацятыя і шалёныя, — пісаў Януш Радзівіл, — што калі б нават маскоўцы капітуляваць хацелі і давалі згоду, то яны пра гэта ня хочуць і не даюць згадваць. Адразу пакляліся ім у царкве налажыць галовамі разам зь імі. [...] Настройваюцца нават на сьмерць і спавядаюцца, вырашыўшы адзін за адным загінуць, але ня здацца». Каб распаліць нянавісьць да ліцьвінаў, сярод залогі распускалі чуткі, што нібыта падчас штурму аддзелы Радзівіла выразалі жыхароў Новага гораду, забілі шмат людзей з надзвычайнай жорсткасьцю[508]. Больш за тое, каб падняць дух жаўнераў, у горадзе зьнішчылі габрэяў, што там заставаліся. Хоць яны раней прынялі праваслаўе, цяпер іх абвінавацілі ў супрацоўніцтве зь віленскім ваяводам і шкодзе маскоўцам. Стары горад і замак ня ведалі недахопу ў гарматах і пораху. У найбліжэйшы час чакалася дапамога, якую вёў зь Вязьмы Юры Рамаданаўскі. Таму зусім ня дзіўна, што абаронцы захоўвалі цьвёрды дух і ня трацілі надзеі на шчасьлівы для іх паварот падзеяў.

Зьвесткі пра набліжэньне маскоўскіх падмацаваньняў (тры палкі салдатаў і 400[509] коньніцы), якія везьлі ў Магілёў значныя запасы правіянту і рыштунку, дайшлі да Януша Радзівіла да 21 лютага. Гетман апынуўся перад дылемай: паслаць частку сваіх аддзелаў супраць непрыяцеля ці сьпярша пачаць наступ усімі сіламі на Верхні горад і замак[510]. Урэшце ён рашыўся на першы варыянт. Радзівіл скіраваў супраць Рамаданаўскага аддзелы палявога пісара Аляксандра Гіляр'я Палубінскага і больш за дзесяць харугваў польскай коньніцы, два швадроны рэйтараў і два аддзелы драгунаў.

Палубінскі зьбіраўся ўдарыць па праціўніку на тракце, які вёў з Магілёва ў Радамлю. Але раней Рамаданаўскі, атрымаўшы зьвесткі, што Магілёў захоплены, «не даваючы іх праўдзівасьці, кінуўся на шклоўскі гасьцінец». Пісар спачатку нічога ня ведаў пра зьмену кірунку маскоўскіх аддзелаў і рушыў пад Радамлю. Толькі там ён атрымаў больш дакладныя зьвесткі, дзе знаходзіцца вораг: «...за мілю ад таго гасьцінца, як яны выходзілі з адной вёскі, засьпеўшы, з тылу на іх ударыць мусіў». Рамаданаўскі не чакаў такога хуткага нападу. Засьпеты зьнянацку, ён не прыняў бітвы ў адкрытым полі і зачыніўся ў чатырох табарах. Адбыўся ўпарты бой, у якім абодва бакі панесьлі значныя страты. Пад Палубінскім забілі каня, двойчы паранілі бердышом камандзіра аднаго з татарскіх швадронаў, обэрштэрлейтэнанта Севярына Курд-

[506] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135—136; Żywot [...] Bogusława Radziwiłła. S. 118.

[507] AJZR. T. XIV. S. 577—578.

[508] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 216.

[509] Магчыма, памылка ў арыгінальным тэксьце. — *Рэд.*

[510] Цытаты ў гэтым фрагмэнце паходзяць зь ліста Я. Радзівіла да Яна Казімера, Магілёў, 21 лютага 1655: BCzart. Rkps 148. Nr 11. S. 55.

ваноўскага. Ліцьвіны здолелі захапіць два табары і зьнішчыць праціўніка, які там знаходзіўся. Атака на трэці табар скончылася тым, што частка царскіх жаўнераў капітулявала, аддаўшы ў рукі пераможцаў зброю, харугвы і некалькі малых гарматаў. Аднак большасьць маскоўцаў на чале з Рамадаnoўскім, скарыстаўшыся з замінкі, уцякла. Ім спрыяла надзвычай дрэннае ў той дзень надвор'е: «Бо ў такую завіруху тая справа была, што сьвятла не было відаць, *beneficio* (дзякуючы) якой уцякаць незаўважаныя маглі. Да таго такі сьнег, што б ні зьехала з дарогі, адразу конь па бруха ў сьнезе ляжыць, ані зь месца кранущца ня можа, [...] не ўцяклі б, калі б дзень пагаднейшы быў», — наракаў у паведамленьні пра бітву Януш Радзівіл. Гетман лічыў, што ўцёкам паспрыяла таксама недысцыплінаванасьць часткі жаўнераў Палубінскага: тыя «адразу на здабычу кінуўшыся, як польскі, так і іншаземны жаўнер і харугвы, і старшыну пакінуў»[511].

Непрыяцель уцякаў, галоўным чынам, у бок Шклова, дзе ўсё яшчэ стаяла моцная царская залога. Многія маскоўцы, трапіўшы ў жорсткую завіруху і ня ведаючы тэрыторыі, туды не дайшлі, доўга блукалі ў навакольных палях і лясах. Большасьць зь іх у наступныя дні забілі мясцовыя сяляне ці ўзялі ў палон жаўнеры палка Зыгмунта Адама Слушкі, якія ня ўдзельнічалі ў баі і толькі пазьней на загад вялікага гетмана перасьледавалі недабітыя маскоўскія аддзелы. Да Шклова дайшлі разам з Рамаданаўскім толькі каля 700 чалавек[512]. Усяго ў гэтым баі маскоўцы, напэўна, страцілі, апроч палонных, каля 400 забітых, 2 гарматы, 3 штандары і мінімум 50 вазоў з багажом[513].

Януш Радзівіл разьлічваў, што навіна пра разгром дапамогі Рамаданаўскага схіліць абаронцаў Магілёва спыніць супраціў. Ён з надзеяй пісаў каралю: «Веру таксама, што гэтыя навіны асабліва ўстрывожаць незьмякчальныя ніякай ласкай сэрцы аблежнікаў, бо на гэтую дапамогу яны ўсе мелі надзею»[514]. Аднак калі выявілася, што абаронцы і далей не зьбіраюцца капітуляваць, не заставалася нічога іншага, як толькі сілай прымусіць іх здацца. Рыхтуючы новы штурм, гетман чакаў, што надзея на багатую здабычу натхніць жаўнераў на ўдвая большыя высілкі. «Жаўнер наш, як на мёд, пойдзе на штурм, будзе мець у чым руку памачыць, бо ўсе багацьці былі завезеныя туды, а тут толькі кажухі і скуры засталіся»[515]. На жаль, атака на досьвітку 28 лютага не прынесла посьпеху: па-першае, не было належнай артылерыйскай падтрымкі, а па-другое, частка афіцэраў недакладна выконвала загады Радзівіла[516]. Стала зразумела, што, не падарваўшы мінаў ці не зрабіўшы пралому ў фартыфікацыях, абстрэлам з гарматаў зламіць супраціў абаронцаў будзе немагчыма. З увагі на характар умацаваньняў Магілёва (земляны вал), а таксама на слабасьць літоўскай артылерыі

[511] Цытаты і апісаньне сутычкі па падставе дадатку да ліста Я. Радзівіла да Яна Казімера ад 21 лютага 1655: BCzart. Rkps 148. Nr 10. S. 43—44.

[512] Я. Радзівіл да Яна Казімера, Магілёў [каля 25 красавіка 1655]: BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1041—1042.

[513] TE. T. VII. S. 766. Асабліва гэтая апошняя лічба здаецца моцна заніжанай.

[514] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, ceduła do listu z 21 II 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 10. S. 46.

[515] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 217.

[516] J. Radziwiłł do szlachty powiatu słonimskiego, Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. S. 136; Radziwiłł B. Autobiografia... S. 135; AJZR. T. XIV. S. 587—590.

другі варыянт быў цяжкавыканальны. Тады ліцьвіны пачалі рыць падкоп пад вал, аднак працу ўскладняла тое, што зямля была наскрозь прамерзлая. Парахавы зарад удалося закласьці толькі ў сярэдзіне сакавіка. Падарвалі яго 18 сакавіка, але ягонае няўдалае разьмяшчэньне абярнулася бядой. Выбух ня выклікаў ніякіх значных разбурэньняў фартыфікацыяў, але ад яго загінула 5 літоўскіх жаўнераў і столькі ж атрымалі раны[517]. Прыкладна тым жа закончыліся ў сакавіку і іншыя спробы зрабіць падкопы пад умацаваньні. «Падкопы рабілі, і тыя не ўдаліся, адзін, паўвала вырваўшы, нашых больш за дзесяць брылямі замерзлай зямлі прываліў, другі падкоп адразу пасьля сьвятаў (Вялікадня. — **К. Б.**) сьвежа, калі сонца разагрэла зямлю, абваліўся, і малая гармата ад іх да нашых упала», — чытаем у лісьце ад 2 красавіка[518]. Нешматлікія атакі, што рабіліся ў гэты час, таксама ня мелі шанцаў на посьпех.

У дадатак вядзеньне аблогі гораду ўскладнялі няспынныя вылазкі залогі. Праўда, яны не прыносілі ліцьвінам зашмат стратаў, але вымагалі дадатковых высілкаў, бо трэба было ўвесь час трымаць пад зброяй частку аддзелаў[519]. Для абодвух бакоў нашмат большымі людзкімі ахвярамі абярнулася суровае надвор'е і нястача харчаваньня. У літоўскім абозе ў лютыя маразы зьмерзла ажно 1200 чалавек[520]. Вялікія страты зазналі ня звыклыя да такіх умоваў павятовыя харугвы. Але найбольш цярпелі замежныя аддзелы, нашмат горш забясьпечаныя правіянтам і амуніцыяй, чым уласна літоўскія. Апроч таго, багата падначаленых Януша Радзівіла і яшчэ больш абаронцаў Магілёва пакасілі хваробы. Зьявіліся таксама выпадкі галоднай сьмерці.

Для ліцьвінаў становішча не паправілася і тады, калі прыйшла вясна, а зь ёю і цяпло: «Абоз, які стаяў на прадмесьці, пры падыходзе вясны амаль у гразі і амаль на вадзе плаваў»[521]. У войску расло дэзэртэрства. Шмат харугваў пакінула лягер і блукала ў пошуках харчоў па навакольных вёсках і мястэчках. Пры магчымасьці жаўнеры бязьлітасна рабавалі сялянаў. Сярод іншых спустошаная была талачынская воласьць, што належала Казімеру Лявону Сапегу. Драматычнае апісаньне тых падзеяў мы знаходзім у захаваных лістах Геранiма Ліпскага да Эмануэля Бжастоўскага: «Барані Божа, калі яны даўжэй у Магілёве будуць стаяць, тады ні падумаць, ні сеяць; цяпер цяжка мужычку з дому па дровы высунуцца, адразу забраўшы ў селяніна адзежу, каня возьмуць і самога, каб з канём не ішоў, паб'юць — хочаш ня хочаш мусіць аддаць»[522].

Але здэмаралізаванасьць адчувалася ня толькі ў шэрагах літоўскай арміі. Адсутнасьць дапамогі і надзвычай цяжкія ўмовы існаваньня прывялі да таго, што сярод часткі абаронцаў Магілёва расло нежаданьне ваяваць далей. Пад канец лютага пачалі выказваць незадавальненьне іншаземныя афіцэры салдацкіх палкоў, якім цар

517 TE. T. VII. S. 768; Записки игумена Ореста // ASD. T. II. S. XIV [приложение]; AJZR. T. XIV. S. 587—590.

518 BCzart. Rkps 148. Nr 23. S. 117.

519 J. Mierzeński do K. Stryżki, Wilno 20 IV 1655. AGAD. AR. Dz. V. Nr 9646/l.

520 TE. T. VII. S. 768.

521 Żywot [...] Bogusława Radziwiłła. S. 119.

522 BCzart. Rkps 148. Nr 23. S. 116; list z 9 IV 1655. Nr 28. S. 143—144 i J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653.

нясвоечасова плаціў грошы[523]. Аднак большая частка залогі на чале зь непахісным ваяводам Ваейкавым, ролю якога ў абароне гораду цяжка пераацаніць, насуперак усім цяжкасьцям, была гатовая супраціўляцца да апошняга. Значную ролю, апроч вялікай фізычнай вытрымкі маскоўскага жаўнера і ягонай сьляпой паслухмянасьці камандзірам, напэўна, адыгрываў тут страх перад магчымай царскай карай. Яшчэ не забыліся падзеі, што адбыліся на 21 год раней, калі бацька Аляксея Міхайлавіча пакараў сьмерцю Міхаіла Шэіна і Арцемія Ізмайлава — вайскаводцаў арміі, разьбітай пад Смаленскам.

Таму няўдала канчаліся ўсе спробы схіліць абаронцаў да капітуляцыі. У сакавіку адпаведныя лісты ў горад дасылаў ня толькі Януш Радзівіл, але і іншыя вайскаводцы літоўскай арміі, і тым ліку прыдворны харужы Зыгмунт Адам Слушка[524]. Ініцыятыву праяўляў і Канстанцін Паклонскі, зь якога кароль афіцыйна зьняў пакараньне выгнаньнем, выявіўшы яму сваю ласку[525]. Былы царскі палкоўнік спрабаваў даказаць магілёўцам бессэнсоўнасьць супраціву і заклікаў іх здацца. Пры гэтым ён абяцаў захаваць ім усе прывілеі і свабодна адпусьціць іх па дамох. Асобныя лісты Паклонскі даслаў старшынам і жаўнерам сваіх былых аддзелаў, угаворваючы іх спрыяць яму і каралю[526]. Магчыма, ён абяцаў казакам, што іх возьмуць на платную службу ў войска Рэчы Паспалітай, хоць у крыніцах ня знойдзена таму доказаў[527]. Аднак усе гэтыя заклікі засталіся без адказу.

За перамовы з магілёўцамі, якія трымалі аблогу, браўся таксама слуцкі архімандрыт Феадосі Васілевіч. Ягоную пазыцыю падзяляла вялікая частка праваслаўнага духавенства, расчараванага дзеяньнямі цара. Галоўнай прычынай незадаволенасьці трэба прызнаць спрэчку наконт статусу Кіеўскай мітраполіі. Дагэтуль яна заставалася практычна незалежнай — ейнае падпарадкаваньне Канстантынопальскаму патрыярхату было чыстай фармальнасьцю. Маскоўскі патрыярх Нікан меў намер узяць Кіеўскую мітраполію пад свой кантроль і ўжо ўлетку 1654 г. спрабаваў абмежаваць уладу Кіеўскага мітрапаліта Сыльвэстра Косава — прызначыў, не параіўшыся зь ім, сваіх людзей намесьнікамі ў пакінутыя ўніяцкія катэдры Смаленскай і Полацкай эпархіяў. Нязгоду выклікала і рашэньне цара збудаваць у Кіеве каля Сафійскага сабору, на землях, што належалі мітраполіі, магутную крэпасьць — сымбаль улады Масковіі ва Ўкраіне[528].

Феадосі Васілевіч належаў да найбліжэйшых паплечнікаў мітрапаліта Косава, знаходзіўся ў ягоным атачэньні да восені 1654 г. і быў сьведкам таго, як нарастаў канфлікт з Масковіяй. Менавіта ў той час цалкам зьмянілася ягонае пачаткова прыхільнае

523 Extrait d'une lettre...

524 AJZR. T. XIV. S. 615—618.

525 Jan Kazimierz do K. L. Sapiehy, b. m. d. // Kognowicki S. Życie Sapiehów i listy monarchów, książąt i różnych panujących do tychże pisane. T. III. Warszawa, 1792. S. 356—357. Афіцыйна Паклонскага і ягоных людзей сойм рэабілітаваў у чэрвені 1655 г. (VL. T. IV. S. 234).

526 AJZR. T. XIV. S. 542—546.

527 Такі прывілей, а таксама гонар называцца народам князя ягамосьця (г. зн. Януша Радзівіла) атрымалі казакі, якія ў лютым перайшлі з Паклонскім у лягер Радзівіла (AGAD. AR. Dz. VII. Nr 55a. S. 71).

528 Mironowicz A. Prawosławie i unia... S. 126—132.

стаўленьне да цара. У кастрычніку, пасьля пасольскай місіі Антона Ждановіча, Хмяльніцкі дазволіў Васілевічу выехаць у ягоную дыяцэзію[529]. У Слуцку архімандрыт наладзіў ліставаньне зь Янушам і Багуславам Радзівіламі. Ёсьць падставы меркаваць, што ён выступаў пасярэднікам у кантактах гетмана з Косавым, прапольскія сымпатыі якога не былі сакрэтам ня толькі для Хмяльніцкага, але і для самога цара. Магчымае перацягваньне Кіеўскага мітрапаліта на бок Рэчы Паспалітай, напэўна, было адным з пунктаў згаданага вышэй пляну Радзівілаў разарваць Пераяслаўскую унію[530].

Віленскі ваявода вырашыў выкарыстаць Васілевіча, каб пераканаць абаронцаў Магілёва здацца. 15 сакавіка Багуслаў Радзівіл даслаў яму ліст, у якім, апроч віншаваньняў з шчасьлівым вяртаньнем у дыяцэзію, выказваў просьбу як мага хутчэй прыбыць у лягер[531]. Праз некалькі дзён архімандрыт зьявіўся ў Магілёве, наладзіў кантакт з абаронцамі і стаў даводзіць ім, што далейшы супраціў ня мае сэнсу. Аднак перамовы не прывялі да чаканага выніку. Больш за тое, падчас чарговага «туру перамоваў» быў выкрадзены манах Арсені, які вёў іх ад імя Васілевіча. Яскравае апісаньне гэтага здарэньня знаходзім у лісьце ад 2 красавіка, прычым памылкова падаецца, што схапілі самога архімандрыта: «Запатрабавалі ўрэшце ад нашых, каб кноты пяхота, якіх зь дзьвесьце на варце пры іншым войску было, пагасіла. Пасьля другой гутаркі здраднік — поп казацкі — схапіў нашага архімандрыта, яны доўга змагаліся адзін з адным. Ужо быў перамог папа казацкага наш, як Масква з валоў дала агню, тым часам некалькі выскачылі і дапамаглі, архімандрыта небараку жыўцом у замак зацягнулі. Пакуль нашыя прыйшлі да агню, кноты пазападалі, а тым часам [наш] быў, відаць, на допыце»[532].

Няўдачай скончыліся і спробы схіліць на бок Рэчы Паспалітай корпус Залатарэнкі. Без адказу засталіся заклікі пакінуць маскоўскую службу, дасыланыя казакам падчас як баёў за Новы Быхаў, так і аблогі Магілёва. Прапановы Януша Радзівіла Нежынскі палкоўнік катэгарычна адкідаў, а ягоныя лісты перасылаў Аляксею Міхайлавічу[533]. У вернасьці цару ўмацоўваў ягоны найбліжэйшы паплечнік, нежынскі пратапоп Максім Філімановіч, прадстаўнік ніжэйшага духавенства ўсходняга абраду, якое, адрозна ад герархаў, выступала катэгарычна супраць разрыву з Масковіяй.

Казацкія аддзелы прыблізна месяц пасьля адступленьня ліцьвінаў з-пад Новага Быхава практычна бязьдзейнічалі. Толькі калі з-пад Старадубу прыйшлі падмацаваньні Васіля Залатарэнкі, казакі пачалі актыўныя дзеяньні. У глыб Вялікага Княства Літоўскага накіроўваліся шматлікія разьезды, дэзарганізуючы тыл арміі, якая асаджала Магілёў. Януш Радзівіл ня меў адпаведных сілаў, каб стрымаць іх, і таму казакі амаль беспакарана спусташалі тэрыторыі паміж Дняпром і Бярэзінай. 22 сакавіка яны спалілі Бабруйск і Каралеўскую Слабаду, захапілі шмат палонных,

529 Mironowicz A. Teodozy Wasilewicz. Archimandryta słucki, biskup białoruski. Białystok, 1997. S. 8—11; Грушевский М. История Украины-Руси… С. 950.

530 Грушевский М. История Украины-Руси... С. 949, 1071, 1081, 1085.

531 NBU. Fond 2. Nr 21166.

532 BCzart. Rkps 148. Nr 23. S. 117—118.

533 AJZR. T. XIV. S. 535—539, 541—542, 546—552; Matwijów M. Próba mediacji... S. 31—32.

а ў маёнтку, разьмешчаным за два кілямэтры да Бабруйску, узялі ў няволю каралеўскага двараніна[534] Дамініка Казімера Паца, сына даўно памерлага вялікага літоўскага харужага Самуэля[535]. На сьвітаньні 25 сакавіка казакі напалі на мястэчка Глуск, якое належала Аляксандру Гілярыю Палубінскаму, разьбілі раскватараваныя там харугвы і спалілі будынкі[536]. Залатарэнка даслаў моцныя аддзелы, падначаленыя ягонаму брату Васілю — аддзел старадубскага палкоўніка Цімафея Акіненкі і аддзел баржнянскага палкоўніка Самойлы Курбацкага — таксама ў Магілёўскі ўезд. Там яны нанесьлі адчувальныя страты раскватараваным па вёсках літоўскім войскам.

Аднак спробаў прарваць аблогу Магілёва казакі не рабілі, напэўна, з увагі на занадта малыя ўласныя сілы. Апраўдваючы ў адным зь лістоў да цара свае паводзіны, Залатарэнка наракаў на надзвычай кепскае навор'е. Ён даводзіў, што перакінуць больш жаўнераў пад Магілёў перашкаджаюць занадта высокі сьнег (чалавек на кані нібыта ў ім правальваўся), непраезныя дарогі, а таксама цяжкасьці з забесьпячэньнем[537]. Але здаецца, што пэўным чынам на рашэньне палкоўніка маглі ўплываць старыя сваркі з Ваейкавым, яшчэ з часу, калі апошні дзейнічаў разам з Паклонскім. Таксама цяжка было чакаць, што казакі прыкладуць усе намаганьні, каб ураваць горад, які ўвосень адмовіўся ад апекі Хмяльніцкага[538]. Покуль Залатарэнка лічыў за лепшае чакаць на разьвіцьцё падзеяў і толькі ў адпаведны момант уключыцца з усімі сваімі сіламі ў барацьбу.

З надыходам вясны ўсё большая небясьпека пагражала ліцьвінам і з боку царскіх войскаў, якія рыхтаваліся да новага наступу. Ужо ў канцы студзеня (паводле старога стылю) Аляксей Міхайлавіч даў загад Аляксею Трубяцкому скіравацца зь Вязьмы ў Бранск, каб зьбіраць аддзелы для чарговай кампаніі[539]. Збор жаўнераў у тым раёне распачаўся ўжо ў другой палове лютага, але на вайну яны маглі рушыць толькі позьняй вясною. Тым ня менш, ужо на пачатку красавіка ліцьвіны трывожыліся, што тыя могуць увайсьці ў Беларусь. 21 сакавіка Аляксей Міхайлавіч пакінуў сваю сталіцу. 26 сакавіка ён прыехаў у Вязьму, а 10 красавіка быў ужо ў Смаленску[540]. Таму ў той час па Вялікім Княстве Літоўскім разыходзілася пагалоска, «што маскоўскі цар з большымі, чым летась, сіламі зьбіраецца на нас»[541]. Таму ліцьвіны з усё большай увагай назіралі, як пачалі актыўней дзейнічаць маскоўскія залогі ў захопле-

[534] Дваранінам у Рэчы Паспалітай называлі таго, хто належаў да сьвіты высокапастаўленага арыстакрата, які меў свой двор, найчасьцей караля ці князя. Дваране карысталіся рознымі прывілеямі і займалі высокія пасады ў атачэньні сваіх патронаў — былі зазвычай шатнымі, падчашымі і г. д. — *Рэд.*

[535] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 217; AJZR. T. XIV. S. 533—534 (тут пададзеная на колькі дзён ранейшая дата спаленьня Бабруйску і Каралеўскай Слабады), 539—541.

[536] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 217—218; AJZR. T. XIV. S. 540.

[537] AJZR. T. XIV. S. 527—534.

[538] Хоць, напэўна, абаронцы ахвяравалі Залатарэнку за пасьпяховую дапамогу дзесяць талераў за галаву ўратаванага ўдзельніка залогі (J. Mierzeński do K. Stryżki, Wilno 20 IV 1655. AGAD. AR. Dz. V. Nr 9646/I).

[539] AMG. T. II. Nr 639. S. 398—399; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 68.

[540] AMG. T. II. Nr 641. S. 399—400; DR. T. III. S. 460, 463—464.

[541] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 221.

ных беларускіх гарадох. Януш Радзівіл асабліва баяўся вылазак аддзелаў, якія стаялі ў Шклове. Цар меў намер стварыць у гэтым горадзе базу забесьпячэньня войскаў, што меліся з Смаленску вадой пераправіцца на дапамогу Магілёву[542]. Таму гетман увесь час сачыў за дзеяньнямі мясцовай залогі і пасылаў у ваколіцы гораду разьезды, якія вялі няспынныя — і нярэдка пасьпяховыя — сутычкі з праціўнікам[543].

Усе згаданыя чыньнікі пагаршалі становішча арміі Радзівіла. Зрэшты, трэба адзначыць, што нават калі б ліцьвіны ўзялі Магілёў, гэта ім мала чым тады дапамагло б. Разбураныя фартыфікацыі прыдняпроўскіх гарадоў не маглі стрымаць новага наступу маскоўскіх войскаў. Узьнікалі сумневы, ці здатная армія весьці далейшыя дзеяньні на адкрытай прасторы. Паводле ацэнак вялікага гетмана, большай частцы аддзелаў патрабавалася некалькі месяцаў адпачынку і рэарганізацыі, каб вярнуць поўную баяздольнасьць. «Падмацаваньні Кароны зімовымі дзеяньнямі ушчэнт разьбітыя. [...] Войска новага набору, адразу зьнясіленае цяжкай зімовай працай, так разьбітае і *evanuit* (змарнела), што яго ледзьве пазнаць, — паведамляў Радзівіл каралю. — А што старога набору пасьля працягу ўзімку і ўлетку без адпачынку такіх цяжкіх працаў, стратаў і *iacturach* (ахвяраў) яшчэ неяк трымаецца — вялікае гэта для мяне і для ўсіх дзіва. Але і тое, калі *respirium* (адпачынку) нейкага ня будзе мець, напэўна загіне»[544]. У Варшаве таксама ўсьведамлялі, што каб даць адпачыць зьнясіленым аддзелам, неабходна будзе перапыніць аблогу Магілёва. Таму ўжо на пачатку красавіка ў сталіцы пачалі хадзіць чуткі, што войска адступіла ў глыб Вялікага Княства Літоўскага, каб належным чынам падрыхтавацца адбіваць новы наступ царскіх войскаў[545]. Пра бессэнсоўнасьць далейшага працягу кампаніі пісалі і ў Літве. Ян Мяжэнскі, бачачы, што споўніліся ўсе найгоршыя прагнозы ягонага патрона з канца 1654 г., баяўся, каб літоўская армія не апынулася ў яшчэ цяжэйшай сытуацыі: «Князю Я[го] М[осьці] нельга адно войска адтуль прывесьці, каб, маючы ворага *a tergo* (ззаду), а як прыйдзе новае *a fronte* (сьпераду), *in faucibus* (у пашчы) яго не загінула»[546].

Нягледзячы на гэта, загаду адступаць усё не было. Некалькі месяцаў таму Януш Радзівіл рашуча выступаў супраць таго, каб пачынаць баявыя дзеяньні ўзімку. Аднак цяпер ён марудзіў з адступленьнем ад гораду, усьведамляючы, што гэта будзе вялізны ўдар па ягоным прэстыжы. Падрыхтаваная дзякуючы вялізным арганізацыйным і фінансавым намаганьням, вельмі шматлікая, як на літоўскія ўмовы, армія больш за два месяцы безвынікова спрабавала здабыць не наймацнейшыя на ўсходніх межах Вялікага Княства ўмацаваньні. Калі б Радзівіл вярнуўся з-пад Магілёва, не дасягнуўшы посьпеху, несумненна, на яго абрынулася б новая лявіна паклёпаў і абвінавачаньняў у няўдольнасьці і здрадніцтве. А гэта пагражала б яму стратай аўтарытэту сярод жаўнераў і, магчыма, зьмяншэньнем палітычнага ўплыву.

Таму гетман засяродзіў усе намаганьні на падрыхтоўцы да вырашальнага штурму, які нарэшце мусіў прынесьці посьпех. З пачатку красавіка рылі некалькі падко-

[542] H. Lipski do E. Brzostowskiego, Tołoczyn 28 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 33. S. 169.

[543] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1042.

[544] Я. Радзівіл жа да шляхты Слонімскага павету: Mohylew 7 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 26. C. 136—137.

[545] Relacja A. Adersbacha z 25 III (4 IV) 1655. UuA. T. VI. S. 692; Nowiny z Warszawy, 3 IV 1655. BCzart. Rkps 3355. Nr 50. S. 111—112.

[546] J. Mierzeński do K. Stryżki, Wilno 20 IV 1655. AGAD. AR. Dz. V. Nr 9646/I.

паў пад валы. Меркавалася закласьці ў іх значна мацнейшыя, чым раней, парахавыя зарады. Аднак выбух мінаў 19 красавіка хоць і выклікаў пэўныя разбурэньні, не зрабіў пралому ва ўмацаваньнях. Больш за тое, як вынікае зь сьведчаньня магілёўскіх мяшчанаў, што змагаліся на маскоўскім баку, адзін з чатырох падкопаў абваліўся і засыпаў літоўскіх жаўнераў. Таму зусім ня дзіўна, што распачаты ў гэты дзень штурм, у якім бралі ўдзел палкі на чале з Эрнэстам Янам Корфам, Янам Бэркам і Эбэрхардам Путкамэрам, завяршыўся няўдачай [547].

Праз чатыры дні літоўская армія чарговы раз штурмавала пазыцыі абаронцаў. Януш Радзівіл падзяліў сваіх падначаленых на пяць груповак і зьбіраўся атакаваць умацаваньні з усіх бакоў[548]. Варта зазначыць, што, апроч пяхоты і драгунаў, у штурме мусілі ўдзельнічаць рэарганізаваныя ў пяхоту харугвы рэйтараў і гусараў, што ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага раней здаралася вельмі рэдка[549]. Бой пачала перад сьвітаньнем, а чацьвертай гадзіне раніцы, вугорская пяхота Самуэля Яна Юшкевіча. Яна мусіла, «абудзіўшы ад сну непрыяцеля і завабіўшы яго на гэты бок», аблегчыць дзеяньні астатнім групам. Аднак засьпець маскоўцаў зьнянацку не атрымалася — яны пачалі моцны абстрэл з гарматаў. Аддзелы Юшкевіча панесьлі вялікія страты і былі вымушаныя адступіць. Яму самому параніла руку цяжкім стрэлам, «які разьбіў яму косьць і жылы парваў, другі пад самае сэрца ўдарыў (хоць там і бэхтар (від панцыра. — **К. Б.**) і, усё на ім аж да самай скуры прабіўшы, дзіркі не зрабіў, аднак нанес цяжкі сухі ўдар, які адняў яму дух сілы». Пасьля распачаў наступ полк літоўскага стольніка Крыштапа Патоцкага, да якога далучыліся шматлікія добраахвотнікі. Аднак гадзінная бітва, каб здабыць брамы і тым самым палегчыць атаку кавалерыі на цэнтар старога гораду, не прынесла посьпеху.

Між тым палкі нямецкай пяхоты і драгунаў Княства і Кароны атакавалі замак. На левым крыле наступаў полк каралеўскай гвардыі Фромгальда Вольфа пры падтрымцы палкоў драгунаў Людвіка Вэйгера і Эрнэста Яна Корфа. На правым флянгу, каля берагу Дняпра, ішлі ў атаку драгуны Фрыдэрыка Моля, Эбэрхарда Путкамэра і Германа Ганцкопфа. У апошні момант да дзеяньняў далучыліся добраахвотнікі, якія меліся падпаліць драўляныя часткі замкавых фартыфікацыяў. Аднак тады «непрыяцель хутка брамкай, што пры рагу яго, выскачыўшы, *impedivit* (перашкодзіў) падпалу і аднаго зь іх зарубіў, другія ледзьве ўратаваліся. А ўжо некаторыя гэтыя вогненныя рэчы падклалі былі». Тады іншая група жаўнераў пачала рубіць сякерамі замкавы частакол. Іх прыкрывалі прыцэльным абстрэлам пазыцыяў абаронцаў пехацінцы Вольфа. На беразе ракі драгуны Моля высеклі першы шэраг паркану і былі блізкія да таго, каб прабіцца ўнутро ўмацаваньняў. Вялікі гетман, які камандаваў штурмам, пісаў: «Калі ў іх саміх (абаронцаў. — **К. Б.**) у некалькіх месцах ад выбуху пораху заняўся порах і гарматы на першым рагу, шмат ім не ўдалося, пачалі слабець неяк і

[547] Awizy z obozu mohylewskiego, 24 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 31. S. 163 (тут Бэрка памылкова называюць абэрштэрам каралеўскай гвардыі, быць можа, яго пераблыталі з Вольфам); таксама маскоўскія крыніцы: AJZR. T. XIV. S. 569—570, 587—590; AMG. T. II. Nr 662. S. 408—409; Nr 704. S. 430.

[548] Awizy z obozu mohylewskiego, 24 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 31. S. 163—164.

[549] Г. Віснэр (H. Wisner) паведамляе, што падобныя прэцэдэнты мелі месца падчас штурму Мазыра ў 1648 г. у час першай Лоеўскай бітвы ў 1649 г. (Wojsko litewskie... Cz. III. S. 88).

глухнуць, а нават без снарадаў страляць. Драгуны ўжо былі да самага замкавага штыкетніка падступілі, таго толькі не ставала, каб іх дзіры сваімі мушкетамі занялі». Ліцьвіны ўварваліся на валы і пачалі сьпіхваць зь іх абаронцаў. Ужо ледзь не зламалі супраціў ворага палкі Бэрка і Прыпкоўскага, якія спачатку стаялі ў рэзэрвах і толькі ў другой фазе штурму атакавалі замак з поўначы. Некаторыя жаўнеры гэтых адзінак нават «ужо мушкеты ў дзірах паркановых мелі»[550].

У гэты момант ход бітвы нечакана пераламіўся. Неспадзявана жаўнеры, што біліся на левым крыле, — перш за ўсё пехацінцы-добраахвотнікі каралеўскай гвардыі — пачалі ўцякаць з поля бітвы. Адступленьня не змагло стрымаць асабістае ўмяшаньне абодвух гетманаў. Пасьпешліва пакінуў валы драгунскі аддзел Казімера Лявона Сапегі, якім камандаваў Вільгельм Клят[551]. Праз хвілю пад фартыфікацыямі засталося ўсяго толькі некалькі соцень жаўнераў і афіцэры, якія спрабавалі асабістым прыкладам стрымаць уцёкі падначаленых. Адрэзаныя ад рэшты аддзелаў і пазбаўленыя падтрымкі, бо «пяхота пана Вольфа не хацела адстрэльваць, калі ад валоў нашы назад уцякалі», афіцэры вельмі моцна пацярпелі ад бэлек, цэглы і камянёў, што кідалі абаронцы. Камандзір драгунскага палка вялікага гетмана Герман Ганцкопф, «страшэнна пабіты, за ногі ледзьве з пляцу самога рукамі пана Моля (быў. — **К. Б.**) сьцягнуты». У небясьпецы апынуліся намесьнік Вольфа, обэрштэрлейтэнант Мікалай Канстанцін Гіза і капітан ягонага палка Эбэрхард Фрыдэрык фон Альтэн Бокум. Праўда, яны амаль цудам засталіся жывыя, але Гіза заплаціў за гэта цяжкай кантузіяй[552]. Вялікія страты былі таксама ў гусарскай і казацкай харугвах Юр'я Караля Глябовіча[553]. Большасьць адрэзаных пад замкам жаўнераў уратавала ўрэшце ўмяшаньне тэрмінова прыведзенага ў гэты раён палка Бэрка.

Адразу пасьля штурму Радзівіл спрабаваў высьветліць прычыны ганебнага адступленьня ў вырашальны момант бітвы. Гетман лічыў, што «ўсё б шчасьліва *succesisset* (пайшло), калі б не пачаліся гэтыя агідныя, без усялякай прычыны, толькі нейкай Божай карай дапушчаныя ўцёкі».

У выніку сьпехам праведзенага разьбіральніцтва выявілася, што жаўнерам «падалося, нібы непрыяцель браму адчыніў і зьбіраўся нападаць, а затым нехта сказаў «цурык» (вяртацца!), іншыя: «цурык», а харужыя кінуліся за салдатамі з харугвамі»[554]. Гэтае апісаньне сьведчыць, як моцна падчас аблогі Магілёва ўпала дысцыпліна ў аддзелах і як мала верылі жаўнеры ў перамогу на полі бітвы. Зьнясіленыя надзвычай цяжкімі ўмовамі, людзі былі ўжо ня ў стане прымусіць сябе зноў рабіць вялікія высілкі, каб давершыць пасьпяхова распачаты наступ.

Непасрэдным віноўнікам паразы Радзівілы палічылі Вольфа, зь якім у іх за апошнія месяцы ўжо ня раз узьнікалі сур'ёзныя непаразуменьні. Праз пяць тыдняў князь Багуслаў рэзка выказваўся пра ягоную ролю ў падзеях 23 красавіка: «Ведаю, што пан

[550] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1037—1040.

[551] H. Lipski do E. Brzostowskiego,Tołoczyn 28 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 33. S. 169.

[552] Цытаты і апісаньне штурму на падставе ліста Я. Радзівіла да Яна Казімера: J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1039.

[553] H. Lipski do E. Brzostowskiego, Tołoczyn 28 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 33. S. 169.

[554] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1040—1041.

Вольф хоча выслужыцца перад Каралём маім за кошт таго, што я не патураў яму ў ягонай баязьлівасьці, праз якую з нашых рук раз была вырвана поўная і несумненная перамога, як гэта ўсяму сьвету вядома»[555]. Обэрштэра нельга было пакараць, і таму гетман вырашыў пакараць сьмерцю кожнага дзясятага ў аддзелах, якія ўцяклі з поля бітвы: «Заўтра экзэкуцыя шасьці або васьмі афіцэраў будзе, і салдаты тых ротаў гуляць у косткі на сьмерць (будуць. — **К. Б.**)»[556]. Аднак сумнеўна, каб ён выканаў сваю пагрозу — зьвесткі пра такую паказальную экзэкуцыю напэўна б захаваліся ў крыніцах.

Апошні раз літоўская армія паспрабавала ўзяць Магілёў 11 траўня[557]. Падрыў міны і наступная атака завяршыліся гэтак сама, як і ранейшыя штурмы — адчувальнымі стратамі безь якога-небудзь посьпеху. Тым часам з усходу ўсё часьцей даходзілі навіны, што маскоўскія войскі, якія павінны першымі ўвайсьці ў Беларусь, ужо сабраліся і гатовыя выступіць. 17 красавіка цар даў загад аднаму з сваіх вайскаводцаў, Замятню Лявонцеву, ісьці з сваім аддзелам на Краснае, г. зн. у ваколіцы Воршы, і там чакаць далейшых распараджэньняў[558]. Праз некалькі тыдняў на захад меліся рушыць наступныя аддзелы.

На поўдні стаў актыўней дзейнічаць корпус Залатарэнкі. Ужо 27 красавіка на дапамогу Магілёву скіраваліся на караблях Дняпром Васіль Залатарэнка і Цімафей Анікенка. 4 траўня нежынскі палкоўнік рушыў з усімі сіламі на поўнач, паслаўшы ў авангардзе Яхну Каробку з 2000 чалавек[559]. Калі б літоўская армія і надалей заставалася пад Магілёвам, яе неўзабаве маглі атачыць большыя, сьвежыя і нашмат лепш забясьпечаныя рыштункам аддзелы праціўніка. Таму ўрэшце Янушу Радзівілу давялося прыняць цяжкое рашэньне — аддаць загад адступаць за Бярэзіну.

Адступленьне з-пад Магілёва пачалося ўжо праз некалькі гадзінаў пасьля апошняга штурму, яшчэ 11 траўня. Войска вяло за сабою шмат вазоў з трафэямі і багата захопленых у лютым жыхароў Новага гораду. Усьведамляючы, што ўтрымацца ў здабытых прыдняпроўскіх гарадох няма ніякіх шанцаў, Радзівіл забраў залогі з Копыся, Воршы і Дуброўны. Абараняць тэрыторыі паміж Друцьцю, Бярэзінай і Бабром паставілі Канстанціна Паклонскага, з 10 траўня ўнівэрсалам гетмана прызначанага «палкоўнікам над усімі краямі беларускімі»[560]. Аднак пад сваю каманду ён не атрымаў ніякіх сілаў, апроч нешматлікіх, абяскроўленых пад Магілёвам добраахвотніцкіх фармаваньняў. Гэта загадзя вырашала вынік сутычкі з шматкроць мацнейшым праціўнікам.

Літоўскае войска адступала з-пад Магілёва, панішчанае маразамі, хваробамі, баявымі стратамі. Разьбітае фізычна і маральна, яно ня мела ніякай ахвоты служыць далей: «А так, што столькі цяжкай працы каштавала і што так шмат слаўных кавалераў палегла, з дымам пойдзе, а непрыяцель цешыцца будзе і трыюмфаваць. Зжалься,

555 B. Radziwiłł do B. Olszewskiego, Słuck 30 V [1655]. AGAD. AR. Dz. IV. T. 9. K. 89. Nr 1091.

556 J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1041.

557 AJZR. T. XIV. S. 587—590; AMG. T. II. Nr 662. S. 408—409; Nr 704. S. 430.

558 AMG. T. II. Nr 650. S. 403—404.

559 AJZR. T. XIV. S. 569—570, 587—590, 593—595; AMG. T. II. Nr 663. S. 409; RBS. Nr 307. S. 330—331.

560 AJZR. T. XIV. S. 621—622.

Божа!»[561]. Жаўнеры страцілі веру ў магчымасьць посьпеху. Яны ня верылі, што здолеюць супрацьстаяць шматкроць большаму войску, якое падцягвалася з усходу, калі ўсяго некалькі тысячаў магілёўскай залогі столькі часу стрымлівалі ўсю літоўскую армію. Пра настрой, які ў той час панаваў сярод жаўнераў, выразна сьведчаць словы Багуслава Радзівіла: «...цяпер усяму (войску. — **К. Б.**) так абрыдла вайна, што яно хутчэй бы хацела на шыбеніцы маскоўскай вісець, чым праявіць нейкую адвагу дзеля Айчыны»[562]. Напярэдадні новага наступу ворага практычна не было сілаў, здольных яму супрацьстаяць.

Надзвычай высокую цану за тры месяцы гераічнага супраціву заплаціў Магілёў. Пад канец аблогі ў Верхнім горадзе і замку практычна не засталося ежы — людзі ратаваліся ад голаду рэшткамі запасаў памерлых мяшчанаў і канінай. Пілі заражаную ваду — у выніку ад паморку памерла шмат мяшчанаў[563]. Усе гістарычныя крыніцы сьведчаць, што аблога забрала жыцьці большасьці магілёўцаў. Часам прыводзіцца лічба 13 000 памерлых, аднак яна выклікае сумневы — больш рэальнымі выглядаюць зьвесткі пра 8000 памерлых[564]. У кожным разе Магілёў яшчэ доўга ня мог акрыяць ад дэмаграфічных стратаў, панесеных у лютым—траўні 1655 г.

Горад істотна пацярпеў і матэрыяльна. За час, калі пад Магілёвам стаяла лягерам літоўскае войска, была спустошаная і збольшага спаленая або разабраная на дровы ягоная драўляная забудова. Ад абстрэлу і спробаў падпаліць «вогненнымі кулямі» істотна пацярпеў Стары горад, вялікія разбурэньні былі і на тэрыторыі замку[565]. Разам, беручы пад увагу ўвесь пэрыяд маскоўскай акупацыі да 1661 г., Магілёў паменшаў прыкладна на 75,6 % дымоў[566].

Вельмі значныя былі таксама страты сярод залогі. Захаваныя рапарты камандзіраў двух стралецкіх прыказаў дазваляюць вызначыць страты ў гэтых аддзелах. Што цікава, у адзінках як Аўраама Лапухіна, гэтак і Логіна Анічкава колькасьць ахвяраў была аднолькавая — 31 % (249 чалавек). Пераважная большасьць памерла ад хваробаў і голаду, а ў баях з 784 загінула толькі 49 жаўнераў[567]. Калі дапусьціць, што падобныя стратыназіраліся ў палках Ніратморацава і Германа ван Штадэна, то ў часе абароны Магілёва маскоўская залога страціла больш за 800 чалавек. Калі казаць пра колішні полк Паклонскага, то 16 лютага палегла або перайшло на бок Радзівіла каля 1000 казакоў. Калі дапусьціць, што з астатніх 3000 каля 30 % было забіта, паранена ці памерла ў час аблогі, можна меркаваць, што агульныя страты маскоўска-казацкіх сілаў складалі каля 2500 жаўнераў — амаль палову ад пачатковага ліку. Залога адзначылася вялізнай трываласьцю, а ейныя паводзіны заслугоўваюць на найвышэйшую адзнаку гісторыкаў ваеннай справы.

[561] Morszryn do pocztarza wileńskiego, b. m. d. // Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 225.

[562] B. Radziwiłł do B. Olszewskiego, Słuck 30 V [1655]. AGAD. AR. Dz. IV. Teka 9. Kop. 89. Nr 1091.

[563] Акты, собранные в библиотеках и архивах российской империи... Т. IV. Санкт-Петербург, 1836. С. 128.

[564] Тамсама. С. 128; ТЕ. Т. VII. S. 768.

[565] RBS. Nr 308. S. 331—333. Як падае С. Выслаўух (Wysłouch S. Uwagi o przyczynach rozwoju Mohylewa w XVI i XVII w. Wilno, 1938. S. 358), у 1661 г. з 71 і 1/8 замкавых пляцаў было забудавана толькі 30.

[566] З 2367 дымаў засталося толькі 577 (Morzy J. Kryzys demograficzny... [Табліца] 46).

[567] AMG. T. II. Nr 662. S. 409; Nr 704. S. 430.




**Жаўнер літоўскай лёгкай коньніцы**

Аляксей Міхайлавіч не забыўся пра заслугі гераічных абаронцаў гораду. 10 ліпеня 1655 г., ідучы на вайну, ён ушанаваў горад, асабіста яго ненадоўга адведаўшы[568]. Найбольш заслужаных магілёўцаў, а таксама жаўнераў цар шчодра надзяліў маёнткамі, футрамі і грашыма. У наступныя тыдні ён раздаў таксама маёмасць «здраднікаў» — Паклонскага і людзей зь ягонага палка, якія перайшлі да Радзівіла, а таксама шляхты, што пакінула горад зь верасьня 1654 г. Аляксей Міхайлавіч яшчэ раз пацьвердзіў прывілеі, якія Магілёў атрымаў ад польскіх каралёў[569].

Горад яшчэ доўгія шэсьць гадоў заставаўся пад уладай Масквы. У гэты час дачыненьні паміж магілёўцамі і залогай складваліся ня так ідылічна, як у 1654—1655 гг. Урэшце дайшло да таго, што 11 лютага 1661 г., амаль у гадавіну пачатку аблогі 1655 г., мяшчане «ўсіх маскоўскіх людзей, якія заставаліся *in praesidio* (у залозе) у Магілёве, павыразаўшы, двух ваяводаў маскоўскіх з старшынамі, што там жа былі, нам (каралю. — **К. Б.**) з аддачай падданства перадалі»[570]. 9 чэрвеня Ян Казімер афіцыйна дараваў мяшчанам ранейшыя правіны і прыняў іх пад сваю апеку, забыўшыся на іхныя паводзіны ў першай палове 1655 г.

## Разьдзел VIII

# БІТВЫ НА ДЗЬВІНЕ І НА ЛЕВЫМ БЕРАЗЕ ДНЯПРА

Тады, калі большасьць літоўскіх войскаў безвынікова спрабавала прымусіць да капітуляцыі абаронцаў Новага Быхава і Магілёва, працягваліся баі ў іншых частках Вялікага Княства Літоўскага. Скарыстаўшыся адыходам большай часткі маскоўскай арміі за перадвааенную мяжу, Януш Радзівіл пачаў дзейнічаць, каб вярнуць тэрыторыі, занятыя ў 1654 г. корпусамі Васіля Пятровіча Шарамецева і Аляксея Трубяцкога.

На жаль, сілаў, накіраваных гетманам на гэты ўчастак, было недастаткова. На прыдзьвінскім фронце, які Радзівіл лічыў другасным, у наступе ўдзельнічалі амаль выключна добраахвотніцкія аддзелы пры падтрымцы нешматлікіх рэестравых харугваў. Ад пачатку вайны ва ўзаемадзеяньні з добраахвотнікамі ў іх узьнікалі праблемы. Хоць узровень дысцыпліны і тут і там быў ненайлепшы, аднак рэгулярныя войскі мелі непараўнальна вышэйшую вывучку, досьвед і баявы дух. Рэестравы ротмістар лічыў зьнявагай магчымасьць апынуцца пад камандаю добраахвотніка, які часта ня меў за плячыма службы ў арміі і нярэдка нават не вызначаўся шляхетным паходжаньнем. Таму, хоць паасобныя аддзелы налічвалі часам тысячу і больш лю-

[568] DR. T. III. S. 483; AJZR. T. XIV. Nr 32; RBS; Nr 320—321. S. 345—346.

[569] AVAK. T. XXXIV. Nr 43—53. S. 47—59; RBS. Nr 316. S. 342; Nr 317. S. 343; Nr 337. S. 359—360.

[570] RGADA. Fond 389. Nr 134. K. 107—107v.

дзей, аднак без падтрымкі прафэсійных жаўнераў ім рэдка ўдавалася дасягнуць якіх-небудзь посьпехаў і выканаць задачы, пастаўленыя перад імі вялікім гетманам.

Затое на левым беразе Дняпра ліцьвіны дасягнулі істотных баявых посьпехаў. Гэты адрэзак знаходзіўся непадалёк ад Магілёва, таму на ім ваявала нашмат больш рэгулярных адзінак, чым у раёне Полацку і Віцебску. Яны атрымалі не адну перамогу і вызвалілі значныя тэрыторыі ад маскоўскай акупацыі.

Як на Дзьвіне, так і на левым беразе Дняпра літоўскае войска часта падтрымлівалі аддзелы сялянаў, якіх называлі, узяўшы слова з расейскай, «шышамі». Забойствы і гвалты царскіх войскаў на занятых тэрыторыях Вялікага Княства Літоўскага прывялі да таго, што спачатку зычлівае і нярэдка прыхільнае стаўленьне да іх мясцовага насельніцтва вельмі хутка зьмянілася на супрацьлеглае. Увосень 1654 г. на ўсход вывозілі ня толькі шляхту, але і прадстаўнікоў іншых сацыяльных групаў. У маскоўскія гарады перасялялі шматлікіх рамесьнікаў. Тысячы сялянаў разам з цэлымі сем'ямі і маёмасцю траплялі ў баярскія ўладаньні, апусьцелыя падчас апошняй эпідэміі[571].

Усходняя Беларусь сыстэматычна спустошалася і рабавалася, паволі ператвараючыся ў пустыню[572]. У выніку тая частка насельніцтва, якая паўгоду таму з хлебам і сольлю вітала маскоўцаў, цяпер зь нецярплівасьцю чакала вяртаньня войскаў Рэчы Паспалітай. Узімку 1655 г. ня толькі шляхта, але большасьць сялянаў з зброяй у руках выступіла супраць захопнікаў, падтрымліваючы літоўскую армію.

Таму, калі на Дняпры ў студзені 1655 г. зьявіліся войскі Януша Радзівіла і занялі Копысь, Воршу і Дуброўну, гэта падштурхнула насельніцтва іншых гарадоў добраахвотна вярнуцца пад уладу Яна Казімера. На мяжы лютага і сакавіка Мацей Форбэк-Летаў пісаў: «Маем сваіх паўсюль, найперш у Амсьціславе, у Горах, у Радамлі, аж Краснае ўжо зычлівае і ўнівэрсалы князя я[га]м[ось]ці (Януша Радзівіла. — **К. Б.**) прынялі»[573]. Літоўскія харугвы занялі таксама Чавусы і Горкі, здаўся ім Крычаў. Пасланыя гетманам разьезды, якія складаліся ў тым ліку з татарскіх харугваў з палка Ісляма Смольскага (замест хворага камандзіра кіраваў ім Юзаф Поўтар), выгналі палявыя аддзелы праціўніка за Смаленск і Дарагабуж. На поўдні ўдалося ачысьціць тэрыторыю паміж Старадубам і Крычавам. Некаторыя аддзелы дайшлі да Рослаўля і атрымалі шэраг перамог у баях з маскоўцамі і казакамі Залатарэнкі. Гэтыя дзеяньні, магчыма, крыху зашкодзілі зборам корпусу Аляксея Трубяцкога пад Бранскам. У выніку ён выправіўся на вайну на некалькі тыдняў пазьней[574].

Гэтыя посьпехі падштурхнулі мясцовых сялянаў масава далучыцца да вайны з Масковіяй. Асабліва зацята з царскімі аддзеламі змагаліся ў Калесьнікаўскай воласьці ў Амсьціслаўскім павеце, а таксама ў Любавіцкай і Мікуленскай воласьцях у Смаленскім павеце. Тысячы жыхароў гэтых ваколіцаў актыўна ўзаемадзейнічалі з дасла-

[571] Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVII в. Из истории русско-белорусских связей. Минск, 1957. С. 6—8, 50.

[572] TE. T. VII. S. 619.

[573] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 217.

[574] J. Mierzeński do K. Stryżki, Wilno 20 IV 1655. AGAD. AR. Dz. V. Nr 9646/I; Aktykacja atestacji należącej Ichmść panom Poniatowskim. LVIA. Fond SA. Nr 2. K. 1220—1223v.

ным з-пад Магілёва палком коньніцы смаленскага кашталяна Ўладзіслава Валовіча, які налічваў каля 700 коней. У іхныя рукі патрапілі і два маскоўскія ваяводы: любавіцкі (Ражноў) і амсьціслаўскі (Іван Пушкін). Іх даслалі ў лягер Радзівіла пад Магілёў[575].

Войскам Рэчы Паспалітай на левым беразе Дняпра спрыяў настолькі значны посьпех, што пры двары Аляксея Міхайлавіча пачалі непакоіцца за лёс Смаленску. Зразумела, рэальнай пагрозы, што ліцьвіны адваююць гэтую крэпасьць, не было, але маскоўцы трывожыліся, што ў горадзе можа выбухнуць паўстаньне. У лісьце да свайго фаварыта Арцемія Марозава цар пісаў, што вялікая частка смаленскай шляхты і мяшчанаў, незадаволеная маскоўскім панаваньнем, рыхтуецца захапіць уладу і вярнуцца пад скіпетар Яна Казімера. Ачольваць бунтароў меліся смаленскі гарадзкі пісар Казімер Самуэль Сакалінскі, а таксама браты Лепуновы. Каб пазьбегчы хваляваньняў, Аляксей Міхайлавіч загадаў пакараць сьмерцю магчымых завадатараў, а непаслухмяную шляхту выслаць у глыб дзяржавы[576]. Небясьпеку бунту зьліквідавалі толькі ў красавіку, калі ў сувязі з падрыхтоўкай да новай кампаніі ў Смаленск пачалі сьцягвацца шматлікія маскоўскія аддзелы.

Аднак удалыя дзеяньні літоўскіх харугваў на левым беразе Дняпра не маглі значна паўплываць на ход вайны, бо посьпех зімовага кантранаступу найперш залежаў ад прасоўваньня арміі Кароны ва Ўкраіне, а потым ад вынікаў баёў пад Новым Быхавам і Магілёвам. Няўдача галоўных сілаў Януша Радзівіла зрабіла ўзяцьце гарадоў і замкаў у Смаленскім і Амсьціслаўскім ваяводзтвах толькі кароткачасовым мясцовым посьпехам. Пасьля адыходу ліцьвінаў за Бярэзіну ў траўні 1655 г. гэтыя тэрыторыі практычна бяз бою вярнуліся пад кантроль Масковіі. І хоць праціўнік зьведаў досыць адчувальныя страты, яны, аднак, не маглі значна аслабіць ягоных сілаў напярэдадні наступу.

Значнага эфэкту не прыносілі і дзеяньні ліцьвінаў у Полацкім і Віцебскім ваяводзтвах. Ужо ўвосень 1654 г., калі большасьць сілаў Шарамецева перамясьцілася пад Віцебск, на Полаччыне змагацца з маскоўскімі залогамі выйшлі шматлікія добраахвотніцкія аддзелы зь мясцовай шляхты і сялянаў. Першапачаткова іхная галоўная задача была ў тым, каб засланіць Вільню з поўначы і зьнішчаць аддзелы непрыяцеля, якія спрабавалі пранікнуць у глыб дзяржавы.

У лістападзе на поўдзень ад Полацку дзейнічалі два вялікія добраахвотніцкія аддзелы. Камандавалі імі Кароль Лісоўскі і Станіслаў Лазоўскі, якія называлі сябе палкоўнікамі[577]. У Лісоўскага на той час служыла некалькі соцень чалавек, а ўлетку 1655 г. ягоны аддзел разросься прыкладна да 1500 добраахвотнікаў[578]. Мы ня ведаем колькасьці групы Лазоўскага, але, як вынікае з крыніцаў, у ёй было меней жаўнераў, чым у Лісоўскага.

У сьнежні 1654 г., пасьля адступленьня корпусу Камароўскага, калі Віцебск занялі войскі Шарамецева, вялікі добраахвотніцкі аддзел узьнік і ў гэтым раёне. Камандзірам партыі стаў Самуэль Лукомскі, які паходзіў зь мясцовага княжага роду. Паводле

[575] VS. T. IV. Cz. 2. Nr 11. S. 42; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 211—216.

[576] VS. T. IV. Cz. 2. Nr 11. S. 42; AJZR. T. XIV. S. 572—574.

[577] BCzart. Rkps 147. Nr 139. S. 677—678.

[578] Wisner H. Wojsko litewskie... Cz. 1. S. 124.

верагодных зьвестак з маскоўскіх крыніцаў, пад ягонай камандаю служыла больш за 4000 чалавек[579].

Добраахвотніцкія фармаваньні пачалі актыўныя дзеяньні ў студзені 1655 г. У гэты час на паўночным фронце знаходзіліся нешматлікія маскоўскія сілы. Захапіўшы 2 сьнежня Віцебск, Васіль Шарамецеў распусьціў па дамох большасьць сваіх жаўнераў, а ў здабытых гарадох пакінуў толькі залогі. Сам ён зьехаў у Вялікія Лукі, дзе меўся кіраваць падрыхтоўкай да наступнай кампаніі. Новы збор корпусу прызначаўся на 4 красавіка[580]. Камандаваньне абаронай Віцебску прынялі сын Шарамецева Мацьвей і Барыс Пляшчаеў. У Полацак накіравалі акольнічных Дзьмітрыя Даўгарукага і Данілу Якаўлева, а таксама дзяка Пятра Малыгіна[581]. На Дзьвіне ў маскоўцаў засталіся настолькі мізэрныя сілы, што ў некаторых замках знаходзілася толькі па дзесяць зь нечым жаўнераў, а большыя залогі мелі толькі Віцебск і Полацак[582]. Нярэдка абарона гарадоў даручалася іхным жыхарам з разьлікам на тое, што яны хутчэй захочуць захаваць вернасьць цару, чым пусьціць у свае дамы добраахвотніцкія аддзелы, якія бязьлітасна рабуюць землякоў.

Каля 30 студзеня корпус Лукомскага, якім, апроч князя, кіраваў ксёндз Курламскі, першы раз падышоў пад Віцебск. Раней з навакольных мястэчкаў і вёсак прыгналі нешматлікіх маскоўскіх жаўнераў, што стаялі там на зімовых кватэрах[583]. Ліцьвіны вырашылі не атакаваць горад і разьбілі непадалёк ад яго лягер. Цяжка адназначна ацаніць, ці было гэта слушнае рашэньне. З аднаго боку, фартыфікацыі Віцебску, нягледзячы на пасьпешліва зроблены маскоўцамі рамонт, па-ранейшаму знаходзіліся ў вельмі занядбаным стане і не дазвалялі працягла трымаць абарону[584]. З другога боку, мы мусім таксама памятаць: Лукомскі меў пад сваёй камандаю толькіконьніцу і, напэўна, у яго не было ніякай артылерыі. Добраахвотнікі не маглі весьці аблогі, а іхная тактыка абапіралася на нечаканасьць і выкарыстаньне падтрымкі мясцовага насельніцтва. Як ведаем, яшчэ ў сьнежні ўсіх патэнцыйных прыхільнікаў вяртаньня пад уладу Рэчы Паспалітай вывезьлі зь Віцебску ў глыб Маскоўскай дзяржавы, таму цяжка было разьлічваць на падтрымку астатніх жыхароў, якія пакляліся ў вернасьці цару.

Таму Лукомскі пакуль што абмежаваўся блякадай гораду, чакаючы зручнага моманту для атакі. Ліцьвіны відавочна недаацэньвалі праціўніка, бо лічылі, што ён ня

[579] VS. T. I. [Витебск], 1881. Nr 72. S. 141; іншыя кажуць нават пра 10 000 ліцьвінаў (Новосельский А. Очерк военных действий... С. 131).

[580] VS. T. I. Nr 72. S. 141; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 54; Новосельский А. Очерк военных действий... С. 131.

[581] DR. T. III. S. 455—456.

[582] Хоць яшчэ ў верасьні паведамлялі, «што дагэтуль пусткаю застаецца Полацак. Ня мае ваяводы пры сабе, 500 пяхоты ледзьве, і тое абы-што, хворыя і паміраюць». Бракавала таксама артылерыі, бо Шарамецеў забраў з сабою пятнаццаць гарматаў, пры дапамозе якіх узяў горад пад канец чэрвеня (Kopia listu karmelity bosego z Głembokiego, 7 IX 1654. APKr. Pinoc. Rkps IT 363. S. 1205). Залогу Полацку значна ўмацаваў толькі Дз. Даўгарукі пад канец сьнежня 1654 г.

[583] VS. T. I. Nr 72. S. 141; T. IV. Cz. 2. Nr 11. S. 42.

[584] Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 128.

мае сілаў, здольных распачаць якія-небудзь наступальныя дзеяньні. У шэрагах Лукомскага не захоўвалася дысцыпліны, ніхто не зважаў на элемэнтарныя меры бясьпекі. Гэтым скарыстаўся Мацьвей Шарамецеў: на чале 700 чалавек ён выйшаў зь Віцебску і ўдарыў па засьпетых зьнянацку ліцьвінах. Тыя ў паніцы кінуліся наўцёкі. Шмат было страчана забітымі, а сам Лукомскі быў паранены. Нямала добраахвотнікаў патапілася — пры іхным адступленьні праз раку праламіўся лёд. Маскоўцы ўзялі шмат палонных (у тым ліку стрыечнага брата Сямёна Лукомскага) і захапілі лягер, а ў ім 300 вазоў трафэяў[585].

Другі раз аддзелы Лукомскага падышлі пад Віцебск 25 лютага. Маскоўскія камандзіры не адважыліся даць ім адпор у полі, бо на той час у іх амаль не было коньніцы. У ноч з 28 лютага на 1 сакавіка ліцьвіны з трох бакоў атакавалі горад і некалькі гадзінаў безвынікова спрабавалі зламіць супраціў залогі. Нараніцы 1 сакавіка Лукомскі спыніў наступ. Галоўнай прычынай ягонай няўдачы чарговы раз сталася непадпарадкаваньне часткі падначаленых, якія ня выканалі загадаў камандзіра[586]. Блякада гораду не прывяла да посьпеху — не хапіла належных сілаў. Лукомскі не прадухіліў увядзеньня ў Віцебск падмацаваньняў і транспарту з правіянтам, дасланых зь Вялікіх Лукаў Васілём Шарамецевым[587]. Таму Лукомскаму не засталося нічога іншага, як адступіць на поўдзень, да Бешанковічаў.

Пасьля больш як дзесяці дзён адпачынку князь зноў вывеў сваіх жаўнераў у поле. Між тым ягоныя сілы папоўніліся некалькімі татарскімі рэестравымі харугвамі. На гэты раз мэтай выправы абралі Ўсьвяты, што на поўнач ад Віцебску. У атачэньні цара баяліся нападу на гэты горад, і таму 6 сакавіка Аляксей Міхайлавіч загадаў мясцоваму ваяводу Мацьвею Абруціну трымаць залогу напагатове[588]. Абруцін ня даў засьпець сябе зьнянацку, і хоць меў толькі каля 500 чалавек, разьбіў аддзелы Лукомскага, якія налічвалі каля 3000 жаўнераў. Ліцьвіны страцілі каля 300 забітымі, 56 узятымі ў палон (у тым ліку татарскіх ротмістраў Давіда Дышлямовіча Райдэўскага і Юзафа (?) Бучацкага), а таксама пяць харугваў[589]. Галоўнай прычынай паразы зноў сталася непадпарадкаваньне часткі камандзіраў і непаразуменьні паміж добраахвотнікамі і прафэсійнымі жаўнерамі.

Панесеныя паразы не маглі не паўплываць на дух Лукомскага. Ён некалькі разоў прасіў Януша Радзівіла аб адстаўцы, бо лічыў, што з такімі падначаленымі хоць які посьпех немагчымы. «Два шанцы я ўпусьціў з сваіх рук праз палахлівасьць простага люду, пад маё кіраўніцтва ад Вялебнага Князя Я[го] М[осьці] пана гетмана даручана-

[585] VS. T. I. Nr 72. S. 141; T. IV. Cz. 2. Nr 11. S. 42.

[586] J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 74.

[587] H. Lipski do E. Brzostowskiego,Tołoczyn 9 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 28. S. 143—144; J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653.

[588] AMG. T. II. Nr 633. S. 395—396.

[589] J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653; Мальцаў згадвае, што 18 лютага Лукомскага разьбілі пад Усьвятамі аддзелы, дасланыя В. Шарамецевым зь Вялікіх Лукаў у Віцебск, але тут, відаць, ідзе гаворка пра іншыя сутычкі (Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 74).

га», — скардзіўся ён у адным з сваіх лістоў[590]. Аднак віленскі ваявода не згадзіўся зьмяніць вайскаводцу, а каб узьняць баяздольнасьць ягонага фармаваньня, даслаў яму ў падначаленьне яшчэ некалькі рэестравых харугваў[591].

У пачатку красавіка ліцьвіны плянавалі трэці наступ на Віцебск. Як чытаем у лісьце ад 2 красавіка з Талачына: «Пан Лукомскі ў Астроўне (дзесяць зь нечым кілямэтраў на поўдзень ад Віцебску. — **К. Б.**) з сваімі добраахвотнікамі і паспольствам чыніў *prima aprilis* попіс, задумваючы штурм Віцебску. Дай, Божа, каб удаўся лепшы, чым мінулы»[592]. Невядома, ці адбыўся ў наступныя тыдні наступ на горад. Напэўна, не, бо вялікі гетман ня згадваў у вялікім лісьце да караля, напісаным у канцы красавіка, пра такія падзеі. Радзівіл толькі заўважаў, што «пан Лукомскі з добраахвотнікамі, над якімі я даў яму ў той час старшэнства, і зь некаторымі з войска харугвамі ішоў пад Віцебск *tentando* (выпрабоўваючы) шчасьце. Я добрай думкі *de dexteritate* (пра ўмельства) і чуйнасьць ягоную, што ўчыніць нешта добрае»[593]. Маскоўскія крыніцы згадваюць пра чарговае зьяўленьне ліцьвінаў пад Віцебскам толькі 3 чэрвеня 1655 г. — адразу пасьля адыходу галоўных сілаў з-пад Магілёва. Чарговы раз атака завяршылася няўдачай.

Празь некалькі дзён у сувязі з тым, што з поўначы падцягваўся больш як шасьцітысячны корпус Васіля Шарамецева, Лукомскі распусьціў жаўнераў і скіраваўся ў сваё радавое гняздо — Лукомль, што на поўдні Полаччыны. Пад канец чэрвеня маскоўскі аддзел на чале з стольнікам Іванам Міласлаўскім і Аляксандрам Лабановым-Растоўскім, дасланы зьнішчыць рэшткі князевага аддзелу, прымусіў яго ўцякаць у бок Вільні[594]. Увосень 1655 г. Лукомскі далучыўся да аддзелаў Паўла Яна Сапегі, якія зьбіраліся пад Берасьцем, і стаў камандзірам адной з казацкіх харугваў[595].

Таксама беспасьпяхова ваявалі на Полаччыне аддзелы Лісоўскага і Лазоўскага. Яны не спрабавалі атакаваць шматлікі і добра забясьпечаны рыштункам гарнізон Полацку, умацаваньні якога загадаў дадаткова мадэрнізаваць ваявода Дзьмітры Даўгарукі[596]. Лісоўскі засяродзіў свае сілы на Дзісьне. У гэтым горадзе стаяў толькі невялікі маскоўскі аддзел, дасланы з Полацку Даўгарукім, а ўмацаваньні мясцовага замку, разьмешчанага на высьпе ля сутоку Дзісенкі і Дзьвіны, былі зруйнаваныя. Таму нічога дзіўнага, што ліцьвіны разьлічвалі на лёгкую перамогу, маючы да таго ж надзею, што жыхары добраахвотна вернуцца пад уладу Яна Казімера і адкрыюць перад імі брамы. Аднак іх чакала жорсткае расчараваньне. Мясцовае насельніцтва зацята супрацьстаяла добраахвотнікам і, нягледзячы на голад і нястачу зброі, паўгоду адбівала іхныя атакі[597]. Абарону ўмела падтрымліваў з Полацку Даўгарукі.

[590] S. Łukomski do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 29 III 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1652.

[591] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1044.

[592] BCzart. Rkps 148. Nr 23. S. 119—120.

[593] BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1044.

[594] AMG. T. II. Nr 679. S. 417; Nr 681. S. 418; DR. T. III. S. 481—482; RBS. Nr 319. S. 344.

[595] Rachuba A. Paweł Sapieha wobec Szwecji i Jana Kazimierza (IX 1655—XI 1656). Przyczynek do postawy magnaterii w okresie «potopu» // Acta Baltico-Slavica. T. XI, 1977. S. 84; Wasilewski T. Łukomski Samuel // PSB. T. XVIII, 1973. S. 558—559.

[596] VS. T. IV. Cz. 2. Nr 86. S. 277—281; Ткачев М. А. Замки Белоруссии... С. 116.

[597] RBS. Nr 330—332. S. 353—355

Некалькі разоў ягоныя вылазкі дэзарганізоўвалі тыл Лісоўскага, а 21 сакавіка аддзел на чале з Андрэем Вярыгіным разьбіў ліцьвінаў за дзьве вярсты ад Дзісны[598]. Відаць, ішлі баі і пад Друяй. Добраахвотнікі ня толькі не маглі ўзяць слаба абаронены горад, але яшчэ няспынна несьлі паразы ў сутычках на полі з гарнізонам Полацку. На тэрыторыі Полацкага ваяводзтва ліцьвінам удалося заняць толькі два гарады, зрэшты, пакінутыя Масковіяй без абароны, — Сураж ды Іказьнь. Першы зь іх добраахвотнікі пакінулі на волю лёсу, а пра залогу Іказьні падбаў ейны ўладальнік Казімер Лявон Сапега, на загад якога падрыхтоўкай замку да абароны заняўся браслаўскі падчашы Казімер Асінскі[599].

Значна большым посьпехам трэба прызнаць узяцьце Азярышча на поўначы Віцебшчыны. Зрабіў гэта аддзел Яна Мяжэнскага, наняты на падставе прыпаведняга ліста Януша Радзівіла ад 17 жніўня 1654 г.[600]. Разам зь мяшчанамі ён ліквідаваў 21 студзеня царскую залогу, забіўшы 36 салдатаў (толькі чатыры ўцяклі)[601]. У абоз Януша Радзівіла пад Магілёў накіравалі палонных, сярод якіх быў пляменьнік смаленскага ваяводы Рыгора Пушкіна[602].

Затое не ўдалося ўзяць суседняга Невеля. Пра падзеі пад гэтым горадам вядома зь некалькіх крыніцаў. Януш Радзівіл сьцьвярджаў, што горад не занялі таму, што ў яго перад самым штурмам прыйшла маскоўская залога лікам 500 чалавек. Аднак падчас сутычкі, напэўна, загінула 300 непрыяцеляў[603]. Інакш гэтыя падзеі адлюстраваныя ў іншых крыніцах. Слуга літоўскага падканцлера Ян Кулак пісаў, што аддзел Мяжэнскага, які налічваў 3000 чалавек, тры дні безвынікова атакаваў Невель, а потым адступіў у бок Азярышча. Падчас адыходу, 19 сакавіка, «неспадзявана збоку Масква напала». Засьпетыя зьнянацку добраахвотнікі страцілі 600 забітымі і пазбавіліся сваёй адзінай гарматы. Маскоўскія страты складалі каля 100 чалавек[604]. Мальцаў піша пра паразу Мяжэнскага, што пад Невелем, на лёдзе возера Пліса, яго разьбілі аддзелы, дасланыя Васілём Шарамецевым зь Вялікіх Лукаў[605].

У наступныя тыдні, каб узмацніць абарону Азярышча, Януш Радзівіл зьбіраўся накіраваць у горад полк Аляксандра Гіляр'я Палубінскага. Урэшце ён усё ж адмовіўся ад гэтага намеру — напэўна, таму, што не хацеў расьсейваць свае сілы, якія няспынна зьмяншаліся, перад вырашальнымі баямі за Магілёў у красавіку. У Азярышча

598 Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 73—74; праўдападобна, гэтая сутычка згадваецца ў лісьце з Талачына ад 2 красавіка 1655: BCzart. Rkps 148. Nr 23. S. 119.

599 J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653; K. Osiński do K. L. Sapiehy, Ikaźń 2 V 1655. Тамсама. Nr 1657.

600 AVAK. T. XXXIV. Nr 16. S. 16—17.

601 VS. T. IV. Cz. 2. Nr 11. S. 42; Новосельский А. Очерк военных действий... С. 132.

602 Extrait d'une lettre...

603 J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1044—1045.

604 J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653; гэтая сутычка згадваецца таксама ў лісьце з Талачына ад 2 красавіка 1655: BCzart. Rkps 148. Nr 23. S. 119.

605 Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 74; пра некалькі ранейшых сутычак пад Невелем: Новосельский А. Очерк военных действий... С. 132—133.

даслалі толькі прызначанага новым камандзірам сабраных там аддзелаў Яна Казімера — (?) Сядліцкага, які прыбыў туды ў першыя дні красавіка[606].

Дзеяньні добраахвотніцкіх фармаваньняў у Полацкім ваяводзтве не прынесьлі амаль ніякіх ваенных посьпехаў, затое спрычыніліся да яшчэ большага спустошэньня краю. Наракаў на гэта ў лісьце да Казімера Лявона Сапегі Ян Кулак: «Калі непрыяцель адпачывае, а нашыя панове добраахвотнікі, крывавым амаль потам здабываючы, [...] спусташаючы вёскі, мучаючы ўбогіх падданых, так змарнелі, што іх амаль не відаць пад харугвамі. [...] У выніку тое, што ўвесь гэты край так зьнішчаны, што ледзьве душы ў падданых засталіся»[607]. Гэтыя рабункі, а таксама ўжо відавочная параза контранаступу літоўскай арміі прывялі да таго, што сярод мясцовых сялянаў зноў пачалі пераважаць прамаскоўскія сымпатыі. «Сяляне вушы падымаюць, пачынаюць да Масквы бегаць», — паведамляў у лісьце ад 28 красавіка Геранім Ліпскі[608]. Такія паводзіны, напэўна, абумоўленыя не «нацыянальнай сьвядомасьцю» насельніцтва гэтых тэрыторыяў, на якую так часта спасылаюцца савецкія гісторыкі, а хутчэй інстынктам самазахаваньня і імкненьнем быць у згодзе з тым бокам, які на гэтым этапе вайны меў ваенную перавагу. Рабункі і ўчынкі ліцьвінаў прывялі да таго, што маскоўцы ўвесну 1655 г. зноў зьявіліся перад насельніцтвам ахоўнікамі іхнага жыцьця і маёмасьці.

Калі ўзімку і ўвесну 1655 г. пад Полацкам і Віцебскам працягваліся няспынныя баі, то на тэрыторыі польскай часткі Інфлянтаў зь сьнежня 1654 г. да канца красавіка наступнага году адбываліся толькі спарадычныя сутыкненьні. Нешматлікія маскоўскія аддзелы, узяўшы ў кастрычніку і лістападзе Рэжыцу і Люцын, пазьбягалі актыўных дзеяньняў. Тым часам пры царскім двары ўжо распрацоўваліся пляны новага наступу: на галоўную крэпасьць Рэчы Паспалітай у гэтым раёне — Дзьвінск, а потым — на Курляндыю і Жамойць. У студзені ўзначаліў войскі, якія мусілі выканаць гэтыя пляны, ранейшы ваявода Друі Афанасі Ардзін-Нашчокін[609].

Зыходзячы з таго, што Якуб Кетлер не захоча падтрымаць войскамі Рэч Паспалітую ў вайне з Масковіяй, Аляксей Міхайлавіч меркаваў, што пасьля Дзьвінску і фарсаваньня Дзьвіны ягоныя жаўнеры не сустрэнуць далейшага супраціву, а Курляндыя добраахвотна прыме ягоную апеку[610]. Цар ведаў таксама, што ў гэтым кірунку пад канец 1654 г. літоўскі бок меў занадта мізэрныя сілы, каб доўга абараняцца, а тым больш наступаць. Вэндэнскі ваявода Мікалай Корф, які ажыцьцяўляў цывільную і вайсковую ўладу ў Інфлянтах, абмяжоўваўся абаронай лініі Дзьвіны, спрабуючы не прапусьціць праціўніка ў глыб краю[611]. Таму цар спадзяваўся, што заплянаваны на позьнюю вясну напад прынясе хуткі і эфэктны посьпех.

[606] J. Kułak do K. L. Sapiehy, Bieszenkowicze 2 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1653; O Janie Kazimierzu Sieleckim, zasłużonym żołnierzu litewskim // Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131... Nr 585. S. 173; Nr 601. S. 176.

[607] LwNB. Fond 103. Nr 1653.

[608] H. Lipski do E. Brzostowskiego.Tołoczyn 28 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 33. S. 170.

[609] Галактионов И., Чистякова Е. А. Л. Ордин-Нащекин. Русский дипломат XVII в. Москва, 1961. С. 37.

[610] Заборовский Л. В. Русская дипломатия и начало первой северной войны (январь-октябрь 1655 г.) // Советское страноведение. 1973. № 1. С. 43—46.

[611] M. Korff do W. Tyzenhauza, b.m. 30 I 1655. AGAD. A-Tyz. Nr F-115.

Мікалай Корф меў напачатку пад сваім камандаваньнем усяго некалькі няпоўных павятовых харугваў, а таксама паспалітае рушаньне Браслаўскага павету. Зрэшты, павятовыя начальнікі не заўсёды яму падпарадкоўваліся, бо лічылі, што ён ня мае паўнамоцтваў кіраваць іхнымі адзінкамі. Харугвы вельмі марудна сьцягваліся ў лягер. 26 сьнежня ў Дзьвінску стаяла толькі ўпіцкая казацкая харугва, якую ўзначальваў эйшышкаўскі староста Ян Каленцкі. Яна была добра забясьпечаная, налічвала больш за 100 коней, а на Дзьвіну прыбыла ўжо 24 кастрычніка (з гэтай даты ёй адлічваўся квартал службы)[612]. «Чакаюць іншых, але Пан Бог ведае, дзе ходзяць, ці пад зямлёю, ці ў паветры, адно туды не ідуць, дзе ў іх патрэба», — скардзіўся дэрпскі падкаморы Фрыдэрык Ян Вольф. Праўда, харугвы Вілкамірскага павету (гусарская і дзьве казацкія) у першай дэкадзе сьнежня зьявіліся на Дзьвіне, «але адразу зьніклі, нічога не ўчыніўшы, адно сялянаў абрабавалі, ласкі ня маючы і тым самым непрыяцелю памагаючы»[613]. У лягер не зьяўлялася браслаўская шляхта — 3 сьнежня вялікаму гетману давялося асобным унівэрсалам заклікаць яе пасьпяшацца[614]. Ня ведаем, ці дайшла да Дзьвінску казацкая харугва з Жамойці, ротмістрам якой быў Канстанцін Адахоўскі. 6 лістапада Януш Радзівіл загадаў цівуну паюрскаму Гераніму Крышпіну Кіршэнштайну, які камандаваў мясцовымі павятовымі войскамі, каб ён даслаў гэты аддзел на чале з Корфам, а сам з гусарскай харугвай скіраваўся пад Менск[615]. Казакоў прысьпешваў таксама вэндэнскі ваявода, баючыся, што «непрыяцель моцна задумваеісьці за мяжу»[616], бо Дзьвіна пакрылася лёдам. Аднак вялікія праблемы з спагнаньнем падаткаў, ухваленых на аплату павятовых адзінак, не падахвочвалі жаўнераў сьпяшацца на службу, і марш у лягер вельмі спазьніўся. Выпраўляючыся на Дняпро, Кіршэнштайн прасіў гетмана не дзяліць ягоны полк, бо гэта супярэчыла б *laudum* жамойцкага сойміку. Таму цяжка вызначыць, ці жамойцкія казакі зімой 1655 г. ваявалі ў раёне Магілёва, ці ўрэшце дайшлі да Латгаліі[617].

Дзьвінская крэпасьць у гэты час была ўкамплектаваная вельмі нешматлікімі сіламі. Праўда, паводле скарбовых рахункаў, ейную залогу складалі дзьве рэйтарскія роты (240 порцыяў), якімі камандавалі Тэадор Бутлер і Вольтэр Корф, але ўжо ў лютым 1655 г. яны не фігуравалі ў сьпісах літоўскай арміі[618]. Ня выключана, што да самай вясны 1655 г. Дзьвінск абаранялі толькі 60 пехацінцаў[619]. Камандзірам залогі быў маёр Тэафіл Больт, прызначаны на гэтую пасаду 13 студзеня 1650 г.[620].

NB. PR 727. K. 120—121.

дзьве цытаты зь ліста Ф. Я. Вольфа да харужага Браслаўскага павету Тобіяша Пуцяты, Лаўкешы (?) нежня 1654: BCzart. Rkps 147. Nr 156. S. 751; VUB. Fond 7. Nr 16/14 468; Nr 173.

zart. Rkps 147. Nr 149. S. 735.

UB. Fond 7. Nr 16/14 468; Nr 172.

M. Korff do H. Kirszenszteina, z Ely (?) Mujzy 11 XII 1654. VUB. Fond 7. Nr 173.

Źródła do dziejów Polski... T. I. S. 154.

8 LVIA. Fond SA. Nr 4106. K. 284; Nr 4107. K. 22v—23. Відаць, прычынай былі запазычанасьці з выплатай жаўнерам, пра якія шмат разоў з 1646 г. згадвалася ў пастановах сойму (VL. T. IV. S. 47, 61, 175—176).

9 BPAN Kr. Rkps 1404. T. I. S. 156.

RGADA. Fond 389. Nr 123. K. 256v.

Большыя літоўскія сілы прыбылі пад Дзьвінск толькі ў красавіку. Януш Радзівіл скіраваў туды сьпярша 200 драгунаў зь нядаўна ўтворанага палка Мацея Гасеўскага, а таксама адну роту з палка Яна Бэрка, якія ўвайшлі ў замак яшчэ да пачатку аблогі. Неўзабаве гетман паслаў сюды таксама харугвы коньніцы. Паводле ягоных ацэнак, пад канец красавіка войскі ў раёне Дзьвінску налічвалі разам каля 1200 чалавек[621]. Іхнае зьяўленьне ў Інфлянтах было вялікай нечаканасьцю для непрыяцеля. Пачынаючы наступ, Ардзін-Нашчокін меркаваў, што ў Дзьвінску стаіць толькі 150 літоўскіх жаўнераў[622]. Ён выдатна ўсьведамляў, што крэпасьць практычна не падрыхтаваная да абароны, і таму чакаў ейнай хуткай капітуляцыі. Пры гэтым ён меў надзею, што, пабачыўшы прыклад дзьвінскай залогі, здадуцца і жыхары паўночных паветаў Вялікага Княства і Курляндыі[623].

Умацаваньні дзьвінскага замку (земляны вал з шасьцю бастыёнамі), пабудаваныя на загад Сьцяпана Батуры ў 1582 г., сапраўды знаходзіліся ў надзвычай занядбаным стане і вымагалі комплекснай мадэрнізацыі. Хоць гэтую праблему ўжо шмат гадоў разглядаў сойм, шматлікія літоўскія соймікі, хоць ёю цікавіўся сам кароль, да пачатку вайны нічога не было зроблена, каб умацаваць Дзьвінск[624]. Таму, як паведамляў Тэафіл Больт, у горадзе не ставала амаль усяго: «Харчоў ледзьве на тыдзень маю, пораху зусім мала [...] гарматы пад ложамі бяз колаў ляжаць, рамесьніка тут не знайсьці...» — скардзіўся ён у лісьце ад 1 траўня. Камэндант прасіў як мага хутчэйшай дапамогі, чакаючы, галоўным чынам, вяртаньня павятовых фармаваньняў, якія, адслужыўшы квартал, сышлі зь лягеру і разьбегліся[625].

Маскоўскія войскі падышлі пад Дзьвінск 28 кастрычніка. Цяжка дакладна вызначыць іхную колькасьць. Напэўна, яны не налічвалі 8000 чалавек, як паведаміў у адным з сваіх лістоў Больт[626]. Але, здаецца, падлікі аўтараў біяграфіі Ардзіна-Нашчокіна, якія гавораць пра 700 жаўнераў, выглядаюць заніжанымі[627]. Не выклікае сумневаў, што маскоўскі вайскаводца сабраў пад сваім камандаваньнем меншыя сілы, чым сьпярша меркавалася. Маючы надзею на хуткі посьпех, Ардзін-Нашчокін пачаў наступ занадта рана, яшчэ да заканчэньня мабілізацыі ўсіх сваіх аддзелаў і суседняй арміі Васіля Шарамецева, зь якой ён меўся ўзаемадзейнічаць[628]. Найбольш

[621] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Mohylew [około 25 IV 1655]. BCzart. Rkps 148. Nr 217. S. 1043—1044; ён жа да Ю. Тышкевіча: Mińsk 16 V [1655], NBU. Fond 1. Nr 5985. K. 159. К. Асінскі ў лісьце ад 2 траўня паведамляў К. Л. Сапегу, што толькі ў самой крэпасьці: «...нашых драгуноў зь пяхотай больш за 1000» (LwNB. Fond 103. Nr 1657).

[622] Konfesata bojarów moskiewskich, Ikaźń 15 V 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 14. S. 221—222.

[623] A. Ordin-Naszczokin do M. Korffa, spod Dyneburga 28 IV 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 32. S. 165—166.

[624] Між іншым: BPAN Kyr. Rkps 991. K. 475; BCzart. Rkps 147. Nr 100. S. 512; VL. T. IV. S. 175—176; Dybaś B. Fortece Rzeczypospolitej. Studium z dziejów budowy fortyfikacji stałych w państwie polsko-litewskim w XVII wieku. Toruń, 1998. S. 14, 154, 201. Ryc. 13.

[625] T. Bolt do urzędników powiatu wiłkomirskiego i S. Komorowskiego, [Dyneburg] 1 i 11 V 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 34. S. 171—172; Nr 40. S. 217—219.

[626] Tenże do urzędników powiatu wiłkomirskiego, [Dyneburg] 1 V 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 34. S. 172.

[627] Галактионов И., Чистякова Е. А. Л. Ордин-Нащекин... С. 38.

[628] AMG. T. II. Nr 647. S. 403.

верагодным трэба, напэўна, прызнаць сьведчаньне, паводле якога пад Дзьвінскам маскоўскія сілы пачаткова налічвалі 1000 чалавек: «Коньніцы баяраў коней пяцьдзясят, саладатаў харугвы чатыры, а стральцоў пяцьсот». Нашчокіну падпарадкоўвалася таксама пэўная колькасьць літоўскай шляхты з Полаччыны і Віцебшчыны, якая прыняла царскае падданства[629]. Таму колькасьць маскоўскіх войскаў была параўнальная зь літоўскімі сіламі ў Інфлянтах.

Таму зусім ня дзіўна, што, прыйшоўшы пад Дзьвінск, Ардзін-Нашчокін ня вырашыўся на штурм. Калі ліцьвіны адкінулі прапанову добраахвотна здацца, ён вырашыў узяць горад у аблогу і пачакаць, покуль падыдуць падмацаваньні з Пскова і распачне наступ Шарамецеў. Аднак аблога ўскладнялася адсутнасьцю цяжкай артылерыі і высокім узроўнем вады ў Дзьвіне, выкліканым веснавой паводкай.

Убачыўшы слабасьць і неактыўнасьць аддзелаў праціўніка, ліцьвіны не абмежаваліся абаронай. У сутычках і інтэнсіўных перастрэлках пад канец красавіка маскоўцы страцілі больш за дзесяць чалавек забітымі. Ахвяры ў шэрагах абаронцаў былі мінімальныя. Як вынікае зь сьведчаньня Больта, толькі «...аднаго ў шыю стрэлам паранілі, але несур'ёзна». А Казімер Асінскі згадваў, што «...з ласкі Божай нашых толькі траіх стрэламі паранілі»[630].

Ніводны бок ня меў пад Дзьвінскам вырашальнай перавагі. Сытуацыя стала патавай. Падзеі пачалі разьвівацца хутчэй толькі ў другой палове траўня, калі на Дзьвіну прыбыў літоўскі абозны Самуэль Камароўскі. Ён прыняў камандаваньне над харугвамі, дасланымі ў красавіку з-пад Магілёва, а таксама над павятовымі харугвамі, якія пасьля паўторнага набору налічвалі каля 1840 жаўнераў (520 гусараў і 1320 казакоў)[631]. Увогуле пад ягоным камандаваньнем было 3000 коньніцы[632]. 24 траўня аддзелы абознага ва ўзаемадзеяньні з залогай пайшлі ў наступ на маскоўскі лягер. Непрыяцелю давялося пакінуць шанцы вакол крэпасьці і адступіць. Аблога была зьнятая, і Дзьвінск атрымаў падмацаваньні, гарматы, запасы пораху і правіянту. Гэтая параза прымусіла Ардзіна-Нашчокіна адступіць у Рэжыцу. Пазьней ягоныя аддзелы перадалі Шарамецеву, які ў першыя дні ліпеня пачаў з поўначы наступ на Вільню[633].

Хоць літоўскай арміі гэтым разам удалося абараніць Дзьвінск, горад неўзабаве апынуўся ў яшчэ больш сур'ёзнай небясьпецы. Пад канец чэрвеня ля ягоных брамаў зьявіўся новы, нечаканы і значна мацнейшы праціўнік — швэдзкая армія на чале з Густавам Адольфам Левэнгаўптам. Гэта цалкам зьмяняла і так надзвычай складанае палітычнае і ваеннае становішча Вялікага Княства Літоўскага.

[629] Konfesata... BCzart. Rkps 148. Nr 14. S. 221—223.

[630] T. Bolt do urzędników powiatu wiłkomirskiego, [Dyneburg] 1 V 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 34. S. 171; K. Osiński do K. L. Sapiehy, Ikaźń 2 V 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1657.

[631] Пералік павятовых адзінак: BCzart. Rkps 148. Nr 191. S. 908—909.

[632] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 226.

[633] AMG. T. II. Nr 669. S. 412; Галактионов И., Чистякова Е. А. Л. Ордин-Нащекин... С. 38.




6. Летняя кампанія 1655 г. Дзеяньні маскоўскіх войскаў да лістапада 1655 г.

**Разьдзел IX**

# ЛЕТНЯЯ КАМПАНІЯ 1655 г. СТРАТА ВІЛЬНІ

Калі завяршыліся ваенныя дзеяньні пад Магілёвам і войска адступіла за Бярэзіну, галоўныя сілы Януша Радзівіла сталі лягерам пад Менскам, у тым самым месцы, адкуль на паўгоду раней рушылі на ўсход.

Войскі Рэчы Паспалітай у зімова-веснавой кампаніі зазналі вельмі адчувальныя страты. Прыкладам, дапаможны корпус (posiłkowy korpus) Кароны страціў прынамсі 1500 жаўнераў, г. зн. каля 25 % свайго складу ўвосень 1654 г.[634]. Асабліва зьменшыўся полк рэйтараў Якуба Вэйгера, які ў чацьвертым квартале 1654 г. налічваў 357 коней, а ў трэцім квартале 1655 г. — толькі 95. Вялізныя страты панёс полк Вольфа, у якім загінула амаль палова жаўнераў[635]. Затое, як вынікае з дакумэнтаў перапісаў, амаль ніякіх стратаў не панесьлі татарскія харугвы, якія дзейнічалі глыбока на пярэдняй лініі фронту і ўдзельнічалі толькі ў спарадычных сутыкненьнях. Амаль не пацярпеў і драгунскі полк Фрыдэрыка Моля, які ўдзельнчаў у крывавых сутычках пад Новым Быхавам і Магілёвам, аднак гэтыя зьвесткі ў сьвятле вядомых нам сьведчаньняў выклікаюць асаблівы недавер. Ня выключана, што ён атрымаў папаўненьне па вяртаньні з-пад Дняпра, а таксама выглядае праўдападобным, што ягоная колькасьць была завышаная, каб прысвоіць грошы з казны[636].

Нашмат цяжэй ацаніць страты літоўскіх аддзелаў. Дакладныя падлікі ўвогуле немагчымыя, бо рэестры тагачасных перапісаў не захаваліся. Частку адзінак пасьля адступленьня з-пад Магілёва распусьцілі. Некаторыя харугвы хоць надалей і заставаліся на службе, аднак ужо не вярнуліся пад камандаваньне Януша Радзівіла. Большасьць зь іх у траўні 1655 г. рушыла з коньніцай Сапегавага палка ў Наваградзкае ваяводзтва і ў раён Берасьця і ня брала ўдзелу ў вайне з Масковіяй аж да лістапада 1655 г.[637]. Частка пяхоты і драгунаў сышла ў залогі прыватных крэпасьцяў. У Слуцак рушыў, апроч адной роты, пасланай у Дзьвінск, цэлы полк пяхоты князя канюшага, умацаваўшы сілы залогі на больш чым 1000 прафэсійных жаўнераў[638]. У сваю чаргу

[634] Параўнаньне стану адзінак Кароны ў 1654 і 1655 гг. можна зрабіць на падставе публікацыі: Wimmer J. Materiały do zagadnienia organizacjii liczebności armii koronnej w latach 1648—1655 // SMHW. T. V. 1960 — і ў гады 1655—1660 (Тамсама. T. IV. 1958), непранумараваныя старонкі.

[635] У палку Вольфа з 1200 жаўнераў, што налічваліся ў другім квартале 1655 г., у трэцім засталося толькі 616.

[636] Падрабязьней пра паасобныя адзінкі Кароны гл.: Bobiatyński K. Działania posiłkowego korpusu...

[637] Rachuba A. Paweł Sapieha wobec... S. 82—84.

[638] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 27 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 349; Dybaś B. Fortece Rzeczypospolitej... S. 318. Апроч таго, крэпасьць абаранялі чатыры палкі гарадзкой міліцыі, якія тэарэтычна маглі налічваць нават 1800 чалавек.

да Старога Быхава скіраваліся тры драгунскія роты (каля 200 чалавек) Казімера Лявона Сапегі на чале зь Вільгельмам Клятам і Янам Кругерам[639]. Праз усе гэтыя чыньнікі, а таксама масавае дэзэртэрства і хваробы, якія нішчылі войска з пачатку кампаніі, насамрэч невядома, колькі літоўскіх жаўнераў заставалася на службе па заканчэньні баёў за Магілёў.

Усяго праз некалькі дзён, як пачалося адступленьне, шэрагі арміі пакінулі яе вайскаводцы. Януш Радзівіл і Вінцэнт Гасеўскі палічылі, што яны абавязкова мусяць паехаць у Варшаву, дзе 19 траўня пачынаўся надзвычайны сойм, скліканы з прычыны ўсё большай пагрозы вайны з Швэцыяй. Заплянаваная на 10 траўня канвакацыя ў Вільні завяршылася безвынікова, і таму справу абароны Літвы меркавалася разглядзець на паседжаньнях парлямэнту[640].

Літоўскія гетманы зьявіліся ў сталіцы, напэўна, у першыя дні чэрвеня[641]. Іхны ад'езд на фоне глыбокага маральнага і фізычнага крызісу войска сьведчыць пра поўную безадказнасьць абодвух вайскаводцаў у небясьпецы, якая пагражала дзяржаве з боку Масквы. Зноў выявілася, што асабістыя палітычныя інтарэсы і жаданьне ўдзельнічаць у палітычных інтрыгах, арэнай якіх неўзабаве стаў сойм, былі для іх важнейшыя, чым абавязак падрыхтаваць край да абароны ад новага наступу царскіх арміяў.

У войску, пакінутым зьверхнікамі, у наступныя тыдні назіралася ўсё большае падзеньне дысцыпліны і баявога духу. Да ліпеня 1655 г. на ўзор гетманаў ці на іхны загад зь лягеру зьехалі ўсе палкоўнікі. Багуслаў Радзівіл ужо падчас адступленьня з-пад Магілёва аддзяліўся ў Барысаве ад рэшты арміі і скіраваўся ў Слуцак. Там ён да ліпеня наглядаў за пасьпешлівым рамонтам фартыфікацыяў і пабудовай новай цытадэлі[642]. Пакінуў войска і Аляксандар Гіляры Палубінскі, якому лістом караля ад 17 лютага 1655 г. быў прысвоены высокі чын паручніка каралеўскай гусарскай харугвы[643]. Палявы пісар да самага ліпеня фармаваў яе, ня ўмешваючыся ў камандаваньне галоўнай літоўскай арміяй. Варта дадаць, што ў плянах Яна Казімера гусарская харугва мусіла стаць ядром новага каралеўскага палка, які, застаючыся ў штаце літоўскай арміі, быў бы чарговай прыладай у барацьбе з Радзівілам за ўплыў у войску[644].

У лягеры пад Менскам не было і іншых вайскаводцаў. Самуэль Камароўскі з траўня ваяваў пад Дзьвінскам. У армію з 1654 г. не вярнуўся літоўскі стражнік Рыгор

[639] K. L. Sapieha do Jana Kazimierza, Słonim 31 III 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 301; ён жа да Я. Паўшаноўскага (J. Pawszanowski): Słonim 15 V 1655, AJZR. T. XIV. S. 727—728. Сапега намерваўся скіраваць у крэпасьць яшчэ 300 чалавек нямецкай пяхоты.

[640] AVAK. T. XXXIV. Nr 34. S. 36—38; Jan Kazimierz do K. L. Sapiehy, Warszawa 3 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1654 (друк: Kognowicki S. Życie Sapiehów... S. 354—356).

[641] Ня згадваецца іхная прысутнасьць у лісьце з Варшавы ад 27 траўня 1655 г. (BOssol. Rkps 3564/II. K. 326v). Гасеўскі яшчэ 20—22 траўня знаходзіўся ў Вільні (BCzart. Rkps 2309. S. 17; AGAD. AR. Dz. VII. Nr 55 a. S. 69).

[642] Radziwiłł B. Autobiografia... S. 136, 242.

[643] AGAD. AR. Dz. III Kop. 4. Nr 83.

[644] Nagielski M. Chorągwie husarskie Aleksandra Hilarego Połubińskiego i króla Jana Kazimierza w latach 1648—1666. Przyczynek do badań składu społecznego wojska polskiego w połowie XVII wieku // Acta Baltico-Slavica. T. XV. 1983. S. 84.

Мірскі, у якога сур'ёзна пагоршылася здароўе. Ня мог працягваць службу і надворны харужы Зыгмунт Адам Слушка, найперш зь фінансавых прычынаў — ягоныя ўладаньні захапіў або дашчэнту разбурыў непрыяцель[645]. У траўні армію пакінулі таксама шмат афіцэраў ніжэйшага рангу, у тым ліку большасьць ротмістраў.

Таму ў першай палове ліпеня надарыўся кур'ёз. Камандаваньне над засяроджанымі пад Менскам аддзеламі пераняў тады камандзір казацкай харугвы, троцкі стольнік Ян Быхавец, які, бадай, ня надта высока стаяў у герархіі літоўскай арміі. Таму зусім ня дзіўна, што шмат жаўнераў не прызнавала ягонага кіраўніцтва. Харугвы масава пакідалі лягер і блукалі па навакольлі. Найбольшае падзеньне дысцыпліны назіралася ў рэйтарскіх палках Кароны. Жаўнеры, выходзячы ў першыя дні ліпеня зь Менску, узбунтаваліся, нават пагражалі афіцэрам, што пяройдуць на бок цара. Жаўнеры Кароны рабавалі край, паводзілі сябе як на варожай тэрыторыі: «...двары шляхецкія рабуючы і ўсё *in praedam* (на рабунак) пускаючы, нават бедную шляхту, якая ўцякала ад непрыяцеля [...] па гасьцінцах разьбіваючы»[646].

Сярод літоўскіх харугваў таксама панаваў самы змрочны настрой. Непрыяцель спустошыў або захапіў многія паветы, і таму шанцаў сабраць большасьць ухваленых падаткаў і выплаціць жаўнерам належныя грошы не заставалася. Разумеючы гэта, жаўнеры, якія не атрымлівалі заробку і ад імя якіх выступалі Палубінскі і мазырскі староста Ўладзіслаў Юры Халецкі, пагражалі пакінуць шэрагі войска[647]. Усё больш рэальнай рабілася пагроза, што пасьля 9 жніўня, калі заканчваўся тэрмін службы, вызначаны менскай камісіяй, літоўская армія спыніць сваё існаваньне.

Літоўская казна сапраўды знаходзілася ў надзвычай цяжкім становішчы, і тут мала чым маглі дапамагчы пастановы, што прыхапкам ухваляў сойм. Праўда, пасьля заўзятых спрэчак і пры супраціве часткі паслоў удалося прыняць падаткі, якія павінны былі прынесьці каля 2 000 000 злотых. Іх меркавалася выплаціць войску пасьля новай скарбовай камісіі, пачатак якой прызначаўся на 9 жніўня ў Менску[648]. Але слабасьць фінансавага апарату і перадусім сталае пагаршэньне ваеннай сытуацыі не пакідалі жаўнерам ніякай надзеі своечасова іх атрымаць. 9 жніўня Менск знаходзіўся ў руках маскоўскага войска, а літоўская армія ўжо адступала з-пад Вільні. Яшчэ прыкладна за месяц да гэтага, ацэньваючы шанцы на выкананьне пастановаў сойму, Януш Радзівіл пісаў каралю: «Трэба і тое В[ашай] К[аралеўскай] М[ось]ці *deferre* (данесьці), што на плату вайсковую *pro die* (на дзень) 9 VIII складзеную, няма ніякай надзеі, бо пры такім замяшаньні і зьмене рэчаў, замест двух мільёнаў ледзьве двойчы 100 000 складуць і ў пару ў *aerarium* (казну) сплацяць»[649].

Варта згадаць, што на гэтым сойме арыгінальны спосаб заплаціць войскам, якія ваявалі ў Літве, прапанаваў Ян Казімер. Ён хацеў аддаць на гэтую мэту частку сабраных падаткаў Кароны. Зразумела, ініцыятыву не маглі падтрымаць паслы ад Кароны[650].

645 J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 24 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 350.

646 Тамсама; а таксама прыпіска да ліста ад 11 ліпеня (Тамсама. S. 323) і ліст ад 18 ліпеня (Тамсама. S. 339).

647 J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 16 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 309.

648 VL. T. IV. S. 225—226, 236—238.

649 BCzart. Rkps 2105. S. 345.

650 Frost R. After the deluge. Poland-Lithuania and the second Northern War 1655—1660. Cambridge, 1993. S. 44.

Апроч фінансавых цяжкасьцяў, літоўскую армію чарговы раз пачалі аслабляць унутраныя сваркі. Зноў узмоцнілася суперніцтва паміж гетманамі і іхнымі прыхільнікамі. Вельмі бурліва праходзілі некаторыя травеньскія соймікі. Замест таго, каб шукаць спосабаў бараніць Айчыну, яны разыходзіліся, не прыняўшы ніякіх пастановаў, бо якая-небудзь фракцыя зрывала паседжаньні[651].

Сойм чарговы раз ператварыўся ў арэну палітычнай барацьбы. 9 чэрвеня Януш Радзівіл рабіў у сэнаце справаздачу наконт апошняй кампаніі і перадаў каралю 87 здабытых маскоўскіх харугваў і палонных (5 ваяводаў, 5 папоў, 40 баяраў і жаўнераў)[652]. Ягоную некалькігадзінную прамову на тэму ўяўных посьпехаў на Дняпры частка сэнатараў, якія ведалі сапраўдны ход зімова-веснавой кампаніі, сустрэла абурэньнем і пагардлівымі заўвагамі. Як чытаем у справаздачы, складзенай 10 чэрвеня брандэнбурскім пасланьнікам Андрэасам Адэрсбахам, прамову Радзівіла вельмі дрэнна ўспрыняў і кароль. Толькі пасьля працяглага маўчаньня ён даў вельмі непрыхільны адказ. Ян Казімер кінуў на адрас гетмана абразьлівыя словы, абвінавацію яго ў здрадзе і патаемных інтрыгах з Масквою і казакамі. Як вынікае з словаў Адэрсбаха, пры двары думалі ў той час нават пра тое, каб ліквідаваць віленскага ваяводу, атруціўшы яго[653].

12 чэрвеня, падчас асобнай сэсіі ліцьвінаў у касьцёле бэрнардынаў, выбухла сварка паміж гетманамі. Калі Радзівіл запатрабаваў выдаткаваць вялікія сумы на войска, яму рашуча запярэчылі прыхільнікі караля, якія абвінавацілі яго яшчэ і ў паблажлівасьці да выбрыкаў жаўнераў старога набору. Пасьля скандалу сэсія разышлася, нічога ня вырашыўшы[654].

У час, калі адбываліся гэтыя непрыгожыя падзеі, маскоўскія войскі распачалі ўжо новы наступ на землі Вялікага Княства Літоўскага.

Першым яшчэ ў траўні пачаў дзейнічаць невялікі корпус на чале з Замятнем Лявонцевым. Да 23 траўня ён заняў Горы, Копысь, Воршу і Дуброўну[655]. Асобна выступалі ў гэты час аддзелы Івана Залатарэнкі. Разам з часткай магілёўскай залогі казакі атакавалі аддзелы літоўскага войска, якія адступалі за Бярэзіну. Непрыяцелю ўдалося некалькі разоў разьбіць ліцьвінаў, а ў сутычцы пад Талачыном адваяваць каля 1500 палонных, большасьць зь якіх складалі захопленыя магілёўцы[656]. Ужо каля 17 траўня распачалася чарговая аблога Старога Быхава. Як і ў верасьні 1654 г., залога і на гэты раз катэгарычна адкінула заклікі цара і Залатарэнкі добраахвотна капітуляваць і распачала абарону[657].

[651] Np. K. Zawisza, do K. L. Sapiehy, b. m. d. CDIAU. F. 48. Op. 1. Nr 983.

[652] Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej... S. 236. Паводле іншай рэляцыі, Радзівіл выступаў 8 чэрвеня і перадаў каралю 54 штандары і 55 палонных (у тым ліку чатырох ваяводаў), а дзьвесьце харугваў пакінуў у Вільні (Awizy z Warszawy, 13 VI 1655. BOssol. Rkps 189/11. S. 756; яшчэ іншыя зьвесткі ў: TE. T. VII. S. 769).

[653] UuA. T. VI. S. 698—699.

[654] Leszczyński J. Dwa ostatnie sejmy... S. 296; пра спрэчкі паміж літоўскімі сэнатарамі гл.: BOssol. Rkps 189/11. S. 757—758.

[655] AMG. T. II. Nr 671. S. 413—414.

[656] AMG. T. II. Nr 663. S. 409; AJZR. T. XIV. S. 604—606, 633—636, 675—682.

[657] Акты исторические... № 100. С. 243; AJZR. T. XIV. S. 741—744; ASD. T. I. Wilno, 1867. Nr 164. S. 191.

У другой палове траўня пачалі свае дзеяньні і галоўныя сілы Аляксея Міхайлавіча. Гэтаксама, як у 1654 г., яны пайшлі ў наступ з трох кірункаў. Паўночная армія, узначальваць якую чарговы раз было даручана Васілю Шарамецеву, а таксама цэнтральная армія, якой намінальна камандаваў цар, а фактычна Якаў Чаркаскі, мусілі авалодаць Вільняй. Корпус Аляксея Трубяцкога, які зьбіраўся ў Бранску, меўся заняць Стары Быхаў, а потым рушыць на Слуцак—Наваградак—Берасьце[658].

Аслабленая паморкам маскоўская дзяржава ня здолела сабраць на вайну з Рэччу Паспалітай такіх вялікіх сілаў, як раней. Армія Шарамецева налічвала крыху болей за 6000 чалавек, г. зн. больш як удвая менш, чым у 1654 г.[659]. Значна менш людзей мелі пад сваім камандаваньнем таксама Чаркаскі і Трубяцкой[660]. Разам маскоўскія сілы не перавышалі, пэўна, 30 000 жаўнераў. Казацкі корпус папоўнілі падмацаваньні, прыведзеныя з-пад Старадубу Васілём Залатарэнкам, а таксама новыя добраахвотнікі з Украіны. Пасьля гэтага корпус налічваў, як на пачатку вайны, каля 20 000 жаўнераў. Аднак зь іх толькі 14 000 былі баяздольныя, бо каля 6000 падкасілі хваробы, і яны не маглі ўдзельнічаць у новай кампаніі[661].

Але зьмяншэньне колькасьці войска Аляксея Міхайлавіча істотна не паўплывала на ход летняга наступу, бо пасьля аблогі Магілёва ў літоўскай арміі адбыўся поўны распад. Маскоўцы рушылі ў глыб Рэчы Паспалітай, не сустракаючы на сваім шляху амаль ніякага супраціву.

Галоўная армія рушыла на фронт 3 чэрвеня. Як толькі вайскаводца Якаў Чаркаскі 3 ліпеня зьявіўся ў Шклоў, ён атрымаў загад выправіцца на Бярэзіну[662]. Ужо ад пачатку чэрвеня ў раёне Барысава дзейнічалі меншыя групы маскоўскіх войскаў. Дасланы з Копыся аддзел у складзе 700 чалавек на чале зь Юр'ем Баратынскім разьбіў 20 чэрвеня пакінуты для абароны гэтага раёну полк Канстанціна Паклонскага. Літоўская коньніца адступіла пад Менск, а пяхота расьсеялася. У гэтай сутычцы Паклонскі страціў каля 450 чалавек[663].

Яшчэ перад выступленьнем сваіх галоўных сілаў Чаркаскі накіраваў на Бярэзіну корпус Залатарэнкі пры падтрымцы Багдана Хітрова (каля 5400 чалавек). Частка казакоў на чале з баржнянскім палкоўнікам Самойлам Курбацкім засталася пад Старым Быхавам і працягвала аблогу гораду. 29 чэрвеня Хітрову здаўся Барысаў. Каля 10 ліпеня цэнтральная армія перайшла цераз Бярэзіну, а ўжо 12 ліпеня Залатарэнка, які рушыў у ейным авангардзе, заняў Сьвіслач[664].

Як вынікае з маскоўскіх крыніцаў, наступнага дня большасьць сілаў Чаркаскага ўжо была пад Менскам. Там адбылася бітва зь літоўскімі сіламі, якія сталі лягерам у

[658] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 79.

[659] Тамсама. С. 81.

[660] Трубяцкой меў у сваім падначаленьні каля 10 000 чалавек: Берх В. Н. Царствование Алексея Михайловича. Санкт-Петербург, 1831. С. 87.

[661] AJZR. T. XIV. S. 709—712.

[662] AMC. T. II. Nr 681. S. 418; DR. T. III. S. 472.

[663] BOssol. Rkps 189/11. S. 763 (тут дата сутычкі — 19.VI); AJZR. T. XIV. S. 705—706.

[664] AJZR. T. XIV. S. 705—708, 711—712, 715—717, 743—748; Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 89.

ваколіцах гораду[665]. Януш Радзівіл датуе гэтае сутыкненьне 15 ліпеня. Як вынікае зь ліста гетмана да караля, спачатку шалі перамогі схіляліся на бок ягоных жаўнераў: «Пашчасьціў Бог нашым, — пісаў ён, — што ўсёй пяхотай кап'ёўшчыкаў падтрымалі, некалькі соцень іх на пляцу паклаўшы, а коньніцу ўсю з поля сагнаўшы, так што шэсьць гарматаў з порахам адбілі і пікі, аж у горад нашы на іх уехалі»[666]. Толькі калі надвячоркам да бою пачалі далучацца новыя маскоўскія аддзелы, а захопленыя палонныя данесьлі, што ззаду могуць ударыць казакі Залатарэнкі, ліцьвіны адступілі ў бок Койданава.

Наступнага дня пад Менскам сабралася ўся армія Чаркаскага. Дарога на Вільню ляжала адкрытая. Ліцьвіны пасьпешліва адступалі на захад, каб толькі пад мурамі сталіцы Вялікага Княства чарговы раз паспрабаваць стрымаць захопнікаў. Усьлед за сваімі войскамі на захад выправіўся таксама Аляксей Міхайлавіч. Ён хацеў асабіста паглядзець на паказальную перамогу над праціўнікам. 13 ліпеня цар скончыў наведваньне прыдняпроўскіх гарадоў і скіраваўся ў Барысаў, а потым паехаў за арміяй Чаркаскага і дагнаў яе толькі пад Вільняй[667].

У другой палове траўня пачала баявыя дзеяньні армія Шарамецева. Яна выступіла з-пад Вялікіх Лукаў. Хутка заняўшы Азярышча ды Іказьнь, 17 чэрвеня маскоўскія аддзелы атачылі Вяліж. Залога, якой камандаваў Ян Дамашэўскі, капітулявала 27 чэрвеня пасьля дзесяці дзён абароны. У наступныя тыдні Шарамецеў засяродзіўся на добраахвотніцкіх аддзелах: разьбіў ці прымусіў адступіць аддзелы Лісоўскага, Лукомскага і Лазоўскага. 30 чэрвеня маскоўцы разьбілі пад Друяй аддзел шляхты на чале з полацкім скарбнікам Янам Баляславам Касарэўскім. На пачатку ліпеня, злучыўшыся з выведзеным з-пад Рэчыцы корпусам Ардзіна-Нашчокіна, Шарамецеў рушыў на Вільню. Ён ішоў настолькі марудна, што ягоныя жаўнеры ня ўдзельнічалі ва ўзяцьці гораду.

Пазьней за ўсіх да наступу далучыўся корпус Трубяцкога. Толькі 4 чэрвеня ён выправіўся з Бранску і праз Почап і Старадуб прыбыў пад Магілёў, напэўна, у канцы чэрвеня. Там 1 ліпеня ён атрымаў загад падтрымаць казацкія аддзелы, якія вялі аблогу Старога Быхава. Пад гэтай крэпасьцю ён знаходзіўся да пачатку жніўня, але не дасягнуў ніякіх посьпехаў. Тады Трубяцкой вырашыў паспрабаваць шчасьця пад Слуцкам. 5 жніўня з большасьцю сілаў ён рушыў на захад, пакінуўшы для аблогі Старога Быхава полк жаўнераў на чале зь Якавам Ронартам[668].

Пасьля некалькіх сутычак з аддзеламі паспалітага рушаньня Навагрудзкага ваяводзтва і разгрому разьезду, дасланага залогай крэпасьці, 2 верасьня Трубяцкой распачаў аблогу Слуцку. Перад ім была магутная крэпасьць з шматлікай залогай, забясьпечаная моцнай артылерыяй. Пераможца ў бітве пад Шапялевічамі нават не спрабаваў яе атакаваць. Ён толькі даслаў пасланцоў з патрабаваньнем здацца, але абаронцы, натуральна, яго адкінулі. Чатыры дні бакі абменьваліся агнём. У выніку маскоўцы страцілі больш за дзесяць забітымі, а ліцьвіны — толькі аднаго. 6 верасьня

[665] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 90.

[666] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 18 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 338.

[667] DR. T. III. S. 482—483.

[668] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 82, 84—85.

Трубяцкой адышоў у глыб Наваградзкага ваяводзтва. За наступныя тры тыдні маскоўскія войскі прымусілі адступіць пад Берасьце мясцовыя шляхецкія аддзелы наваградзкага ваяводы Пётры Вяжэвіча, а таксама захапілі Слонім, Мір і Новую Мыш. Хоць пасьля збору пад Клецкам маскоўцы былі гатовыя ісьці далей, на Берасьце, але 22 верасьня Трубяцкой атрымаў загад на адступленьне, спыніў наступ і адышоў пад Стары Быхаў[669].

На шляху да Дняпра 28 верасьня маскоўскія войскі зноў зьявіліся пад Слуцкам. Гэтым разам да іх далучыліся каля 500 казакоў Васіля Залатарэнкі, якія вярталіся з-пад Вільні. Другая «аблога» працягвалася два дні. Ужо 30 верасьня, калі губэрнатар Вільгельм Патэрсан зноў адказаў агнём на прапанову капітуляцыі і выявілася, «што Слуцак крывёй, а не лістамі здабываць трэба», Трубяцкой канчаткова адмовіўся ад намеру ўзяць горад[670].

Сойм завяршыўся 20 чэрвеня, але ні Януш Радзівіл, ні Вінцэнт Гасеўскі зусім не сьпяшаліся вяртацца ў Літву. Вялікі гетман яшчэ два тыдні заставаўся ў Варшаве, дзе браў удзел у працы камісіі, якая шукала новыя шляхі вырашэньня казацкай праблемы. Толькі 3 ліпеня ён пакінуў сталіцу і праз Бранск і Заблудаў скіраваўся ў Вільню. Зьявіўся ён там каля 10 ліпеня[671]. Асабістае камандаваньне Радзівіл прыняў толькі пад канец ліпеня, пасьля адступленьня літоўскай арміі з-пад Менску. Яшчэ пазьней вярнуўся пад Вільню Гасеўскі, які 1 ліпеня выехаў з Варшавы[672]. Ён ня толькі занядбаў свае вайсковыя абавязкі, але таксама ня даў рады як падскарбі і нічога не зрабіў, каб утрымаць жаўнераў ад утварэньня канфэдэрацыі [673] [674].

Армія, што пад канец ліпеня сабралася пад Вільняй, налічвала яшчэ прынамсі 8000 жаўнераў[675]. Гэта былі немалыя сілы, і калі б іх належным чынам падрыхтаваць фізычна і маральна, яны маглі б з посьпехам супрацьстаяць маскоўцам. На жаль, у ліпені 1655 г. літоўскае войска было цалкам здэмаралізаванае. У ягоных шэрагах панавала ўпэўненасьць у непазьбежнай паразе. Не хапіла часу і сродкаў, каб папоўніць страты зімовай кампаніі і ўзьняць дух жаўнераў. На месца распушчаных харугваў і тых, якія самі пакінулі службу, удалося прыцягнуць толькі не-

[669] AMG. T. II. Nr 717. S. 436—439.

[670] Diariusz oblężenia Słucka: AGAD. AR. Dz. II Księga 69.14. S. 55—60 (копія: BCzart. Rkps 148. Nr 104. S. 529—534).

[671] BCzart. Rkps 2105. S. 322, 333, 345.

[672] List z Warszawy z 14 VII 1655. AGAD. AZ. Nr 2907. S. 37.

[673] Канфэдэрацыя (лац. *confoederatio* — сувязь, саюз) — у Рэчы Паспалітай саюз, створаны духавенствам, войскам, шляхтай або мяшчанамі для рэалізацыі сваіх мэтаў. Рыцарскія канфэдэрацыі паўсталі ў Польшчы ў другой палове XIV ст., скліканыя для абароны шляхецкіх свабодаў, у супрацьдзеяньне цэнтральнай уладзе. Права на іхнае скліканьне было няпісаным прывілеем шляхты. Канфэдэрацыі, непрызнаныя каралём, называліся тады рокашамі. У гэтым канкрэтным выпадку гаворка ідзе пра канфэдэрацыю, якую склікалі войскі Рэчы Паспалітай, калі не атрымлівалі заробкаў. — *Рэд.*

[674] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 16 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 307—311 і ceduła na s. 315.

[675] Паводле кампуту, які датуецца, напэўна, ліпенем 1655 г., літоўская армія налічвала ў той час, апроч павятовых харугваў, каля 11 160 коней і порцыяў, зь якіх у лягеры знаходзілася толькі 2900 (BCzart. Rkps 148. Nr 191. S. 905—907; Nr 192. S. 910). Гэты апошні падлік не адлюстроўвае фактычнага стану, бо ў ім ня ўзятыя пад увагу гусарскія, татарскія харугвы, а таксама палкі пяхоты.

калькі адзінак дывізіі левага крыла, якія з розных прычынаў не служылі ўвосень 1654 г.

Няшмат чым дапамаглі і тэрміновыя захады Радзівіла пасьля ягонага вяртаньня ў Вільню. Не хапіла часу, каб выканаць пастановы сойму пра скліканьне ланавой пяхоты[676]. Паспалітае рушаньне зьбіралася зь вялікімі цяжкасьцямі, ды яно і не магло значна ўзмацніць рэгулярных сілаў[677]. Частка паветаў абмежавалася толькі абаронай уласнай тэрыторыі (Наваградак, Берасьце, Пінск, Браслаў). А шляхта зь земляў, што ляжалі на шляху Чаркаскага, спалоханая жорсткасьцю і бязьлітаснасьцю агрэсара, замест таго, каб стаць у шэрагі абаронцаў Айчыны, ратавалася ўцёкамі. Вялікі гетман наракаў у адным зь лістоў да караля: «Усё жывое толькі ўцякаць думае, чаго маю ўжо доказ на Менскім ваяводзтве, зь якога, хоць і войска пасярод яго мелі, ніводзін да яго не скіраваўся, але ўсе зьбеглі і напоўнілі як Вільню, так і тутэйшыя ваколіцы»[678]. Радзівіл яшчэ меў надзею, што да 1 жніўня ён здолее сабраць пад сваёю камандаю грамадзянаў Віленскага і Троцкага ваяводзтва, а таксама Ашмянскі і Лідзкі паветы, а да 6 жніўня прыбудзе гарадзенская і ковенская шляхта. Аднак імклівы наступ маскоўскага войска парушыў гэтыя пляны. Калі давялося змагацца ля брамаў сталіцы Літвы, на абарону свайго гораду выйшла толькі віленская шляхта[679].

У сярэдзіне ліпеня літоўскую армію напаткаў удар, які цалкам зьнішчыў усялякую веру ў магчымасьць спыніць сілы маскоўцаў. На Польшчу насоўвалася швэдзкае войска, і таму Ян Казімер вырашыўся адклікаць войскі Кароны. Кароль ужо на некалькі месяцаў раней, рыхтуючы да абароны найбольш падлеглую небясьпецы з боку швэдаў Каралеўскую Прусію, думаў вывесьці з-пад Магілёва ў Мальбарк палкі Вольфа і Моля. Тады ён пайшоў на гэты крок, магчыма, асьцерагаючыся, што ў выніку такога рашэньня «войска *diminuetur animus* (будзе зьнішчаны баявы дух) і слабая будзе дапамога ад тых людзей, сілы якіх ужо часткова падарваныя і пастаяннымі паходамі так намучаныя, што будуць *ad sustinenda incommoda inhabiles* (няздольныя вытрымаць нягоды)»[680]. Канчатковае рашэньне адклікаць дапаможны корпус Ян Казімер прыняў падчас сойму. Большасьць палкоў, як і палкі Вольфа і Моля, манарх зьбіраўся аддаць пад камандаваньне ачольніка абароны Прусіі Якуба Вэйгера. У лісьце ад 31 ліпеня Ян Казімер запэўніваў яго, што, апроч ланавой пяхоты і паспалітага рушаньня, скіруе на Памор'е «частку войска Кароны, якая дагэтуль знаходзіцца ў Літве»[681].

Урэшце ў Мальбарк прыбыў толькі адзін гвардзейскі драгунскі полк, якім, замест памерлага не пазьней за 12 чэрвеня Фрыдэрыка Моля, камандаваў Ян Гэнрык фон Альтэн Бокум[682]. Большая частка гэтага фармаваньня абараняла крэпасьць да самай капітуляцыі перад арміяй Густава Атона Штайнбока 11 сакавіка 1656 г. На Памор'е

[676] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 16 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 307—311 i ceduła. S. 315.

[677] AVAK. T. XXXIV. Nr 37. S. 40—41; Nr 40—42. S. 43—47; VL. T. IV. S. 222—223.

[678] J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, Wilno 11 i 24 VII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 322, 347.

[679] Tenże do S. Korycińskiego, obóz pod Niemieżą 7 VIII 1655. BCzart. Rkps 917. S. 1372—1373.

[680] J. Sapieha do K. L. Sapiehy, Warszawa 9 IV 1655. LwNB. Fond 103. Nr 1655; таксама Ян Казімер да Я. Вэйгера (Jan Kazimierz do J. Weyhera): Warszawa 2 V 1655. APGd. Nr 300. 29/142. K. 214.

[681] AGAD. Zbiór z Muzeum Narodowego. Nr 915.

вярнуліся таксама ў жніўні рэшткі палка мальбарскага ваяводы, а магчыма, і драгунаў ягонага брата Людвіка[683].

Нягледзячы на загад караля ад 5 ліпеня, полк Вольфа не дайшоў да Мальбарку. Напэўна, пазьней, атрымаўшы зьвесткі пра рух швэдзкай арміі ў глыб Рэчы Паспалітай, Вольф зьмяніў рашэньне, бо полк каля 25 ліпеня выйшаў зь лягеру пад Вільняй і скіраваўся — зрэшты, вельмі марудна — празь Віжайны і Аўгустаў да Варшавы[684]. Пакінуўшы на абарону сталіцы адну роту, якую ўзначальваў Ян Гульдын, Вольф далучыўся да галоўных сілаў Яна Казімера і ўзяў удзел у абароне Кракава. Пасьля капітуляцыі гораду полк знаходзіўся ў Северы. Там 28 лістапада яго захапілі швэды і ўлучылі ў армію, якая ў той час вяла аблогу Яснай Гары[685].

Унівэрсаламі ад 10, 11 і 12 ліпеня кароль адклікаў з тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага таксама ўсе рэйтарскія палкі Кароны: Валенрода (да іх пасьля зімова-веснавой кампаніі далучылі харугвы Зыгмунта Дэндорфа і Багуслава Ляшчынскага), Лескванта (з 1 ліпеня яе ўзначальваў Гэнрык фон Эйлебург) і Закена[686]. Аднак яны не зьявіліся на Памор'і, а перайшлі на службу да брандэнбурскага электара. Напэўна, пасярэднічаў пры гэтым стрыечны брат Фрыдэрыка Вільгельма Багуслаў Радзівіл, які насіў чын генэрала гвардыі і прэтэндаваў на тое, каб узначаліць іншаземныя аддзелы .

У ліпені Літву пакінулі і татарскія харугвы. На тэрыторыі Вялікага Княства, відаць, засталася толькі частка харугваў Мурзы Багдановіча, якая перайшла да літоўскага кампуту. Астатнія адзінкі ўжо на пачатку жніўня ў складзе палка Яцака Шэмбэрка прыбылі ў Польшчу і ўступілі ў вайну супраць швэдаў[687].

Сыход дапаможнага корпусу вельмі дрэнна паўплываў на маральны дух усёй літоўскай арміі. Паўсюль добра ўсьведамлялі, што без дапамогі Кароны параза ў вайне з Масковіяй тым больш непазьбежная. У лістах ад 11 і 24 ліпеня Януш Радзівіл спрабаваў пераканаць караля не выводзіць аддзелаў Кароны зь Літвы[688]. На жаль, адпаведнае рашэньне ўжо было прынятае. Асабліва адмоўна ў літоўскім войску ўспрынялі сыход палка Вольфа. Мацей Форбэк-Летаў, выдатна перадаючы атмасфэру гэтых трагічных тыдняў, згадваў, што яго спрабавалі стрымаць Януш і Багуслаў Радзівілы, а празь ягоны сыход «войска дух губляць пачало, а больш, здаецца, князь гетман, гледзячы, што замест прыбыцьця падмацаваньняў ад досыць малога войска і гэты адлучыўся полк, праз што змарнелі сілы войска нашага»[689].

682 RGADA. Fond 389. Nr 129. S. 663—664.

683 AGAD. MK. Nr 195. S. 192—194; Wimmer J. Przegląd operacji w wojnie polsko-szwedzkiej 1655—1660 // Wojna polsko-szwedzka... S. 137; Włodarski J. Polityka pruska elektora brandenburskiego Fryderyka Wilhelma I w latach 1640—1660. Gdańsk, 2000. S. 181.

684 Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 227, 249.

685 Kersten A. Stefan Czarniecki 1599—1665. Warszawa, 1963. S. 247—248.

686 AGAD. MK. Nr 195. S. 186—194.

687 Wimmer J. Wojsko i finanse... S. 61, 68.

688 BCzart. Rkps 2105. S. 322, 349.

689 Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 227.

Апроч аддзелаў Кароны, Літву пакінула і наваўтвораная каралеўская гусарская харугва. Відаць, на пачатку жніўня яна пад кіраўніцтвам Палубінскага рушыла ў лягер Яна Казімера[690]. На месца ўсіх гэтых падразьдзяленьняў у Вялікае Княства даслалі толькі адзін полк пяхоты. Ён быў пазначаны імем Багуслава Радзівіла, а яго обэрштэрам быў Ян Бэрк. Яшчэ ў другім квартале 1655 г. гэты полк лікам 1200 порцыяў заставаўся ў складзе арміі Кароны. Ён падтрымліваў літоўскае войска да падзеньня Вільні. У кастрычніку 1655 г. яго ўзначаліў Багуслаў Радзівіл, а ў 1656 г. ён на службе ў шведаў абараняў Тыкоцін[691].

У першыя дні жніўня Януш Радзівіл меў пад сваёй камандаю толькі 4000—5000 жаўнераў[692]. Надзвычай складаная ваенная сытуацыя і перадусім адсутнасьць надзеі на дзейсную дапамогу Кароны прымусілі літоўскую палітычную эліту самастойна шукаць спосаб ратаваць Айчыну. Яшчэ ў пачатку жніўня абмяркоўваліся два варыянты: заключыць замірэньне з Масковіяй або падпісаць дамову з шведамі, каб аблегчыць абарону ваяводстваў і паветаў, якія на той час яшчэ ня зьведалі агрэсіі ўсходняга суседа.

Дачыненьні Януша Радзівіла з Швэцыяй шырока асьвятляліся ў літаратуры. Але матывы і мэты палітыкі віленскага ваяводы паказваюцца па-рознаму. Некаторыя гісторыкі лічаць, што ўжо з 1648 г. ён падтрымліваў кантакты з каралевай Крыстынай, прапаноўваў разарваць Люблінскую унію і далучыць Літву да Швэцыі[693]. Пэўную інфармацыю пра таемныя перамовы Радзівіла з Стакгольмам праз пасярэдніцтва князя курляндзкага Якуба Кетлера зьмяшчае ліст, напісаны толькі ў лістападзе 1654 г. Як мы памятаем, прыхільнікі караля выкарыстоўвалі згадкі на гэтую тэму, каб падбухторваць жаўнераў старога набору супраць гетмана. Нішто ня сьведчыць, каб Радзівіл ужо тады рэальна думаў адарваць Літву ад Кароны. Хутчэй, ён хацеў празандаваць магчымасьць атрымаць дыпляматычную ці збройную падтрымку супраць Масковіі, а таксама прыватную карысьць, як хоць бы шведзкі індыгенат[694] [695].

З пагаршэньнем сытуацыі на ўсходнім фронце кантакты Радзівіла з Швэцыяй рабіліся больш інтэнсіўныя. Зь ліста ад 20 сакавіка 1655 г. відаць, што вялікі гетман,

[690] AGAD. AR. Dz. III. Kop. 4. Nr 91, 93.

[691] G. Butler do B. Radziwiłła, Warszawa 12 VIII 1655. AGAD. AR. Dz. V. Nr 1735; M. Nagielski, Gwardia przyboczna... T. II. S. 454; Zarys dziejów... S. 50, 57—58, 61.

[692] Eigentliche Erzählung...; TE. T. VII. S. 784; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 226 згадвае пра 4000 жаўнераў; 5000 зьяўляецца, між іншым, у А. Вавэльскага (Wawelski A.): Historya wyzwolenia Polski za panowania Jana Kazimierza (1655—60). T. I. Kraków, 1866. S. 47 і ў «авізах» (данясеньнях) з Кёнігсбэргу ад 17 жніўня 1655 г.: BCzart. Rkps 148. Nr 90. S. 463. Колькасьць 10 000 жаўнераў, пададзеная нядаўна У. Маеўскім (W. Majewski), моцна завышаная (Poddanie się Litwy Szwedom w 1655 roku // Świat pogranicza. Warszawa, 2003. S. 146).

[693] Czapliński W. Rola magnaterii i szlachty w pierwszych latach wojny szwedzkiej // Polska w okresie drugiej wojny północnej. T. I. Warszawa, 1957. S. 152.

[694] Індыгенат (з лац. *indigena* — аўтахтон, тубылец; сваякі) — прызнаньне шляхецкага статусу чужой дзяржавай. Шляхецкі род, які атрымліваў індыгенат, карыстаўся шляхецкімі прывілеямі ў дзяржаве, якая прызнала яму гэты статус. — *Рэд.*

[695] J. Radziwiłł do K. Stryżki, przeprawa pod Borysowem 29 XI 1654. AGAD. AR. Dz. IV, teka 16, kop. 19. Nr 304.

ня ведаючы пра няўдачу пасольскай місіі Морштына, хадайнічаў у той час аб захаваньні міру з Карлам Густавам. Сярод іншага там ёсьць просьба прысласць вайсковыя падмацаваньні колькасьцю 2000 пяхоты і 1000 коньніцы. У гэтым лісьце мы не знаходзім ніякіх доказаў, што гетман разважаў бы тады пра магчымасьць прыняць шведзкі пратэктарат[696]. Увесь час у кантактах з Стакгольмам вялася гаворка найперш пра заключэньне ваеннага хаўрусу супраць Масквы[697].

Янушу Радзівілу нельга дараваць многіх ягоных ранейшых дзеяньняў, якія межавалі з здрадай. Аднак можна меркаваць, што толькі параза зімова-веснавой кампаніі, рух маскоўскіх войскаў на Вільню, а таксама напад шведаў на Польшчу прымусілі гетмана шукаць паратунку Вялікага Княства Літоўскага ў прызнаньні ўлады Карла Густава. Я не хацеў бы тут далучацца да абаронцаў Радзівіла, бо ў гэтай кнізе ня ставілася задачы адказаць на пытаньне, ці было ягонае рашэньне найлепшым з магчымых у тагачаснай палітычнай і ваеннай сытуацыі і ці магло яно дапамагчы зьняць пагрозу з боку Масквы[698].

Напэўна, калі б перамовы з шведамі тычыліся толькі вайсковай дапамогі, то гетман мог бы разьлічваць на падтрымку іншых літоўскіх саноўнікаў. Да пасольскай місіі Габрыеля Любянецкага напрыканцы ліпеня 1655 г. у Рыгу на перамовы з новым губэрнатарам Інфлянтаў Магнусам дэ ля Гардзі, апроч Януша і Багуслава Радзівілаў, спрычыніўся таксама віленскі біскуп Юры Тышкевіч[699]. Але адрыў Літвы ад Кароны і далучэньне да Швэцыі, якія адбыліся адразу пасьля падзеньня Вільні, выклікаюць большыя спрэчкі. Гэтае рашэньне далёка выходзіла за рамкі ваеннага супрацоўніцтва (таму яго не падтрымаў Тышкевіч). Нельга разглядаць яго толькі праз прызму пагрозы з боку Масковіі. Бясспрэчна, прымаючы гэтае рашэньне, гетман кіраваўся ня толькі патрыятычнымі пачуцьцямі. Абмінаючы рэлігійныя справы, якія ён часта выкарыстоўваў як інструмэнт у сваёй гульні, ня трэба забывацца, што і на гэты раз на ягонае рашэньне моцна ўплывалі ягоныя ўласныя амбіцыі, а таксама непрыязнасьць да караля, Гасеўскага ці Сапегаў. Адыграла сваю ролю і надзея атрымаць ад Карла Густава новыя землі, а перадусім утварыць адасобленыя княствы, у якіх Януш і Багуслаў Радзівілы былі б сувэрэннымі ўладарамі[700].

Калі Любянецкі выпраўляўся прыкладна 29 ліпеня ў Рыгу, шведзкія войскі ўжо ўвайшлі на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага і рушылі на Дзьвінск.

У Стакгольме ўжо з пачатку 1655 г. уважліва сачылі за падзеямі на тэрыторыі Польскіх Інфлянтаў, баючыся, што захоп Масковіяй гэтых земляў можа стаць прэлю-

696 J. Radziwiłł do K. Stryżki, Mohylew 20 III 1655; Kotłubaj E. Życie... S. 374—376.

697 J. Mierzeński do K. Stryżki, Wilno 20 IV 1655. AGAD. AR. Dz. V. Nr 9646/I.

698 Такі погляд абгрунтоўвае ў сваіх працах Г. Віснэр (H. Wisner).

699 J. Radziwiłł do J. Leszczyńskiego, obóz pod Niemieżą 4 VIII 1655. BCzart. Rkps 384. Nr 131. S. 285; Akta ugody kiejdańskiej... S. 184—187; Plenipotencje J. i B. Radziwiłłów dla Lubienieckiego. AGAD. AKW. Dz. szwedzki. Nr 11 b/74, 11 b/75.

700 Majewski W. Poddanie się Litwy Szwedom w 1655 roku // Świat pogranicza. Warszawa, 2003. S. 145—154; Wasilewski T. Zdrada Janusza Radziwiłła... S. 126—134; Wójcik Z. Wielkie Księstwo Litewskie wobec... S. 580—583.

дыяй да нападу царскіх войскаў на швэдзкія ўладаньні. Тагачасны інфлянцкі губэрнатар Густаў Горн шмат разоў атрымліваў ад Карла Густава загады, у якіх кароль дазваляў яму перайсьці межы Рэчы Паспалітай, калі ўзьнікне небясьпека, што Дзьвінск патрапіць у рукі Ардзіна-Нашчокіна[701].

Урэшце швэдзкія войскі рушылі ў наступ пасьля адступленьня маскоўцаў з Інфлянтаў. На мяжы чэрвеня і ліпеня да выправы былі гатовыя дзьве групоўкі агульным лікам каля 7000 жаўнераў[702]. Адна зь іх, нашмат мацнейшая, на чале з Густавам Адольфам Лёвэнгаўптам, узяла Дзьвінск. Другая на чале з Магнусам дэ ля Гардзі, рыхтавалася рушыць у глыб Літвы, у бок Біржаў і Коўна. Абарона Дзьвінску не зацягнулася — ужо 11 ліпеня залога здалася. З прычыны такой хуткай капітуляцыі маёра Больта абвінавачвалі ў маладушнасьці і падазравалі ў здрадзе. Здабыўшы крэпасьць, швэды прымусілі адступіць пад Вільню слабы корпус Камароўскага, які абараняў гэты флянг, і сталі прасоўвацца далей, да Біржаў[703].

Безь перашкодаў разьвіваўся і наступ Масковіі. Армія Чаркаскага маланкава захапіла тэрыторыю паміж Менскам і Вільняй. Казакі Залатарэнкі, якія ішлі ў ейным авангардзе, шматкроць білі, у тым ліку пад Койданавам, Ашмянамі і Смаргоньню, рэестравыя харугвы, якія спрабавалі ім супрацьўляцца, а таксама рэшткі палка Паклонскага[704]. З жніўня царскія войскі ўжо былі пад Смаргоньню — гэта прыкладна за 60 кілямэтраў на ўсход ад Вільні. Вось тады, ня маючы ніякіх ілюзіяў наконт таго, каб спыніць захопнікаў ваеннымі сродкамі, літоўскія саноўнікі, што сабраліся ў Вільні, зрабілі спробу наладзіць дыпляматычныя перамовы з царом[705].

Гэтая ініцыятыва выйшла з апазыцыйных Радзівілу колаў, якія не хацелі ісьці на шчыльныя кантакты з Швэцыяй. Адным зь ейных аўтараў лічыцца Вінцэнт Гасеўскі. Яна адпавядала ўказаньням, выкладзеным у лісьце караля, што прывёз 3 жніўня ў лягер пад Нямежай сакратар і прыдворны Вазы — Крыштап Сцыпіё дэль Кампа[706]. Надзвычай складаная ваенная сытуацыя прымусіла пагадзіцца на гэты праект сэнатараў і вайскаводцаў, якія знаходзіліся ў Вільні, у тым ліку Януша і Багуслава Радзівілаў. Зноў актыўна дзейнічаў Юры Тышкевіч, які даслаў маскоўскім вайскаводцам і самому цару некалькі лістоў, у якіх прасіў спыніць праліцьцё крыві і распачаць мірныя перамовы. 5 жніўня біскуп, абодва гетманы і каля дваццаці літоўскіх

[701] Stade A. Geneza decyzji Karola X Gustawa o wojnie z Polską w 1655 r... S. 82; Tersmeden L. Karola X Gustawa plan kampanii polskiej 1655 roku. Powstanie planu i jego przeprowadzenie // SMHW. T. XIX. 1973. Cz. II. S. 105; Заборовский Л. В. Русская дипломатия... С. 40—44.

[702] Tersmeden L. Karola X Gustawa plan kampanii polskiej 1655 roku... S. 97.

[703] TE. T. VII. S. 770—771; Listy J. Radziwiłła do Jana Kazimierza z 16 VII i 1 VIII. BCzart. Rkps 2105. S. 307—308, 317; K. Stryżka do J. Radziwiłła, Birże 28. VI 1655. LMAB. Fond 31. Nr 845.

[704] AJZR. T. XIV. S. 751—756.

[705] На тэму ваеннай сытуацыі ў першыя дні жніўня гл.: J. Radziwiłł do Jana Kazimierza, obóz pod Niemieżą 1 VIII 1655. BCzart. Rkps 2105. S. 317—320; J. Leszczyńskiego, obóz pod Niemieżą 4 VIII 1655. BCzart. Rkps 384. Nr 131. S. 282—285; S. Korycińskiego, obóz pod Niemieżą 7 VIII 1655. BCzart. Rkps 917. S. 1369—1374; Awizy z Wilna z 3 VIII 1655. AGAD. AR. Dz. II [дадатак]. Nr 546.

[706] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 232, 234; K. L. Sapieha do P. J. Sapiehy, Warszawa 14 VIII 1655. BPAN Kr. Rkps 354. K. 208.

афіцэраў накіраваліся да маскоўцаў з афіцыйнай прапановай распачаць перамовы[707]. Цудоўна ўсьведамляючы, што ў руках праціўніка няма практычна ніякіх аргумэнтаў, Аляксей Міхайлавіч адмовіўся і запатрабаваў безумоўнай капітуляцыі[708]. Аднак ліцьвіны не пагадзіліся, і цар аддаў загад наступаць на Вільню.

Літоўскае камандаваньне ў той час вяло спрэчкі вакол двух плянаў далейшых дзеяньняў, высунутых адпаведна Янушам Радзівілам і Вінцэнтам Гасеўскім. Радзівіл прапаноўваў перайсьці на правы бераг Вяльлі, бараніць пераправы цераз раку, а затым адступаць на Жамойць, дзе можна было весьці далейшыя перамовы з швэдамі. Гасеўскі, які даўно падазраваў ваяводу ў намеры прыняць пратэкцыю Карла Густава, прапаноўваў застацца на паўднёвым беразе ракі. Тут ляжаў адкрыты шлях для адступленьня на Панары, Трокі і Горадню і далей да земляў Кароны[709]. Здаецца, падскарбі не настойваў на сваім пляне ня дзеля таго, каб у безнадзейнай сытуацыі паспрабаваць абараніць Вільню, а хутчэй каб адарваць дывізію левага крыла ад Радзівіла[710]. Потым падскарбі мог адступіць пад Берасьце і, злучыўшыся з харугвамі, якія зьбіраў Сапега, далей ваяваць супраць маскоўцаў і швэдаў.

Літоўская армія 7 жніўня пакінула лягер пад Нямежай і перайшла ў заходнія прадмесьці Вільні. У ноч з 7 на 8 жніўня на загад Радзівіла пачалася пераправа цераз мост на Вяльлі (Зялёны мост). Першымі цераз яго перайшлі пяхотныя палкі і артылерыя. Зранку пад Вільняй зьявіліся аддзелы непрыяцеля. Маскоўскія вайскаводцы рыхтаваліся весьці бітву хутчэй на ўсход і поўдзень ад гораду — яны разьлічвалі, што Радзівіл паспрабуе абараняць тракты, якія вялі з таго боку ў сталіцу. Калі літоўская армія пакінула лягер пад Нямежай і спынілася на захад ад Вільні, маскоўцы падумалі, што горад зьбіраюцца здаць бяз бою — для іх гэта была неспадзяванка.

Чаркаскі і Залатарэнка намерваліся, атакуючы праціўніка, адрэзаць ад пераправы аддзелы, якія знаходзіліся на левым беразе, а потым іх зьнішчыць. Спачатку наступ на мост разьвіваўся пасьпяхова — яго занялі рэйтары і пяхота. Аднак пазьней, калі літоўская пяхота і драгуны з правага берагу ўдала абстралялі маскоўцаў, тым давялося адступіць. На другім этапе бою літоўская армія аказалася разьбітай на дзьве групы. Вінцэнту Гасеўскаму, адрэзанаму з часткай сваёй дывізіі каля маста, давялося, насуперак сваім ранейшым плянам, перайсьці за Радзівілам на правы бераг. На левым, апроч палка палявога гетмана, камандаваньне над якім прыняў паручнік ягонай гусарскай харугвы Казімер Жаромскі, застаўся таксама полк Караля Глябовіча, які выпадкова ўваходзіў у склад дывізіі правага крыла[711]. Разам гэтыя аддзелы на-

[707] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 234; Заборовский Л. В. Великое княжество литовское и Россия во время польского потопа. Москва, 1994. С. 8—18; Заборовский Л. В. Русско-литовские переговоры во второй половине 1655 г. // Славяне в эпоху феодализма. К столетию академика В. Пичеты. Москва, 1978. С. 206—208.

[708] Заборовский Л. В. Великое... С. 13—15, 18—21.

[709] Medeksza S. Księga Pamiętnicza... S. 2; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 236—237.

[710] Rachuba A. Konfederacja wojska... S. 20—21.

[711] Eigentliche Erzählung...; De Vilnae occupatione narratio a Moscho facta anno 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 90. S. 459—462; Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 240—242; Rachuba A. Konfederacja wojska... S. 21.

лічвалі каля 2000 жаўнераў[712]. Пасьля бітвы яны адступілі праз Панары і Трокі на Коўна, а потым пад націскам маскоўскіх войскаў рушылі на поўдзень да Вержбалова, што на мяжы з Прусіяй. Там 23 жніўня жаўнеры арганізавалі канфэдэрацыю, якая адмаўлялася служыць пад камандаю Радзівіла, бо той не забясьпечыў ім выплаты заробку і прызнаў уладу Карла Густава[713]. Пазьней гэтая групоўка перайшла пад Берасьце і далучылася да літоўскай арміі, якая ў той час аднаўлялася на чале з Паўлам Янам Сапегам.

Другая частка войска — уся пяхота, драгуны і артылерыя, а таксама рэшта коньніцы (максымум 3000 чалавек), пераправіўшыся цераз Вяльлю, разам з абодвума гетманамі рушыла ў бок Кейданаў. 12 жніўня ў Вепры частка адзінак не згадзілася працягваць службу праз запазычанасьць з аплатай і пакінула лягер[714]. Праз некалькі дзён астатнія аддзелы разьбілі лягер у Яшвойнях, больш за дзесяць кілямэтраў ад Кейданаў. Там зьбіралася таксама жамойцкае, вількамірскае і ўпіцкае паспалітае рушаньне. 17 жніўня Януш Радзівіл і яшчэ 435 чалавек шляхты, афіцэраў і духавенства падпісалі акт аб пераходзе Літвы пад уладу Швэцыі — пра гэта дамовіўся з швэдамі 10 жніўня ў Рызе Любянецкі[715].

Тым часам увечары 8 жніўня 1655 г. сталіца Вялікага Княства Літоўскага засталася адкрытай перад маскоўскім войскам. Для абароны Вільні не пакінулі ніякіх рэгулярных адзінак. Занядбаныя і састарэлыя сярэднявечныя фартыфікацыі, а таксама няроўнасьць сілаў выключалі магчымасьць хоць якога супраціву захопнікам[716]. З гораду ў папярэднія дні ўцяклі тысячы мяшчанаў, шляхты і большасьць клеру зь біскупам Тышкевічам. Натоўпы ўцекачоў кіраваліся пераважна да межаў Прусіі, шмат зь іх знайшлі прыстанак толькі ў Каралеўцы.

Першымі яшчэ 8 жніўня ў Вільню праз чатыры брамы ўварваліся аддзелы Залатарэнкі і пачалі выразаць насельніцтва. Дата 9 жніўня 1655 г. увайшла ў гісторыю Вільні як адна з найбольш трагічных старонак у ейнай гісторыі. Цэлы дзень працягваліся масавыя забойствы. Жыцьцё страцілі тысячы людзей, хоць лічба 25 000 забітых, якая прыводзілася ў даўнейшай гістарыяграфіі, вядома, завышаная. Маскоўцы дашчэнту разрабавалі і спалілі шмат дамоў і касьцёлаў. З 32 рыма-каталіцкіх і ўніяцкіх сьвятыняў ацалелі толькі чатыры. З гораду вывезьлі багатыя трафэі. Зь сьвятыняў здымалі званы, з дахаў зьдзіралі медзь, рабавалі купецкія склепы і магнацкія палацы. Захопнікі шукалі скарбаў нават на дне ракі. Разбурэньне дапоўніў пажар, які лютаваў 17 дзён і ператварыў горад, што яшчэ нядаўна квітнеў, у гурбу развалінаў[717].

[712] Пералікі харугваў: BCzart. Rkps 2247. S. 85—86; BCzart. Rkps 2749. Nr 96. S. 351 (тут улічаны таксама полк З. А. Слушка, які пазьней адарваўся ад Радзівіла).

[713] Uchwała konfederacji wierzbołowskiej. AGAD. AR. Dz. II [дадатак]. Nr 546. 1; Rachuba A. Konfederacja wojska... S. 23—24.

[714] Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci... S. 247.

[715] Akta ugody kiejdańskiej... S. 187—192.

[716] Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską w latach 1655—1661 // Lithuania. Nr 2—3 (11—12). 1994. S. 63—64.

[717] BCzart. Rkps 148. Nr 91. S. 467—470; Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655... S. 289—291.



**Гусарскі коньнік літоўскай арміі**

10 жніўня папаўдні ў Вільню ўрачыста зьявіўся Аляксей Міхайлавіч. Цар ехаў праз горад у замак па дарозе, выкладзенай чырвоным сукном, у карэце, запрэжанай 12 коньмі. Яго суправаджалі вайскаводцы і шматлікая збройная чэлядзь[718]. Для Аляксея Міхайлавіча гэта быў дзень найбольшага трыюмфу — дзень паказальнай перамогі над адвечным ворагам, а перадусім адплаты за прыніжэньні часу Вялікай смуты і за двухгадовую акупацыю Крамля ў 1610—1612 гг. Каб падкрэсьліць значнасьць гэтага посьпеху, 13 верасьня 1655 г. Аляксей прыняў новы тытул: «вялікі князь літоўскі, Белай Русі, валынскі і падольскі».

Для Вільні пачаліся доўгія шэсьць гадоў акупацыі. Хоць ужо 11 ліпеня 1660 г. удалося вызваліць сам горад, маскоўская залога яшчэ амаль паўтара году баранілася ў абодвух замках. Толькі 3 сьнежня 1661 г., пасьля капітуляцыі рэштак абаронцаў Верхняга замку, уся Вільня канчаткова вярнулася пад уладу Яна Казімера.

# ЗАКЛЮЧНАЯ ЧАСТКА

Захопам Вільні практычна закончыліся шырокамаштабныя дзеяньні маскоўскіх войскаў у 1655 г. Толькі нешматлікія аддзелы Чаркаскага на загад цара рушылі далей на захад. 16 жніўня яны здабылі Коўна, а каля 25 жніўня — Горадню[719].

Вельмі актыўна працягвалі дзейнічаць падначаленыя Залатарэнкі. Аднак, нягледзячы на загады цара ісьці церазь Нёман, а потым атакаваць літоўскія войскі, што зьбіраліся пад Берасьцем, казацкі вайскаводца напрыканцы жніўня прыняў рашэньне вярнуцца на Дняпро, каб працягваць аблогу Старога Быхава[720]. Залатарэнка не забыўся, што Хмяльніцкі паставіў перад ім галоўную задачу авалодаць як мага большымі абсягамі паўднёвай Беларусі і арганізаваць там казацкую адміністрацыю, а пазьней — далучыць гэтыя землі да Ўкраіны. Захоп Старога Быхава стаўся б важным крокам да ажыцьцяўленьня гэтых плянаў. Вяртаючыся на ўсход, блізу 16 верасьня казакі занялі Наваградак і ўсталявалі сувязь з корпусам Трубяцкога, разам зь якім, напэўна, у першыя дні кастрычніка прыйшлі пад Стары Быхаў. Аднак пад крэпасьцю Сапегаў Івана Залатарэнку чарговы раз напаткаў нялітасьцівы лёс — ён загінуў 17 кастрычніка пад ейнымі валамі ад агню абаронцаў.

Апошнімі эпізодамі вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй у 1654—1655 гг. былі: напад корпусу князя Валконскага з Кіева на Палесьсе ў другой палове верасьня і на

[718] Bericht, wie es mit der Stadt Wilde bei derselben Einnehmung ergangen den 10. September Anno 1655. BCzart. Rkps 148. Nr 109. S. 563—564; Continuatio oder Ausfuhrlicher Bericht, was bei und nach Einnehmung der Stadt Wilda m den nachst folgenden dreien Tagen, als den 9, 10, 11 Augusti yorgegangen... Тамсама. Nr 91. S. 467—470.

[719] Пра спрэчкі вакол даты заняцьця гораду гл.: Płosiński J. Wyprawa kniazia Semena Urusowa na Brześć (listopad-grudzień 1655) // Mazowieckie Studia Humanistyczne. 2003. Nr 1—2. S. 7.

[720] AJZR. T. XIV. S. 787—790, 797—798.

пачатку кастрычніка (які завяршыўся ягоным адступленьнем пасьля захопу Давыд-Гарадка, Турава і Пінску), а таксама лістападаўскі паход князя Сямёна Ўрусава супраць арміі Паўла Сапегі. Пасьля таго, як ліцьвіны перамаглі ворага ў бітвах пад Берасьцем і пад Скокамі (23 і 24 лістапада) і зазналі паразу пад Вярховічамі (27 лістапада), а войска Ўрусава адступіла да Вільні, ваенныя дзеяньні спыніліся[721]. Калі швэды занялі большасьць земляў Каралеўства Польскага, палітыка цара зьмянілася. Вайна саступіла месца дыпляматыі. Намацаваныя ўвосень 1655 г. кантакты ўлетку 1656 г. завяршыліся афіцыйнымі мірнымі перамовамі. 3 лістапада 1656 г. у Нямежы пад Вільняй было заключанае замірэньне, якое фармальна азначала канец першага этапу вайны.

Нашэсьце маскоўскіх войскаў на мяжы траўня і чэрвеня 1654 г. засьпела Вялікае Княства Літоўскае абсалютна непадрыхтаваным да абароны. Вайна пачалася падчас найвастрэйшага ад панаваньня Яна Казімера канфлікту двара з апазыцыяй. Зрыў сойму ў сакавіку 1654 г. прывёў да таго, што Рэчы Паспалітай не хапіла часу, каб арганізаваць сілы і сабраць сродкі для супраціву агрэсіі. У надзвычай цяжкім стане пасьля чарговай няўдалай кампаніі ва Ўкраіне апынуліся войскі Кароны, і таму літоўская армія, пазбаўленая неабходнай падтрымкі, была загадзя асуджаная на паразу ў бітвах з аддзеламі праціўніка, якія ў дзесяць зь нечым разоў перавышалі яе колькасьцю.

Таму трэба высока ацаніць ваенны талент, які праявіў падчас летняй кампаніі 1654 г. новы вялікі гетман літоўскі Януш Радзівіл. На жаль, вялізная няроўнасьць сілаў не дазволіла яму паўтарыць манэўр ягонага бацькі Крыштапа больш як 20-гадовай даўніны, каб падтрымаць асаджаныя крэпасьці з умацаванага лягеру пад Воршай, у цэнтры кірунку маскоўскага наступу, і зьнішчаць імклівымі нападамі меншыя корпусы праціўніка аж да падыходу падмацаваньняў з глыбіні краю. Тым ня менш, амаль два месяцы ліцьвіны ўтрымлівалі пазыцыі на лініі Дняпра і некалькі разоў перамагалі ў сутычках зь непрыяцелем. Бітву пад Шкловам можна сьмела прызнаць адным з найлепшых паказальных, самастойных посьпехаў літоўскай зброі ў XVII ст. На жаль, з гэтай перамогі, адрозна ад Клушынскай 1610 г., ліцьвіны не скарысталіся. Набліжэньне з усходу арміі Трубяцкога прымусіла іх, каб не рызыкаваць сутыкнуцца зь яшчэ мацнейшымі сіламі ворага, пачаць адступленьне на захад. Аднак занадта марудны адыход, памылковая канцэпцыя абарончай бітвы з апірышчам на лягер на Друці пад Бялынічамі, нездароўе гетмана, а таксама няведаньне сапраўдных намераў праціўніка — усё гэта прывяло да паразы пад Шапялевічамі. Хоць падзеі 24 жніўня 1654 г. не азначалі фізычнага зьнішчэньня войска (страты былі адносна малыя — да 1000 чалавек), але яны моцна адбіліся на баявым духу жаўнераў: тыя страцілі адчуваньне перавагі над непрыяцелем і веру, што яго можна перамагчы нават пры ягонай вялікай колькаснай перавазе.

Вынікам бітвы пад Шапялевічамі была таксама капітуляцыя Смаленску. Ягоная залога, вычарпаўшы ўсе запасы і ня маючы надзеі на дапамогу, не знайшла ў сабе гэткай рашучасьці, як ейныя папярэднікі ў 1632—1633 гг., і праз няпоўныя тры ме-

[721] Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века... С. 104; Płosiński J. Wyprawa kniazia Semena Urusowa... S. 5—31.

сяцы абароны здалася цару. Натуральна, можна задаваць пытаньне, як бы далей разьвіваліся падзеі, калі б Смаленск пратрымаўся яшчэ некалькі тыдняў, ці як бы скончылася аблога, калі б ліцьвінамі камандаваў больш дасьведчаны вайскаводца, чым Піліп Абуховіч. Страта Смаленску карэнным чынам паўплывала на далейшы ход вайны. Маскоўскія войскі здабылі галоўную крэпасьць у абароннай сыстэме ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага і адкрылі сабе шлях у глыб тэрыторыі праціўніка. Дарогаю на Вільню, калі не казаць пра фактычна неўмацаваную лінію Бярэзіны, іх ужо не маглі стрымаць ні фартыфікацыі чарговых гарадоў, ні прыродныя перашкоды — толькі палявая літоўская армія.

Нягледзячы на неверагодна складаную ваенную сытуацыю, у Рэчы Паспалітай увесь час не сьціхалі ўнутраныя спрэчкі. Як двор, так і апазыцыя больш займаліся палітычнай барацьбой на сойме і сойміках, чым падрыхтоўкай краю да абароны. Паводзіны караля ў 1654—1655 гг. сьведчаць, што ён абсалютна не ўсьведамляў пагаршэньня вонкавай сытуацыі і небясьпекі, якая пагражала дзяржаве ня толькі з боку Масквы, але і ад іншых суседзяў. Некалькі ягоных непрадуманых і запозьненых дыпляматычных ініцыятываў (найперш накіраваньне пасольства Морштына ў Швэцыю), а таксама памылковая палітыка ў дачыненьні да казакоў прывялі да таго, што краіна засталася адна на міжнароднай арэне, калі не зважаць на хаўрус з татарамі. У выніку Рэч Паспалітую чакала параза спачатку ад Масковіі, а потым — ад Швэцыі.

На сумленьні манарха таксама ягоная палітыка пэрсанальных прызначэньняў. У чэрвені 1654 г. ён зрабіў палявым літоўскім гетманам Вінцэнта Гасеўскага і перадаў пад ягонае камандаваньне дывізію левага крыла, а таксама наўмысна імкнуўся аслабіць пазыцыі Януша Радзівіла ў войску. Усё гэта спарадзіла востры канфлікт паміж гетманамі, у які ўцягнуліся афіцэры і жаўнеры. Ён прывёў да таго, што войска некалькі месяцаў бязьдзейна стаяла пад Менскам, а ў рукі царскай арміі, застаўшыся без падтрымкі, траплялі чарговыя крэпасьці (Дуброўна, Віцебск). Праціўніку хапіла часу ня толькі на перадысьлякацыю сілаў, але і на тое, каб наноў сабраць войска перад новым наступам.

Увосень 1654 г. Рэч Паспалітая мабілізавала на вайну з Масковіяй вельмі сур'ёзныя сілы, толькі нязначна меншыя за армію Ўладзіслава IV, якая ў 1633—1634 гг. здабыла выдатную перамогу над арміяй Шэіна пад Смаленскам[722]. Ужо праз тры месяцы пасьля паразы пад Шапялевічамі палявая літоўская армія налічвала нашмат больш жаўнераў, чым на пачатку вайны. Трэба прызнаць, што Каралеўства Польскае, якое само рыхтавалася да наступу на ўкраінскім фронце, даслала Янушу Радзівілу значную дапамогу лікам некалькі тысячаў жаўнераў. У распараджэньне гетмана паступілі адборныя палкі каралеўскай гвардыі, усе рэйтарскія адзінкі і большая частка вельмі эфэктыўных у вайне з маскоўцамі татарскіх харугваў. Такім чынам, баяздольнасьць літоўскай арміі значна павысілася. Гэтым разам далі рады магнацтва і літоўская шляхта, якія даслалі і аплацілі прыватныя аддзелы на некалькі тысячаў жаўнераў і павятовыя харугвы, што падтрымалі рэгулярныя сілы ў змаганьні зь непрыяцелем.

[722] У смаленскай вайне польска-літоўская армія налічвала каля 22 000 жаўнераў (Kupisz D. Smoleńsk 1632—1634... S. 236).

Аднак утрыманьне такога шматлікага войска пераўзыходзіла магчымасьці Вялікага Княства Літоўскага, якое перажывала эканамічны крызіс і ўжо з 1648 г. трымала пад зброяй значныя сілы для барацьбы з Хмяльніцкім. Таму падатковы апарат не спагнаў з шляхты ўсіх падаткаў, прынятых на сойме ў ліпені 1654 г. Нястача грошай прывяла да таго, што фінансавыя гарантыі, якіх дамагліся жаўнеры на менскай скарбовай камісіі, зрабіліся нерэальнымі. Неаплачанае войска бунтавалася, часта пагражаючы ўтварыць канфэдэрацыю, а пазьней — нават адмовіцца ад службы. Урэшце, у жніўні 1655 г. частка адзінак пакінула вайсковыя шэрагі.

Нягледзячы на вялікія мабілізацыйныя і арганізацыйныя намаганьні, войскі Рэчы Паспалітай ня зьведалі падчас зімова-веснавога контрнаступу 1655 г. амаль ніякіх посьпехаў.

Здаецца, распачынаючы наступ, літоўская армія ня мела дакладнага пляну дзеяньняў. Ужо на пачатку лютага намер рушыць супольна з арміяй Кароны і татарамі ў глыб тэрыторыі праціўніка стаўся нерэальным, бо пераважная большасьць адзінак Станіслава Рэвэры Патоцкага адступіла на захад пасьля безвыніковай бітвы пад Ахматавам. Пра тое, каб разьбіць праціўніка на адкрытай прасторы, не вялося гаворкі, бо маскоўскія арміі, задзейнічаныя на гэтым адрэзку, яшчэ ў кастрычніку адышлі за некалькі сотняў кілямэтраў на зімовыя кватэры, пакінуўшы толькі залогі ў вялікіх гарадох.

Несумненна, Радзівіл зрабіў памылку, калі абмежаваў наступ толькі аблогаю Новага Быхава і Магілёва. Кепскі стан артылерыі, благая вывучка пушкароў, а таксама недастатковы досьвед жаўнераў у падобных дзеяньнях выракалі гэтыя пачынаньні на паразу. Армію дадаткова аслабляў толькі часова прыпынены канфлікт паміж гетманамі. Недастатковая скаардынаванасьць у дзеяньнях абедзьвюх літоўскіх дывізіяў і дапаможных аддзелаў Кароны таксама спрычынілася да няўдачы ў штурме Новага Быхава і да паразы 23 красавіка пад Магілёвам.

Януш Радзівіл не пазьбегнуў падчас гэтай кампаніі многіх іншых памылак і неадпаведных дзеяньняў, няўдачай скончыліся і ўсе ягоныя палітычныя ініцыятывы. Несумненна, у ягоную абарону сьведчыць тое, што ён некалькі месяцаў супраціўляўся таму, каб пачынаць наступ у гэтую пару, даводзячы ўсю бессэнсоўнасьць падобных дзеяньняў. Гетман меў сур'ёзныя праблемы з здароўем, якія на доўгі час абмяжоўвалі ягоную актыўнасьць.

Ужо на пачатку студзеня гетман дапусьціў вялікі пралік, дазволіўшы ўмацаваць залогу Магілёва чатырохтысячным корпусам Паклонскага, які трэба было раней змусіць да капітуляцыі або зьнішчыць пры дапамозе кавалерыйскіх аддзелаў. Пазьней, калі пад горадам зьявілася галоўная літоўская армія, праз кола аблогі дазволілі прабіцца моцнаму палку Германа фон Штадэна, што дадаткова падняло дух абаронцаў і ўмацавала іхныя сілы. Памылкай Радзівіла было таксама неадпаведнае выкарыстаньне коньніцы, асабліва падчас аблогі Новага Быхава. Большасьць кавалерыі бязьдзейна стаяла пад горадам, і толькі нешматлікія харугвы дзейнічалі на абодвух берагах Дняпра: разьведвалі сілы праціўніка і бралі слабей абароненыя гарады, як Ворша ці Копысь. Калі б да іх далучыліся большыя сілы, гэта прынесла б большыя посьпехі. Вызваленьне шырэйшых тэрыторыяў разам з нанясеньнем адчувальных стратаў праціўніку апроч часовай ваеннай перавагі стварыла б неабходны псыхалягічны эфэкт і дало б насельніцтву памежжа надзею на станоўчы для Рэчы Паспалітай

зыход вайны з Масковіяй. Такія дзеяньні таксама дэзарганізавалі б тылавое забесьпячэньне праціўніка, так што яму было б больш складана сабраць армію і пачаць новы наступ улетку 1655 г.

Аднак найвялікшай памылкай Радзівіла была ўпартая, амаль трохмесячная аблога Магілёва. Армія панесла вялізныя страты ў дзеяньнях, якія нават калі б і скончыліся посьпехам, не давалі істотных шанцаў умацаваць асновы абароны перад новым наступам царскіх войскаў. Армія нішчылася надзвычай благім надвор'ем, голадам і хваробамі. Пасіўнасьць гетмана, які засяродзіў большасьць сілаў у адным месцы, прывяла да таго, што ўжо ў канцы сакавіка ініцыятыва пераходзіць у рукі непрыяцеля. Казакі Залатарэнкі робяць глыбокія рэйды ў тыл ліцьвінаў, дэзарганізуюць іхнае прыкрыцьцё і сеюць паніку ў глыбіні дзяржавы. Праз некалькі тыдняў пасьля аблогі Магілёва на Дняпры ўжо зьяўляюцца маскоўскія войскі, якія бяз бою бяруць гарады, занятыя ўзімку ліцьвінамі.

Панесеныя ўзімку і ўвесну 1655 г. людзкія страты, а таксама псыхалягічныя наступствы паразы былі настолькі цяжкія, што ўлетку таго ж году літоўская армія амаль не супраціўлялася наступу маскоўцаў. Войскі Аляксея Міхайлавіча за тры месяцы занялі ледзь ня ўсю тэрыторыю Вялікага Княства, а аслаблены масавым дэзэртэрствам і вывадам падмацаваньняў Кароны Януш Радзівіл нават ня мог арганізаваць эфэктыўнай абароны Вільні. Таму 8 жніўня 1655 г., першы раз у гісторыі, маскоўскі жаўнер увайшоў у сталіцу Літвы. Цар замацаваў свае посьпехі 1654—1655 гг., прыняўшы тытул вялікага князя літоўскага. Гэты крок мусіў стварыць законныя падставы, каб адна з нацый Рэчы Паспалітай назаўсёды перайшла пад уладу Масквы.

Ваенная сытуацыя, несумненна, паспрыяла таму, што частка саноўнікаў, шляхты і літоўскага войска, аб'яднаных вакол Януша Радзівіла, прыняла рашэньне шукаць ваеннай дапамогі ў швэдаў, а таксама прыняць пратэкцыю Карла Густава. Наколькі складаная была тагачасная палітычная сытуацыя, сьведчыць той факт, што гэты крок супаў з нашэсьцем швэдаў на Рэч Паспалітую. Галоўнай прычынай агрэсіі супраць Польска-Літоўскай дзяржавы была ейная ваенная слабасьць, пра якую найбольш яскрава сьведчыла ейная бездапаможнасьць перад маскоўскімі войскамі. Карл Густаў ня стаў рызыкаваць сысьціся ў бітве з царскай арміяй, а палічыў за лепшае нанесьці ўдар свайму стрыечніку Яну Казімеру, перамагчы якога здавалася значна лягчэй.

Агульны вынік вайны з Рэччу Паспалітай выглядае для маскоўскага боку адназначна станоўча. Яму ўдалося дасягнуць амаль усіх ваенна-палітычных мэтаў, апроч узяцьця Дзьвінску. Дзякуючы шырокай дыпляматычнай кампаніі Аляксей Міхайлавіч не дапусьціў, каб у кампанію ўлучыліся іншыя дзяржавы ці каб Рэч Паспалітая атрымлівала дапамогу звонку. Вельмі хутка маскоўскія войскі дасягнулі асноўных мэтаў кампаніі 1654 г.: усяго праз тры месяцы баёў узяты Смаленск, разьбітая палявая армія праціўніка, а таксама занятыя тэрыторыі на ўсход ад Бярэзіны, якая традыцыйна лічылася мяжою рускіх земляў. Стрыманьне наступу Радзівіла зімой 1655 г. і абяскроўленьне ягоных сілаў пад Новым Быхавам і Магілёвам дазволіла дасягнуць летам таго году посьпехаў, якія, напэўна, выходзілі далёка за намеры цара ў першай палове 1654 г. Заняўшы амаль усё Вялікае Княства Літоўскае, маскоўскія войскі дайшлі пад канец верасьня 1655 г. да самай мяжы з Каралеўствам Польскім. Калі б ня швэдзкая агрэсія, то ня выключана, што цар рушыў бы далей у глыб Рэчы Паспалітай і, магчыма, пагражаў бы нават Варшаве.

Прымаючы рашэньне пачаць вайну, Аляксей Міхайлавіч і ягоныя паплечнікі зрабілі адпаведныя высновы з паразы, панесенай у 1632—1634 гг. Рабіліся вялізныя намаганьні, каб перадусім рэфармаваць войска. Значна павялічылася колькасьць аддзелаў новага строю. Традыцыйныя аддзелы шляхецкай коньніцы ўсё больш саступалі месца палкам пяхоты, драгунаў і рэйтараў, вывучаным і ўзброеным паводле тагачасных заходніх узораў. На загад цара за мяжой закупілі багата зброі. У Маскву з Захаду прыехалі шматлікія афіцэры і інструктары, якія выканалі вялізную падрыхтоўчую працу. Дзякуючы гэтым намаганьням у 1654 г. супраць войскаў Рэчы Паспалітай выйшлі жаўнеры, якія значна пераўзыходзілі баяздольнасьцю сваіх папярэднікаў у першай палове XVII ст.

У 1654 г. маскоўскія войскі атакавалі Вялікае Княства Літоўскае зь некалькіх кірункаў, не засяроджваючыся, як падчас папярэдняй вайны, толькі ў раёне Смаленскай брамы. Умела выкарыстоўвалася колькасная перавага, калі царскае войска абкружала і разьбівала палявыя аддзелы Януша Радзівіла і на некалькі месяцаў выключала іх з баёў. Удала была праведзеная аблога Смаленску, маскоўскія войскі ледзьве не ўзялі гэтую магутную крэпасьць штурмам. Дзякуючы выкарыстаньню магутнай артылерыі, хутка агаліліся ўсе недахопы пасьпешна зробленага рамонту ўмацаваньняў. Неўзабаве маральны дух залогі быў зломлены, і яна вельмі хутка выпрашылася на капітуляцыю. У нашмат горшай ваенна-палітычнай сытуацыі Міхаіл Шэін абараняў горад у 1609—1611 гг. дваццаць месяцаў.

Адрозна ад Радзівіла, у першай палове 1655 г. цар не засяроджваў большасьці аддзелаў пад адной крэпасьцю, а стараўся таксама дэзарганізаваць сілы праціўніка нападамі на іншых кірунках, а таксама атакаваць ягоны тыл рэйдамі вылучаных корпусаў.

Па ўзяцьці кожнага гораду, які меў істотнае стратэгічнае значэньне, адразу рамантаваліся і мадэрнізаваліся ягоныя ўмацаваньні, а ў сам горад уводзілася моцная залога, забясьпечаная вялікімі запасамі ваеннага рыштунку і правіянту. Гэта зводзіла да мінімуму шанцы літоўскіх войскаў адваяваць яго. Узімку 1655 г. армія Януша Радзівіла шмат разоў сутыкалася з жорсткай абаронай, якой без адпаведнай артылерыі зазвычай не магла зламіць. Маскоўскі жаўнер, увесь час саступаючы ліцьвінам у сутычках у полі, даваў ім надзвычай заўзятую супраціў пад прыкрыцьцём фартыфікацыяў ці табару. Пры гэтым ён выяўляў проста гераічную ўпартасьць і вялізную трываласьць перад фізычнымі выпрабаваньнямі і голадам. Падобныя якасьці зноў пацьвердзілі казакі, якія вылучаліся імі ў бітвах ва Ўкраіне. Яны не адважыліся даць Радзівілу бой у полі, але выдатна давалі рады з абаронай, безь вялікіх праблемаў адбіваючы атакі на Новы Быхаў.

Геройская абарона асобных гарадоў, а таксама шматлікія памылкі літоўскага боку дазволілі царскім аддзелам мінімізаваць посьпехі праціўніка, дасягнутыя ўзімку і раньняй вясной 1655 г., і прыкрыць раёны, дзе зьбіраліся галоўныя маскоўскія сілы. Вялізная колькасная перавага маскоўскага боку, а таксама надзвычай дрэнны стан літоўскіх войскаў па заканчэньні аблогі Магілёва дазволілі царскай арміі ўлетку 1655 г. маланкава авалодаць амаль усёй тэрыторыяй Вялікага Княства Літоўскага. Пачаліся доўгія пяць гадоў акупацыі, канец якой прынёс толькі пераможны наступ 1660 г.




**Польская пяхота — мушкетэр і капітан**

# ДАДАТКІ

*Дадатак I*

## АРМІЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў ЛЕТНЯЙ КАМПАНІІ 1654 г. (апроч залогі Смаленску)[723]

Тэарэтычны стан:

Гусарскія харугвы:
- Януша Радзівіла (159 коней)
- Аляксандра Гіляр'я Палубінскага (122 кані)
- Рыгора Мірскага, паручнік Геранім Мірскі (83 кані)

Казацкія харугвы:
- Януша Радзівіла, паручнік Аляксандар Мяжэнскі (150 коней)
- Юр'я Караля Глябовіча, паручнік Самуэль Кміціц (120 коней)
- Багуслава Радзівіла, паручнік Волан (?) (120 коней)
- Крыштапа Патоцкага, паручнік Юры Ўладзіслаў Углік (100 коней)
- Аляксандра Гіляр'я Палубінскага, паручнік Канстанцін Катоўскі (120 коней)
- Патоцкага (Крыштапа?) (100 коней)
- Падкаморніка кіеўскага [Юр'я Нямірыча], паручнік Немста (100 коней)
- Зыгмунта Адама Слушкі, паручнік Станіслаў Ян Ліпніцкі (100 коней)
- Юр'я Ўладзіслава Халецкага (120 коней)
- Яна Быхаўца (120 коней)
- Лява Пагірскага (80 коней)
- Нямірыча старасты оўруцкага [Юр'я?] (64 кані)
- Хрызастома Юндзіла (86 коней)
- Нікадэма Скіндэра (50 коней)
- Самуэля Высоцкага (100 коней)
- Шымана Паўшы, паручнік Лукаш Трацяк (100 коней)
- Станіслава Казімера Бабраўніцкага, паручнік Андрэй Гурскі (69 коней) — напэўна, коні абаранялі Гомель
- Абадынскага (100 коней)
- Клімчыцкага (100 коней)
- Лукаша Расудоўскага (120 коней)
- Ярэмія (?) Слушкі (26 коней)
- Мухавецкага (20 коней)
- Дамбровы (100 коней)

Татарскія харугвы:
- Ісламa Смольскага (150 коней)
- Яхі Мурзы (100 коней)
- Мустафы Малахоўскага (100 коней)
- Бараноўскага (Мікалая?) (100 коней)
- Чымбая Ўлана Малюшыцкага (100 коней)
- Рамана Сянкевіча (100 коней)
- Абулевіча (60 коней) — брала ўдзел у абароне Гомелю
- Асана Левашэвіча (120 коней)
- Мустафы Бараноўскага (130 коней)

Рэйтары:
- полк Януша Радзівіла, на чале з Эрнэстам Закенам (660 порцыяў у чатырох харугвах)
- харугва Юр'я Тэадора Тызэнгаўза (120 порцыяў)
- харугва Тэадора Шварцгофа (120 порцыяў)
- харугва Эрнэста Яна Корфа (120 порцыяў)

[723] Крыніца: BPAN Kr. Rkps 1404. T. III. S. 134—137.

Драгуны:
- полк Януша Радзівіла, на чале з Германам Ганцкопфам (усяго 600 порцыяў)
- полк Багуслава Радзівіла, на чале з Эбэрхардам Путкамэрам (600 порцыяў)
- полк Эрнэста Яна Корфа (700 порцыяў)
- харугва Аляксандра Гіляр'я Палубінскага (120 порцыяў)
- харугва Крыштапа Патоцкага (200 порцыяў)
- харугва Крыштапа Есмана (120 порцыяў)
- харугва Эрнэста Нольдэ (100 порцыяў)
- харугва Закена (100 порцыяў)
- харугва Марціна Хараманскага (134 порцыі)

Нямецкая пяхота:
- полк Януша Радзівіла (1050 порцыяў)
- полк Юр'я Нямірыча, на чале з Багуславам Прыпкоўскім (1000 порцыяў)
- рота Самуэля Андрэя Абрамовіча (176 порцыяў)
- рота Яна Отэнгаўза (200 порцыяў)
- рота Мікалая Гедройця (113 порцыяў) — абараняла Гомель
- рота Мантгомэры [Гугана?] (100 порцыяў)
- рота Попеля (150 порцыяў)
- рота Тэафіла Больта (120 порцыяў) — напэўна, стаяла ў залозе ў Дынабургу

Польская пяхота:
- лейб-рота Януша Радзівіла, на чале з Самуэлем Янам Юшкевічам (200 порцыяў)
- рота Яна Дмахоўскага (100 порцыяў)
- рота Юр'я Караля Глябовіча, на чале зь Юр'ем Уладзіславам Грабінскім (100 порцыяў) — абараняла Дуброўну
- рота Багуслава Радзівіла (100 порцыяў)
- рота Марціна Блэндоўскага (100 порцыяў)
- рота Вацлава Шалеўскага (100 порцыяў) — абараняла Гомель
- рота Войцеха Слаўкоўскага (100 порцыяў) — абараняла Гомель

разам — 11 211 коней і порцыяў

*Дадатак II*

# КАМПУТ ДЫВІЗІІ ЛЕВАГА КРЫЛА ЛІТОЎСКАЙ АРМІІ — ВОСЕНЬ 1654 г.[724]

Гусарскія харугвы:
- Вінцэнта Гасеўскага, паручнік Казімер Хвалібог-Жаромскі (200 коней)
- Юр'я Караля Глябовіча (120 коней)
- Міхала Казімера Радзівіла, паручнік Фалінскі (120 коней)

Казацкія харугвы:
- Вінцэнта Гасеўскага, паручнік Ян Аляксандар Ігнатовіч-Лубянскі (200 коней)
- Юр'я Караля Глябовіча (50 коней)
- Міхала Казімера Радзівіла (150 коней)
- Крыштапа Статкевіча (100 коней)
- Крыштапа Шумскага (100 коней)
- Канстанціна Паца (120 коней)
- Казімера Корсака (120 коней)
- Юр'я Ўладзіслава Юдыцкага (120 коней)
- Яна Храпавіцкага, паручнік Мікалай Орда (100 коней)

[724] Крыніца: BPAN Kr. Rkps 1404. T. III. S. 154—156.

Татарскія харугвы:
- Мікалая Антановіча (150 коней)
- Адама Бараноўскага (100 коней)
- Давіда Дышламовіча Райжэўскага (100 коней)
- Асан Сахмэнэровіча Гумацэвіча (100 коней)

Рэйтары:
- полк Вінцэнта Гасеўскага (480 порцыяў)
- роты Абрагама Кройца, Крыштапа Гротуза і Брыя Клёмпана (Клёкмана?)
- харугва Багуслава Радзівіла (200 порцыяў)
- харугва Тэадора Бутлера (120 порцыяў)
- харугва Вольтэра Корфа (120 порцыяў)

Драгуны:
- полк Мацея Гасеўскага (880 порцыяў у шасьці харугвах)
- 300 порцыяў пад імем Багуслава Радзівіла — папаўненьне палка старога набору, якім камандаваў Путкамэр
- харугва Юр'я Караля Глябовіча (100 порцыяў)
- харугва Аляксандра Гіляр'я Палубінскага (80 коней) — папаўненьне ранейшай харугвы палявога пісара
- харугва Самуэля Камароўскага (200 порцыяў)

Нямецкая пяхота:
- полк Мікалая Юдыцкага (600 порцыяў)

Польская пяхота:
- рота Вінцэнта Гасеўскага, на чале з Геранімам Іваноўскім (200 порцыяў)
- рота Багуслава Слушкі (100 порцыяў)

разам — 5450 коней і порцыяў[725]

*Дадатак III*

## ЛІТОЎСКАЯ АРМІЯ НА ПАРОЗЕ ЗІМОВА-ВЕСНАВОЙ КАМПАНІІ 1655 г.[726]

Спроба рэканструкцыі:

Дывізія правага крыла:
- 3 гусарскія харугвы
- 17 казацкіх харугваў
- 6 татарскіх харугваў
- 1 полк і 2 харугвы рэйтараў
- 3 палкі і 5 харугваў драгуноў
- 1 полк і 2 роты нямецкай пяхоты
- 5 харугваў польскай пяхоты

разам — каля 8500 коней і порцыяў

Дывізія левага крыла:
- 3 гусарскія харугвы
- 9 казацкіх харугваў
- 5 татарскіх харугваў
- 1 няпоўны полк і 1 рота рэйтараў
- 1 полк і 2 роты драгуноў
- 1 рота польскай пяхоты

разам — каля 3500 коней і порцыяў

разам — каля 12 000 коней і порцыяў (10 800 жаўнераў) паводле станаў з прыпаведных лістоў

[725] У нізе гэтага разьліку знаходзіцца анатацыя, што аддзелы новага набору налічвалі 5600 коней і порцыяў, у тым ліку 11 казацкіх харугваў. З гэтага вынікае, што прапушчаная адна казацкая харугва, якая налічвала 150 коней.

[726] Галоўныя крыніцы: LVIA. Fond S.A. Nr 4106, 4107; Bczart. Rkps 121. Nr 151. S. 575—578; AGAD. AR dz. XI. Nr 39. S. 121—139.

*Дадатак IV*

# ДАПАМОЖНЫ КОРПУС КАРОНЫ НА ТЭРЫТОРЫІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў 1654—1655 гг.[727]

Палкі пяхоты:
- каралеўскай гвардыі, на чале з Фромгальдам фон Людынггаўзэнам Вольфам (у IV квартале 1654 г. — 1200 порцыяў)
- Багуслава Радзівіла, на чале зь Вільгельмам Патэрсанам, потым — Янам Бэркам (1044 порцыі)

Палкі драгуноў:
- каралеўскай гвардыі, на чале з Фрыдэрыкам Молем, з траўня або чэрвеня 1655 г. — зь Янам Гэнрыкам фон Альтэн Бокумам (600 порцыяў)
- Людвіка Вэйгера (541 порцыя)

Палкі рэйтараў:
- каралеўскай гвардыі, на чале з Гэнрыкам Валенродам (у полі камандаваў Марцін Валенрод — 350 порцыяў)
- Саламона Закена (250 порцыяў)
- Тэадора Лескванта (350 порцыяў)
- Зыгмунта Дэнгофа, зь ліпеня 1655 г. на чале з Гэнрыкам фон Эйленбургам (250)
- Якуба Вэйгера (357)
- кампанія Багуслава Ляшчынскага (100 порцыяў)

Татарскія харугвы:
- прыдворная караля, на чале з Мурзам Багдановічам (150 коней)
- Адама Фалькоўскага (120 коней)
- Галембэка Мараўскага (120 коней)
- Яна Сядлецкага (120 коней)
- Мустафы Судыча (120 коней)
- Адама Тарашэўскага (120 коней)

Удзел спрэчны:
- татарскія харугвы Мікалая Пагойскага і Багдана Мурзы (каля 200 коней)

разам у VI квартале 1654 г. — каля 6000 коней і порцыяў (5400 чалавек)

*Пераклаў з польскай мовы Антон Кузьміч*

[727] Станы адзінак на падставе: Wimmer J. Materiały do zagadnienia organizacji i liczebności armii koronnej w latach 1648—1654 // SMHW. T. V. 1960. [Непранумараваныя старонкі].

# БІБЛІЯГРАФІЯ


РУКАПІСНЫЯ КРЫНІЦЫ

**Львівська державна наукова бібліотека ім. В. Стефаника**
Fond 103. Nr 1594, 1647, 1648, 1650, 1652, 1653, 1654, 1655, 1657

**Національна бібліотека України імені В. І. Вернадського, Київ**
Fond 1. Nr 5985; Fond 2. Nr 21166

**Центральний державний історичний архів України, Київ**
Fond 48. Op. 1. Nr 983

**Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie**

**Archiwum Koronne Warszawskie**

[аддзел казацкі] — nr 42/48

[аддзел расейскі] — nr 55c/81

[аддзел швэдзкі] — nr llb/74, llb/75
Archiwum Przeździeckich — nr B-972
Archiwum Publiczne Potockich — nr 7. T. III. Nr 9. T. III

**Archiwum Radziwiłłów**

dział II — nr 1275, 1286, 1287, 1288, 1289, 1290, 1293, 1294, 1296, 1298

[кніга] 66, 69.14

[дадатак] — nr 543, 546, 546 (1), 591

dział III — kop. 4

dział IV — kop. 19 (teka 16), kop. 89 (teka 9), kop. 361 (teka 26)

dział V — nr 1569, 1735, 4567/1, 5353, 9646/1, 14885, 15213, 15429

dział VI — księga 11—51

dział VII — nr 55 a, 227

dział X — nr 220 b

dział XI — nr 39

dział XXV — nr 1766

Archiwum Skarbowe Wojskowe — dział 85, nr 72

Archiwum Tyzenhauzów — nr E-351, F-115, G-752, G-807

Archiwum Zamoyskich — nr 450, 2907, 3031

Metryka Koronna — nr 195

Nabytki Kolekcjonerskie — nr 59

Zbiór z Muzeum Narodowego — nr 915

**Archiwum Państwowe w Gdańsku**
nr 300, 29/142

**Archiwum Państwowe w Krakowie**
Archiwum Młynowskie Chodkiewiczów — nr 101
Archiwum Sanguszków — nr 67
Pinocciana — nr IT 363 Zbiór Rusieckich — nr 70

**Biblioteka Muzeum im. Ks. Czartoryskich w Krakowie**
Rkps 121, 147, 148, 384, 417, 917, 1664, 2105, 2247, 2309, 2749, 3355, 3487

**Biblioteka Narodowa w Warszawie**
Rkps 6634/III

**Biblioteka`Ordynacji Zamoyskich**
Rkps 1218

**Biblioteka PAN w Kórniku**
Rkps 350, 991, 2649

**Biblioteka PAN w Krakowie**
Rkps 354, 360, 1017, 1404 t. I, 1404 t. III

**Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego**
Rkps 66

**Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu**
Rkps 189/11, 206/11, 364/11, 1453/11, 2280/1, 3564/11, 13621/III, 13622/11

**Lietuvos Mokslu Akademijos Centrine Biblioteka, Vilnius**
Fond 31. Nr 845. Fond 139. Nr 545

**Lietuvos Nacionaline Martyno Maźvido Biblioteka, Vilnius**
PR 727

**Lietuvos Valstybes Istorijos Archyvas, Vilnius**
Fond SA. Nr 2, 4106, 4107; Fond 1275. Op. 1. Nr 608

**W formie mikrofilmów z RGADA** — Fond 389. Nr 123, 124, 128, 129, 134, 135 (Księgi Wpisów Metryki Litewskiej)

**Teki Prochaski**
Nr 149/V a

**Vilniaus Universiteto Biblioteka**
Fond 3. Nr 89; Fond 7. Nr 16/14468

## ДРУКАВАНЫЯ КРЫНІЦЫ

Акты, издаваемые Виленскою Археографическою Комиссиею для разбора древних актов. Т. V. Вільня, 1871; Т. XIII. Вільня, 1886; Т. XXXIV. Вільня, 1909.

Акты исторические, собранные и изданные Археографическою Комиссиею. Т. IV. Санкт-Петербург, 1842.

Акты Московского государства, изданные Императорскою Академиею наук / Под ред. Н. А. Попова. Т. II. Санкт-Петербург, 1894.

Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою Комиссиею... Т. VIII. Санкт-Петербург, 1875; Т. X. Санкт-Петербург, 1880; Т. XIV. Санкт-Петербург, 1889.

Акты, собранные в библиотеках и архивах Российской империи... Т. IV. Санкт-Петербург, 1836.

Археографический сборник документов, относящийся к истории Северо-Западной Руси. Т. I и II. Вильно, 1867; Т. VIII. Вильно, 1870; Т. XIV. Вильно, 1904.

Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов в трех томах. Т. II. Минск, 1960.

Витебская Старина / Изд. А. Сапунов. Т. IV. Ч. 2. Витебск, 1885.

Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы: В 3 томах. Т. III. Москва, 1954.

Дворцовые розряды. Т. III. Санкт-Петербург, 1852.

Документи Богдана Хмельницького 1648—1657 / Вид. І. Крип'якевіч. Київ, 1961.

Заборовский Л. В. Великое княжество литовское и Россия во время польского потопа. Москва, 1994.

Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губернии витебской и могилевской. Т. XXV. Витебск, 1894.

Очерк военных действий боярина Василия Петровича Шереметьева в 1654 г. // Новосельский. А. А. Исследования по истории эпохи феодализма. Москва, 1994.

Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667) / Изд. Л. С. Абецедарский и М. Я. Волков. Минск, 1963.

Akta ugody kiejdańskiej 1655 roku / Wyd. W. Konopczyński, K. Lepszy // Ateneum Wileńskie. T. X. 1935.

Jakuba Michałowskiego, Wojskiego lubelskiego, a później kasztelana bieckiego księga pamiątkowa z dawnego rękopisu będącego własnością Ludwika hr. Morsztyna / Wyd. A. Z. Helcel. Kraków, 1864.

Kochowski W. Historya panowania Jana Kazimierza / Wyd. E. Raczyński. T. I. Poznań, 1840.

Kognowicki S. Życie Sapiehów i listy monarchów, książąt i różnych panujących do tychże pisane. T. III. Warszawa, 1792.

Materyały dla historyi Małej Rossyi. Listy i uniwersały za Jana Kazimierza od 1650 do

1660 / Wyd. P. K. Świdziński. T. II. Kijów, 1852.

Medeksza S. Księga Pamiętnicza wydarzeń zaszłych na Litwie 1654—1668 / Wyd. W. Seredyński, Scriptores Rerum Polonicarum. T. III. Kraków, 1875.

Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131 / Opr. A. Rachuba. Warszawa, 2001.

Morsztyn Z. Wybór wierszy / Opr. J. Pelc. Wrocław, 1975.

Naronowicz-Naroński J. Budownictwo wojenne / Wyd. J. Nowakowa. Warszawa, 1957.

Ojczyste spominki w pismach do dziejów dawnej Polski / Wyd. A. Grabowski. T. I. Kraków, 1845.

Pamiętniki historyczne do wyjaśnienia spraw publicznych w Polsce XVII wieku, posługujące w dziennikach domowych Obuchowiczów i Cedrowskiego pozostałe / Wyd. M. Baliński. Wilno, 1859.

Radziwiłł A. S. Pamiętniki o dziejach w Polsce / Wyd. A. Przyboś i R. Żelewski. T. III. Warszawa, 1980.

Radziwiłł B. Autobiografia / Wyd. T. Wasilewski. Warszawa, 1979.

Rudawski W. Historja Polski od śmierci Władysława IV aż do pokoju oliwskiego, czyli dzieje panowania Jana Kazimierza od 1648 do 1660 r. / Tłum. W. Spasowicz. T. I. Petersburg i Mohylew, 1859.

Skorobohaty A. D. Diariusz / Opr. T. Wasilewski. Warszawa, 2000.

Temberski S. Roczniki 1647—1656 / Wyd. W. Czermak, Scriptores Rerum Polonicarum. T. XVI. Kraków, 1897.

Urkunden und Actenstücke zur Geschichte des Kurfürsten Friedrich Wilhelm von Brandenburg. T. VI. Berlin, 1872.

Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII wieku / Opr. H. Lulewicz i A. Rachuba. Kórnik, 1994.

Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. IV: Ziemia smoleńska i województwo smoleńskie XIV—XVIII wiek / Opr. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. P. Romaniuk. Warszawa, 2003.

Volumina Legum / Wyd. J. Ohryzko. T. IV. Sankt Petersburg, 1859.

Vorbek-Lettow M. Skarbnica pamięci. Pamiętnik lekarza króla Władysława IV / Wyd. E. Galos i F. Mincer; Pod red. W. Czaplińskiego. Wrocław, 1968.

Wimmer J. Materiały do zagadnienia organizacji i liczebności armii koronnej w latach 1648—1655 // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. V. 1960.

Wimmer J. Materiały do zagadnienia organizacji i liczebności armii koronnej w latach 1655—1660 // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. IV. 1958.

Źródła do dziejów Polski / Wyd. F. Nowakowski. T. I. Berlin, 1841.

Żywot Jaśnie Oświeconego Księcia Bogusława Radziwiłła / Wyd. A. Popliński. Poznań i Trzemieszno, 1840.

СТАРАДРУКІ

1. Apologia Magnifici Domini Wilhelmi Korff, quod fuerit missus pro praesidio Smolenscii ad Janusio Radivilo [...] citata. BN. Mf 19805.

2. Eigentliche Erzählung welcher gestalt [...] Janus Radziwil [...] geführte Armee zeithero geschwäachet und zurücke zugehen genöthiget. BN. Mf 11806.

3. Extrait d'une lettre ecrite par un Officier de l'armee de Lithuanie logee dans la ville basse de Mohilev du 19 fevrier 1655. BN. Mf 379 A.

4. Theatrum Europaeum. T. VII. Frankfurt am Mayn, 1685.

5. Wyprawa cara moskiewskiego na wojnę przeciw Litwie i Polakom. BN. Mf 37625.

ПУБЛІКАЦЫІ

Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVII в. Из истории русско-белорусских связей. Минск, 1957.

Бабятынскі К. Стары і Новы Быхаў падчас вайны Рэчы Паспалітай з Масквой (1654—1655) // Беларускі гістарычны агляд. Т. X. Сш. 1—2 (18—19). 2003.

Берх В. Н. Царствование Алексея Михайловича. Санкт-Петербург, 1831.

Бобятиньський К. Невідомі джерела з історії військових діл за доби війни Речі Посполітої та Московії на теріторії Великого Князівства Литовського (1654—1655). Пам'ятки: Археологічний щорічник. Т. X. 2004.

Галактионов И. Чистякова Е. А. Л. Ордин-Нащекин. Русский дипломат XVII в. Москва, 1961.

Готье Я. В. Замосковный край. Москва, 1937.

Грушевский М. История Украины-Руси. Т. IX. Ч. 2. Киев, 1997.

Егоров Я. А. Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954.

Заборовский Л. В. Последний шанс умиротворения: Переговоры Б. А. Репнина во Львове 1653 г. // Україна в Центрально-Східній Європі. Студії з історії XI—XVIII століть. Київ, 2000.

Заборовский Л. В. Россия, Речь Посполитая и Швеция в середине XVII в. Москва, 1981.

Заборовский Л. В. Русская дипломатия и начало первой северной войны (январь—октябрь 1655 г.) // Советское славяноведение. 1973. № 1.

Заборовский Л. В. Русско-литовские переговоры во второй половине 1655 г. // Славяне в эпоху феодализма. К столетию академика Е. В. Пичеты. Москва, 1978.

Иловайский Д. И. История России. Т. V. Москва, 1905.

Кветницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии XVII в. // Всеобщая история архитектуры. Т. VI. Ч. III. Москва, 1968.

Клюкин Н. К. Могилев. Историко-географический и экономический очерк. Минск, 1963.

Кроль П. Беларуская кампанія 1654 г. (да бітвы пад Шапялевічамі) // Беларускі гістарычны агляд. Т. VI. Сш. 1—2 (10—11). 1999.

Мальцев А. Н. Война за Белоруссию и освобождение Смоленска в 1654 г. // Исторические Записки. № 37. 1951.

Мальцев А. Россия и Белоруссия в середине XVII века. Москва, 1974.

Мелешко В. Могилев в XVI — середине XVII в. Минск, 1988.

Могилев. Историко-экономический очерк. Минск, 1961.

Погилевич Д. Л. Белорусское казачество // Питання історії СРСР. Львівський державний університет ім. І. Франка. Наукові записки. Т. XLIII. 1957. Вип. VI.

Сагановіч Г. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мінск, 1994.

Сагановіч Г. Невядомая вайна. Мінск, 1995.

Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Т. X. Москва, 1961.

Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Минск, 1987.

Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мінск, 1991.

Українське козацтво. Мала енциклопедія. Київ, 2002.

Федорук Я. О. Міжнародна дипломатія і політика України 1654—1657. Ч. 1: 1654 рік. Львів, 1996.

Федорук Я. О. Переговори Речі Посполитої з Москвою і укладення Віленського миру (1654—1656) // Переяславска рада 1654 року (історіографія та дослідження) / Редкол. П. Сохань, Я. Дашкевич, І. Гирич та ін. Київ: Смолоскип, 2003. XX + 890.

Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Минск, 1985.

Чернов А. В. Вооруженные силы русского государства в XV—XVII вв. Москва, 1954.

Чернявская Т. Архитектура Могилева. Минск, 1973.

Bobiatyński K. Daugavpils un Pod'u Inflantija (Latgale) Polijas-Lietuvas (Žečaspospod'itas) valsts kara laikâ ar Maskaviju 1654—1655 gadâ // Latvijas Kara muzeja gadagramata. T. VI. 2005.

Bobiatyński K. Dyneburg i Inflanty Polskie podczas wojny Rzeczypospolitej z Moskwą 1654—1656 // Zapiski Historyczne. T. LXX. Z. 2—3.

Bobiatyński K. Działalność wojskowa Aleksandra Hilarego Połubińskiego podczas wojny z Moskwą w latach 1654—1655 // Materiały do Historii Wojskowości. T. II. 2004.

Bobiatyński K. Działania posiłkowego korpusu koronnego na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1654—1655 // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. XLI. 2004.

Bobiatyński K. Kampania zimowo-wiosenna wojsk Janusza Radziwiłła 1654—1655 // Staropolska sztuka wojenna XVI—XVII wieku. Prace ofiarowane Profesorowi Jaremie Maciszewskiemu / Red. M. Nagielski. Warszawa, 2002.

Bobiatyński K. Twierdze naddnieprzańskie w systemie obrony wschodniej granicy Wielkiego Księstwa Litewskiego — XVI — połowa XVII wieku // Zamojsko-Wołyńskie Zeszyty Muzealne. T. II. 2004.

Bobiatyński K. Wigilia Kiejdan // Mówią Wieki. 2002. Nr 7.

Ciesielski T. Sejm brzeski 1653 r. Toruń, 2003.

Czapliński W. Dwa sejmy w roku 1652. Studium z dziejów rozkładu Rzeczypospolitej szlacheckiej w XVII wieku. Wrocław, 1955.

Czapliński W. Rola magnaterii i szlachty w pierwszych latach wojny szwedzkiej // Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655—1660. T. I. Warszawa, 1957.

Dybaś B. Fortece Rzeczypospolitej. Studium z dziejów budowy fortyfikacji stałych w państwie polsko-litewskim w XVII wieku. Toruń, 1998.

Frost R. I. After the deluge: Poland-Lithuania and the Second Northern war 1655—1660. Cambrigde, 1993.

Heller M. Historia imperium rosyjskiego. Warszawa, 2000.

Jaroszuk J. Radziwiłł Michał Kazimierz // Polski Słownik Biograficzny. T. XXX. 1987.

Kersten A. Stefan Czarniecki 1599—1665. Warszawa, 1963.

Kotarski H. Przyboś A. Korff Mikołaj // Polski Słownik Biograficzny. T. XIV. 1968—1969.

Kotłubaj E. Galeria nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857.

Kotłubaj E. Życie i działalność Janusza Radziwiłła. Wilno—Witebsk, 1859.

Kroll P. Obrona Smoleńska w 1654 r. // Staropolska sztuka wojenna XVI—XVII wieku. Prace ofiarowane Profesorowi Jaremie Maciszewskiemu / Red. M. Nagielski. Warszawa, 2002.

Kroll P. Upadek Smoleńska // Mówią Wieki. 2003. Nr 4.

Kubala L. Wojna moskiewska r. 1654—1655. Szkice historyczne. T. III. Warszawa, 1910.

Kupisz D. Smoleńsk 1632—1634. Warszawa, 2001.

Leszczyński J. Dwa ostatnie sejmy przed potopem szwedzkim w oczach dyplomaty cesarskiego // Śląski Kwartalnik Historyczny «Sobótka». T. XXXIX. 1975. Nr 2.

Longworth P. Alexis Tsar of the All Russias. London, 1984.

Łowmiański H. Handel Mohylewa w XVI wieku // Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.

Majewski W. Poddanie się Litwy Szwedom w 1655 roku // Świat pogranicza. Warszawa, 2003.

Matwijów M. Koncepcje polityki Janusza Radziwiłła w latach 1648—1655 // Acta Universitatis Wratislaviensis. No 1108. Historia LXXV. 1990.

Matwijów M. Próba mediacji Janusza Radziwiłła w konflikcie polsko-kozackim w latach 1653—1655 // Wrocławskie Studia Wschodnie. Nr 5. 2001.

Mincer F. O sprawie przysięgi hetmańskiej na pierwszym sejmie 1654 r. // O naprawę Rzeczypospolitej XVI—XVII w. Prace ofiarowane Władysławowi Czaplińskiemu w 60 rocznicę urodzin. Warszawa, 1965.

Mironowicz A. Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza. Białystok, 1997.

Mironowicz A. Teodozy Wasilewicz. Archimandryta słucki. Biskup białoruski. Białystok, 1997.

Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965.

Nagielski M. Chorągwie husarskie Aleksandra Hilarego Połubińskiego i króla Jana Kazimierza w latach 1648—1666. Przyczynek do badań składu społecznego wojska polskiego w połowie XVII wieku // Acta Baltico-Slavica. T. XV. 1983.

Nagielski M. Gwardia przyboczna i komputowa za dwóch ostatnich Wazów (1632—1668). Praca doktorska. IHUW. Warszawa, 1981.

Nagielski M. Połubiński Aleksander Hilary // Polski Słownik Biograficzny. T. XXVII. 1982.

Nagielski M. Przeobrażenia w armii koronnej w dobie walk z powstaniem B. Chmielnickiego // Między Zachodem a Wschodem. Studia z dziejów Rzeczypospolitej w epoce nowożytnej. Toruń, 2002.

Ochmann-Staniszewska S. Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej za panowania Jana Kazimierza Wazy. Prawo-doktryna-polityka. T. I. Wrocław, 2000.

Ostrowski B. Pospolite ruszenie szlachty smoleńskiej // Acta Baltico-Slavica. T. XIII. 1980.

Płosiński J. Wyprawa kniazia Semena Urusowa na Brześć (listopad-grudzień 1655) // Mazowieckie Studia Humanistyczne. 2003. Nr 1—2.

Przyboś A. Gosiewski Wincenty // Polski Słownik Biograficzny. T. VIII. 1959—1960.

Przyboś A. Obuchowicz Filip Kazimierz // Polski Słownik Biograficzny. T. XXIII. 1978.

Rachuba A. Konfederacja wojska litewskiego w Wierzbołowie w 1655 r. // Miscellanea Historico-Archivistica. T. IV. 1994.

Rachuba A. Paweł Sapieha wobec Szwecji i Jana Kazimierza (IX 1655 — II 1656). Przyczynek do postawy magnaterii w okresie «potopu» // Acta Baltico-Slavica. T. XI. 1977.

Rachuba A. Pawsza Szymon (Siemion) // Polski Słownik Biograficzny. T. XXV. 1980.

Rachuba A. Pokloński Konstanty Wacław // Polski Słownik Biograficzny. T. XXVII. 1983.

Rachuba A. Sapieha Paweł Jan // Polski Słownik Biograficzny. T. XXXV. 1995.

Rachuba A. Siły zbrojne Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVII wieku // Przegląd Wschodni. T. II. 1994. Z. 3.

Rachuba A. Słuszka Zygmunt Adam // Polski Słownik Biograficzny. T. XXXIX. 1999.

Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002.

Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską w latach 1655—1661 // Lithuania. Nr 2—3 (11—12). 1994.

Rachuba A. Wincenty Korwin Gosiewski // Hetmani Rzeczypospolitej Obojga Narodów / Pod red. M. Nagielskiego. Warszawa, 1995.

Razin E. Historia sztuki wojennej. T. II i III. Warszawa, 1964.

Seredyka J. Stosunki ukraińsko-rosyjskie w

1648 r. // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Wrocławskiego. Historia. Nr 3. 1960.

Seredyka J. Stosunki ukraińsko-rosyjskie w I połowie 1649 r. // Zeszyty Naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Opolu. Historia. Nr 2. 1961.

Stade A. Geneza decyzji Karola X Gustawa o wojnie z Polską w 1655 r. // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. XIX. Cz. 2. 1973.

Tersmeden L. Karola X Gustawa plan kampanii polskiej 1655 roku. Powstanie planu i jego przeprowadzenie // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. XIX. Cz. 2. 1973.

Tyszkiewicz E. Birże. Rzut oka na przeszłość miasta, zamku i ordynacji. Sankt Petersburg, 1869.

Wagner M. Kadra oficerska armii koronnej w drugiej połowie XVII wieku. Toruń, 1992.

Walewski A. Historya wyzwolenia Polski za panowania Jana Kazimierza (1655—1660). T. I. Kraków, 1866.

Wasilewski T. Budowa zamku i rezydencji Radziwiłłów w Birżach w latach 1586—1654 // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Studia z historii architektury, sztuki i kultury ofiarowane Adamowi Miłobędzkiemu. Warszawa, 1988.

Wasilewski T. Łukomski Samuel // Polski Słownik Biograficzny. T. XVIII. 1973.

Wasilewski T. Oskierko Samuel // Polski Słownik Biograficzny. T. XXIV. 1979.

Wasilewski T. Ostatni Waza na polskim tronie. Wrocław, 1984.

Wasilewski T. Zdrada Janusza Radziwiłła w 1655 r. i jej wyznaniowe motywy // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XVIII. 1973.

Wimmer J. Przegląd operacji w wojnie polsko-szwedzkiej 1655—1660 // Wojna polsko-szwedzka 1655—1660 / Red. nauk. J. Wimmer. Warszawa, 1973.

Wimmer J. Wojsko i finanse Rzeczypospolitej w czasie wojny ze Szwecją 1655—1660 // Wojna polsko-szwedzka 1655—1660 / Red. nauk. J. Wimmer. Warszawa, 1973.

Wimmer J. Wojsko polskie w drugiej połowie XVII wieku. Warszawa, 1965.

Wisner H. Dysydenci litewscy wobec wybuchu wojny polsko-szwedzkiej (1655—1660) // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XV. 1970.

Wisner H. Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła // Rocznik Białostocki. T. XIII. 1976.

Wisner H. Janusz Radziwiłł 1612—1655. Wojewoda wileński. Hetman wielki litewski. Warszawa, 2000.

Wisner H. Rok 1655 na Litwie: pertraktacje ze Szwecją i kwestia wyznaniowa // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XXVI. 1981.

Wisner H. Wojsko litewskie 1 połowy XVII wieku // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. Cz. 1. T. XIX. 1973; Cz. 2. T. XX. 1976; Cz. 3. T. XXI. 1978.

Włodarski J. Polityka pruska elektora brandenburskiego Fryderyka Wilhelma I w latach 1640—1660. Gdańsk, 2000.

Wójcik Z. Dzieje Rosji 1533—1801. Warszawa, 1971.

Wójcik Z. Jan Kazimierz Waza. Wrocław, 1997.

Wójcik Z. Wielkie Księstwo Litewskie wobec Szwecji, Rosji i powstań kozackich // Przegląd Wschodni. T. I. 1991. Z. 3.

Wysłouch S. Uwagi o przyczynach rozwoju Mohylewa w XVI i XVII wieku. Wilno, 1938.

# Конрад Бабятынскі

## Ад Смаленску да Вільні.
## Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)



Кніга прысьвечана гісторыі ваеннага канфлікту, у выніку якога восеньню 1655 году амаль уся тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага разам са сталіцай Вільняй была занятая войскамі цара Аляксея Міхайлавіча.

Ваенныя дзеяньні 1654-1655 гадоў вяліся галоўным чынам на тэрыторыі полацкага, віцебскага, менскага, наваградзкага і берасьцейскага ваяводстваў. Іх распачала аблога разьмешчанага каля межаў сёньняшняй Беларусі Смаленску. Найважнейшыя бітвы летняй 1654 году і зімова-веснавой кампаніі 1655 году разыграліся на Дняпры і Друці — спачатку пад Шкловам і Шапялевічамі, а потым пад Новым Быхавам і Магілёвам. Агонь вайны не пашкадаваў таксама іншых важных беларускіх гарадоў — Полацку і Віцебску, Менску і Наваградку, Слуцку і Старога Быхава.

Конрад Бабятынскі (нар. у 1977 г. у Варшаве) — выпускнік Гістарычнага інстытуту Варшаўскага ўнівэрсытэту (2001); кандыдат гістарычных навук (2006). Зь лістапада 2006 — дацэнт аддзяленьня мадэрнай гісторыі Гістарычнага інстытуту Варшаўскага ўнівэрсытэту. Аўтар кніг «Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масквой 1654-1655», а таксама «Міхал Казімер Пац — ваявода віленскі, гетман вялікі літоўскі. Вайскова-палітычная дзейнасьць» (Варшава, 2008). Выдаў некалькі дзясяткаў навуковых артыкулаў. Стыпэндыят Фонда польскай навукі (2005, 2006, 2010) і DAAD (Бэрлін, 2007). Займаецца гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага ў XVII ст., гісторыяй старапольскай вайсковай справы (XVI-XVII ст); адносінамі Рэчы Паспалітай з Масквой у другой палове XVII стагодзьдзя.